№4 (101)
/ліпень-жнівень/ 2019

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Валянціна Аксак



...пакуль кукарэкае певень –
не дэкларуй сваёй веры...

# Меню таемнае вячэры

## ВЕРБЫ

Вандроўка
ў журлівую дату
вяла нас наўсцяж
суцэльнага лесу,
скрозь шызае голле якога
свяціліся
коцікі вербаў.
Ну, думаем,
памянуўшы
спачылага ў вечнасці,
будзем вяртацца дадому,
то збочым
на нейкую сцежку
праезджую
далей ад шашы,
каб папрасіць у вярбінак

іхніх галінак
на заўтрашнюю імшу.
Але аніводнае
ўжо не было
ў глыбінях
паўзмрочнага лесу.
Усе прытуліліся
да гасцінца,
нібы баючыся,
што іхнія
гожыя кветачкі
мы не заўважым
у прыцемках
ды не возьмем
з сабою
заўтра
ў царкву.

### *МЕНЮ ТАЕМНАЕ ВЯЧЭРЫ*

Хлеб і віно –
ну гэта вядома.
Але ж былі шчэ
пасоля й бабы,
фінікі і смоквы.
Ну і галоўная
страва габрэяў–
ахвярны баранчык.
Сем тыдняў
без мяса –
пост.
А без ягняці –
не
таемная вячэра.

### *ЯСЕНІ*

Неяк вельмі яны
нахіліся сёння,
гэтыя ясені,
з перапою
ці што
вясновай паводкаю.
Але гнуцца галіны
на поўдзень,
куды

разам з імі
і мне закарцела.
Толькі вецер гвалтоўна
выкручвае лапы на поўнач,
не дае
ані каліва сподзеву
на цёплы чвырок
між аліваў і смокваў
у садзе
таемнай вячэры.

### ЭМАНУІЛ

Разбудзіў птушак.
Пагнаў воды.
Узварушыў вецер.
Выткаў кветкі.
Усталяваў неба.
Накрэсліў зоры.
Узвёў сонца.

### МІРАНОСІЦЫ

Дванаццаць,
каторыя з Ім
за вячэраю елі й пілі,
наталяючы спраглыя
ў клопатах дзённых
целы мужчын маладых і здаровых,
на досвітку ўсе
пахаваюцца ў страху.
Вера і вечнасць,
яны дзесь у мроях
Таго,
каго заўтра
на крыж аддадуць
непазбежна.
Уваскрэсне ці не –
тое бачыць жывому.
Пасля.
А пакуль кукарэкае певень –
не дэкларуй сваёй веры.
Ці, прынамсі,
адданасці.
Рацыя.
Слушныя ўчынкі
разумных мужчын.

Жанчыны пазбаўлены
гэткай раскошы.
Імі кіруе
толькі бяздумны ўладар.
Эмоцыя.
Таму і пайшлі да пячоры,
заваленай каменем.
Любілі Яго
і хацелі мірам намасціць,
каб па звычаю ўсё.
Мо каторая мела й свае
асаблівыя чуцці.
Красунчык.
Гаворыць – заслухацца.
І ўсё – пра любоў.
Прыйшлі – і няма.
Улюбёнца.
Марна міра прынеслі.
Але як і куды мог падзецца?
Пытанні застылі на вуснах
Сузаны і Яны,
Саламеі і Марфы,
Марыі й Марыі.
А ў трэцяй Марыі,
каторая Магдалена,
заззяла здагадка,
што ісціна ўсё,
што Ён гаварыў.
Уваскрос.
Вось жа й анёл
тое весціць.

## *ВЯЛІКДЗЕНЬ У ЗДЗІЧЭЛЫМ САДЗЕ*

Не йдзіце
па маіх слядох –
яны вядуць
у невараць,
якую я сама
сабе абрала.
Не йдзіце збоч –
уваліцеся ў яму,
якую некалі
капалі для мяне.
Лепей –
паперадзе,
тады я адвінуся

за прысады,
у засені якіх
яшчэ віруе рэха
валачобных песень
маладога дзеда Карла
і туляцца да ног
канваліі,
пасаджаныя
бабай Касяй.

## *ВЯЛІКДЗЕНЬ-2019*

Сэрца сціскаецца
рэзка да болю
і ўвесь тлен
выштурхоўвае вонкі
па жылах здранцвелых,
пакідаючы месца
ў крывавых глыбінях
толькі жывому
Яму.

## *ВЯРТАННЕ БЛУДНАЕ ДАЧКІ*

Вяртаньне блуднага сына.
Гэткі назоў дня сёння
па прыпавесці старасвецкай.
З блудніцамі прагуляўшы
свой спадчынны скарб,
сын малодшы
вярнуўся да бацькі.
Той рады,
што бачыць жывога й здаровага,
наладжвае свята.
А старэйшы,
які не грашыў,
і палову сваю спадкаемную
дбайна ўрабляў,
крыўдуе на бацьку:
мне,
які цябе шанаваў,
даглядаў
і парадкаваў справы твае,
ты ніколі ніякае,
нат сімвалічнае
ўцехі не справіў.

Мне не стае
ў гэтай гісторыі
двух, як найменей,
адцемкаў.
Найперш пра старшынства братоў.
Збэсціцца й першынец мог.
Мудрасць біблейная
цвердзіць нам адназначна
пра меншага блуднага.
Але галоўнае ў іншым.
Што, калі Бог пасылае
толькі дачок?
Як тут тады выглядае
са спадчынай,
блудам,
вяртаннем да бацькі
старэйшай – малодшай?

## КУЦЦЯ

Калі-небудзь
я зразумею тую,
што стаяла на гаўбцы
з келіхам чылійскага шыразу,
а цераз дзверы з кухні
йшоў дымок
ад спаленай намёртва
каляднае куцці.

## НІШТО

Трыццаць першага снежня.
Спрабую ўхапіцца
за апошні лісток
адрыўнога календара –
сняжынкамі лёгкімі
разам ляцець
не вусцішна.
У прыдольным эфіры
ён крыху
мяне апярэджвае
і сцелецца пухам
пад маё
ацяжэлае раптам
нішто.

## *ПАВАДЫРКА*

Вось яна,
блізенька так
падышла да дзвярэй,
але праз парог не ступіла,
маўклівым кіўком галавы
паклікала да суседзяў,
і я ў чым была,
а дакладней – ні ў чым,
пакорна пайшла,
вельмі здзівіўшы
харошую маладуху.
Але гэта не ўсё.
Далей запрашэнне было
на гарышча.
Так бы сёння я ўжо
нічога й не напісала,
калі б не сусед,
які мяне выбавіў
з цямрэчы і халадэчы,
дзе загадала стаяць
бязмоўная павадырка.
Сама ж адвінулася недзе
ў тым часе.
Думаю, не надоўга.

## *НАРОСХРЫСТ*

Выцінанкі з папяровых торбаў,
гафт на самаробным кужалі,
вышыўка на паркалі,
цюль узорысты крамны,
шторы ядвабныя –
і гэта не ўсё,
што прыдумалі людзі,
каб занавесіць
неба,
сонца
і зоры.
Было гэтае вычварэнне
й на маіх вокнах.
Зняла,
абярэмам наводдаль знясла.
І цяпер
вочы майго жытла
не захінутыя ад сусвету.
Жыву
наросхрыст.

### *ПЫТАННЕ*

Жанчыне
патрэбны муж
альбо
кляштарны мур.
Як бы гэта
спалучыць? –
прамовіла тая,
якая была
так падобная
да найлепшай сяброўкі.
Пытанне застыла
ў вігілійнай цішы.
Прамаўчу
да апошняе свечкі
з мужам
за мурам.

### *СЁННЯ*

Згойсаць да бліжэйшага лесу,
змеркнуцца ў захадзе,
здзейсніцца ў бліскавіцы.
Замала?
Здолейце штодня.

### *ФІТНЭС*

Вось знаю месцейка,
наведнікі якога маюць
стрункія паставы
і мілажальны нораў.
Хаджу туды
амаль штодня,
каб і ў маім
здаровым целе
заўжды трымаўся
малітоўны дух.

### *ХМАРЫ ВЯРТАЮЦЦА З ВЫРАЮ*

Занурыцца ў норку,
захраснуць у сховах
глухіх сутарэнняў,

пераднець,
пераночыць,
перамоўкнуць,
перацярпець
тую вогкую цемрадзь
і стыласць
бязважкай адлігі,
і цемрадзь марозную,
і гноблівасць
шызай Піліпаўкі,
каб вось сёння
змярцвець
перад мроівам
пераўзыходным,
калі ўрэшце
хтось родны
чакае мяне
з небыцця.
Хмары
вяртаюцца
з выраю.

***ШПАЧКІ***

Шпачкі
на галінцы перад домікам
адзін на аднога ўскочаць –
хвіліны й не праміне,
а яны ўжо на доле
збіраюць сцяблінкі ў гняздзечка,
а потым ізноў –
дзетародная хвіля яднання
і хвіліна натхнёнага чыну
дзеля тых пісклянят,
каго ў людзях
немаўлятамі называюць.
Хто яны ў шпачкоў,
я не ведаю,
але ясна адно –
пасля свайго вывадка
яны ўжо
ў гэтае лета
песняў
не пачынаюць.

## ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ШОСТЫ СЕЛЯЗІН

Селязін узнікае
знікуль.
Проста ўранні
зальюцца зяленівам
шыбы,
і праз іх
ледзь прасочыцца
ўсходняя медзь,
і зайскрацца
навюткай лістотаю
зрэнкі,
і ўзгарыцца
ў Пiлiпаўку згаслае
сэрца,
і прыспешыцца ў поўдзень
стамлёны пакутным
перадвялікаднем
крок,
і абвострыцца слых,
і пачуе душа
заблукалую
ў марыве мрояў
невымоўную песню
малое нямое дзяўчынкі,
а пад вечар акругляцца
поўнямі вочы
і будуць глядзець
на дзівосы
пражытага дня
і дзівіцца
на дзынкасць
астатняе барвы
знікомага
краявіду.

## ВЯЛІКІ АРЛЕЦ ЦІКУЕ ЗА МНОЙ

Ну нарэшце
я ведаю,
як выглядае той,
чый погляд адчула
яшчэ да
нараджэння сусвету.
Не свідруе вачыма,
спакойна глядзіць,

раскашуючы ў сіле сваёй
і выгоднай пазыцыі,
з якое нікому не бачны,
затое яму
наўколле адкрытае
на ўвесь небакрай.
Схамянуся, бывала,
як стрэлам працятая,
але й небяспекі нідзе
ані каліўца
не запрыкмечу,
то й віхуруся далей
у мроях,
нібы ахінутае
звышняю мілажаллю
неразумнае немаўля.
Але вось цяпер
так раптоўна
ўзняла свае вочы
да макаўкі
заваконнай вярбіны,
што ён не паспеў
перакінуцца
ў тоўсты каравісты сук.
І мы
нарэшце глядзім
адзін на аднога
ў рыжа-бурых,
падсвечаных вохрыстым сонцам,
вечаровых мярэжах –
вялікі ўладар-паляўнічы
і знячэўленае птушанё,
якое выслізгвае зноўку
з ягоных
кшталцоных вякамі
й няхібных ніколі
паветраных ловаў.

### ***ЛУНАЛЫ АРОЛ***

Бацька сказаў:
“Нацешышся”.
Ён ведаў пра гэта,
узяўшы сабе
пасля шлюбу
маміна прозвішча.

Праз сорак гадоў
блуканняў па пустках
вярнула яму ягонае –
хай сабе толькі
над тэкстамі,
якія камусьці
ўяўляюцца вершамі.
Але ў пашпарце
тое напісана,
якім па-ранейшаму
захапляюся.
Вось жа
й дарогу да хаткі
выбірала па птушках
над ёю.
Луналы арол
над шашою –
нідзе больш
такога няма,
акром
гэтага шляху
да кавы
ў арліным гняздзе.

проза

Вітаўт Чаропка



...будзь адзін, і дарогаю вольнаю ідзі,
і не патрабуй узнагарод за сваю працу...

# Радасць руху

***Апавяданне***

Некалькі гадоў ён праляжаў паралізаваны пасля інсульту ў ложку і, каб не догляд жонкі, так бы і не падняўся на ногі. А падняўшыся, пачаў выходзіць з кійком з дому, з цяжкасцю спускаўся па прыступках і сядаў на лаву каля пад'езда. У яго не слухалася правая нага, якую ён цягнуў па зямлі, ледзь варушылася правая рука, і ён прыпальваў цыгарэту з чужой дапамогай. Але не адчайваўся, хацеў быць з людзьмі і пасылаў ганцоў у краму па віно. Сам трохі пакаштуе і шчодра частуе ўсіх, хто прагнуў прамачыць горла. За гэта яго і любілі. Заўсёды вакол яго збіралася шумлівая хеўра і гучалі п'яныя галасы. Сяргей сядзеў і шчасліва ўсміхаўся, толькі зрэдку ўстаўляў некалькі слоў у агульны гармідар. Ён адчуваў сябе паўнацэнным чалавекам, якога паважалі і прызнавалі сябрам гэтай шумлівай п'янай хеўры. У гэтыя хвіліны ён забываўся, што ён інвалід і, пэўна, душа яго радавалася, што ён зрэшты вярнуўся да жыцця,

хоць і не актыўнага з клопатам і справамі, а ўсё ж не адзінокага, забытага ўсімі чалавека. Думаю, выпіваў ён не ад горычы і скрухі, а каб падвесяліць сэрца, разагнаць цёмныя думкі, што з’ядалі яго ў гады вымушанага гібення ў ложку. Ён адвык ад жыцця і вось вярнуўся да яго, ён зноў адкрыў для сябе свет з яго няхітрымі і простымі радасцямі, якіх ён быў пазбаўлены.

Аднаго разу ў яго не было за што пасласць ганца па віно. А ганец, яшчэ неапахмелены, прысеўшы на кукішкі, аддана, як сабачаня, глядзеў на Сяргея, чакаючы ад яго шчодрай падачкі і, не дачакаўшыся, раздражнёна вылаяўся:

– Бляха-муха! Астабрыдла такое бл...кае жыццё. Лепш здохнуць, чым гэтак жыць. Хочаш выпіць, а не можаш, – і яго пляскаты, як рыдлёўка, татарскі твар скрывіла злосць. – Цьфу! Бля... – праз пухлыя, вывернутыя вонкі вусны выляцеў густы плявок. Ганец падняўся і прысеў на лаву, абхапіў тоўстымі далонямі апушчаную галаву з дробненькімі валосікамі.

– Бля... Ну што за жытуха? – ледзь не плакаў ён. – Маці дома дастала. На вуліцы адны выродкі. Глядзець моташна. Ванітуе ад гэтых людзей – усе сукі. Астабрыдла жыць!

– Дарэмна ты так кажаш, – запярэчыў Сяргей. Словы даваліся яму цяжка, але ён разгарачана казаў: – Жыццё цудоўнае! Калі я паралізаваны ляжаў, калі курчыўся ад болю, у мяне было болей падстаў праклінаць жыццё і жадаць сабе смерці. А я прагнуў жыць, я змагаўся за жыццё. Мне было цяжка. Дзякуй жонцы, яна даглядала за мной. Ніхто да мяне не прыходзіў, як памёр я для ўсіх. Тады ў адзіноце я адчуў, якое шчасце хадзіць, рухацца, быць з людзьмі – жыць. Проста жыць. А ты праклінаеш жыццё за тое, што не пахмяліўся. Яно табе абрыдла, маладому і здароваму. Ты не можаш радавацца яму.

– Чаму тут радавацца? Схадзі ў краму і паглядзі на кошты. Грэчка каштуе як чорная ікра. Ніякага прасвету. Працуй не працуй, усё роўна ні шыша не заробіш. Цьфу! – не падымаючы галавы, панура мовіў ганец і зноў плюнуў сабе пад ногі.

Я быў сведкам гэтай размовы, седзячы на лаве каля Сяргея, і калі ён звярнуўся да мяне, як да трацейскага суддзі, маўляў, а я што думаю, то неяк неакрэслена адказаў:

– Жыццё цудоўнае, калі ў цябе ўсё добра. Але бываюць хвіліны, калі сапраўды не хочацца жыць, настолькі ўсё абрыдла, але гэта пачуццё слабасці. Мы народжаны жыць.

– А я не хачу жыць, – раздражнёна прамовіў ганец, і яго чорныя вочы змрочна ўталопіліся ў зямлю. – Зае...ла! – на зямлю плюхнуўся плявок. – Усё супраць мяне.

– Я перамог хваробу, – з горыччу загаварыў Сяргей, які ці ад хвалявання, ці ад вынікаў хваробы пачаў нават заікацца. – Я падняўся, бо хацеў перамагчы сваю немач, – перамагчы сябе, вярнуцца да жыцця. Мне цяпер цікава, я хачу дарабіць тое, што не паспеў зрабіць. А ты малады і здаровы, такі стары і кволы.

– Ай, не нясі лухты, – раззлавана сказаў ганец і падняў галаву, яго пухлыя вусны соўгаліся ў нервовым прыпадку, як у ашалелага. – Што гэта за жыццё – ледзь варушыцца? Залежаць ад іншых. Хіба гэта жыццё?

– Жыццё, і я шчаслівы, што магу не толькі варушыцца, а патроху і хадзіць. Калі-небудзь схаджу і ў краму і сам набуду бутэльку вінца. Не буду залежаць ад вас.

– Ты і п’еш, каб забыцца пра свае ўбогае жыццё. Адзіная радасць і засталася.

Сяргей загадкава ўсміхнуўся і нічога не адказаў.

Праз некаторы час я сустрэў Сяргея далёка ад яго дома. Там, дзе не чакаў яго ўбачыць, бо нават мне, калі ісці шпарка, спатрэбілася б паўгадзіны, каб

дайсці да гэтага месца. А ён як даклыпаў? Ён марудна ішоў, абапіраючыся на кій, і цягнуў па зямлі паралізаваную нагу. Не ішоў, а як чарапаха поўз. Тады я не падумаў, колькі высілкаў вымагае кожны яго крок, бо, хоць ён і абапіраўся на правую нагу, але быў па-сутнасці аднаногі. Тады я падумаў, што дужа неадкладная патрэба падняла Сяргея з лавы і штурхнула ў далёкі для яго шлях да пункту здачы шклатары, які знаходзіўся ў гэтым месцы. Пэўна, хадзіў здаваць бутэлькі. Вось прыпякло, што папоўз так далёка, каб набыць адну-адзіную бутэльку вінца, выпіць і забыцца на сваё ўбогае жыццё. Меў рацыю ганец, калі казаў, што ў Сяргея засталася адна радасць у жыцці – пітво. На маё пытанне, што занесла яго так далёка, ён загадкава ўсміхнуўся і адказаў:

– Прагульваюся.

Я не паверыў яму. Маніць, бо саромеецца прызнацца, што прыкульгаў сюды здаваць бутэлькі, бо так хочацца выпіць. Тады неяк было няўцям, што Сяргей, нават седзячы на лаве каля свайго пад'езда, мог напіцца. Кожны з яго знаёмых, якіх ён паіў, з радасцю пачаставаў бы яго, толькі папрасі – нальюць.

А праз колькі дзён я даведаўся, што Сяргей памёр. Скінуўшыся са знаёмым, які вяртаўся з яго пахавання, мы набылі бутэльку таннага віна і, схаваўшыся ад людскіх вачэй сярод купкі разгалістых елак, памянулі яго. Пілі прама з рыльца. Прытворна пашкадавалі Сяргея, сказалі пустыя словы, што ён быў добры чалавек, і разышліся. Пэўна, я і забыўся і пра Сяргея, каб не азмрочваць сваю памяць, як і пра іншых былых сваіх мімалётных знаёмых, але праз некаторы час я раптам узгадаў пра яго ў самых неверагодных умовах.

Мне споўнілася 50 гадоў – усё ж знакавая дата для кожнага чалавека, калі ўжо можна падводзіць вынікі пражытага. Хтосьці да гэтага тэрміну дабіваецца ў жыцці нечага значнага, а я відаць, нічога. У мой юбілей у мяне не было ні капейкі, каб адзначыць яго. Спадзяваўся, што ўспомняць пра мяне сябры, прыйдуць павіншаваць, зробяць мне свята — не ўспомнілі. І што самае крыўднае, ніхто нават не патэлефанаваў, не ўзгадаў пра мой юбілей. Я нібыта не існаваў ні для каго. Я адчуваў сябе выкінутым з жыцця. Вось вынік маіх высілкаў і маёй працы. Не такім уяўляўся юбілей. А зрэшты, пляваць... Усялякае бывае ў жыцці і ўсяго не прадугледзіш. Прыдаваць значэнне датам — гэта не істотна. А істотна, што ты дажыў да паўсотні і нешта зрабіў. Хапала страчанага часу, дык варта з розумам выкарыстаць рэшткі. Жыццё працягваецца, і яно такое, якое ёсць – маё!

Мяне ўсё ж павіншавалі і, як ні дзіўна, дзве жанчыны. Былая мая аднакласніца, якая мне падабалася ў школьныя гады. У яе цяжка было не закахацца – у стройную, смуглявую, з рамантычным поглядам вялікіх агатавых вачэй. Яна і з гадамі не страціла сваёй рамантычнасці, да якой дадалася жаночая пяшчотнасць, што з'яўляецца ў жанчын, якія выгадавалі сваіх дзяцей і цяпер радуюцца жыццю. Таксама прыйшла іншая мая сяброўка, маладзейшая за нас і няшчасная па жыцці, бо гэтак і не ўладкавала сваё сямейнае жыццё. Яны хутка прыгатавалі тое-сёе прыкусіць з таго, што прынеслі з сабой, і накрылі столік. Вось так утрох мы і адсвяткавалі мой юбілей – я і дзве мае каханыя жанчыны – адна былая і другая цяперашняя. Але радасці я не адчуваў. Мне хацелася сапраўднага балявання, вар'яцтва, танцаў, каб у ашалелай весялосці скінуць з плеч цяжар пражытых гадоў і адчуць сябе маладым, безразважлівым і радасным. Як высветлілася, у маім узросце час ужо не падманеш, трэба было паводзіць сябе больш-менш прыстойна і годна... Размова не клеілася. Самы сумны мой дзень нараджэння, нават самая сумная мая п'янка. Можа таму, што нічога і ніштo мяне не ўзбуджала і не заводзіла, я неўпрыкмет для сябе адключыўся

проста ў крэсле. Калі прачнуўся, дык зноў апынуўся ў адзіноце сам-насам з напалову недапітай бутэлькай. Мяне пацягнула на вуліцу, на якой ужо даўно панавала ноч. Я дрэнна памятаю, што адбывалася далей. Нейкія мянты, якія павязалі мяне, мае просьбы адпусціць мяне і тупая ўпартасць маленькага міліцыянціка з лычкамі. Мне заламалі рукі, ажно забалела правае перадплечча, накінулі кайданкі і павезлі ў пастарунак. Смех і годзе! Злавілі небяспечнага злачынцу – п'янага літаратара. У кайданкі яго, у пастарунак! Мне было ўжо ўсё-роўна – апускацца, дык да самага дна, бо я літаратар і павінен не проста вывучаць жыццё ва ўсіх ягоных праявах, а жыць гэтым жыццём і быць перад сваім чытачом сапраўдным, а не фальшывым.

Але гэта я цяпер так пішу. Пэўна, я быў п'яны да дна – правал у памяці сцёр усе ўспаміны пра тую ноч.

Дзесьці пад раніцу я ачуняў, лежачы на цагляных нарах у камеры без вокан і вентыляцыі з шурпатымі бруднымі сценамі, удыхаючы смуродны пах сцэнаў (нехта не вытрымаў і спаражніўся проста каля дзвярэй, дзе і знаходзіліся мае нары). Я праклінаў гэты абрыдлы свет, і мне не хацелася жыць. Вось так, ты, які лічыў сябе сапраўдным творцам, і вось гэты сейбіт духоўнасці, руплівец асветы, светач веры цяпер ляжыць у змрочнай камеры і слухае мацюкі менцюкоў, якія лаюцца за дзвярыма. Над табой навісла цемра, ты ў няволі і разняверыўся і ў сабе, і ў людзях, і ў самім жыцці. Хоць ты плач, хоць крычы. А калі закрычыш, мянты надаюць дубінкамі па нырках. Вось такі своеасаблівы падарунак на твой юбілей учыніў табе злохітры лёс, здзек з цябе, безабароненага і кволага.

Я хацеў забыцца ў сне, трапіць у небыццё, знікнуць з гэтага жудаснага кашмару, не быць самім сабой. Я зразумеў ганца, які не хацеў жыць. Заснуць і не прачнуцца. Нечакана нагадаўся Сяргей, і ў галаве загучалі яго словы: "...Я так хацеў жыць, трываў боль і перамог сваю немач, не адчаўвайся, а ты раскіс". – "Не, я не раскіс, проста расслабіўся", – запярэчыў я ў думках. Тады я і зразумеў яго адказ: "Прагульваюся".

Ды чаго наракаць? Казаў жа Пушкін, што паэт – цар, дык будзь адзін, і дарогаю вольнаю ідзі, і не патрабуй узнагарод за сваю працу! Вось такі лёс, і прымай яго без нараканняў. Руш наперад нават, калі расчараванні сагнулі цябе і аднялі надзею. Руш наперад, крок за крокам, як анямелую нагу, цягні за сабой цяжар сваіх грахоў, як свой крыж іх нясі, не азірайся назад, руш наперад! Нават, калі не дойдзеш да патрэбнай мэты, дык наблізішся да яе, затое іншы па тваіх слядах дойдзе да яе і будзе табе ўдзячны за пракладзеную сцяжыну. Руш наперад! Толькі рух дае адчуванне жыцця, толькі так спазнаеш радасць руху! Дык руш наперад, куды цябе вядзе твой вольны розум!

Вось тады я і зразумеў адказ Сяргея.

Перад смерцю ён усё ж, пераадольваючы сваю хваробу, страх, нават зямное прыцягненне, пайшоў насуперак лёсу, які намагаўся прыкаваць яго да ложка, ператварыць яго ў нішто, але ён вырваўся з учэпістых клешняў хваробы. Нарэшце, ён наважыўся адысці ад свайго дома, прайсціся па тых дарогах, па якіх некалі хадзіў, убачыць знаёмыя мясціны, узгадаць былое, дзе ён быў маладым і здаровым і пачуваў сябе шчаслівым. На імгненне яму захацелася вярнуць былое. І ў яго "Прагульваюся" была радасць руху. Для яго, які поўз з хуткасцю чарапахі, гэтая хуткасць, здавалася імклівым палётам, ад якога радасна б'ецца сэрца і захоплівае дых. Ён быў шчаслівы, бо збылася яго мара – ён пераадолеў прастору паміж немагчымым і магчымым, ён адолеў неадольны шлях. І мне здаецца, што памёр ён не ў ложку, а на шляху... да Бога.

*30.08.2011 г.*

## Уладзімір Някляеў



...Жарсць інакшай не бывае.
Жарсць – як шабля баявая.
Іншая – падман...

# Зорка Дзіва

***Нальшанская легенда***

*Дзеду майму Ясю,*
*мацi маёй Анастасii*

***1***

На зямлі, названай Нальшай,
Продкавай, спрадвечна нашай,
Тут, дзе родны кут,
Дзе паданні, міты, казкі,
Пасяліўся з Божай ласкі
Наш крывіцкі люд.

Праз лясы, лугі і нівы
Тут цяклі вякі маўкліва,
Як цякуць вякі,
Тут над імі зіхатліва
Узляцела зорка Дзіва
З Божае рукі.

На нябесным раздарожжы
Так заззяла з ласкі Божай –
Ад усіх ярчэй,
Гэтак зырка, так прыгожа,
Што адвесці Бог не можа
Ад яе вачэй.

Заплятае зорцы косы,
Сцеліць ёй пад ногі, босай,
Свет, які ствараў.
А яна слязой міргае...

Ад таго, каго кахае,
Рана Бог забраў.

*2*

Зорка Дзіва, зорка Дзіва
Незямнай красы!
На яе глядзяць імгліва
Цёмныя лясы.

Да святла яе, да мліва
Ласціцца рака.
Месяц з ёю спіць цнатліва –
Да шчакі шчака.

Ёй заблытвае гулліва
Вецер валасы...
Зорка Дзіва, зорка Дзіва
Незямной красы!

У нябесных пераліввах
Там, дзе вечнасць, там, дзе ў звівах
І дабро, і зло,
Зорка Дзіва, зорка Дзіва –
Божае святло.

*3*

Побач з Дзівай – зорка Сэрца.
Так святло яе ліецца
З неба на зямлю,
Быццам ціха прамаўляе,
Шэпча: «Я цябе кахаю...
Я цябе люблю...»

А каго? – ніхто не знае.
Зорка Сэрца праплывае
Па крайку нябёс,
Скуль то сумна, то шчасліва
Пазірае зорка Дзіва
І плыве праз лёс.

Праз няведамыя далі,
Праз вякі, што пасплывалі,
Быццам не былі,
Праз паданні, што складалі,
Калі зорку Насцяй звалі,
Людзі на зямлі.

*4*

Насця Дзіва, Насця Дзіва!
Як жа зырка, зіхатліва
Ты спяшала жыць!..

Пад табою сіратліва
Месячык імжыць.

Ты ў нябёсах. Побач зоркі.
Пра цябе ўсе іх гаворкі –
Іншых і няма.

Адна зорка
плача горка –
Гэта ты сама.

Паліць сэрцы іскра тая,
Што ніколі не згарае...

*5*

– Што ж ты плачаш, – Бог пытае, –
Мая зорка залатая,
Ясная мая?..

– Мой ты Божа! Рэўнасць злая
Ува мне кубло звівае,
Джаліць, як змяя.
І грызе нуда-трывога...

– Ты за пазухай у Бога,
Скуль твая нуда?..

– Стуль жа, Божа, скуль у хлебе
Хлеб, і скуль нябёсы ў небе
І ў вадзе вада.

Скуль пясок на родным ганку,
Дзе пакінула я Янку
Той, якая з ім...
У раі, у зоркі ўбраным,
Я сумую па каханым,
Па маім адным.

– Дык забраць яго на неба? –
Бог спытаў. – Ці ўсё ж не трэба
Клікаць да пары?
З той, што побач, ён шчаслівы,
Пачакай яго цярпліва...

І сказала Насця Дзіва:
– Божа, забяры!

***6***

Бог здзівіўся. Але здзіву
Не падаў. Падумаў: «Мліву
Трэба жорны, жорнам – жыта,
Смерці – тое, што пражыта».

***7***

– Што ж, у небе брама насцеж, –
Мовіў Бог. І з сэрца Насці
Іскру ён дастаў
І стварыў з яе Маланку...

– Пацалуй, Маланка, Янку, –
Ціха ёй сказаў.

І ўзыграла навальніца.
Стала неба ўсё свяціцца,
Зіхацець агнём.
І Маланка ў ім лятала,
І на ганак Янкі ўпала
Вогненным клубом,
Іскрай той, што ззяла зоркай
У грудзях, дзе гэтак горка
Рэўнасцю пякло
Да ўсяго, што прамінула,
Праляцела, прамільгнула,
Быццам не было.

***8***

Ноч была. І Янку сон
Стаў пад ранне сніцца:
Быццам гром у небе ён,
Дзіва – бліскавіца.

То пад ім яна стагнала,
То яна над ім
Зоркай бліскала і ззяла,
І кахала, абдымала
У агні сваім.

І да зоркі кожны дотык
Цела працінаў...
Ні раней ён і ні потым
Гэтак не кахаў.

Бог паслаў яму каханку!..

***9***

І прачнуўшыся наранку,
Сон на яве ўбачыў Янка
Той, які прысніў:
У агні стаяла Дзіва...
І ўсміхнуўся ён шчасліва,
І ў агонь ступіў.

І абняўся з Агнявіцай,
І ў апошні міг здзівіцца
Ён паспеў:
з нябёс
Пацалунак бліскавіцы
Лёс яму прынёс.

***10***

Што ж, у небе брама насцеж...
Там сустрэла Янку Насця,
Бог яго сустрэў.

Янка стаў у браме рая:
– Божа, дзе яна?..
– Хто?..
– Тая,
У якой згарэў!
Тое сненне... Дзіва тое...

### *11*

Бог ім ложа залатое
Слаў сярод нябёс.
Толькі не праслаў ён шчасце, –
І ў абдымках Янкі
Насця
Плакала без слёз.

Лёс не зменіш, не з'іначыш.

### *12*

– А па кім ты, Насця, плачаш? –
Янка дакараў, –
Не па тым, каго кахала,
І каго на смерць паслала,
Каб з табою спаў?

Каб на ложа залатое
Ён у небе лёг з табою
Мёртвы, як і ты,
Каб ён клаўся на пустое
І ўставаў пусты?

Ты чаму мяне забіла?
Бо насмерць мяне любіла
У нябесных снах?..
Ну дык ведай, хто мне сніцца:
Сніцца дзева Агнявіца
З зоркай у грудзях.

Знай, што з ёй я ў снах згараю!..

### *13*

І сказала Насця:
– Знаю.
Лепш бы на зямлі
Цябе тая абдымала,
Да якой я раўнавала,
Калі мы жылі.

З ёю мне насмерць не біцца
Так, як біцца з бліскавіцай,
Што памрэ, каб нарадзіцца,
Бліскаць зноў і зноў.

Як яна
Цябе ўлюбіла
У сябе!..

Мой любы! Мілы!
Твае ножанькі я б мыла,
Дараваць мне я б маліла
Па вякі вякоў,
Ды
не я
цябе забіла,
А мая любоў!

Бліскавіца, што на ранку
Да цябе сышла каханкай
З вогненных нябёс...

– Гэта лёс?.. – спытаўся Янка.

Бог сказаў, што лёс.

***14***

Глянуў Янка змрочна, цёмна.
– Пацалуй мяне, Насцёна,
Так, каб я забыў
Агнявіцу, дзеву тую,
Зорку тую агнявую,
Што насмерць любіў.

Каб не ззяла, не міргала
І каб не напаміала
Пра маю віну,
Каб я вечна ў небе вечным
Плыў і плыў над Шляхам Млечным,
Сніў цябе адну.

А прад тым скажы: такая
Жарсць, якая забівае,
Не сляпы туман?

***15***

– Жарсць інакшай не бывае.
Жарсць – як шабля баявая.
Іншая – падман.

Буду секчыся я з ёю,
З Агнявіцаю тваёю,
Сілай агнявой.
Мне з нябёс яе не сцерці,
Але ведай, што і ў смерці
Я твая. Ты мой.

Тут, за пазухай у Бога,
Я цябе і нежывога,
Мёртвага люблю!

***16***

І ўзмаліўся Янка:
– Божа!
Ты мяне ажывіш, можа,
Вернеш на зямлю?

Адпусці мяне, Настуся!
Нажывуся і вярнуся,
Ложак пасцялю...

Бог казаў:
– Як Насця скажа.

– Калі ён у ложак ляжа,
Здрадзіць ёй са мной,
Адпушчу, – сказала тая...
І глядзела, як чужая,
З рэўнасці сваёй.

***17***

І далей казала:
– Янка!
Гэта я, твая Маланка,
Пазнаеш мяне?

Бог зірнуў на Насцю строга,
І прамовіў голас Бога
Недзе ў небе:
– Не.

Стала ў небе цёмна, змрочна.

***18***

І ўзмаліла Наста: – Ойча!
Калі быць мой любы хоча

З Агнявіцай той,
Падзяліцца я гатова
Сэрцам Янкі:
Мне палова –
І палова ёй.

– Не, – зноў мовіў Бог скрозь стому. –
З чым прыйшоў ён, з тым дадому
Вернецца...

Мацней ад грому,
Насця крыкнула:
– Нікому
Ён тады не дастанецца
Ані тут, ні там...

І маланкай – жах! І сэрца
Янкі – напалам.

І адной сваёй паловай
Стала сэрца Янкі новай
Зоркай агнявой,
А паловаю другою
Стала Крэўскаю гарою
З рэчкай пад гарой.

Пацякла рака вадою
Поўнай сілай маладою
Плыні і віроў,
Заірдзелася на ранку
І назвалася Крэўлянкай,
Бо была, як кроў.

І над ёй паўстала Крэва –
Замкам справа, храмам злева,
Над якім з вякоў
Узышлі дзве зоркі ясных,
Дзве зіхоткіх, дзве нязгасных,
Вечных, як любоў.

І калі каля Крэўлянкі
Б'юць грамы, ляцяць маланкі,
Палячы зямлю,
Гэта б'ецца Янкі сэрца,
Гэта Насця ў небе б'ецца
За любоў сваю.

Яе ззянне залатое –
Гэта тое не пустое,
Што ў пустым зіхціць,

Гэта ўсё, што даў нам Божа,
І што Ён ужо не можа
Нават Сам змяніць.

*8.05 – 14.05.2018,*
*Брэст, Крэва, Мінск, Смаргонь.*



Васіль Гігевіч



...сам сённяшні чалавек, яго пакуты і сумненні,
яго радасць, адчай, урэшце, яго жыццё –
няўжо гэта не сюжэт?..

# Творчасць

***Спроба аналізу***

## Частка першая

*Калі дапусціць, што жыццё можа кіравацца розумам, –
дык знішчыцца магчымасць жыцця.*

**Леў Талстой**

### *Парады*

Чэрвеньскай парою сярод дня ў вясковай хаце сабралася кампанія пажылых мужчын і жанчын – за пяцьдзясят. Там жа, за сталом, сядзела сівенькая настаўніца гэтых мужчын і жанчын.

Рэй у застоллі вёў Саша. Як мы яго некалі называлі, Саша-артыст. Ад прыроды высокі, прыгожы, на ўроках ён гучна і пафасна чытаў вершы, хораша спяваў. Мы прарочылі Сашу артыстычную будучыню. Артыстам Саша не стаў. Шкада. Калі па тэлевізары ці на канцэртах

назіраю, як маскоўскі артыстычны бамонд ледзьве не з пялёнак гадуе прафесійных зорак і зорачак, успамінаю лёс Сашы. Нашы бацькі былі калгаснікі, пасля вайны артыстычныя бамонды ім не сніліся, калі што і снілася, то – нядоімка, работа, каровы, свінні. Ды і тэлевізара тады не было.

Саша падняўся з лаўкі, трымаючы ў руцэ налітую чарку, – у шырокім клятчастым модным пінжаку, у імпартнай бліскучай кашулі, з чорным мятлікам пад каўнерам. Цяпер ён выглядаў як сапраўдны артыст.

– Сябры мае, – так сказаў Саша. – Мінула шмат гадоў, як мы скончылі школу. Дзякуй нашай любімай Раісе Паўлаўне за тое, што вучыла нас, – Саша пакланіўся сівенькай настаўніцы. Мы ўсе заапладзіравалі, бо Саша казаў праўду: мы любілі Раісу Паўлаўну. І тады, у школе, дый цяпер, састарэлую. Мы нават ёй падарунак падрыхтавалі.

– Мы пастарэлі, – працягваў Саша сваю прамову. – У нас паявіліся балячкі і хваробы. Але не засмучайцеся. Затое цяпер мы ўваходзім у той шчаслівы ўзрост, калі ўсё ў жыцці ведаем, можам смела даваць людзям парады, калі араць, калі сеяць. Якая ж гэта асалода – даваць людзям указанні і парады, як трэба жыць!

## З чаго пачынаецца творчасць?

З рытмічнага гулу, які з'яўляецца ў душы невядома адкуль. Гул афармляецца ў словы, у сказы, у радкі.

Больш выразна гэты гул чуецца ў маладыя гады, калі многія хлопцы і дзяўчаты прызнаюцца, што пішуць вершы, і тады невядома адкуль, як берагавыя ластаўкі, вылятаюць з душы:

У садочку
Каля рэчкі
Дужа смачныя парэчкі:
Чырванеюць, як агонь,
Самі просяцца ў далонь!

*Алёна Беланожка*

Гэты гул потым заціхае, заглушаецца будзённасцю, а бывае, што гучыць усё жыццё.

Рытмічны гул ёсць і ў прозе. Нездарма многія празаікі пішуць паэтычныя творы, а паэты – прозу.

*Ідуць ужо халады, бяруцца прымаразкі – ападаюць інеем сырыя туманы. Чарсцвее зямля і цёмным ільсняна-халодным зяленівам б'е ў вочы парадзелая пры дарозе трава. Ужо выпетрала зябліва, пасівела ў гародчыках і пазванчэла бадыллё, і паніїшчымнела паветра. Неба ўдзень ужо ніжэй прыпадае, ціснецца да зямлі.*

**Міхась Стральцоў «Смаленне вепрука».**

Няспешнасць. Запаволены музычны рытм.

Агаломшвае моўнае багацце. Агаломшвае стэрэаскапічнае бачанне восеньскай пары.

Тут дзве стыхійныя плыні: адна чыста «зрокавая», якая падаецца чытачу праз апісанне прыроды («ападаюць інеем сырыя туманы», «неба ўдзень ужо прыпадае, ціснецца да зямлі»), а другая плынь – эмацыянальны стан

апавядальніка, які ненавязліва перадаецца чытачу праз апісанне восеньскай пары. Гэтыя плыні непадзельныя, яны пераплятаюцца адзіным рытмічным гулам, ствараюць той стэрэаскапічны эфект, які кранае чытача, і тады чытачу здаецца, што ён даўно ведае апавядальніка і ён бачыць свет вачыма апавядальніка.

Рытм апавядання стварае атмасферу малітоўнасці, ён вытрыманы ад пачатку апавядання і да апошніх сказаў:

*Ёсць, на жаль, рэчы непадуладныя нам, але ж ёсць і суцяшэнне, ёсць і надзея. У таго, хто бярэ ў рукі пяро, надзея ёсць таксама. О, паэт да таго ж бывае яшчэ крыху забабонным. Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён хоча верыць: я засцярогся ад бяды – бо сказаў. Дабро і надзея тут акрэслілі свой круг.*

А вось Васіль Быкаў. Прытча «Музыка»:

*Рэквіем то гучаў выразна, то заціхаў трохі, і тады ён разумеў, што аддаляецца ад нейкай мясціны – ці не ад крыніцы музыкі? Нейкі час у ягоным становішчы нічога не мянялася – ягоныя кругі паўтараліся адзін за адным, і ён падумаў, што ад яго штосьці вымагалася. Зрабіць ці хоць бы спытаць? Толькі ў каго? Нікога нідзе не было паблізу, нават і бацькаў прывід тут ужо знік канчаткова. Ён быў адзін – у суцэльнай цемрадзі, пад зорным купалам, над цёмнай зямлёй, адкуль імкнула ўвысь і ўшыркі загадкавая музыка. І тады ён наважыўся.*

*– Каго хаваеце? – хрыплавата крыкнуў у цемру і аж не пазнаў свайго голасу, – гэтак жахліва гучна прагучэў ён у касмічнай прасторы. Толькі рэзанансное рэха голасу сціхла ўгары, як зноў жа з тае прасторы пачулася:*

*– Народ хаваем...*

Форма прытчавасці патрабуе ад літаратара лаканічнасці і філасафічнасці ў большай меры, чым у апавяданні. У прытчы зусім іншы рытм. Словы і словазлучэнні вузлаватыя, сказы пабудаваныя не так, як у Міхася Стральцова; тут рытм, уласцівы толькі Быкаву.

Вазьміце любы твор М. Стральцова, В. Быкава і, пачынаючы іх чытаць, з першага ж радка адчуеце рытмічнасць, у кожнага свой непаўторны «голас»...

Як непаўторны голас кожнага чалавека, гэткі ж непаўторны рытм, свая непаўторная танальнасць маецца ў кожнага празаіка, паэта. У кожнага – сваё «дыханне»...

## *Сюжэт*

Кажуць, што ў сусветнай літаратуры набіраецца ўсяго каля трынаццаці сюжэтаў.

Што ёсць сюжэт мастацкага твора: прозы, паэзіі, драматургіі?

Пытанне гэтае пры ўсёй прастаце даволі складанае, і адказаць на яго гэтак жа складана, як адказаць на пытанні «што ёсць жыццё? што ёсць час?».

Возьмем Біблію – Кнігу кніг...

Калі разглядаць яе як мастацкі твор, то і сапраўды сюжэт там даволі просты: апавядаецца пра лёс чалавека, які шукаў і адкрываў для сябе і для людзей маральныя ісціны. Вось вам, шаноўны чытач, і ўвесь сюжэт...

«Война и мир». Раздзел за раздзелам, кнігу за кнігай Л. Талстой піша пра гісторыю народаў на пэўным гістарычным адрэзку. Шэсць гадоў аддадзена гэтаму твору. Здавалася б, у гэтай эпапеі ўсё апісана: каханне, развагі герояў

пра жыццё і смерць, апісаны гістарычныя бітвы народаў, пажарышчы. Здавалася б, што праз сюжэтныя лініі раманаў Л. Талстой змог раскрыць усе таямніцы чалавечай душы.

Але заўважце: напісаўшы геніяльны твор (падкрэслім: сюжэтны мастацкі твор), Л. Талстой чамусьці піша эпілог, у якім разважае пра рух народаў, пра ролю асобы ў гісторыі, пра свабоду і неабходнасць.

У другой частцы эпілога Л. Талстой разважае не як мастак, не як аўтар сюжэтных ліній, а як філосаф, да разваг якога трэба прыслухвацца і прыслухвацца.

Дарэчы, пра загаловак «Вайна і мір». «Мір» можна разглядаць як ціхае звычайнае жыццё людзей, а можна і як цэлы Сусвет, які рушыцца вайною.

Уся сусветная літаратура, усе сюжэтныя лініі «круцяцца» ці «нанізваюцца» на нітку часу. Пра час вельмі мала гавораць крытыкі і літаратуразнаўцы; час ацэньваецца і падаецца чытачу як нешта само па сабе яснае, што не патрабуе тлумачэння.

Чалавек існуе ў часе.

Праз Час пісьменнік можа данесці да чытача самае галоўнае, чаго не можа даць чытачу ніякая навука, – адчуванне жыцця, яго непаўторнасць, цякучасць, таямнічасць.

Гэтае адчуванне жыцця дае чалавеку музыка, мелодыя. Класічная музыка таму і класічная, што, слухаючы яе, чалавек адчувае далучанасць да жыцця – як да чагосьці таямнічага, што знаходзіцца па-за межамі быцця...

Ці не таму Васіль Быкаў у сваёй прытчы «Музыка» далікатна гаворыць пра час і музыку, як пра штосьці самастойнае, што існуе само па сабе.

Герой прытчы знаходзіцца за межамі радзімы – у гатэлі ў тропіках. Герой – чалавек пажылы, ён у тым стане між сном і яваю, у якім часта адчувае сябе чалавек падчас хваробы. Настае ноч. Рэальнасць, якую бачыць чалавек з балкона гатэля, замываецца музыкай, што гучыць зверху, ад зор. Пад гукі музыкі чалавек падарожнічае ў космасе. Музыка з часам робіцца ўсё больш і больш жалобнай. Гучыць рэквіем. Герой разумее, што адбываецца пахаванне.

На пытанне героя, каго хаваюць, гучыць лаканічнае, па-быкаўску вострае, як стрэл у грудзі:

– Народ хаваем...

І тут пачынаеш разумець, што галоўны герой у прытчы – не стомлены чалавек, які падарожнічае між зор, а – музыка, жалобны рэквіем...

Нечым гэты сюжэт нагадвае сюжэт апавядання І. Буніна «Пан з Сан-Францыска». Там таксама пажылы чалавек, пан з Сан-Францыска, вырашыў падарожнічаць на старасці, калі ўсё, да чаго імкнуўся, у яго мелася: грошы, сям'я...

Пан з Сан-Францыска запланаваў цікавае падарожжа: Венецыя, Рым, Далёкі Усход... Да яго паслуг усё ёсць: шыкоўная каюта, рэстаран, музыка аркестра, віно і нават прыгожыя карцінкі – па сённяшнім часе гэта называлася б эратычнымі фільмамі...

Але ж чым больш учытваешся ў апавяданне, тым больш містычным яно становіцца: незнаёмы загадкавы чалавек, які мільгануў перад панам з Сан-Францыска і якога пан з Сан-Францыска, здаецца, ужо недзе сустракаў... Містычным стаецца зыбкае мора, хвалі, гул і свіст ветру, сам цеплаход, які завывае ў цемры. І ўсё больш думаеш, што І. Бунін пісаў не столькі пра падарожжа багатага чалавека, а пра мізэрнасць чалавечых планаў і памкненняў, пра сэнс і бяссэнсіцу жыцця.

Пад канец апавядання герой нечакана памірае, так і не ўсвядоміўшы, што з ім адбываецца.

Але жыццё працягваецца. Свеціць сонца. Цеплаход плыве далей...

Містычнасць, другі пласт мыслення і адчування, ярка праяўляецца ў знакамітых фільмах Феліні «А параход плыве...», «Рэпетыцыя аркестра», у фільмах Таркоўскага, Бергмана.

Падтэкст характэрны для міфаў, паданняў, казак. У той ці ў іншай меры жаданне сказаць дасюль нявыказанае характэрна для ўсіх творцаў, і гэтае жаданне робіцца цераз падтэкст.

Пра падтэкст хораша напісаў Міхась Стральцоў:

*Мне даўно хацелася напісаць адно апавяданне... Цяпер я ведаю, што, бадай, не напішу: баюся, каб тое, пра што хацеў напісаць, не прыцішылася няўзнак, а то і не згубілася там, у здзейсненай пісаніне, а яно ж мне самае важнае. Дык навошта ж тады згадваю і навошта пішу? Мне проста падумалася, што, можа, усё ж абзавецца на астачу нейкай логікай тое, што тут раскажу. Паглядзім.*

Калі больш дэталёва разглядаць сюжэтную лінію апавядання М. Стральцова «Смаленне вепрука», то яна пакажацца вельмі простай і на дзіва вольна і лёгка, як дыханне дзіцяці, напісанай...

Адзінокі чалавек жыве ў горадзе і ўспамінае вёску, тую пару, калі «ідуць халады, калі бяруцца зранку прымаразкі...» Вымалёўваецца гаспадар, вясковы чалавек, які «прыпыніцца на ганку і твар падставіць ветру, і вочы яго трывожна будуць убіраць у сябе наваколле, і нябачна пакрэсліць там яму гонкі вецер і сум палёў, і халодны вобмарак травы, і перадзімовае трыванне дрэваў».

Як і ў Буніна, у апавяданні Стральцова галоўнае – спроба даць ці перадаць чытачу адчуванне жыцця і смерці, якія неаддзельныя адно ад аднаго.

Можна множыць і множыць сюжэтныя лініі апавяданняў, аповесцей, раманаў, можна гаварыць пра праўдзівасць ці няпраўдзівасць мастацкіх твораў, але сюжэтныя лініі не заўсёды абумоўлены гістарычнымі ці палітычнымі рэаліямі.

Пра што гаворка?

Мастацкі твор (проза) – не зляпак рэальнасці, як многім можа падацца; мастацкі твор – зляпак духоўнага свету мастака, яго мар, яго ўяўленняў пра свет.

– Ды не было ў маім жыцці Аксінні, яе ў жыцці не было. Я яе выдумаў, – усклікнуў некалі Міхаіл Шолахаў актрысе Быстрыцкай, якая ў фільме «Ціхі Дон» выконвала ролю Аксінні.

Эрнест Хэмінгуэй пісаў, што літаратура ствараецца ад адзіноты.

Уільям Фолкнер заўважаў, што раманы пісаў з-за адной сцэны, якую выразна бачыў у канцы рамана. Але для апісання гэтай сцэны яму даводзілася пісаць сотні старонак тэксту.

У сённяшнім жыцці, дзе гаспадарыць кліпавае размытае мысленне, а яно, хочам мы таго ці не, з'явілася разам з тэлебачаннем, з інтэрнэтам, з сецівам, напісаць свежы арыгінальны мастацкі твор даволі цяжка. Як гаворыць знаёмы пісьменнік, цяжка напісаць такі твор хоць бы таму, што даўным-даўно ўсё напісана і ўсё вядома.

Але ж сам сённяшні чалавек, яго пакуты і сумненні, яго радасць, адчай, урэшце, яго жыццё – няўжо гэта не сюжэт?

## ***Натхненне***

Шмат чуў і чытаў пра натхненне.

Думаю, што творчае натхненне, як і каханне, сапраўды ёсць, існуе ў прыродзе чалавека. Можа, гэта той рытмічны гул, які з'яўляецца ў душы творцы. Як і каханне, яно прыходзіць да ўсіх, яно даецца кожнаму, – і таленту, і бездару.

Натхненне – душэўнае ўзрушэнне, і не думаю, што творцы, якіх называюць графаманамі, адчуваюць жыццё горш, чым таленавітыя людзі. Ніяк не пагаджуся глядзець на графаманаў, як на калек-нябог.

Бяда многіх аўтараў не ў адсутнасці натхнення, а ў нежаданні ці няўменні выказаць, выкласці на паперы свае перажыванні, перажыванні сваіх герояў.

Колькі ёсць цудоўных апавядальнікаў, з іх вуснаў ліюцца цэлыя мастацкія творы (як, напрыклад, Іраклій Андроннікаў). Здавалася, чаго працей: ручку ў рукі, запісвай расказанае, нясі ў рэдакцыю.

Некаторыя пісалі ці пішуць, нясуць у рэдакцыю, выкладваюць у інтэрнэт...

І што?

Атрымліваецца графаманія.

Не будзем гаварыць пра талент. Талент – гэта тое ж самае, як музыка, якая прыходзіць да кампазітара зверху.

Пагаворым пра больш заземленае: пра адсутнасць літаратурнай школы. Гэтак жа, як музычныя школы даюць дзецям азы спецыяльнай адукацыі, гэтак жа і літаратурныя гурткі, філалагічныя факультэты даюць аснову літаратурнага майстэрства.

Але тут можа быць адзін парадокс: як Саша-артыст казаў, чалавек можа ўсё ведаць, можа даваць парады, як стаць класікам, але ж сам напісаць...

Напісаць ён можа. Напісанае на паперы кранае творцу. У часе натхнення творцу захліставаюць адчуванні і перажыванні, у яго могуць нагортвацца слёзы, сціскацца кулакі і ляскатаць зубы. Думаецца творцу, што яго перажыванні нейкім чынам перацякуць чытачу, і ў таго таксама будуць нагортвацца слёзы...

Творца не думае, што напісанае на паперы і эмацыянальна перажытае чытачом – зусім рознае. У прынцыпе, чытачу абыякавыя думкі і перажыванні аўтара. Нездарма вопытныя літаратурныя зубры раяць пісаць твор, аддаліўшыся ад сваіх герояў, як кажуць, трэба пісаць не дрыжачымі рукамі, а з халоднай галавой.

Урэшце, тварэнне – у вачах творцы яно геніяльнае – адносіцца ў рэдакцыю. І там – як абухом па галаве:

– Не будзем друкаваць!

– Чаму?

– У нас шмат падобных твораў на падобную тэматыку, – гугніць рэдактар. – Вунь, – рэдактар ківае галавой на стол, завалены папкамі. – Рукапісаў – на тры гады наперад...

Якой злосцю і помслівасцю поўніцца цела творцы!

Ён можа паклясціся сваім здароўем, што ўсё напісанае – праўда: і прыгажуня, што ззяе незямной прыгажосцю, і пацалункі...

І тут наш творца здагадваецца: злыдзень-рэдактар, які акапаўся ў кабінеце з тэлефончыкам, сваіх без чаргі прапіхвае, свае інтарэсы беражэ.

Бліснуўшы на рэдактара злымі вочкамі, творца забірае тварэнне, выносіць з кабінета папку і думае: «Ладна, цяпер не застойныя часы, цяпер у інтэрнэце раздолле, цяпер у прыватным выдавецтве можна ціскануць. Папомніць гэты злыдзень, калі класікам прызнаюць, на каленях прыпаўзе...»

Рэдактар сваё думае: «Як табе растлумачыць, што ў цябе няма літаратурнага густу, а ўсё табою напісанае ніякага дачынення да літаратуры не мае, хоць яно, можа, і праўдзівае? Але ж інфармацыя і літаратура – як неба і зямля: і блізка не ляжаць. І гаварыць з табою – што слухаць спевы спевака, якому мядзведзь на вушы наступіў».

Самае горкае ў гэтай сітуацыі – спявак, які не мае музычнага слыху. Ён ні ў чым не вінаваты. Ён можа быць харошым і добрым чалавекам. Проста яму не трэба спяваць перад людзьмі.

Вунь, Нерон некалі аграмаднейшай імперыяй валодаў, але не мог зрабіць адзінага: стаць вялікім спеваком.

У кожнага свае беды.

## ***Як пісаць***

З гісторыі класічнай літаратуры вядома, што некаторыя пісьменнікі перад тым, як пісаць, апраналіся ва ўсё чыстае і святочнае.

Другія – апускалі босыя ногі ў глыбокую міску з халоднай вадой.

Трэція – пісалі начамі пры святле свечак.

Хэмінгуэй любіў пісаць у кавярні, калі побач сядзелі людзі.

Чэхаў у садзе ў Меліхаве пабудаваў невялічкі флігелёк.

Адны пішуць рэгулярна, другія – з перапынкамі, чакаючы натхнення, пакутліва шукаючы музыку першага сказа, пасля чаго з'явіцца першы абзац, што пацягне твор.

Ю. Алеша даў кнізе назву «Ні дня без радка».

Ф. Дастаеўскі начытваў раманы стэнаграфістцы ў самыя апошнія дні перад здачай рукапісу выдаўцам. Стэнаграфісткаю, дарэчы, была яго жонка. У яе засталіся цікавыя запісы.

Некаторыя літаратары раяць: перад тым, як пісаць твор, варта пагаладаць, ачысціцца духоўна.

А некаторыя раяць зрабіць наадварот.

Сябрук-пісьменнік гаварыў:

– Пасля першай кніжкі, атрымаўшы ганарар, выправіўся ў магазін і купіў крэсла-круцёлку. З падлакотнікамі, з шырокай мяккай спінкай – яно толькі і чакала, калі ўсядуся і пачну выводзіць геніяльныя радкі.

Дагэтуль пісаў, седзячы на кухоннай табурэтцы. Куды той табурэтцы, ці магла яна параўнацца з шыкоўнай круцёлкай, на якіх чыноўнікі ў кабінетах пакутуюць?

Праз нейкі тыдзень адчуў: штосьці замінае... Я і ручку мяняў, і каву піў... А тады здагадаўся: крэсла-круцёлка ва ўсім вінаватае. Выкінуў яго і зноў на табурэтку ўсеўся.

Калі будзеце ў Яснай Паляне, зазірніце ў цеснаваты, змрачнаваты пакойчык, у якім пад столлю ад сцяны да сцяны ўмураваныя жалезныя палкі – то былая мясніцкая, а на гэтыя палкі падвешваліся крукі... Вузкае акенца. Чырвоныя фарбаваныя дошкі на падлозе. Ля глухой сцяны насупраць акенца стаіць жалезны аднаспальны ложак, на ім – грубае шэрае прасцірадла. У куце стаіць «лапа» – на ёй Талстой шыў боты. Казаў: «Вось памру – і казаць будуць: жыў такі граф, які боты шыў».

Экскурсавод гаварыла, што ў гэтым пакойчыку, які так нагадвае жыллё манаха, Талстой пісаў свае творы.

## *Медныя трубы*

Падчас напісання твора ніхто не можа дапамагчы творцу: ні прачытаныя дагэтуль кнігі, ні парады крытыкаў. Творцу трэба выкласці на паперы самае запаветнае, вядомае толькі яму...

І вось твор напісаны. Твор можа быць і надрукаваны. Аўтара могуць аблашчыць літпрэміяй і нават прыняць у творчы саюз.

Аўтар шчаслівы.

Але ён, гаротны, не ведае, што наперадзе ў яго – самае пакутлівае: блуканне па медных трубах, яны клічуць яго да сябе...

Аўтару хочацца славы.

Як курыцы знесеным яйкам, яму хочацца хваліцца сваім тварэннем – ды, якая бядота, як яму здаецца, пра яго мала пішуць, мала гавораць, бывае, што тварэнне без бурбалак знікае ў бяздонным моры літаратуры.

Што рабіць бедалагу?

У апошнія гады жыцця Янка Брыль час ад часу заходзіў у рэдакцыю «Полымя» – пагаварыць, падзяліцца прачытаным, пачутым.

У адзін з такіх прыходаў гаварыў:

«Едзеш у тралейбусе. Сядзіш на пярэднім сядзенні. І тут ні з таго ні з сяго чуеш ад задніх дзвярэй тралейбуса:

– Іван Антонавіч, дзень добры!

Паварочваеш галаву. Стаіць на задняй пляцоўцы боўдзіла метры пад два ростам. Побач дзяўчына – за руку трымаецца. Боўдзіла не сунімаецца:

– Як вам пішацца, Іван Антонавіч? – галавой круціць – і больш усяму тралейбусу, чым дзяўчыне, лямантуе: – Во, бачыш, разам з Брылём у адным саюзе працуем...

Галаву ў плечы ды... на першым жа супынку іду з тралейбуса...»

Некалі ў пісьменніцкім Доме літаратара на Фрунзе, 5 праводзіліся сходы пісьменнікаў. Там жа, на першым паверсе, была танная кавярня. У ёй пад вечар збіраліся пісьменнікі і будучыя літгеніі. Літгеніі, пакуль прызнаныя, бралі чаркі і гучна спявалі:

Са-а-абралася бедна басота
Ды гарэлку п'е.
Адзін за ручкі, другі за ножкі,
Трэці ў карак б'е.
Не хадзі ты, дзядзька багаты,
Дзе басота п'е...

Басота дружна і рытмічна, у такт песні, барабаніла аб стол куфлямі з півам і смела касавурылася на дзядзькаў багатых – старэйшых пісьменнікаў, якія па два-тры ціснуліся ля сцяны кавярні ва ўтульных паўкабіначках з мяккімі канапкамі. Яны з жахам пазіралі на гэтую басоту: што яшчэ ім у галоўкі цюкне?

Распачыналася перабудова. У літаратуру пакацілася пакаленне са сваім адчуванне і разуменнем жыцця, яно тут жа пачало «гуляць у рожкі» са старэйшым пакаленнем.

З'ява не новая ў літаратуры, больш за тое – заканамерная...

Эпатажнасць, прага закаціць скандальчык, адзін з тых скандальчыкаў, пра якія цудоўна напісаў Ф. Дастаеўскі ў «Бесах».

Можна множыць і множыць прыклады, калі пры жыцці многія неблагія літаратары, імкнучыся да славы, да званняў, «бранзавелі».

«Забранзавелы» літаратар страчваў натхненне, кожны радок, напісаны

літаратарам, рабіўся ў яго вачах класічным, ён дзівіўся: «Ну чаму, чаму мяне не хваляць? Няўжо нехта лепш за мяне піша?»

На гэтае пытанне тут жа знойдзецца графаман-галёрачнік, які ўскіне ўгору руку і выкрыкне: «Я...»

## Частка другая

### *Мова і традыцыі*

Народны мастак Беларусі, які ў мастацтве займае не менш значнае месца, чым Васіль Быкаў у прозе, сказаў: «Знікне традыцыя – знікне і мастацтва».

Аналагічныя словы прымянімыя і да мовы, да традыцый: знікне мова, традыцыі – знікне нацыя.

Што ёсць слова і традыцыя ў жыцці расіяніна, украінца, паляка, немца, эстонца?..

Што такое слова?

Маюцца навукова-даследчыя інстытуты па мовазнаўстве, напісана безліч кандыдацкіх і доктарскіх прац па гэтай тэматыцы, і сказаць штосьці прынцыпова новае цяжка.

Слова, гук маюць магічную сілу, з незапамятных часоў словам лячыліся, слову пакланяліся, слова – Бог, яно было, як сказана ў Бібліі, першым на Зямлі.

Японскі вучоны доктар Ямота правёў доследы над воднымі крыніцамі, узятымі з розных мясцін Зямлі. На ваду ўздзейнічалі тэлеперадачамі, электравыпраменьваннем, музыкай – класічнай і сучасным рокам – рознымі словамі.

Тонкая структура вады складаецца з мільярдаў крышталікаў-ільдзінак, якія ствараюць гэткія ж узоры, што з'яўляюцца на вокнах у зімовы час. Узоры крышталікаў-ільдзінак мяняліся ў залежнасці ад таго, што ўздзейнічала на ваду: былі сіметрычныя і прыгожыя, былі рваныя, хаатычныя.

Найбольш прыгожымі былі ўзоры, калі над вадою шапталіся малітвы, словы ўдзячнасці.

Аналагічныя доследы праводзіліся і над раслінамі. Энергетыка раслін мяняецца, калі да іх набліжаецца чалавек са злымі намерамі і пачне шаптаць ці гаварыць злыя словы.

Слова паяднанае з хвалевай структурай мікрасвету. Як і ўсё жывое, мы, людзі, на восемдзесят працэнтаў складаемся з вады. Толькі-толькі з навуковых пазіцый пачынаем разбірацца ў прыродзе слова, хоць, заўважым, і без навуковых даследаванняў людзі добра ведаюць, як слова ўплывае на чалавека: чары, загаворы, малітвы, лячэнне ад спалоху, ад дурнога вока – усё гэта, «цемрашальскае», не прызнанае навукай, сёння высвечваецца зусім іншым сэнсам.

Слова паяднанае з генетычным кодам народа, які перадаецца з пакалення ў пакаленне, з веку ў век. Ёсць народы, у якіх цякучая, пявучая мова, ёсць – у якіх гукарад пабудаваны на зычных.

І нават рэзкая ломка светапогляду людзей – пераход ад паганства да хрысціянства – не можа хутка зламаць генетычныя коды моў.

Мова і традыцыі неаддзельна паяднаныя паміж сабою. У народзе і дасюль захоўваюцца традыцыі далёкіх дахрысціянскіх часоў, калі людзі пакланяліся камяням, дрэвам, самой Зямлі, і таму, як вучыла мама, нельга без патрэбы дзяўбаць жалезнікам у зямлю, нельга пляваць на зямлю.

Якім холадам і якой таямнічасцю некалі поўнілася душа ў маленстве, калі на Радуніцу на вясковых могілках ці пры пахаванні чуў ад вяскоўцаў: «З зямлі прыйшоў і ў зямлю пойдзеш!..»

Тады, на Раданіцу, я не разумеў, не мог ацаніць сапраўдны сэнс слова Зямля; у школе нам гаварылі аб Прыродзе; паняцце Прыроды і паняцце Зямлі былі рознымі, адарванымі адно ад аднаго; у школьных падручніках паняцце Прыроды разбівалася на асобныя часткі, калі і паяднаныя між сабою, то – халоднымі фізічнымі ці хімічнымі законамі, а сама Зямля была ўсяго толькі паселішчам для ўсяго жывога і мёртвага.

Толькі пазней я зусім па-іншаму пачаў разумець сэнс некалі пачутых слоў...

Валуны, камяні – клаліся на магілы не проста так...

Агонь у хаце на прыпечку... Да нядаўніх часоў ён меўся ў вясковых хатах – цепліўся днём і ноччу.

Лячэнне вадою, шаптанне над хворым чалавекам – усё адтуль... Адтуль жа і лячэнне сілаю траў.

Лесуны, вадзянікі, русалкі, дамавікі...

*«Чуеш гул... Гэта сумны маркотны лясун пачынае няголасна граць. Пад рукамі яго, навяваючы сум, быццам тысячы крэпка нацягнутых струн, танкаствольныя сосны звіняць».*

Гэта Максім Багдановіч.

*...Ці казаць, ад чаго пацямнела і рака, зашамрэлі мацней каласы, і аб чым шэпча ім галасок вецярка, што зіяе-дрыжыць на лісцёх лазняка: кроплі слёз ці халоднай расы,* –

таксама ён, сямнаццацігадовы класік нашай літаратуры, якому не знайшлося месца перад уваходам у Нацыянальны оперны тэатр.

Уся яго паэзія пранізана паганствам.

А сённяшняя беларуская мова, што з ёю?..

Услухайцеся ў звыклае, штодзённае...

Рака бегла між берагоў, цякла...

Бяроза шуміць, шапоча лісцем...

Вецер набягае, гне каласы... Ён жа – ганяе аблачыны...

Лес маўклівы, у ім растуць грыбы...

Дарэчы, грыбы, грыбніца – ці не самае загадкавае ў прыродзе, яны пранізваюць усё жывое...

Уся беларуская мова насычана паганствам.

Цераз патопы людзей у рачных водах, праз павальнае разбурэнне капішчаў, паганства жорстка душылася новай вераю. Навешваліся ярлыкі паганству як сімвалу цемрашальства, слова «паганец» у сённяшняга чалавека асацыюецца з нядобрым, злым чалавекам, яно табуюецца гэтак жа, як цяпер табюуецца слова «негр», табуюцца іншыя словы, хоць да нядаўняга часу ў жыцці, як і ў літаратуры, яны ўспрымаліся адназначна, без ніякіх падтэкстаў і абраз.

Жыццё цякучае і не катэгарычнае... Новая вера дзіўна сплятаецца са старой, дахрысціянскай. Пасты, Раство, Тройца, паняцце граху як мяжы дазволенага і недазволенага – цераз мову непадзельна звязана з паганствам, з паганскімі святамі: Купалле, Каляды, Дзяды. Жорсткага, катэгарычнага светапогляду, уласцівага вернікам ці атэістам, у беларусаў (на Міншчыне) не назіралася і не назіраецца. Дакладней будзе сказаць так: у гарадах,

напоўненых разумнасцю, гэтая катэгарычнасць праяўляецца болей, чым у вяскоўцаў.

Грамадскія зрухі, войны прыводзяць да змешвання моў, а то і да знікнення.

Да вайны, ды і ў першыя пасляваенныя гады, большасць беларускага люду пражывала ў вёсках і пасёлках, дзе ў асноўным людзі карысталіся беларускай мовай.

Прыказкі, казкі, паданні, спевы і танцы, гаворкі ў розных рэгіёнах Беларусі – усё гэта рабіла нашую нацыю самабытнай, арыгінальнай, да якой з павагаю адносіліся суседзі. Паўсюль у школах, у падручніках выкладанне вялося на роднай мове. Купала, Колас, Багушэвіч, Крапіва, – уся класічная літаратура давала магутнае апірышча для маладога пакалення.

А потым пачаліся вялікія палітычныя і сацыяльныя зрухі ў жыцці беларусаў. Пасля вайны вясковая моладзь рванула ў гарады. Руская мова, зразумелая беларусам, цераз радыё і тэлебачанне, кінафільмы, кнігі хутка ўваходзіла ў людскую свядомасць, станавілася сімвалам культуры, прагрэсу, як сімвалам культуры і прагрэсу рабіліся гарады, дзе ўсё больш ужывалася руская мова.

Стала “модным” гаварыць па-руску, беларуская мова асацыявалася з адсталасцю, як і слова “паганец”.

Зразумелай дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да мовы не назіралася.

“Кто как хаціт, пусть так і гаварыт!” – усклікнуў з трыбуны дзяржаўны дзеяч у гады перабудовы.

У апошнія гады народ, як кажуць, схамянуўся – спрацавала генетыка...

Без ніякай каманды зверху моладзь пачала пераходзіць на беларускую мову. І самае цікавае, – у маладога пакалення абудзілася цяга да народнай творчасці, да беларускага слова, паявілася “мода” на беларускасць...

Што ж датычыць чыноўнікаў...

Загавораць і яны, нідзе не дзенуцца...

## *Калгас. Калгаснікі*

Калгас, калгаснікі ў вачах інтэлігенцыі, асабліва маскоўскага разліву, успрымаюцца як сімвал цемрашальства, адсталасці, бездухоўнасці. На жаль, гэтак жа ўспрымаюцца гэтыя словы і сённяшняй моладдзю, праўда, з меншым запалам, бо ў большасці моладзі бацькі і дзяды паяднаныя з вёскай кроўнымі сувязямі.

«Усе мы з хат» – такі загаловак даў кнізе добры празаік і паэт Янка Сіпакоў.

Вёска поўная традыцыйных звычак, якія старонняму гарадскому чалавеку могуць паказацца смешнымі, а то – і дзікаватымі.

Вясковы побыт, асабліва даваенны і пасляваенны, пранізаны нябачнымі токамі спачування, еднасці і жалю. Вёска была не проста паселішчам людскім, як можа падацца на першы погляд, а мадэллю людскога жыцця, заснаванага на калектывізме, можна сказаць, – мініяцюрнай мадэллю камуністычнага грамадства. Калгас, калгаснае жыццё: агульная работа, работа талакою ядналі людзей...

У маёй пасляваеннай вёсцы жыла бедная сям’я: нямоглая жанчына з дочкамі. Людзі па чарзе падкормлівалі яе і дачок. Думаю, такіх прыкладаў знойдзецца шмат у другіх вёсках. Пасля вайны па вёсках хадзілі старцы і спявалі жалобныя песні – іх людзі таксама кармілі, давалі начлег.

Калі падчас вайны ў мамы адно за адным памерлі двое дзяцей – праз два дні – яе, паўзвар'яцелую ад гора, людзі лавілі ля могілак, заводзілі ў хату, суцяшалі, супакойвалі. Так яе і вылечылі.

Можна прыводзіць і прыводзіць прыклады суцяшэння, людской дабрыні, якімі пранізана вясковае калектыўнае жыццё.

На чым трымалася «дзеравенская» мараль?

Канечне ж, на мове, на традыцыях, якімі людзі наталяліся яшчэ з даваенных часоў. Сват, кум, хрэснік, радня – то былі не пустыя словы, яны ядналі людзей гэтак жа, як гора яднае бедных людзей.

Як і большасць аднагодкаў, з першага класа я жывіўся ідэямі матэрыялістычнага бачання і разумення жыцця і свету. І ў той жа час, колькі сябе помню, вакол віравала жыццё, заснаванае на іншых законах: з Раданіцай, калі людзі ішлі на могілкі да пахаваных людзей і ўсаджваліся ля магілаў, пад якімі – я, разумнік, гэта ведаў, ведалі гэта і вяскоўцы, – нічога не было. «Чаму, чаму вяскоўцы так робяць?» – пытаў я сябе.

Вяскоўцы трымаліся каляндарных святаў, галасілі над труной нябожчыка, – быццам ён быў жывы і выпраўляўся на Той свет...

Было паняцце граху. Гэтае паняцце рэгулявала рытм вясковага жыцця. Грашыць – жыць няправільна, амаральна.

Канечне ж, грэх быў паяднаны з Богам.

Грашыць перад Богам, які ўсё бачыў і ўсё ведаў, – не давядзі Божа...

Даваенныя звычкі і традыцыі ў вясковым побыце паціху размываліся афіцыйнай дзяржаўнай ідэалогіяй, сутнасцю якой быў лозунг: «Бога няма таму, што яго ніхто ніколі не бачыў, і пагэтаму – усё дазволена».

У вясковых хатах на покуце яшчэ віселі іконы, але побач з імі з'яўляліся маленькія рускамоўныя тэлевізары. Зранку жанчыны на калені не станавіліся і не маліліся.

Паняцце граху замывалася паняццем выгады, разумнасці. Паняцце Бога, паняцце Таго свету – як рэальнага свету, дзе ёсць грэшнікі і праведнікі, для большасці вяскоўцаў было размытым, затуманеным жыццёвай практыкай: работай на зямлі, яднаннем з прыродай, з жывёлай, на якую трэба крычаць і сварыцца, як на чалавека...

Пад уплывам разумнасці, на аснове матэрыялізму, людзі мянялі светапогляд. Усё болей з'яўляліся ў вёсцы "адчаюг", якія клялі Бога і яго маці...

Прымусь дурня маліцца – ён і лоб разаб'е...

На Бога спадзявайся, але ж і сам не губляйся...

Трэба было не грашыць, а можна і грашыць, калі ніхто не бачыў.

З'яўлялася дваякае стаўленне да рэлігіі, да хрысціянства. У маладога пакалення, якое вырастала пад выхаваннем школы, разумнага рускамоўнага тэлевізара, вёска, мова беларуская атаясамліваліся з забабоннасцю, з застарэлым цемрашальствам. Стала сорамна гаварыць на «дзеравенскай» мове.

Матэрыялізмам, як калуном паленне, расколвалася традыцыйнасць вясковага жыцця.

І ўсё ж людзі ўціхую хрысцілі дзяцей, камуністы хто ўціхую, а хто і ў адкрытую, хадзілі на Раданіцу на могілкі, хадзілі ў цэрквы і касцёлы...

Пры ўсёй сваёй мяккасці і зыбкасці вясковая мараль больш строгая, больш кансерватыўная, чым мараль гарадскога чалавека, якая размываецца мноствам сувязяў, лёгкасцю і неабавязковасцю сустрэч, кантактаў, мітрэнгаю штодзённага жыцця, сэнсам якога становяцца грошы, выгада...

Ці не таму вясковы чалавек, пабываўшы ў горадзе, імкнецца дадому,

скардзячыся на мільгаценне твараў, машын, а гарадскі ў вёсцы – сумуе па звыклай мітусні і гулу.

У вёсцы людзі адзін аднаго добра ведаюць, людскія вочы ўсё бачаць і прыкмячаюць; на лаўках перад палісаднікамі, на рабоце: на ферме, на пілараме, на будоўлі – усюды людзі ацэньваюць адно аднаго, без суддзяў і пракурораў выносяцца прысуды ці апраўданні паводзін чалавека, і тады ўжо чалавек атрымлівае мянушку, – трапную, прыліплую, бы хвост у цяляці...

Бывае, што мянушка перадаецца сем'ям, з пакалення ў пакаленне.

Ацэньваецца ўсё і ўсе – і разумныя, і дурні.

«Без цара ў галаве», – гэтак гаварыла мама пра шустрага пустога балаболістага чалавека, які ўсё ведаў, усім даваў парады, але ж сам і кол у зямлю не мог загнаць.

Ідэя – зноўку ўсё тая ж ідэя – калектыўнай працы, талакою рабіць работу – не новая. Жыццё людзей, аб'яднаных не толькі работаю, але і безліччу інтарэсаў, жыццё абшчынаю прыжылося ў Ізраілі – у кібуцах. У Францыі – у камунах.

Калі разважаць увогуле, то ўсё жыццё чалавечае пабудавана на абшчыннасці: спевы і скокі ў амерыканскіх цэрквах, малітвы веруючых у нашых цэрквах, харавыя спевы і танцы ў афрыканскіх плямёнах, нацыянальныя святы, прафсаюзы, сходы партыйныя, дэманстрацыі, мітынгі, рабочыя зборышчы, – усюды, куды ні кінь вокам, мы бачым праявы абшчыннасці, на аснове якой ствараюцца нацыі.

І ці вінаватыя калгаснікі, што ідэя вядзення калгаснай гаспадаркі, знешне правільная і разумная, як і многія ідэі, была даведзеная да ідыятызму: пасля вайны ў нашым калгасе, як некалі прыгонным, людзям не давалі пашпартоў, калгаснікі рабілі ад цямна да цямна – як на калгаснай рабоце, так і дома. За голы працадзень плацілі капейкі – сшытак каштаваў 20 капеек, а за працадзень давалі 5, і то – восенню, калі збіралі ўраджай.

Мой першы дзіцячы ўспамін – дзікае галашэнне беднай удавы, у якой фінагенты за нядоімку выводзілі са двара карову – адзіную карміцельку.

Калі з экрана тэлевізара чуў і бачыў, як размаляваная «культурная» фіфачка, што вылучалася на пасаду прэзідэнта, здзеклівым тонам гаварыла пра калгаснікаў, мяне калаціла...

## Частка трэцяя

### *Аўтарская пазіцыя*

Традыцыйнасць жыцця чалавека, ягоны светапогляд да перабудовы ў нейкай меры дзіўны і парадаксальны, як дзіўны і парадаксальны гэты светапогляд і цяпер, пасля перабудовы.

Рэвалюцыя 1917 года, яе значэнне і ўздзеянне на жыццё мільёнаў людзей – тэма шматлікіх даследаванняў. На гэтыя падзеі сусветнага маштабу варта зірнуць з аднаго боку – як рэвалюцыя змяніла светапогляд чалавека.

Да прыходу да ўлады бальшавікоў светапогляд фарміраваўся традыцыйнасцю, рэлігійнасцю. Канечне ж была і дзяржаўнасць, дзяржаўныя структуры, але імператар, як памазанік Божы, правіў аграмаднейшай імперыяй з дапамогаю Хрыстовых запаветаў, з дапамогаю запаветаў іншых вер.

Рэвалюцыя 1917 года цікавая тым, што ў асобе Леніна яна рэзка паламала не толькі эканамічны, палітычны ўклад жыцця мільёнаў людзей, а тым, што ў асобе атэіста Леніна адрынула рэлігійныя пастулаты. У аснову новай ідэалогіі

быў закладзены грубы спрошчаны матэрыялізм. Як гаварыў Ф. Дастаеўскі, калі Бога няма, то ўсё дазволена.

Калі прыняць, што рэлігія – гэта ідэалізм, вера і не больш, то ён, матэрыялізм, счубіўся ў смяротнай схватцы з ідэалізмам, аснову якога ўяўляла не толькі вера, рэлігія, але і традыцыйны ўклад жыцця (на той час сялянства).

А далей...

Цэрквы – на злом ці – пад сховішча мінугнаенняў.

Іконы – у вогнішча.

Святароў – на Калыму ці на Салаўкі.

Свядома на заканадаўчай аснове развальвалася сям'я, а разам з гэтым ламалася маральнасць і традыцыйнасць.

У канцы 1917 года былі абнародаваны дэкрэты "Аб адмене шлюбу" і "Аб грамадзянскім шлюбе, аб дзецях і аб унясенні ў акты грамадскага становішча".

Дэкрэты былі напісаны на аснове прац Маркса і Энгельса.

Задоўга да Кастрычніцкага перавароту ў 1911 годзе Троцкі пісаў Леніну: "Сям'я, як буржуазны інстытут, поўнасцю сябе зжыла". Адказ Леніна: "Не толькі сям'я. Усе забароны, якія датычаць сэксуальнасці, павінны быць зняты... Нават забарона на аднаполае каханне павінна быць знята".

З першых месяцаў савецкай улады ў краіне пачалася першая ў свеце сэксуальная рэвалюцыя. Газеты друкавалі лозунгі тыпу "Жонкі, сябруйце з каханкамі свайго мужа", альбо "Добрая жонка сама падбірае добрую каханку свайму мужу, а муж рэкамендуе жонцы сваіх сяброў".

У 1920 годзе легалізавалі аборты.

Ідэйным кіраўніком у гэтай справе была дзяржаўная дзяячка Аляксандра Калантай. На пачатку 1920-х гадоў у артыкулах "Каханне пчол працалюбівых", "Дарогу крылатаму Эрасу" сцвярджалася, што галоўным у жыцці павінен стаць "аголены, не запоўнены эмацыянальнымі перажываннямі, інстынкт..."

Жорж Санд пісала: "Каханне, як шклянка вады, даецца таму, хто яе просіць". У 1918 годзе быў створаны камсамол. У статуце меўся пункт: "Любая камсамолка павінна сэксуальна задавальняць любога камсамольца, як толькі ён пра гэта папросіць. Такое магчыма, калі камсамолец актыўна ўдзельнічае ў грамадскіх работах і рэгулярна плоціць членскія ўзносы".

Гэты пункт статута існаваў да 1929 года.

Бязбожнікі, якіх навучылі чытаць і пісаць, уявіўшы сябе разумнымі, узяўшы ў рукі партрэты новых багоў, хадзілі па вуліцах і спявалі новыя песні.

Тады ж паявіліся "нашы" – чырвоныя, і "не нашы" – белыя...

Марксізм-ленінізм, заснаваны на разумнасці, пад кіраўніцтвам новых багоў, наважыўся пабудаваць жыццё па новых правілах.

Быў запушчаны – калі і кім? – аграмаднейшы механізм размывання самаідэнтычнасці народных мас. З маленства, са школы людзям ўбівалася ў галовы: памрэш і – чэрві сточаць.

Гэтая думка, бы нябачная бацыла, тачыла чалавека знутры.

Думаючая інтэлігенцыя была абазвана дзярмом нацыі і тут жа была вытурана за мяжу, альбо – да святароў на Салаўкі, у Сібір...

Газета "Праўда" ад 7 мая 1925 года:

"Муж маёй сяброўкі прапанаваў мне правесці з ім ноч, бо ягоная жонка была хворая і гэтай ноччу не можа яго задаволіць. Калі я адмовілася, ён назваў мяне дурной грамадзянкай, якая не здольная зразумець усю веліч камуністычнага вучэння".

У 1924 годзе па ўказанні Фелікса Дзяржынскага была створана працоўная камуна для тысячы падлеткаў ад 12 да 18 гадоў, з іх прыкладна 300 – дзяўчынкі і дзяўчаты.

Выхаваццелі пісалі, што палавыя адносіны развіваюцца рэвалюцыйнымі метадамі.

Новую мараль праводзілі з дапамогаю прапаганды.

У 1919 годзе адбылася дэманстрацыя аголеных прапаведнікаў новай улады.

У 1924-1925 гадах у буйных гарадах мелася грамадскае аб'яднанне "Далоў сорам!"

Аголеныя людзі з чырвонымі стужкамі праз плячо выходзілі на вуліцы ці ездзілі ў транспарце, дэманструючы, што сорам – адгалосак буржуазнага мінулага, з якім трэба змагацца. Адначасова яны заклікалі адмовіцца ад сям'і і жыць калектыўна.

На масавыя дэманстрацыі ў Маскве выходзіла да 10 тысяч чалавек. Наркам аховы здароўя Мікалай Сямашка ў 1925 годзе ў газеце "Известия" пісаў, што хадзіць аголеным вельмі карысна. У судовай практыцы прызнавалася шматбацькоўства: калі маці жыла з некалькімі мужчынамі адначасова, аліменты на дзіця павінны быў плаціць кожны.

Ідэйным кіраўніком і натхняльнікам грамадскага аб'яднання "Далоў сорам!" быў Карл Радэк, сябра Льва Троцкага, член выканкама Камінтэрна. Звычайна ён ішоў на чале маскоўскіх аголеных дэманстрантаў. У гэткім жа выглядзе прымаў гасцей у сваёй кватэры.

Дарэчы, Ул. Маякоўскі таксама ўдзельнічаў у дэманстрацыях аголеных жанчын...

Гэтак жа, як матэрыялізмам адмаўляліся маральныя, рэлігійныя нормы грамадскага жыцця (сорам, сумленне, спачуванне, шкадоба), то гэткую ж справу рабілі, ды і цяпер робяць, прапаведнікі новых рэвалюцый: гей-парадаў, аднаполых шлюбаў.

***

Але ж ідэі, без веры грамадству цяжка, а можа, і немагчыма існаваць.

Дзесяці запаведзям хрысціянства былі проціпастаўлены дзесяць запаведзяў будаўніка сацыялізму і камунізму. Новы рэальны зямны рай новыя багі абяцалі пабудаваць пасля сацыялізму роўна за дваццаць гадоў. І ні годам пазней.

Тады песня гучала бадзёрая: «Будзе людзям шчасце, шчасце на вякі...»

З году ў год прапагандавалася і падтрымлівалася ідэя матэрыяльнага дабрабыту. Пасля вайны, калі людзі толькі-толькі пачалі ачуньваць ад гора, гэтыя ідэі, як кажуць, ляглі на добра падрыхтаваную глебу...

У 1946 годзе, пасля таго, як на Хірасіму і Нагасакі былі скінуты ядзерныя бомбы, пачалася халодная вайна, ідэалагічная вайна паміж «нашай» сацыялістычнай сістэмаю і «не нашай» – капіталістычнай.

Магутныя ідэалагічныя сілы былі кінуты ў жорны гэтай вайны: інстытуты марксізму-ленінізму, інстытуты партыі, ідэалагічныя аддзелы райкамаў, гаркамаў, ЦК – усё было задзейнічана і завінчана даастатку і нават больш: газеты, часопісы, радыё, тэлебачанне – усе яны былі органамі ЦК, абкамаў, райкамаў...

У гэтай вайне, хацелі таго ці не хацелі, удзельнічалі і работнікі культуры, літаратары, як нас называлі – «байцы ідэалагічнага фронту». Меліся яшчэ

«байцы нябачнага фронту» – шпіёны, якія здабывалі сакрэты капіталістаў (Келдыш прызнаваў, што 50 працэнтаў поспеху стварэння савецкай ядзернай бомбы належыць разведцы), меліся навокал загадкавыя структуры КДБ.

Былі і здраднікі ў барацьбе з «не нашымі», тады крытыкі вінавацілі іх у «ачарніцельстве светлай сучаснасці», «песімізме», «ліцці вады на млын капіталістычнай сістэмы».

Пасля такіх ацэнак рабіліся аргвывады, здымаліся ў выдавецтвах творы, пісаліся закрытыя рэцэнзіі, здымаліся з работы рэдактары. Многія мастацкія кінафільмы клаліся, як гаварылі, на паліцу... Чыста літаратурныя спрэчкі перарасталі ў палітычныя даносы. Літаратары «ламаліся» – ведалі, пра што можна пісаць, а што – не прапусціць Галоўны, у літаратурных творах паяўляліся станоўчыя і адмоўныя героі, плакатнасць, шаблоннасць у паказе жыцця рэальных людзей.

Літаратары павінны былі выконваць ролю выхавацеляў, «інжынераў чалавечых душ». Як казаў Саша-артыст, літаратары павінны былі ўсё ведаць і даваць парады, як трэба жыць.

Не меншую работу ў барацьбе з камунізмам, з сацыялістычным лагерам рабілі, як тады гаварылі, «праклятыя капіталісты»... Сродкі масавай інфармацыі стваралі вобраз дзікага рускага (савецкага) мядзведзя. У даваенных карыкатурах, на плакатах, у фільмах паказваліся азвярэлыя твары – амаль гэткія ж, як і ў нашых пасляваенных фільмах пра немцаў. Перад Другой сусветнай вайною ідэалагічная апрацоўка дзяцей у Германіі была такой магутнай, што многія дзеці, якія прайшлі школы гітлерюнгенда, да канца жыцця заставаліся вернымі ідэалам, якіх набраліся ў маленстве.

Свет увачавідкі дзяліўся на дзве варожыя палітызаваныя сістэмы. У апошнія гады існавання СССР, калі яшчэ быў сацыялістычны лагер, работнікамі ЦК КПСС быў запушчаны ў людскую свядомасць лозунг стварэння сацыялістычнай цывілізацыі.

На гэта тут жа быў магутны адказ: разбурым імперыю зла і цемрашальства разам з краінамі-ізгоямі.

Набірала новы віток гонка ўзбраення. Успыхнулі войны...

Наіўна думаць, што пасля Другой сусветнай вайны, пасля асвенцымаў ды хатыняў сітуацыя карэнна змянілася.

Дзяржавы як выраблялі, так і вырабляюць зброю, якой можна паліць жывых людзей.

Як гандлявалі, так і гандлююць зброяй – бы ўзаконеным наркотыкам поўняць свае бюджэты.

Як хваліліся, так і хваляцца адна перад адной – у каго лепшая і больш жахлівая зброя.

*Появились какие-то новые трихины, существа микроскопические, вселяющиеся в тела людей. Но эти существа были духи, одаренные умом и волей. Люди, принявшие их в себя, становились тотчас же бесноватыми и сумасшедшими. Но никогда, никогда люди не считали себя такими умными и непоколебимыми как эти зараженные. Никогда не считали непоколебимее своих приговоров, своих научных выводов, своих нравственных убеждений и верований. Целые селения, целые города и народы заражались и сумашествовали.*

**Ф.М. Дастаеўскі**

## Глабалізацыя, урбанізацыя, маральнасць

Што нясуць глабалізацыя, урбанізацыя ў нашы душы?

Што прынеслі?

Як немагчыма знайсці «нітку» ў чалавечым свеце, учапіўшыся за якую можна разабрацца ў тым складаным, назва чаму Чалавек, то, мабыць, гэтак жа складана ацаніць ролю глабалізацыі і урбанізацыі.

Маштабы развіцця глабалізацыі і урбанізацыі, развіцця інфармацыйных тэхналогій робяць духоўны свет чалавека абмежаваным пры знешняй свабодзе.

Задавалася б – рухнула «наша» сацыялістычная сістэма адукацыі і выхавання новага будаўніка камунізму, адкрыўся «не наш» палітычны свет, як некалі пісаў Я. Сіпакоў, жыві – як хочацца, едзь – куды хочацца...

Але ж чаму пры гэтай вольнасці духоўны свет змяншаецца, абмяжоўваецца экранам тэлевізара, інтэрнэт-залежнасцю, экранам смартфона, без якога не можаш абысціся, і якія заганяюць чалавека ў яшчэ большае рабства, чым у мінулыя часы, калі вяскоўцам не давалі пашпартоў?

Чаму сённяшняму чалавеку гэтак адзінока ў свеце?

Адзінока не толькі нам, адзінока і «капіталістам» – замежныя гарадскія вячэрнія вуліцы выміраюць, людзі, якія з-за мяжы прыязджаюць да нас, пагасцяваўшы, адчуўшы нашу гасціннасць, перад ад'ездам плачуць...

У апошнія гады жыцця Валянцін Распуцін, аўтар цяпер ужо класічных «Жыві і памятай», «Развітанне з Мацёрай» паехаў у Сібір – на беразе штучнага мора, на радзіму. Разам з ім паехала кіназдымачная група. Там жа аказаўся і гаваркі маскоўскі крытык. На аснове той паездкі створаны дакументальны фільм.

Фільм праўдзівы. Уражанне ад яго дваякае.

Маскоўскі крытык у асноўным вёў гаворку і дыскусію з будаўнікамі і энергетыкамі ГЭС.

Распуцін больш адмоўчваўся і толькі зрэдку кідаў рэплікі. Кожны з дыскутантаў меў сваю праўду, калі гаварыў пра экалогію, пра маральнасць.

З экрана даносіліся горкія словы Распуціна пра парушанае жыццё ў вёсках і пасёлках, пра маральнае адзічэнне, паказваліся зарослыя бур'яном магілы, паламаныя агароджы, мільганулі спітыя вінаватыя твары вяскоўцаў і тут жа, устырч, мантаваліся кадры аграмаднейшых сценаў вады, якая круціла турбіны ГЭС, паказвалі будынкі ГЭС, апоры электраліній з гірляндамі ізалятараў, шырачэзнае мора, якое назусім схавала вёскі, пасёлкі – цэлы пласт жыцця.

Як усё гэтае паяднаць?

Што з намі адбываецца?

Гэтак усклікнуў Васіль Шукшын ці не ў апошнім празаічным творы, якому даў падзагаловак «вопыт дакументальнага апавядання».

У аснову апавядання легла сітуацыя, калі яго, ужо вядомага пісьменніка, давяла да істэрыкі санітарка, якая дэманстратыўна не пусціла сяброў у бальнічную палату.

Бяздушнасць, самаўпраўства, хамства... Не толькі пра гэта хацеў выкрыкнуць Шукшын, пра нешта большае, глыбіннае...

Што сёння адбываецца ў паўапусцелых вёсках, пасёлках, правінцыйных гарадах, калі вечарамі пад чарку людзі цешацца грымучым тэлевізарам, той «культураю», без якой і жыцця не ўяўляюць.

Што вырастае ў душах, калі там знікае традыцыя, мова, маральнасць – пошукі ворагаў, нянавісць да «не нашых»?

Сумнае, дваякае адчуванне паявілася ўва мне пасля прагляду таго дакументальнага фільма.

Такое ж адчуванне разгубленасці было і дагэтуль, калі з Алегам Чарновым ездзілі па рэспубліцы і збіралі споведзі людзей для дакументальнай кнігі «Сталі воды горкімі». Кніга выйшла ў друку ў цяпер ужо далёкім 1991 годзе, але і сёння, як кадры з кінафільма, помніцца адна сцэна.

Мы наведвалі вёскі на Гомельшчыне, якія трапілі ў зону адсялення. Праз чатыры гады пасля Чарнобыля людзі паціху пачыналі вяртацца назад у абжытыя мясціны. З'явіліся першыя, як тады гаварылі, самасёлы.

Тады была восень. Пад Нароўляю мы ішлі па ціхай бязлюднай вуліцы. Было дзіўна глядзець на апусцелыя двары, на гародчыкі, перад якімі стаялі пустыя лаўкі. Хаты ў вёсцы ніхто не разбіраў, не ламаў.

За высокай бярозаю, якая ружавела і залацілася, убачылі ў двары гадоў сарака пяці жанчыну, – крэпкую, паўнацелую, стаяла ля веранды. Там жа, у двары, высілася антонаўка з ужо спелымі жаўтавата-залацістымі антонаўкамі.

Шмат яблыкаў ляжала на мураве, ляжалі яны і ў плеценым лазовым кашы з ручкаю.

Угледзеўшы нас, жанчына чамусьці разгубілася.

Каб не палохаць чалавека, мы прывіталіся, сказалі, хто мы і чаго прыехалі. Непрыкметна для жанчыны Алег паклаў на траву дазіметр.

Гаворка з жанчынай не клеілася.

Бываюць імгненні, калі чалавеку не можаш расказаць нешта для цябе надта важнае і набалелае, хоць чаму не можаш – не ведаеш, адчуваеш пакутлівую мяжу, якую нельга рушыць словам. Чаму нельга – табе няясна.

Такое адчуванне бывае рэдка, але яно помніцца і помніцца не халоднымі лагічнымі развагамі, а адчуваннем недагаворанасці.

І толькі пазней, апамятаўшыся, перажыўшы міг маўчання, спахопліваешся: чаму не сказаў, не спытаў?..

Было пасляабеддзе. У блакітным чыстым небе свяціла вялікае сонца. Было цёпла, ля дваццаці градусаў, хоць загарай... Прывяленая някошаная атава блішчала пад сонечным святлом. У агародзе бачыліся грады – і ўжо выкапаныя, і з вялікімі жоўта-залацістымі гарбузамі. Адкуль ні вазьміся ў небе паявіліся дзве вароны, – уселіся чорнымі камякамі на вяршыню бярозы, закруцілі галовамі. Але ў вочы не глядзелі. Кажуць, што вароны разумныя і чалавеку ў вочы не глядзяць. Пасядзеўшы, вароны, як згаварыўшыся, замахалі крыламі – паляцелі пустой вуліцаю да рыжага лесу.

Мы так і не спыталі ў жанчыны, каму гэтыя антонаўкі, што ляжалі ў лазовым кашы?

Каго яна будзе карміць гарбузамі?

Не спыталі, ці ёсць у яе якая гаспадарка?

Мы так і не сказалі, якая радыяцыя, а яна – не спытала...

Калі маўчанне стала занадта цяжкім, перад тым, як развітацца, спытаў пра мужа, бо ў вёсцы – не ў горадзе, без мужчыны абысціся цяжка, гэта ў горадзе, калі што не па нутру – талерку аб падлогу, пальцам на дзверы – пракармлю сябе сама.

– А мы развяліся. Ён радыяцыі збаяўся, з'ехаў.

– Куды?

– У суседскую вёску. За восем кіламетраў адсюль. Адзін жыве.

Калі, развітаўшыся, ішлі ў другі канец вуліцы, дзе жыла сям'я самасёлаў, Алег сказаў:

– Гэта ж трэба, каб жанчына ў вёсцы яблыкам не пачаставала...

Я маўчаў. Я нечага не разумеў.

Гэткае ж цяжкае маўчанне было ўва мне і пазней, недзе праз два гады, калі разам з Чарновым, аператарам і рэжысёрам паехалі ў Чалябінск, у закрыты, засакрэчаны горад, дзе стваралася ядзерная зброя.

Тады таксама бралася на восень. Мы ляцелі з перасадкаю ў Маскве. У Маскве было некалькі гадін вольных, пайшлі ў цэнтр.

Тады ішоў 1991 год. Як некалі Ленін у Разліве, Гарбачоў хаваўся ў Фаросе, загадкава гінулі члены Палітбюро, з дрыжачымі рукамі Янаеў чытаў пастанову аб стварэнні ГКЧП, не хапала прадуктаў, і людзі не ведалі, што рабіць.

Мы ішлі па праспекце ў бок Белага дома, дзе на трыбунах па чарзе махалі рукамі то Шэварнадзе, то Ельцын, дужыя хлопцы ў спартыўных касцюмах цягнулі да гарбатага моста трубы і прэнты для барыкад, уздоўж праспекта тоўпіліся разявакі – як на бясконцы спектакль высыпалі, – з балконаў амерыканскага пасольства тырчалі галовы з тэлефонамі ля вушэй...

Трэба было на самалёт – і мы так і не даглядзелі шумнае відовішча.

Ішоў 1991 год.

Час патрабаваў ахвярапрынашэння.

## Частка чацвёртая

### *Дзе ісціна?*

#### 2 гадзіны

У Сарэнгеці спёка. Белае сонца высушыла траву, загнала барадавачнікаў у кусты. Птушкі заціхлі ў высокіх кронах дрэў, там-сям раскінутых па саване.

На берагах ракі зеленаватымі калодамі застылі кракадзілы, – нерухомыя, дрымотныя. Ляжаць яны і ў рацэ, – выставіўшы доўгія вастраносыя галовы.

Кракадзілы чакаюць буйвалаў.

Спёка, голад, ільвы пагоняць буйвалаў цераз раку на другі бераг, дзе лагчыны, дзе зелянее свяжэйшая трава.

Так паўтараецца кожны сезон перад пачаткам дажджоў. Так было і ў мінулы сезон.

Гэтак жа, як пастух пасе статак кароў, гэтак жа львы пасвілі буйвалаў. Забягаючы то збоку, то спераду, ільвы вадзілі буйвалаў па Сарэнгеці з поўначы па поўдзень на многія вёрсты, – пакідаючы высушаную сонцам савану, яны кіравалі на поўнач, дзе была зяляніна, а потым заварочвалі статак і гналі буйвалаў да мясцін, дзе лілі дажджы.

Ні на дзень ільвы не адступалі ад статка. Яны пільна назіралі за старымі нямоглымі буйваламі, за маладняком, які заўсёды быў у цэнтры статка.

У мінулым сезоне, калі кракадзілы падчас пераправы кідаліся на буйвалаў, каб, учапіўшыся зубамі ў буйвала, рэзка крутануўшыся, пацягнуць ахвяру ў глыб ракі, якраз такой парою стары вопытны буйвал адчуў, як у заднюю нагу ўчапілася штосьці зубастае і вострае. Пярэднімі нагамі буйвал ужо дакрануўся да жаданага берага, на якім зелянела трава. Вольнай нагою ён стукнуў па чэрапе кракадзіла і, не адчуваючы болю, вырваў нагу з вострага і зубастага.

Статак шэрай плынню цёк з берага на бераг, і буйвал, падхоплены плынню, выскачыў на бераг.

Праз дзень ён адчуў у назе боль, – мабыць, кракадзіл парваў не толькі скуру, але і сухажылле. Рана не загойвалася.

Ільвы ўсё бачылі: як буйвал пачаў кульгаць, як усё часцей ён ішоў апошнім у статку.

Але напасці на буйвала яны не наважваліся. Трэба было адбіць буйвала ад статка.

Калі буйвал, адстаўшы ад статка, смакаваўся смачнай травой, ільвы рэзка ўварваліся ў статак, тут жа раздзяліліся: адны пагналі статак наперад, падалей ад буйвала, а другія прыселі перад буйвалам, злосна ашчэрыўшы пашчы.

Буйвал імкнуўся дагнаць статак, там ягонае выратаванне, ды – позна, позна, перад ягонай пысаю прыселі львы. Ільвы шчэрацца, ільвы гыркаюць. Буйвал мыкае, кліча статак: ммы-мыы...

Але статак яго не чуе. Ільвы гоняць статак ад буйвала. Буйвал кідаецца ў той бок, дзе няма львоў. Ільвы адпускаюць яго. Ільвы чакаюць, калі вярнуцца тыя львы, якія цяпер адганяюць статак.

Нарэшце прайд у зборы. Цяпер яны заганяюць буйвала ў балоціну, дзе ногі буйвала вязнуць у твані. Абложаны прайдам, буйвал круціцца, махае галавою, імкнучыся рогам падчапіць спрыжыністых ільвіц, але тыя пругка адскокваюць, і тут жа іншыя львіцы кіпцюрыста ўпіваюцца ў хвост, некаторыя ўскокваюць на спіну і ўгрызаюцца ў хрыбет.

Тады рэзка буйвал кідаецца ў твані, скідвае з сябе львіц.

Болю і жаху ён пакуль не адчувае, ён поўны злосці і нянавісці.

Мм-ыы, мы-мы, – рыкае ён, спадзеючыся на дапамогу. Але статак далёка. Статак спыніўся ў разгубленасці: няма львоў, якія іх толькі-толькі гналі, няма буйвала...

Важак прайда, грывасты леў, прысеўшы ў траве, пільна сочыць за бітваю. Ён чакае свайго імгнення.

Урэшце ён спружыніста адрываецца ад зямлі і кідаецца да шыі буйвала. Ён угрызаецца ў ярэмную вену і хмялее ад салодкай крыві.

У галаве буйвала ўсё мітусіцца: балацявістыя кусты, боль ад кіпцюроў, цяжар грывастага льва, якога не можа адкінуць ад сябе...

Самі сабою гнуцца ногі, і ён завальваецца. Ён яшчэ дрыгае нагамі, ды львы цяпер ужо смела, не баючыся вострых рагоў, ускокваюць на яго і пачынаюць хмялець ад салодкага мяса.

Грывасты леў усё яшчэ не адпускае ярэмную вену.

Чуецца шум, трэск кустоў і чырканне львоў. Між ільвамі ўплішчваюцца львяняты, – смакуюць першае ў жыцці мяса.

Паяўляецца гіена. Яна абабегла прайд і знікла. Чуецца яе гучнае скуголенне і выццё. Гук вырываецца з яе цела і ляціць далёка-далёка, туды, дзе логава зграі. Дзяжурная гіена чуе гэты гук, – у ім прызнаўшы кліч на здабычу.

Гіены хутка збіраюцца, і вось ужо – грозная зграя бяжыць да прайда. У логаве застаецца толькі старая гіена-нянька і малыя шчанюкі.

Гіены акружаюць ільвоў, якія толькі-толькі пачынаюць хмялець ад салодкага мяса. Гіены павіскваюць, іх шмат, яны таксама хмялеюць ад паху свежай крыві і таму становяцца настырнымі і злымі.

Падціснуўшы хвасты, ільвы па адным пакідаюць нерухомае цела буйвала.

У небе паяўляюцца грыфы. Спачатку адзін, а потым іх стане ўсё больш і больш.

***

Той, чые вочы глядзяць з партрэтаў, праводзіць чарговую нараду з бліжнім колам.

Партрэты вывешаны на сценах кабінетаў чыноўнікаў, надрукаваныя ў газетах, множацца на экранах тэлевізараў – прэс-служба пільна сочыць, каб партрэт, як некалі ікона, увесь час быў побач з чалавекам. І тады, калі доўга-доўга глядзець у нерухомыя вочы Таго, які сёння праводзіць нараду, паяўляецца адчуванне далучанасці да чагосьці нябачнага, усясільнага, што стаіць над чалавекам і што кіруе чалавекам, і пагэтаму чыноўнікі пад пільным нерухомым позіркам з раніцы да цёмнага павінны выконваць законы, указанні, рэзалюцыі і пастановы Таго, чые вочы глядзяць на іх днём і ноччу.

У невялікім кабінеце, дзе ў цэнтры стаіць прадаўгаваты авальны стол, застыла бліжняе кола – людзі сядзіць на крэслах і не зводзяць вачэй з дзвярэй, адкуль паявіцца Той, хто будзе праводзіць нараду, – загальштукаваны, у чорным касцюме, строгі і рашучы, якраз такі, якім бачаць яго людзі на шматлікіх партрэтах.

Дзверы адчыняюцца, і Ён паяўляецца ў праёме. Чыноўнікі тут жа падымаюцца і схіляюць паслухмяна галовы. Праходзіць да стала, садзіцца ў вольнае крэсла і махае рукою зверху-ўніз...

Прэс-служба, якая ціснецца ля сцен кабінета, робіць пратакольныя здымкі і тут жа пакідае кабінет – нарада носіць закрыты характар.

Абмяркоўваецца план дзеянняў на бліжэйшы час. Сітуацыя ў свеце накаляецца, паяўляецца пагроза прамога канфлікту ядзерных дзяржаў, які можа выйсці з-пад кантролю.

Члены бліжняга кола па адным дакладаюць сваё бачанне сітуацыі. Даюцца прапановы. І хоць на стале перад вачыма Таго, чые вочы глядзяць з партрэтаў, ляжыць пакуль не падпісаны праект пастановы, падрыхтаваны службаю адміністрацыі, але Ён слухае членаў бліжняга кола, то – згодна ківае галавою, то – пярэчыць.

Ён ужо даўно абкладзены дамовамі, графікамі сустрэч, планамі дзеянняў на бліжэйшыя месяцы; як рабу на галерах, яму трэба рабіць гадамі да бліжэйшых выбараў, – падпісваць не толькі ўказы аб узнагародах, але і смяротныя прысуды, да яго штораніцы сцякаюцца аналітычныя запіскі розных службаў, і яму трэба, трэба – ніяк не выкруцішся! – прымаць рашэнні, ад якіх залежаць лёсы тысяч яму невядомых людзей.

Ён даўно прывык апераваць не людзьмі, не іх жаданнямі і памкненнямі, а – людскім і працоўным рэсурсам, які трэба ўмела скарыстоўваць у інтарэсах глабальных задач, звязаных з узмацненнем рэсурснай базы, і таму Яму даводзіцца тасаваць міністэрствы і міністраў, ствараць холдынгі, узмацняць кадравую і працоўную дысцыпліну.

Ён адчувае цяжар адказнасці, і мо таму ў апошнія гады ў яго баліць спіна – кансіліум дактароў раіць рабіць аперацыю на тазабедраным суставе, які зношаны на трэніроўках у маладыя гады, але Ён адмаўляецца з-за многіх прычын.

Пакуль ён ледзь-ледзь накульгвае, але прэс-служба ўсё робіць, каб Ён выглядаў гэтак, як выглядае на партрэтах.

На Яго цісне апазіцыя, якая ў любым рашэнні бачыць хаос і дыктатуру, – і тое, і другое жахліва, і таму, як дырыжору аркестра, трэба выводзіць толькі Яму вядомую мелодыю.

Ён жыве па сваіх запаведзях, сярод якіх адна, найгалоўнейшая: ён павінен быць непадкупны і аб’ектыўны, як Той, чые вочы глядзяць з партрэтаў.

У Яго няма ні сяброў, ні сябровак – ведае, што адны і другія Яго не любяць, яны схіляюць галовы не перад Ім, а перад тым нябачным і салодкім, што ўладарыць Ім і ад чаго Ён не можа адарвацца ні на імгненне і што, бы наркотыкам, напаўняе Яго цела незямной слодыччу.

Ён адзінокі, як ніхто на свеце.

Гаротны, гаротны...

***

У бальніцы робіцца чарговая аперацыя.

Аперацыйная палата, гінекалагічнае крэсла, у якім, раскінуўшы ногі, ляжыць студэнтка-другакурсніца, анестэзіёлаг і гінеколаг ля ног студэнткі – усё ў белым, стэрыльна чыстым.

Студэнтка заляцела...

Ёй трэба вучыцца і вучыцца. У яе няма кватэры. Жыве ў інтэрнаце. Бацькі не ведаюць, што яна заляцела.

Аднагрупнік, з якім студэнтка кахалася, даў грошы на спарон. Яму таксама трэба вучыцца. У яго таксама няма кватэры. Пра работу і падпрацоўкі ён не думае. Ён напалоханы сітуацыяй – можа вылецець з інстытута... Ён пазычыў грошы ў сяброў.

Робячы звыклую работу, гінеколаг думае пра крэдыт, які заўтра трэба выплаціць.

***

У Бундэстагу ў палаце агульных паседжанняў сярод дэпутатаў вядзецца бурная дыскусія аб прыняцці важнага закона: як называць дзяцей да дзесяцігадовага ўзросту – Ён, Яна, ці – Яно?

Закон пра аднаполыя шлюбы прыняты. Першыя аднаполыя шлюбы дазволены і ўхвалены царкоўнымі канонамі. На дзяржаўным узроўні трэба прыняць падзаконныя акты, якімі будзе рэгулявацца жыццё аднаполых сямей.

***

У пакоі санаторыя “Сонейка” двое: васямнаццацігадовая санітарка Зіначка і саракагадовы кацяра-падпалкоўнік. На стале бутэлька каньяку, шакаладка, садавіна. Дзверы ў пакойчык замкнутыя знутры. Канапа раскінутая. Ля вакна мігціць кліпамі і балаболіць тэлевізар. Кацяра пагладжвае руку Зіначцы, гіпнатычна глядзіць у вочы і вуркоча пра сваю адзіноту, пра злыдню-жонку, з якой хоць заўтра развядзецца, калі побач паявіцца блізкая душа.

Зіначка вагаецца. У яе яшчэ нікога не было: сяброўкі кажуць, што яна – старая. Ад цёплай рукі, ад выпітага каньяку, ад паху мужчынскага потнага цела яна суцішваецца і схіляе ўніз галаву.

Рука кацяры пералазіць да круглага калена, другая цягнецца да станіка...

***

У блакітным моры касаткі акружылі кіта і кіцяня. Кіт адбіваецца ад касатак, раз за разам хвастом аглушае касатак. Кіцяня мкнецца быць ля маці як мага бліжэй, ведае, як толькі касаткі паявяцца між ім і маці, касаткі тут жа пачнуць яго тапіць.

Кіт пасылае ў ваду трывожныя гукі, якія нясуцца на многія вёрсты.

Бітва цягнецца трэцюю гадзіну.

***

Вясковая пажылая жанчына ходзіць па двары і склікае курэй: цыпа, цыы-па...

Куры добра ведаюць жанчыну, ведаюць “цыпа-цыпа” – выбягаюць з хлеўчыка, з закуткоў двара, акружаюць жанчыну. Жанчына з міскі сыпле ім зерне ў прадаўгаватае драўлянае карыта. Куры дзяўбуць зерне. Паглядзеўшы на курэй, жанчына ідзе да калодзежа, набірае там у гэтую ж міску вады, ставіць яе ля карыта.

Схадзіўшы ў хлеўчык, дзе ў кошыку ляжыць поклад, яна выносіць адтуль два яйкі і нясе іх на веранду хаты.

На верандзе ўключае газавую пліту, ставіць на агонь чорную патэльню і смажыць яйкі. Смажыць яшчэ дзве скрылінкі сала, – сала засталося ад зімы, калі мужчыны забілі падсвінка.

Хлеб прывозіць аўталаўка, што раз у тыдзень праязджае па вуліцы і піпікае...

У абед яна думае пра хлапчыну, якога па вясне прывезлі з горада дужыя хлопцы з татуіроўкамі. Хлапчына быў збіты і напалоханы. Дужыя хлопцы згрузілі з машыны сякое-такое адзенне – перанеслі ў суседнюю пустую халабудзіну, пахадзілі па двары, парагаталі і паехалі.

У хлапчыны былі тонкія не рабочыя рукі, акуляры на бледным твары і ёй яшчэ тады падумалася пра штосьці нядобрае, што сталася з хлапчынам.

***

На канцавой станцыі метро стаіць манашка, – у доўгай чорнай сукенцы, у белым фартуху і гэткай жа белай хустачцы. У руках яе малітоўнік – глядзіць у яго і ледзь-ледзь варушыць вуснамі. Ля ног на бетоне стаіць невялічкая скрыначка, – туды людзі, якія выходзяць і заходзяць у метро, кідаюць капейкі. Тады манашка адрывае вочы ад малітоўніка і ківае галавою – дзячыць... І бачны тады яе твар, – бледна-бледныя шчокі, нефарбаваныя палоскі вуснаў, чысты блакіт вачэй. Ёй гадоў дваццаць-дваццаць пяць, не болей...

Потым яна апускае галаву і зноўку глядзіць у малітоўнік, – у той свет, недаступны заклапочаным людзям, занятым працаю, каханнем, напоўненым злосцю, сумам ці адчаем...

Ад доўгага стаяння ў яе баляць ногі. Таму яна прыносіць драўляную падставачку. Так яна і стаіць на ёй, як помнік на п’едэстале, адзінокая, маўкліва нясе свой крыж веры, няведання і сумнення...

***

У інтэрнэце набірае мільённыя лайкі сцэна: увесь у чорным барадаты мужчына трымае ў правай руцэ нож. Недалёка ад яго, за спінаю, стаяць у рад людзі ў чырвоных аднолькавых кашулях. Рукі ў іх звязаныя. Барадаты мужчына, размахваючы нажом, робіць заяву перад відэакамерай. Заява перарываецца крыкам: “Алах акбар!”

***

Выпускнік Кембрыджскага ўніверсітэта едзе на веласіпедзе ў падзямеллі па кальцавой калайдэра – кіруе ў бок паўкіламетровай пятлі, дзе знаходзяцца датчыкі і пульт кіравання.

Дваццацікіламетровы калайдэр знаходзіцца ў ЦЭРНе недалёка ад

Жэневы па мяжы Швейцарыі і Францыі. Дж. Максвел глядзіць на гладкую дарожку, што сцелецца пад коламі веласіпеда, на сцены тунэля, абліцаваныя белым мармурам, на трубу калайдэра, дзе ляжаць магніты, куды падведзены ток, вакуумныя трубкі, трубкі з вадкім азотам – усё тое, што хутка пагоніць нябачныя плыні пратонаў і элементарных часцінак да пятлі, дзе яны сутыкнуцца самі з сабою.

Сёння падчас эксперыменту плануецца адкрыць базон Хігса – часцінку Бога.

Дж. Максвел думае пра дзіўныя статыстычныя вынікі эксперыментаў з элементарнымі часцінкамі – вынікі залежаць ад волі эксперыментатара...

***

Рака працякае праз горад – дзеліць папалам. У цэнтры горада забетанаваныя берагі злучаны шырокім мостам. З аднаго берага ў закутку моста, дзе бетон мяжуе з зямлёю, бялее труба цеплатрасы. Тут заўсёды цёпла. Тут жыллё Валеры: грудай ляжыць адзенне, чаравікі, коўдра, ёсць нават кубкі і міскі.

Цяпер цёпла і сонечна.

Каб лішне не мазоліць людзям вочы, Валера выбраўся за горад – за гарадскі парк з атракцыёнамі і шумнымі дзецьмі, дзе няма дамоў, дзе зелянее лугавіна, якая суцішвае душу, а бетонныя шматпавярховікі – як запалкавыя карабкі. На другім далёкім беразе ракі мільгацяць бясшумныя машыны, бачны маленькія людзі.

Валера разуўся, усеўся на траве на беразе, дзе зялёны лазняк і аер, а ў вадзе знізу ўверх тыкаюцца рыбкі.

У руцэ Валера трымае бутэльку чарніла.

У прадчуванні асалоды Валера зноў і зноў азірае наваколле: лугавіну, далёкія высоткі, чыстыя белыя аблачыны і бялюткае сонца, што сляпіць вочы.

Ён адвінчвае корак і маленькімі глыткамі расцягвае асалоду, якой поўніцца цела.

Тады перастае часацца экзэма наназе, адвальваецца жахоцце перад Эдзікам і кампаніяй, – ён стае вольным.

Ад Валеры пахне нямытым целам, смуродліва пахне адзенне, але ён гэтага паху не адчувае і таму дзівіцца, чаму людзі шарахаюцца ад яго.

Да берага выходзяць рыбакі. Размотваюць вуды. Некаторыя дастаюць з кішэняў бутэлькі і цешаць целы радасцю і асалодаю. Валера думае, што ён і рыбакі паяднаны цяпер свабодаю, і гэта яго ўсцешвае.

Захмялелы, Валера кладзецца на траву і засынае.

Як у іншы свет правальваецца...

***

У космасе, залітым бялюткім сонечным святлом, вакол Зямлі кружыць арбітальная станцыя, – заходзіць у цень Зямлі, а затым вынырвае з цемры, як з-пад вады... Бы дзіўная птушка, расправіўшы крылы чорных сонечных батарэй, станцыя жывіць людзей, якія цяпер у скафандрах мурашамі снуюць ля яе. Прывязаныя доўгімі фаламі да станцыі, у бялюткіх скафандрах, людзі заклейваюць на корпусе пашкоджанні ад метэарытаў, ад абломкаў спадарожнікаў, якія густым роем аплятаюць Зямлю, і ўжо цяпер з-за іх цяжка выляцець у космас... Яны праціраюць кварцавыя ілюмінатары ад загадкавага касмічнага пылу і ад белых грыбковых налётаў...

Касманаўтаў двое: біёлаг і фізік.

Зверху ім бачыцца Зямля як каляровая карта: праплываюць між белымі ватнымі аблачынамі гнуткія ніткі рэк, зялёныя плямы лясоў, скапленні гарадоў з дымнымі чорнымі плямамі, блакітны акіян, жоўтыя пустыні...

Касманаўтам здаецца, што яны не лятуць над Зямлёю, не, проста Зямля сама паварочваецца пад імі, выстаўляючы то светлы, то зацемнены бок, – там, у зацемненым баку, мігцяць агні, бы на ёлцы навагодняй.

На гарызонце над Зямлёю бачыцца тоненькае, з палец, каляровае вясёлкавае сяйво...

Касманаўтам трэба спяшацца, – хутка станцыя ўвойдзе ў цень Зямлі...

**3 гадзіны**

На плоскай, бы стол, саване, дзе рыкаў і мычэў буйвал, абложаны кіпцюрастым прайдам, дзе паветра поўнілася токамі зла, нянавісці, адчаю, цяпер ціха, – быццам нічога не было.

Апошні грыф, няўклюдна падскокваючы і ўзмахваючы цяжкімі чорнымі крыламі, выдзёўбвае з белых костак кавалачкі мяса.

Невядома адкуль да грыфа сцякаюцца мурашы і тэрміты.

Няма львоў, – схаваліся ад белага сонца ў цямністых зялёных кустах.

Няма сытых гіен, – пацягнуліся да логава, дзе іх чакаюць галодныя шчанюкі.

Дзе злосць і ўмольнае мычэнне буйвала?

***

Нарада з бліжнім колам заканчваецца.

У закрытай пастанове прадугледжваюцца мерапрыемствы, мэта якіх – забеспячэнне рэсурснай базы ўсімі сіламі, уключаючы вайсковыя аперацыі.

Паставіўшы размашысты подпіс пад пастановаю, Ён падымаецца з крэсла.

Тут жа падымаюцца члены бліжняга кола. Схіляюць галовы.

Пад пільнымі ўважлівымі позіркамі членаў бліжняга кола. Ён выходзіць з кабінета.

У Яго сёння запланаваны дзве сустрэчы з пратакольнымі здымкамі.

Абходзячы прыёмную, Ён ідзе ў кабінет, дзе Яго чакаюць людзі.

Пабольвае спіна. Але гэтага ніхто не бачыць і не павінен бачыць: Ён павінен быць гэткім жа, як выглядае на партрэтах...

***

У аперацыйнай палаце гінеколаг заканчвае аперацыю, – сцягвае з твару белую маску. Нарколаг падыходзіць да студэнткі і паляпвае яе па шчоках – будзіць...

Маленькі крывавы згустачак ужо ўкладзены ў стэрыльную скрыначку, у якой чырванее “абортны матэрыял”. Паставіўшы фламастарам нумар на скрыначцы, гінеколаг, пакуль студэнтка не ачомалася ад наркозу, набірае нумар тэлефона лабараторыі ствалавых клетак, гаворыць: “Надзюха, зайдзі па матэрыял...” Скрыначку яна тут жа кладзе ў халадзільнік.

Студэнтка ачынаецца. Спрабуе падняцца з крэсла. Гінеколаг і нарколаг падтрымліваюць яе пад рукі.

Ёй падсоўваюць бальнічны халат. У кішэні халата ляжаць грошы. З рук у рукі студэнтка аддае гінеколагу грошы.

Асцярожна яе кладуць на каталку. Да вечара студэнтка павінна ачуняць...

Гінеколаг задаволеная. Мімаволі мільгае, што Надзюха, якая вось-вось прыйдзе па абортны матэрыял, таксама штосьці падкіне, – крэдыт заўтра хоць часткова, ды будзе чым аплаціць.

***

У Бундэстагу большасцю галасоў прымаецца закон: да дзесяцігадовага ўзросту дзіця павінна называцца Яно.

Камісіі дэпутатаў па этыцы трэба тэрмінова распрацаваць падзаконныя акты.

На вуліцы ля сцен бундэстагу мітынгоўцы дзеляцца на дзве групы: адны – за прынясце закона, другія – супраць.

Паміж імі – сцяна паліцэйскіх.

***

У зігоце адбываецца штосьці незвычайнае.

У нябачнай спіральцы будзе закладвацца ўсё, што час нацягне з небыцця.

Спачатку маруда час пачне множыць першую спіральку; гэтаксама, як і ў першай, у водах цёплых і цёмных час пабудуе малюпасенькі пульсуючы камячок.

Маруда час пачне няспешна закладаць у камячок усё, што было і што ёсць у першай спіральцы: затуманеныя няясныя абрысы гнуткіх ног, складзеныя крыж-накрыж рукі, тулава, галава з заплюшчанымі вачыма і нават першы штуршок маленькага сэрца.

Той камячок не ведае, навошта яму ў водах цёмных рукі, ногі, заплюшчаныя вочы, навошта яму тулава і сэрца, але час усё ведае, ні на імгненне час не адступаецца ад Яго, закладае слаістыя туманы, якія цяпер заплюшчаныя вочы будуць упітваць, далёкія вогнішчы на далёкіх берагах, адкуль будуць несціся пад зорным небам салодкія песні.

Усё, усё ў той камячок будзе закладваць час: крыклівую парывістасць падлетка, юначую сцішанасць і нават адзіноту старасці...

Хутка-хутка час пакажа Яму бялюткае сонца, зорнае неба. Ён, маруда час, падрыхтаваў Яму кісла-салодкі смак яблыкаў, слодыч маліны на гнуткіх галінках малінніка ў лясных дзялянках; маруда час ужо цяпер рыхтуе дрогкі салодкі дотык чужой далоні, салодкія мяккія вусны...

Камячок жыцця пра ўсё, закладзенае часам, не ведае. Пакуль Ён варушыцца ў водах цёмных, тыцкаецца ў штосьці мяккае і неадольнае, адкуль да вушэй даносіцца рытмічны гул і шум. Ён прывыкае да шуму і гулу, запамінае яго...

Яму стае цесна ў водах цёмных і цёплых. Сценкі, што яго акружаюць, куды ён тыкаецца, цвярдзеюць, сціскаюцца. Воды сцякаюць.

З жахам ён шукае выхад. Ён адчувае пагібель, – і сваю, і салодкага ўтульнага свету.

Ён гіне, гіне...

І тут жа – уваскрасае ў новым свеце, пра які дагэтуль не ведаў, не здагадваўся, што яму падрыхтаваў час у водах цёмных.

Тады ад жаху і здзіўлення ён крычыць...

Ён чуе шум і гул іншага свету, – гэты шум і гул агортвае Яго, у новым рытмічным шуме і гуле ёсць нешта блізкае, што поўніць спакоем, што чуў некалі...

Тады Ён засынае.

Ён спіць і не ведае, што маруда-час павядзе яго на сцежкі і дарогі, і там, смеючыся бяззубым ротам, Ён пацягнецца да жанчыны, чый гул і шум чуў у водах цёмных.

Ягонае цельца будзе поўніцца сцішанасцю, будучымі снамі, у якіх цераз песню і Словы маці ўбачыць у лясах вогнішчы, капішчы, ля якіх будуць скакаць і смяяцца вольныя людзі з папараць-кветкамі ў руках. Ён будзе бачыць абрывісты бераг рачулкі з высокімі курганамі, у якіх будуць спаць ягоныя продкі, ды і рачулку пакажа час, у халодных жывых водах пакажа рыб вялікіх, павядзе ў лясы баравыя, дзе пачуюцца птушыныя спевы, прарочае куванне зязюлі, час пакажа выраі ў небе, салёныя блішчастыя хвалі і высокія горы...

Але плакаць у тых снах ён не будзе, – радасцю і смехам час будзе поўніць Ягонае цельца.

Ён спіць і не ведае, што час спачатку памалу-памалу, а потым усё хутчэй панясе да новых берагоў сцішанасці і адзіноты з якіх са здзіўленнем, без жалю, будзе глядзець, азіраць усё пакінутае – сцежкі і дарогі, пройдзеныя і знаёмыя, лясы з маліннікам і куваннем зязюлі, некалі салодкія вусны...

І ўжо адтуль, з новых берагоў, ён па іншаму пачне глядзець на Зямлю, з якой некалі прыйшоў і ў якую трэба выпраўляцца.

Новым разуменнем свету і сябе ў свеце пачне поўніцца ягонае цела, адчуе, абавязкова адчуе, што час і цяпер яго не пакіне, як не пакідаў яго там, у водах цёмных і цёплых...

***

Паабедаўшы, вясковая жанчына зноўку выходзіць да курэй. Кіруе на агарод, дзе грады з першымі агуркамі, дзе пустазелле чакае яе рук.

Чамусьці сёння жанчыне думаецца пра дзіўнаватага хлапчыну, якога прыкормлівала і які ні з таго ні з сяго з'ехаў у горад. Казаў, што вернецца з нейкай Светаю, – ні то каханкай, ні то жонкай...

***

На канечнай станцыі метро ўсё гэтак жа снуюць людзі, – плынню беспярастанку заходзяць у падзямелле і выходзяць...

Цяпер падставачцы манашкі няма – ціха панесла з сабою нябачны свет, уваход у які недаступны староннім.

***

Рэзкім узмахам рукі барадаты мужчына адразае галаву чалавеку ў чырвонай кашулі. Аблітае крывёю цела абсоўваецца да ягоных ног на белы пясок. Барадаты мужчына падымае перад відэакамерай адрэзаную галаву.

Ён крычыць аператару. Ён не баіцца смерці.

***

У тунэлі Вялікага андроннага калайдэра цяпер нікога няма, – падчас эксперыменту паявіцца радыяцыя.

Нехта з вучоных жартам назваў дваццацікіламетровую трубу пітонам. Жарт прыжыўся, бо і сапраўды калайдэр нагадваўаграмаднейшага падземнага пітона, які пасля паўкіламетровай пятлі кусаў сябе за хвост.

Вогненная плазма насіла ў чэраве пітона нябачныя плыні пратонаў, змушала іх біцца між сабою і тут жа – высякала часцінку Бога...

Вучоны Дж. Максвел цяпер на пульце кіравання; ён глядзіць на экран манітора – сюды сцякаецца інфармацыя. Побач з Дж. Максвелам – калегі, перад імі таксама маніторы.

Магутныя токі разганяюць плазму да калясветлавых хуткасцяў.

У паветры паяўляецца незапланаваны гул. Пітон злосна гудзе.

Як смерць пабялелы Дж. Максвел дрыжачым пальцам ціскае чырвоныя кнопачкі на пульце кіравання.

Чамусьці вучоным, як па камандзе, думаецца пра Новую зямлю...

***

Некалі Валера быў студэнтам філасофскага факультэта. Нічым асаблівым ён не вылучаўся, – можа, сцішанасцю, уменнем лагічна разважаць.

Перад экзаменамі, калі каму было няясна філасофскае паняцце, каб не чытаць падручнікі ці канспекты, звярталіся да Валеры.

На трэцім курсе ў яго паявілася мянушка – Спіноза.

Спіноза сказаў... Спіноза зрабіў...

Мянушка паявілася пасля лекцыі па марксіска-ленінскай філасофіі, на якой Валера публічна счубіўся з выкладчыкам. Падняўшыся з лаўкі, папраўляючы акуляры, размахваючы рукою, Валера пачаў гаварыць пра волю і здольнасць, пра імкненне розуму ўтрымліваць ідэі, салодкія чалавеку...

Студэнты круцілі галовамі – глядзелі то на выкладчыка, то на рашучага Валеру...

Пасля той лекцыі выкладчык, стары яўрэй, падышоў да Валеры, узяўся за гузік пінжака і па-сяброўску, як роўніцы, азірнуўшыся па баках – ці чуе хто са старонніх? – прашаптаў:

– Не лезь ты да Спінозы. Яго нават Ленін не чапаў.

Мянушка прыліпла да Валеры і тут жа нябачнай сцяною адгарадзіла ад студэнтаў.

Студэнты прапускалі лекцыі, збягалі на дыскатэкі, у кіно, кахаліся, гулялі ў футбол ці ў карты, пісалі “шпоры”, а Валера праседжваў у бібліятэцы, заглыбляючыся ў паняцці, якія некалі, на першым курсе, былі зразумелымі, а цяпер на старэйшых курсах, поўніліся незразумеласцю.

Ён пытаў у сябе...

Што ёсць розум?

Што ёсць ідэя?

Што ёсць матэрыя?

Што ёсць час?

У юначыя гады гэтыя паняцці былі не тое, што няяснымі, – не, але яны былі асвечаны, затуманены жыццёвай радасцю, якая саграявала і асвятляла ўсё, да чаго мог дацягнуцца: да постаці і тварыку аднакласніцы, да салодкіх мар пра штосьці няяснае, што знаходзілася не ў ім, а дзесьці далёка, у тым жа інстытуце, і таму трэба было адкідваць ад сябе блізкае і знаёмае і рвацца туды, дзе хавалася вечнае шчасце.

Вось нешта такое было ў ягонай юначай парывістай душы, калі паступаў на філасофскі факультэт.

Ён слухаў лекцыі, чытаў падручнікі, здзіўленымі вачыма глядзеў на свет і дзівіўся: дзе яно, тое шчасце?

Аднагрупнікі спехам здавалі экзамены і тут жа забывалі здадзенае, – як дзеці ў школе завучваюць табліцу множання, гэтак жа і яны завучвалі лекцыі – да аўтаматызму...

Дзяўчаты пільна глядзелі хлопцам у вочы і, хто як, каб не ехаць у вёску, праз слёзы і пацалункі, цягнулі шалопістых хлопцаў у загсы; разумнейшыя не вылазілі з дэканатаў...

Розумам, бы ліхтарыкам у цёмнай кватэры, Валера высвечваў закуткі памяці, і што бачыў?

Тое, што бачылі людзі: дываны, тэлевізары, машыны, сценкі з крышталём, чаркі, кніжныя паліцы...

Штосьці яшчэ павінна было быць у ягоным жыцці, не магло ж яно абарвацца, закрыцца вечкам труны...

Тады Валера зноўку і зноўку ішоў у бібліятэку.

Тыя тлумачэнні, якія Валера чытаў у кнігах, слухаў на лекцыях, яго не суцяшалі, бо яны, тлумачэнні, бы слупы ў агародзе, поўніліся новымі догмамі і паняццямі, якія назусім адгароджвалі яго ад чагосьці вірлівага і таямнічага, што круцілася вакол і ніяк не ўкладвалася ў догмы і законы.

На пятым курсе на агульнай лекцыі па марксісцка-ленінскай эстэтыцы – яе начытваў сярдзіты прафесар, які змушаў студэнтаў па тры-чатыры разы здаваць залікі і якога студэнты называлі Сталіністам, – Валера нечакана падняўся з лаўкі і пайшоў да Сталініста. Там ён узяўся рукою за гальштук, падцягнуў да сябе пабялелы твар і таямніча, як некалі стары яўрэй, прашаптаў:

– Ахінею гародзіш, родненькі мой...

“Родненькі мой...” – так гаварыў Сталініст, калі на экзамене завальваў студэнта... Завальваў звычайна за пропускі...

Пасля гэтага Валера адпусціў з рук гальштук і скіраваў да выхаду з аўдыторыі.

Калі зачыняў дзверы, пачуў за спіною:

– Капец Спінозе.

Капца не было...

Была вар’ятня, дзе добрая жанчына ў белым халаце спытала, які сёння дзень, папрасіла адымаць ад ста па сямёрцы...

Валера і дагэтуль, калі хваляваўся, заікаўся, а тут пачаў блытацца, загінаў пальцы... І яшчэ, апраўдваючыся, Валера загаварыў пра Сталініста, які дурку гнаў...

– А ты што – геній? Напалеон, можа? – спытаў мужчына і, прымружыўшы вока, у зрэнкі зазірнуў. Позірк быў хуткі і ацэначны, – як у цыганкі...

– Не, ніякі не геній. Я ісціну хацеў спазнаць.

Памаўчаў мужчына. А затым:

– Я ўсіх геніяў сюды загнаў бы, – кіўнуў галавою на бальнічныя карпусы, – у адну палату... І Напалеонаў, і фюрэраў, і філосафаў тваіх. Муцяць галовы, водзяць людзей з веку ў век на бойню, як тыя казлы, што сухімі з бойні выходзяць... Цьфу, паскуды...

І на зямлю сплюнуў.

Памаўчаўшы, падаў руку:

– Эдуард.

Рука была цвёрдая, крэпкая. Наколак на руцэ не было.

Ля ўвахода ў бальнічны сквер паявілася кампанія, – трое хлопцаў у спартыўных касцюмах. Стаялі моўчкі і глядзелі на Валеру і Эдуарда.

Угледзеўшы кампанію, Эдуард падняўся з лаўкі:

– Пайду. Чакаюць. Таксама філосафы...

Сеўшы з кампаніяй на лаўцы ў канцы сквера, Эдуард пра штосьці загаварыў. Час ад часу кампанія пазірала на Валеру.

Эдзік насіў у душы таямніцу, якую Валера не ведаў. Толькі па асобных словах, рэпліках Валера здагадваўся пра тое жыццё, якое Эдзік насіў у сабе.

На нагах у Эдзіка былі наколкі, на адной – ОНИ, а на другой – УСТАЛИ.

Неяк, калі Валера сядзеў на лаўцы ў бальнічным скверы, да яго падышоў сярэдніх год хударлявы мужчына, прысеў побач, спакойна, як у даўно знаёмага спытаў:

– За што парышся?

– А ні за што... – сказаў Валера. Памаўчаў і дадаў. – Прафесара пакрыўдзіў. Філасофію вывучаў.

Пазней Эдзік вучыў:

– Запомні, студэнт, ёсць шаснаццаць форм шызы. Кожнага можна сюды загнаць: і генія, і дурня... Ёсць такая графа: сацыяльна небяспечны... А наконт філасофіі... У жыцці адна філасофія: памры сягоння, а я – заўтра...

Валера пачуваў сябе перад Эдзікам дзіцём.

Гэтак жа, як немагчыма змяніць светапогляд верніка за адну гутарку, гэтак жа і Эдзік быў перакананы ў сваіх правілах, па якіх жыў. І таму, калі Эдзік гаварыў, то за кожным словам адчувалася нябачная сіла, кожнае выказванне было напоўнена гэтай сілаю.

Эдзік быў не дурань. Ён некалі займаўся нафтай, – ганяў на захад вагоны пад прыкрыццем высокага начальства. Улада нечакана паламалася, і бізнес ляснуўся, адышоў у чужыя заграбастыя рукі. Яму гразіла дзясятка. Начальства прыкрыла, выправіла сюды на год-другі... Трэба было адсядзецца.

Праз дваццаць дзён Валера развітаўся з Эдзікам, – панёс у сабе разуменне горкай жорсткай праўды, з якой не мог змірыцца.

Штосьці незразумела-палахлівае мільгала ў ягоным позірку.

Валера адчуў сябе гэтак, як адчувае хворы голуб у чарадзе, – збіўшыся гуртам, галубы выціскаюць голуба з чарады і тады ўжо немаведама адкуль зверху да голуба падлятае варона і смела, не баючыся чарады, нетаропка задзёўбвае нашатыранага голуба.

Як і дагэтуль студэнты клупціліся звыклым вясёлым жыццём, шукалі ўдалыя размеркаванні і зрэдку ўспаміналі пра Спінозу.

Пра дыплом трэба было забыць. Ды і не трэба было Валеру таго манюткага дыплома.

Але ж трэба было на нешта жыць, трэба было шукаць работу. Пайсці ў дворнікі, у вартаўнікі...

Невядома як, ды ўсе ўсё ведалі: пра Сталініста, які злёг з інфарктам у бальніцу, пра лячэнне Валеры ў бальніцы, адкуль прыходзіў адзін і той жа дыягназ.

Каб пракарміцца, Валера збіраў бутэлькі, – у гарадскім парку, на набярэжнай, у кантэйнерах. На ежу і выпіўку хапала.

Тады ж сышоўся са Светай. Яна скончыла кансерваторыю і не вытрымала валтузні і грызні ў тэатры, не вытрымала дзіцячага нахабства ў школе, – так атрымалася, куды Света ні тыкалася, яна была лішняй...

Яны пасябравалі.

Вечарамі Света прыходзіла ў кватэру Валеры, прыбірала, мыла падлогу, сякое-такое адзенне, а потым, абняўшыся, яны глядзелі тэлевізар, дзе круціліся і спявалі эстрадныя зоркі.

Света ведала паднаготную жыцця зорак, гаварыла, якая з кім і калі, затым ускоквала з ложка:

– Што думаеш, я – горшая?

Бегла ў ванны пакой. Пакуль Света наводзіла марафет, Валера ўспамінаў танканогую, што кураня, невысокую худую дзеўчыненьку, – як яна стаяла ў падземным пераходзе ля інтэрната кансерваторыі. У руках яна трымала кларнет – чорны, прадаўгаваты, з блішчастымі гузікамі. Перабіраючы тонкімі пальцамі, яна дзьмула ў муштук, адкуль з чарнечы вырываліся глухаватыя гукі, якія апляталі душу сумам па нечым страчаным.

Ля ног дзяўчынкі на бетоне ляжаў раскрыты футуральчык, на плячах чырванела балоневая куртачка, у футаральчыку блішчэлі капейкі.

Калі яна выводзіла мелодыю, то надзьмувала шчокі, заплюшчвала вочы і ледзь-ледзь ківала збоку на бок невялічкай галавою.

Першы раз, калі Валера ўгледзеў кларнетыстку, заклапочаны сваім, ён прайшоў паўз яе. Але потым, зачэплены мелодыяй, спыніўся. Азірнуўся. Паглядзеў на дзеўчыненьку і, успомніўшы студэнцтва, вярнуўся, вышкраб з кішэні апошнія капейкі і кінуў у футаральчык.

Пасля ён часта бачыў яе ў пераходзе, дзе быў вечны скразняк. Слухаючы мелодыю з кінафільма пра каханне, кідаў капейкі ў футаральчык.

Ён ужо адчуваў жыццё іначай, чым у першыя гады студэнцтва, – інячай глядзеў на пенсіянераў з патухлымі вінаватымі вачыма, на дворнікаў, на вадзіцеляў-трактарыстаў з выпэцканымі ў салярку рукамі, на прадаўшчыц у цесных задушлівых кіёсках, і ўсё часцей у яго праразалася здагадка, што жыццё крэпка зацуглівае не толькі яго, а і кожнага чалавека...

І думаў, думаў ён, што ўгатавана яму?

Думаў пра сябе, як пра старонняга...

А потым з ваннага пакоя выскоквала Света, – з напамажанымі чырвонымі вуснамі і падведзенымі чорнымі бровамі. Абгорнутая белай прасціною, Света засланяла экран тэлевізара і, працягнуўшы ў бок Валеры аголеную белую руку, прытопваючы па лінолеуме босай нагою, пастаўленым голасам выводзіла:

– Меня не любишь, но зато тебя люблю-уу я...

Тады яна была прыгожай, вясёлай. І – цёплай...

Як і ўсе закаханыя, яны беспрычынна смяяліся, бліскаючы вачыма, дражнілі адно аднаго, крывілі вусны і ўсё не адводзілі позіркаў адно ад аднаго. Бы дзеці! Ходзячы па вуліцы, не прыкмячалі, як трымаліся за рукі, не бачылі, як нахмураныя заклапочаныя людзі спыняліся, гледзячы на шчаслівую пару.

Яны ўжо думалі пра вяселле. Пачыналі збіраць грошы на вазок, каб вазіць паперу і кардон да макулатуршчыка Савелія.

А потым як з-пад зямлі паявіўся Эдзік з кампаніяй, – раней часу выпісалі з бальніцы, і яму не было дзе жыць.

Эдзік прыкаціў на белай "аўдзюшцы". Пра "аўдзюшку" ў бальніцы не гаварыў.

Невядома адкуль, але ў Эдзіка вяліся грошы, была выпіўка і закуска, – не трэба было блэндаць па кантэйнерах, па рынку. Ён ляпаў дужай рукою па плячы і казаў Валеру: "Гуляй, рваніна, ад рубля і вышай".

Эдзік любіў Высоцкага. У яго нават гітара была.

І Валера гуляў, забываўся...

Пра нафту Эдзік цяпер не заікаўся, – паголены і падстрыжаны, ачужэлы і

дзелавіты, зранку разам з кампаніяй Эдзік садзіўся ў "аўдзюшку" і з'язджаў. Бывала, што яго з кампаніяй не было тыднямі. Вярталіся стомленыя, учарнелыя і адразу ж завальваліся спаць.

Але п'янстваваць да ачмурэння – не п'янствавалі, слухаліся Эдзіка, які заўсёды быў цвярозы.

– Ты ў нас сматрашчым будзеш, – казаў Эдзік, калі кідаў на кухонны стол грошы. – Глядзі за парадкам. Каб усё было ў халадзільніку і на стале да нашага прыезду.

Садзіўся ля стала, браў у рукі гітару, перабіраў пальцамі струны і, гледзячы з усмешкаю ў вочы Валеры, зацягваў:

– А на кладбішчы ўсё спакойненька,
Ні друзей, ні врагов не відаць.
Усё культурненька, усё прыстойненька,
Ісключыцельная благадаць...

Чамусьці ад позірку Эдзіка Валеры было няёмка...

Як і ў бальніцы, Эдзік быў адгароджаны ад Валеры нейкай таямнічай сцяною...

Калі Света паявілася ў кватэры, Эдзік радасна ўсміхнуўся, па-гаспадарску пасадзіў Свету за кухонны стол, дастаў з халадзільніка бутэльку каньяку, закуску:

– Давай, Святуль, шварканём і заспяваем. Валера казаў, ты кансерваторыю скончыла. Я таксама некалі ў музычную хадзіў.

У Валеры тады і рэўнасць прарэзалася, калі бачыў, як пільна, учэпіста Эдзік аглядаў салодкую постаць Светы, як чырванелі шчокі Светы і ўсё ярчэй свяціліся вочы.

У канцы вечара Эдзік усміхнуўся:

– Давай, Света, выйдзем у калідор. Перакурым.

Смеючыся, азірнуўшыся на Валеру, Света лёгка паднялася з табурэткі і пайшла ў калідор, дзе была лесвічная пляцоўка.

Недзе праз паўгадзіны Эдзік вярнуўся.

Сеў на табурэтку, узяў гітару, пару разоў брэнькнуў па струнах.

– Трэба табе, Валера, гэтая бамжыха? Ты ж у нас чалавек разумны. У горадзе нармальных халасцячак з кварцірамі – навалам. Ад суму сабак гадуюць, мыюць іх у ваннай, жывуць з імі душа ў душу... Няўжо ты горшы за сабаку? Давай, вып'ем і – рукою махнём...

Выняў з кішэні бутэльку нейкага замежнага чэмеру, ад якога Валера тут жа вырубіўся...

Болей Свету Валера не бачыў.

Мінула пару месяцаў бяздумнага жыцця між сном і яваю.

Потым прыкацілі да пад'езда прастрэленую "аўдзюху". Кампанія ўвалакла ў кватэру параненага ў нагу Эдзіка. Чырванела набраклая крывёю бінтавая павязка.

Але ні доктара, ні медсястру на кватэру не выклікалі.

Хоць і паранены, Эдзік даваў указанні: адкаціць "аўдзюху" ў гаражы, дагаварыцца з рамонтам, усім – залегчы на дно, не высоўвацца з кватэры.

Прадукты леглі на Валеру...

Затым прывезлі на таксі мужчыну – доктара. Агледзеў рану, прадызенфекаваў, выпісаў мазь, сказаў, што раненне – скразное, трэба рэгулярна рабіць перавязку, загоіцца...

Эдзік стагнаў. Кляў мянтоў. Шкадаваў сябрука масквіча Сівога – такога хлопца ўлажылі!..

Гады былі ліхія – гэта Валера ведаў. На гарадскіх і вясковых могілках радамі чарнелі надмагільныя медальёністыя помнікі. Пад імі ляжалі ў сырой зямлі маладзенькія прыгожыя хлопцы, якія сквапна хапаліся за прывіднае салодкае шчасце.

Валера ўжо здагадваўся, чым займаўся Эдзік з кампаніяй, пабойваўся, што ў любы міг у кватэры паявяцца хлопцы ў чорных масках з чорнымі аўтаматамі...

Але ўсё заціхла. У газетах з'явілася невялічкая нататачка, што на трасе паклалі бандзюкоў, якія абіралі фуры. А больш не было ні слова, – ні судоў, ні расследаванняў...

Мінула тры месяцы. Рана ў Эдзіка загаілася, але на вуліцу Эдзік не выторкваўся. Праводзячы дні перад тэлевізарам, Эдзік паціху звярэў, – прыдзіраўся да кожнага слова Валеры.

У кватэры запахла скандалам. Валера затаіўся і не ведаў, як пазбавіцца Эдзіка і кампаніі. Пайсці ў міліцыю, але сам замешаны – як суўдзельніка пад гарачую руку і яго пасадзяць.

А потым нападпітку Эдзік збіў Валеру ні за што...

Ён біў і крычаў: “Ты, бамжара, ведаеш, колькі мне вінен?” І тут жа кідаў у вочы нейкія чэкі, паперкі з распіскамі, якія Валера падпісваў у забыцці.

Па зэкаўскай звычцы Эдзік паміж ударамі блізка-блізка набліжаў бялюткія зрэнкі і, бы цвікі, заганяў у свядомасць адно і тое ж: “Бамжара, бамжара...”

Валера закрываў рукамі твар, баяўся, што Эдзік разаб'е акуляры і ён можа аслепнуць.

Эдзік, увайшоўшы ў раж, п'янеў, злосць агортвала больш, чым выпіўкі, не мог супакоіцца – махаў рукамі і нагамі...

Кампанія адцягнула Эдзіка. У яго яшчэ доўга дрыжалі рукі, – ніяк не мог адарвацца ад таго салодкага і нябачнага, якое штурхае чалавека на чалавека, народ на народ...

Назаўтра кампанія знайшла выйсце: за даўгі абмяняць кватэру на вясковую хату.

– А чаго, Валера, у калхозе не жызнь, а – маліна. Бульбы, агуркоў у калхозе – заваліся. Летам ягады, грыбы... Хату мы знайшлі, у ёй нават і печ ёсць. Афармленне возьмем на сябе. Усё па закону зробім. Табе даўгі прасцім. Яшчэ і грошы будуць на першым часе.

І Валера, зразумеўшы яшчэ з таго часу, калі быў у бальніцы, што Эдзік з кампаніяй не адчэпяцца, што ў іх ужо ўсё прадумана і запланавана, адчуваючы боль у целе, згадзіўся...

Была ранняя вясна. У лесе пад ельнікам яшчэ ляжалі снягі, але дарогі былі чыстыя, чыстымі былі палі, над якімі ў глыбокім небе звінелі жаўрукі, на палях сунуліся трактары з сеялкамі, удзень цёпла і ярка свяціла сонца, але ноччу падціскаў мароз і ярка-ярка блішчэлі халодныя далёкія зоры.

На трэці дзень, скалелы даастатку, Валера выбраўся з халабудзіны і пасунуўся да суседкі – прасіць сякеры, бо дроў не было.

Стаяў у двары перад пажылой жанчынаю і не мог сказаць: як жа так сталася, што хацеў спазнаць свет і сябе, ды – апынуўся тут, у вёсцы, галодны і скалелы да зубнога ляскату.

Жанчына ні пра што не пыталася. Глядзела на акуляры, дзе адно шкельца было трэснутае, на чорныя сінякі на твары і пад вачыма, на тонкія не рабочыя рукі.

Сказала:

– Пайшлі ў хату. Я пакармлю цябе.

Ціха, бы злодзей, ён пасунуўся за жанчынаю.

І тут яго прарвала...

У хаце было цёпла і ўтульна. Ля ног жанчыны цёрся кот, муркаў, падняўшы хвост.

Валера сядзеў за сталом, трымаў у дрыжачай руцэ лыжку, а жанчына ціха казала:

– Ты, хлопча, да лесніка Валодзі схадзі. Яму цяпер памочнік трэба, сок збіраць. Ён дроў дасць. Можа, і капейчыну якую дасць. А вечарам зойдзеш да мяне. Сагрэешся. Што ты там, у абрэзанай без святла хаце рабіць будзеш?

А ён ніяк не мог супакоіцца. Усё яшчэ дрыжала лыжка ў руцэ...

Цяпер Валера спіць.

Яму сніцца Света. Ён нават чуе, як яна спявае. Сніцца вясковая жанчына. Сніцца кот, які цёрся ля поўных ног жанчыны.

І зноўку, як некалі ў вёсцы, ува сне ён пачынае плакаць...

***

Арбітальная станцыя непарушна застыла над Зямлёю, якая паволі-паволі паварочваецца ўнізе.

Спешна касманаўты ўваходзяць унутр станцыі, – па адным, цераз пераходны шлюз. Дапамагаючы адзін аднаму, сцягваюць з сябе бялюткія скафандры, складваюць іх да наступнага выхаду.

Аддыхаўшыся, бязважкія, падплываюць да ілюмінатараў.

Святлом Сонца Зямля падзеленая напалам. На ўжо чорным неасветленым баку свецяцца агні, – блішчаць зоркі. Гэткія ж зоркі паявяцца ў бяздоннай чарнечы, калі станцыя ўвойдзе ў цень Зямлі. На асветленым баку Зямлі, на гарызонце, бачна ўсё тое ж тоненькае вясёлкавае сяйво атмасферы.

Бы німб на галаве чалавечай...

Касманаўты застываюць ля ілюмінатараў і думаюць кожны пра сваё.

Атэіст-фізік думае пра безліч законаў, канстантаў, пастаянных, якія гэтак шчыльна падагнаны, спалучаны між сабою, бы дэталі і вінцікі аграмаднейшага гадзіннікавага механізма і, калі б хоць адзіны з гэтых вінцікаў быў зменены ці выпаў, то ўвесь механізм, уся сістэма разбуралася б, поўнілася б хаосам...

Фізік думае, як так сталася, што Космас пранізаны гармоніяй?

Фізік хоча паяднаць усе законы ў адзін закон. Ён марыць адкрыць той закон.

Думае пра Эйнштэйна, які імкнуўся стварыць адзіную тэорыю поля, ды так і не стварыў...

Цераз павелічальнае шкло біёлаг прыкмячае, як на асветленым баку Зямлі застылі невялічкія плямачкі – то птушкі лятуць з поўначы на поўдзень, – над заснежанай тундраю, над задымленымі гарадамі, над блакітнымі водамі, над бялюткімі вяршынямі гор...

Біёлаг думае пра Таго архітэктара, які запланаваў і пабудаваў усё бясконцае, што цяпер праплывае ўнізе і што маецца ў ім, Чалавеку.

Ён дзівіцца прыгожасці і не прыкмячае, як вусны шэпчуць:
– Бы эмбрыён...
– Пра што шапочаш? – пытае фізік.
Біёлаг маўчыць.
У іх ужо намячаецца псіхалагічная несумяшчальнасць, і ў ЦУПе баяцца, што раней часу давядзецца спускаць касманаўтаў з арбіты...

## Частка пятая

### *Новая рэлігія*

Хрысціянская вера, дзесяць запаветаў Маісея, запісаных на скрыжалях, суцяшаюць людзей два тысячагоддзі. Аснова запаветаў – палюбі бліжняга, як самога сябе...
Але ж хрысціянства на сёння – трэцяя частка ад сямі мільярдаў чалавецтва.
Сярод людзей шмат іншых вер і вучэнняў: канфуцыянства, будызм, пратэстанцтва, мусульманства...
У нейкай меры – можа, і памыляюся, матэрыялізм таксама ўсяго толькі вера, і не больш...
У Індыі людзі вераць у ачышчальную сілу жывога Ганга.
Еўрапейскаму чалавеку дзіўна глядзець на вогнішчы, што разам з нябожчыкамі гараць і дымяцца на берагах Ганга, забруджанага сцёкамі ад заводаў і фабрык, фекаліямі... У ніжнім цячэнні Ганга паўспаленых целаў гэтулькі, што параходамі робяць пратокі... У рацэ людзі п'юць ваду мыюць бялізну...
У Ізраілі наадварот – усе крэматорыі разбураны, людзі не хочуць бачыць, як целы нябожчыкаў дыбяцца ад спякоты вогненнай...
У Каіры нябожчыкаў кладуць побач з жывымі людзьмі, днём і ноччу іх чэрапы бялеюць ля сцен жытла...
Дасюль у Афрыцы ёсць факты рытуальнага людажэрства; у некаторых плямёнах, калі сярод чарнаскурых людзей нараджаецца белы чалавек, лічыцца за гонар з'есці частку гэтага чалавека.
Вераванні, рэлігійныя вучэнні прыніжаюць чалавечае жыццё ад маленства да старасці, у той ці ў іншай форме яны звязаны з ідэяю вечнага існавання.
Егіпецкія піраміды, піраміды інкаў, курганы і капішчы, цэрквы і касцёлы, архітэктурныя шэдэўры, карціны, мастацкія творы, рытуальныя абрады і вераванні, царкоўныя спевы, музычныя творы, культурнае багацце народаў – усё, створанае чалавекам, да чаго імкнецца чалавек, так альбо іначай паяднана з ідэяю вечнага існавання.
Чалавек не хоча і не можа змірыцца з тым, што ён – усяго толькі згустак мёртвай матэрыі – і не больш...
І нават атэісты, людзі, што не вераць у рэлігійныя дагматы, таксама не могуць і не хочуць з гэтым змірыцца.

***

У 1980 годзе ў Джорджыі (ЗША) да кіраўніка будаўнічай арганізацыі прыйшоў чалавек і заказаў будаўніцтва манумента з чатырох вертыкальных пліт. На кожным баку пліт на васьмі сучасных мовах (англійскай, іспанскай, суахілі, хіндзі, іўрыце, арабскай, кітайскай і рускай) выведзена:

*• Хай зямное насельніцтва ніколі не перавышае 500 000 000, будзе ў пастаяннай раўнавазе з прыродай.*

*• Разумна рэгулюйце нараджальнасць, павышаючы каштоўнасць жыццёвай падрыхтоўкі і шматаблічнасці чалавецтва.*

*• Знойдзем новую жывую мову, здольную аб'яднаць чалавецтва.*

*• Праяўляйце цярпімасць у пачуццях веры і традыцый.*

*• Хай справядлівыя законы і аб'ектыўны суд паўстануць на абарону народаў і нацый.*

*• Хай кожная нацыя сама вырашае свае справы, выносячы на міжнародны суд агульначалавечыя праблемы.*

*• Пазбягайце дробязных судовых спраў і непатрэбных чыноўнікаў.*

*• Падтрымлівайце раўнавагу паміж асабістымі правамі і грамадскімі абавязкамі.*

*• Найперш цаніце праўду, прыгажосць, любоў, імкнучыся да гармоніі з бясконцасцю.*

*• Не будзьце ракавай пухлінаю на зямлі, прыродзе таксама пакіньце месца.*

Заўважым – запаветаў Новай рэлігіі роўна дзесяць, і ўсе яны заснаваныя на разумнасці.



Галіна Каржанеўская



...“Бывай” не гаварыце маладосці,
Пакуль да вас
прыходзіць Муза ў госці...

# Сустрэча з крэўнымі

### *ПАМЯЦІ МАТУЛІ*

Дзе б ні жыла ты,
заўсёды ля школы
Кветкі садзіла, кветкі палола.

Слова для кожнага
добрае мела.
Колькі ты сэрцаў самотных сагрэла!

Што б ні займела –
людзям раздавала,
Доля ж уласная пусткаю стала.

Злое якоесь у рода насенне...
Мамачка,
я прад табою калені

Часта схіляла, калі апранала...
Мамачка, любая,
што за навала?

Як запытаць: для чаго і навошта?
Неба не шле галубіную пошту.

Пёрка ўпадзе хіба –
вестачка з краю,
Дзе цябе крэўных сям’я сустракае.

## ***ЗДАГАДКІ***

Безумоўна, мы станем прахам –
Хто з пакорай,
а хто і са страхам.

Нехта ўцяміць зусім не паспее,
Што ў вачах назаўсёды цямнее.

Пра далейшае маем здагадкі:
Хто сустрэне, якія парадкі,

Дзе груг*а*ны, а дзе салаўі...
Хто з ключамі – і сам не ў раі.

* * *

Адлегласць мераем прыпынкамі,
Жыццё – вяселлямі,
памінкамі.
На іх спяшаюць сваякі:
Стары, нядужы – хто які...

Залоўкі, швагры і сваты
Наноў наладжваюць масты.
Дзяцей падрослых бегатня...
Сустрэцца радая радня –

Сумесна выпіць, закусіць,
Усіх сваіх абгаварыць.
Бабуль успомніць і дзядоў,
Вярнуцца поўнымі дамоў.

## *СУСТРЭЧА З КРЭЎНЫМІ*

Дзясятка год
як быццам не было.
Адна прыязнасць, роднае цяпло.

Разглядванне, аповеды, усмешкі...
Мне паказалі ля канавы сцежку,
Якой ішлі ў раён
праз балаты,
І быў мой дзед-музыка малады.

Той дуб, што памятае Харытона,
Не выпусціў шчэ лісцікаў зялёных –
Нагледзеўся за жытку.
Асцярожны.
(Такі і беларус, напэўна, кожны.)

На могілках і продкі, і дзядзькі,
А на крыжах бялеюць фартушкі.

* * *

Якое гора помню я,
калі шкадую
Сабак бяздомных?
Ежу ім нашу,
І размаўляю з імі, і цікую,
У Бога літасці для іх прашу...

Якую недзіцячую самоту
Мне зведаць дадзена – маленечкай –
было,
Што іх усіх забрала б я, а потым
Ім аддавала клопат і цяпло?

Іх вочы пазіраюць без надзеі,
А лёс сабачы
гоніць іх туды,
Дзе іншыя двары і дабрадзеі,
Дзе рызыка
і блізка да бяды.

## *ЯК ЛЕПЕЙ?*

Як лепей:
Каб зло было добра відно,

Нахабна
У свет расчыніла акно,
Галёкала матам –
Або каб трывала яно да пары,
Расло,
Набракала ў глыбокай нары,
Давольнае спратам?

### ***ДЗВЕ АСЫ***

Дзве асы прыляцелі
на сподак з варэннем.
Дзве асы не мірыліся – біліся ў кроў.
Можа, гэта нявестка была і свякроў?
Можа, пара ў разводзе,
што збеглася зноў –
Блізкіх ворагаў увасабленне?

* * *

Нам выдаў Бог па рукзаку
З наборам абавязкаў.
Злучыў тваю й маю руку,
Сказаў: “Ідзіце разам”.

Жыцця раскручваўся сувой,
Быў сцежкай перад намі.
Я валакла і свой, і твой,
Абліўшыся слязамі.

Ужо забыць даўно пара
Зняверанасць і змору...
З плячэй звалілася гара,
А горка... як учора.

* * *

Сухменю не церпіць жывое.
Сухое – ўсё роўна што злое.

Залева таксама на шкоду,
Сярэдзінку любіць прырода.

Не трэба звыш меры нічога:
І ў добрым ёсць крышачку злога.

* * *

“Бывай” не гаварыце маладосці,
Пакуль да вас
прыходзіць Муза ў госці,
Пакуль між сном і явай, раніцою
Рэальнымі здаюцца планы, мроі...

А колькі іх знядужала ў нябыце!
Вы з новымі, жывымі гаварыце.
Палягуць словы
роўненька ў радок,
І вусце ператворыцца ў выток.

## ЯК І ЎСЕ

Як і ўсе, я бываю любою,
Праяўляюся гэтак і так,
Ды пакутую ад нелюбові.
А любоў –
як на моры маяк.

Нас стыхія у бездань шпурляе.
(З вамі тое, напэўна, было?)
І хоць бура жыццю пагражае,
Накірунак адзіны – святло.

Леанід Дранько-Майсюк



...аказваецца, можна «змовіцца» з д'яблам
і захаваць душу, застацца чалавекам...

# У Вільні і больш нідзе

## «...Усе бачылі нястачу віна...»

*Аповесць пра Адама Станкевіча*

### 15. Дваццаць старонак жыццяпісу

*Завяршэнне.*

*Пачатак у*
*№4 (41) за 2009 г.;*
*№4 (47) за 2010 г.;*
*№3 (52) за 2011 г.;*
*№1 (62) за 2013 г.;*
*№2 (81) за 2016 г.;*
*№3 (82) за 2016 г.*
*№2 (99) за 2019 г.*
*№3 (100) за 2019 г.*

На арыштаванага святара завялі следчую справу № 2661, залічылі яго за 2-м аддзелам НКДБ Літвы, 27 лістапада першы раз дапыталі і загадалі напісаць свой жыццяпіс.

Звыклая практыка.

Хай няшчасны сам пра сябе (ці праўдзівей – сам на сябе!) напіша, а тады ўжо з такога літаратурнага практыкавання лягчэй выцягваць па абзацы, сказу, радку, а то й па слову патрэбную крамолу.

І 28 лістапада 1944 года святар склаў сціслы нарыс пад загалоўкам «Моя политическая и общественная автобиография»[1].

Спачатку шэсць старонак, – так сказаць, абеглы погляд на ўласнае жыццё...

Але, мяркую, следству мала было толькі біяграфічных звестак і звестак пра выданне кніг, як і той інфармацыі, што ў польскім парламенце пасол Адам Станкевіч працаваў на карысць беларускай школы, што ў 1938 годзе яго выслалі з Вільні і што ў кастрычніку 1941-га ён выратаваў у Ашмянах трох камсамольцаў, і наогул пры немцах у Беларускім камітэце ён знаходзіўся не ўсе тры гады акупацыі, а ўсяго толькі тры месяцы; дапускаю, што следству цікава было чытаць пра БХД, якое адстойвала незалежнасць Беларусі, але ў федэрацыі з суседзямі, а таксама ж следства магло ўзяць на заметку і тое, што ён, арыштаваны, іменаваў сябе перакананым федэралістам[2].

А наогул жа патрэбна было прызнанне ў акрэсленай антысавецкай дзейнасці!

Нявыкрутка поўная, або як сказаў бы М. Забэйда-Суміцкі: «...ані мне пяяць, ані яму слухаць...»

А раз так, то зняволены мусіў быў дадаць да гатовых шасці старонак яшчэ чатырнаццаць – і дадаў іх пад назваю «Вторичное изложение моей политической и общественной деятельности и выводы из этого»[3].

Зямля дыхала пад нагамі, адчуваў сябе адгароджаным ад усяго свету, пакінутым на згубу, таму на турэмную паперу кідаў словы: о так, я развенчваў ідэю незалежнасці Беларусі на бальшавіцкі лад, крытыкаваў савецкую ўладу за рэлігійную палітыку (а гэта і закрыццё храмаў, і знішчэнне духавенства, і арганізацыя антырэлігійных дэманстрацый); прызнаўся і ў тым, што не прыняў калектывізацыю і паставіў пад сумненне культурна-нацыянальную палітыку, якая зазвычай не абыходзілася без карных мер, накіраваных супраць інтэлігенцыі.

Нават акрэсліў і такую сваю «віну»: ягоная мадэль незалежнай Беларусі адпавядала мадэлі заходнееўрапейскай дэмакратыі, што з'яўлялася вынікам (мусіў гэтак тлумачыць) моднага эгаістычнага нацыяналізму.

Абараняўся, нібыта засланяў рукою вочы ад зыркага святла – маўляў, часам я знарок дапускаў антысаветчыну, каб мае творы лягчэй праходзілі цэнзуру, бо Варшава лічыла мяне блізкім да камуністаў.

Ці не спадзяваўся: а раптам ненасытныя істоты задаволяцца такімі самазабойчымі прызнаннямі, ягоная адкрытасць залагодзіць іх, і пагібель адсунецца?!

А яшчэ (таксама ж ці не прастадушна) прыкрываўся й такім шчытом: БССР мае дзяржаўны арганізм; БХД не ставілася варожа да савецкага ладу; ворагі СССР ніколі не былі ягонымі сябрамі.

Наогул жа (пераконваў следства) ягонае неразуменне савецкай улады доўжылася з сярэдзіны 1920-х па 1938 год, а ў час вайны з Гітлерам «...на темы политические, а тем более враждебные Советскому Союзу, я писать себе уже не разрешал... Во все время немецкой оккупации... имел контакты с партизанами...»[4]

Пры гэтым назваў паэта Валянціна Таўлая і віленскую камуністку А. Брант, чые рэчы захоўваў на сваёй кватэры, а таксама сказаў і аб тым, што ратаваў ад нацыстаў моладзь, а ў сябе дома даваў ратунак сялянам, якіх немцы западозрылі ў прыхільнасці да камунізму.

Словам, раскідаў жменямі яшчэ цёплы попел на коўзкі лёд...

Быў чалавекам, прагнуў жыць, хацеў, каб слабое здароўе яму яшчэ паслужыла, шукаў спосаб захаваць жыццё, таму і параўнаў сябе з блудным сынам, праўда, удакладніў у дужках, што блудны ён «...в некоторой степени...»[5], а маскоўскую ўладу параўнаў з велікадушным бацькам – словам, спадзяваўся на дараванне жыцця і свабоды.

Так і пісаў, што калі ў яго з'явіцца магчымасць захаваць унутраную свабоду, гонар беларуса (!) і святара, тады застанецца адданым роднай Беларусі і будзе лаяльным Савецкаму Саюзу.

І ў пякельных умовах на першае месца ставіў Беларусь!

Усё гэта крэсліў няроўным, дрыготкім, трывожным почыркам – пісьмом чалавека, які, вядома ж, і далей хацеў бачыць сонца.

Пісаў, адчуваецца, хутка, неахайна (як тут чалавеку дбаць пра акуратнасць у графіцы?!), скарачаў, нібыта ламаў, словы, драпаў пяром паперу, садзіў чарнільныя плямы – почырк адлюстроўваў страх перад небяспекай.

Не ведаю, можа нейкае значэнне мае і такі факт – рукапіс пачаты выцвілаблакітным, працягнуты чырвоным, а завершаны капусна-зялёным атрамантам...

«...Более двух миллионов белорусов-католиков заслуживают разрешения католического вопроса в этой исторической перспективе: Костел в Белоруссии – это родной и верный друг народа. Да поймет все это Великий Сталин!..»[6]

Такія яны, заключныя радкі «Вторичного изложения...», пад якімі дата – 6 снежня 1944 года.

Радкі грамадзяніна і дыпламата...

Цікава, ці ведаў, што назаўтра, 7 числа, ён будзе «афіцыйна арыштаваны», і што дзеля гэтага да яго на кватэру накіруецца халерная хеўра – Пяткявічус з памагатымі?!

Напэўна ж, не, не ведаў...

## 16. Тры пратаколы

За лістапад-снежань 1944 года захаваліся тры пратаколы допытаў (усе рукапісныя); першы (згадка аб ім ужо была) – ад 27 лістапада...

Адносна складання такіх, з дазволу сказаць, дакументаў трэба мець на ўвазе наступнае – іншы раз на допыце следчы рабіў толькі накід, прыблізны план пратакола; канчатковы змест (само па сабе, вельмі невыгодны для арыштаванага) папера набывала ў вышэйшым кабінеце; кіраўнік, якому падначальваўся следчы, мог упісаць у пратакол усё, што заўгодна, любую, патрэбную яму, кіраўніку, і ягонаму начальству хлусню, і гэту хлусню няшчасным арыштаваным даводзілася – старонку за старонкай – падпісваць.

Вядома, праз такую працэдуру прайшоў і Адам Станкевіч.

Узяць хоць бы пратакол допыту (тут забягу наперад) ад 5 ліпеня 1949 года, у якім сярод іншага замацавана і тое, што ён, абвінавачаны А. Станкевіч, сказаў следчаму Пырыкаву:

«...В перечисленных книгах, которые были изъяты у меня на квартире и хранились в книжных шкафах, написанные лично мною, красной нитью проходило (!): отторжение Белорусской ССР от Советского Союза...»[7]

Ну, не магло з вуснаў беларуса, ды яшчэ ў стрэсавым стане, на допыце, калі ён вымушаны гаварыць па-расійску, зляцець гэтае, не ўласцівае нашаму маўленню: «...красной нитью проходило...»

Я наўмысна звярнуў увагу на такую сінтаксічную драбязу – прыклад хоць і дробны, аднак жа красамоўны, з малой хлусні пачынаецца вялікая.

Словам, не ўсяму напісанаму трэба верыць, у чэкісцкіх летапісах шмат страшных прыдумак...

А 27 лістапада 1944 года следчы Яратаў распытваў пра «Беларускі цэнтр у Літве» (БЦЛ) і даведаўся аб тым, аб чым, пэўна ж, ужо ведаў: летам 1940 года А. Станкевіч перадаў кіраванне БЦЛ інжынеру А. Клімовічу, які ў той час рэдагаваў яшчэ і газету «Крыніца».

А далей Яратаў распытваў пра Беларускі камітэт: якую антысавецкую дзейнасць у час нямецкай акупацыі праводзіла гэта арганізацыя...

Чалавек у небяспецы маўчыць, але часцей, бо выбару няма – гаворыць, і калі пачынае гаварыць, то гэта значыць: амаль заўсёды пачынае хлусіць.

Добра, калі хлусня дапамагае вылезці з бяды, і тое добра, што і ў небяспецы не знікае разуменне: не трэба, калі магчыма, брatацца са злом, аднак жа, калі засцігла бяда, то і злу паклонішся.

А раз так, то кланяйся.

Абмінаючы жывых, думай – апавядай д’яблу пра мёртвых і пра тых, якія далёка, да якіх не дацягнуцца; апавядай, каб здавалася праўдай (усё-ткі называеш некага!); толькі ўпэўнена апавядай, бо ў гэтым няхай малы, але ёсць ратунак.

Таму і прагучала імя Ф. Аляхновіча (ён загінуў восем месяцаў назад), а ў пратаколе з’явілася атэстацыя Яратава, ці ягонага начальніка, што Ф. Аляхновіч: «...ярый фашист...»[8]

Для мяне відавочна: паклёп на выдатнага драматурга гвалтоўна ўкладзены ў вусны зняволенаму!

Аднак жа трэба далей басанож ісці па тоўчаным шкле, і ў выніку натуецца – маўляў, у газеце «Беларускі голас», якую, як вядома, рэдагаваў той жа Ф. Аляхновіч, Беларускі камітэт друкаваў допісы, накіраваныя супраць сталінскай палітыкі[9], а яшчэ камітэт выпускаў улёткі, у якіх заклікаў змагацца супраць Чырвонай арміі[10].

Пра гэта можна гаварыць, таму што пра гэта следства і само ведала – штошто, а кожнае выданне, якое выходзіла ў гады акупацыі, уважліва прачытвалася і вывучалася ад першай літары да апошняй кропкі.

Можна таксама назваць кіраўнікоў камітэта, бо доктар Грабінскі, дзякаваць Богу, на чужыне, а прафесар Іваноўскі год таму спачыў[11].

Названы, як адзін з кіраўнікоў, і Станіслаў Грынкевіч, – на той час ён ужо быў арыштаваны, і тайная служба і без таго знала, чым ён займаўся ў камітэце.

Аднак зноў жа не вельмі зразумела – ці імя С. Грынкевіча згадаў змардаваны вязень, ці яго ўпісаў у дакумент[12] сам Яратаў...

Другі пратакол ад 9 снежня 1944 года[13] выразным почыркам накрэслены на літоўска-рускім бланку – гэта вялікага памеру канцылярскі твор, у якім 22 старонкі і які сведчыць, што допыт вялі некалькі следчых, але прозвішча расчытваецца толькі адно – Голасаў[14].

З канцылярскага твора можна даведацца, – абвінавачаны між іншага прызнаўся (ці – прымусілі прызнацца):

«...В своих сочинениях я... заявлял, что Советская власть мало уделяет внимания белорусскому народу и белорусской национальной культуре, что колхозы в Советском Союзе создаются насильственным путем...»[15]

Шмат пыталіся пра партыю БХД, і высветлілі: мэта БХД – незалежная беларуская дзяржава і наогул аб’яднанне Беларусі, і партыя імкнулася ажыццявіць свой ідэал паступова[16].

Чалавек быў як у агні, аднак жа – светлая галава! – з апошніх сіл пільнаваўся, адкрываў толькі тыя таямніцы, якія можна было адкрыць.

Зноў жа патрабавалі імёнаў[17], і зноў згадваў, каго можна было згадаць (Люцыян Хвецька[18], Вінцэнт Гадлеўскі, Ян Пазняк[19], Баляслаў Бабарыка[20], Альбін Сянкевіч[21], Язэп Малецкі[22]); упамянуў і Мікалая Дварэцкага[23] – мусіць жа, ведаў, што ў той час, у снежні 1944-га, М. Дварэцкі знаходзіўся ў Нямеччыне – то-бок, далёка ад савецкай небяспекі...

На пытанне, ці ён, Адам Станкевіч, заснаваў БХД, адказаў – БХД не ствараў, але распрацаваў ідэалогію, праграму і статут партыі[24], а таксама ж арганізоўваў партыйныя гурткі[25]; палічыў мэтазгодным успомніць кіраўнікоў двух такіх гуртkoў, якія дзейнічалі ў мястэчку Жодзішкі і ў вёсцы Шальціны[26].

Зрабіў так – значыць, быў упэўнены: і з гэтымі людзьмі бяда не здарыцца, бо яны ў бяспецы, ім нішто не пагражае; астатніх жа кіраўнікоў не назваў.

Часам спасылаючыся на ягоную «аўтабіяграфію» ад 28 лістапада 1944 года, следчыя ўдакладнялі ранейшыя паказанні, спрабавалі выцягнуць новыя звесткі і ў выніку чулі – напрыклад, у 1919 годзе БНК абараняў перад палякамі палітычныя правы беларусаў, а ў 1941-м адноўлены пры немцах камітэт у асноўным займаўся вырашэннем бытавых патрэб насельніцтва[27].

А што, не было пранямецкіх акцый?

Былі.

Камітэт агітаваў юнакоў запісвацца ў берлінскую школу шафёраў[28].

А трэці пратакол, дата якога – 20 снежня 1944 года[29], на першай старонцы засведчыў: айца А. Станкевіча дапытвае ўжо новы следчы – нейкі Капкоў (ці Хапкоў?)[30].

Ён таксама браў на бога, яму аж пякло даведацца, калі (з якога года!) зняволены стаў антысаветчыкам.

І Адам Станкевіч з прыхаваным здзекам акрэсліў: з 1926-га – маўляў, менавіта ў гэтым годзе найбольш узмацнілася змаганне за адарванне Беларусі ад Масквы, але праз два гады ён адышоў ад палітычнай дзейнасці і заняўся пытаннямі гісторыі, навукі і культуры.

Уцяміў Капкоў-Хапкоў ці не, што ў 1926 годзе Адам Станкевіч і ягоныя аднапартыйцы жылі ў Польшчы і з'яўляліся грамадзянамі Польскай рэспублікі, і адарваць Беларусь маглі (ну, хоць бы ў марах!) толькі ад Польшчы, а не ад Савецкага Саюза?!

Аднак малодшы лейтэнант задаволіўся адказам і, здаецца, не звярнуў увагу на тое, што БХД выхоўвала народ у нацыяналістычным духу.

А навошта звяртаць увагу, калі гэта фармулёўка ці не яго ўласнага гатавання!

А вось тым, што БХД выступала супраць польскіх шавіністаў, варта зацікавіцца, бо шавіністы гэтыя нікуды ж не дзеліся, яны ёсць, яны схаваліся, яны ў падполлі, і следчы пачаў выпытваць пра польскае падполле.

Адам Станкевіч паведаміў, што сувязі з гэтым падполлем не меў (як і, дарэчы, з Арміяй Краёвай!), але па чутках падполле, вядома ж, існуе і выконвае дырэктывы свайго эміграцыйнага ўрада, і тутэйшыя палякі падтрымліваюць яго.

Вопытны палітык гаварыў аб тым, аб чым НКДБ і без яго добра ведаў.

Аднак жа ізноў паўстала ліпучае пытанне пра імёны, і святар сцвердзіў: імёнаў назваць не можа, але тут, у турме, чуў ад вязня К., што кіраўнікі падполля арыштаваны.

Заўважу: падазрона дасведчаны быў гэты гаваркі таварыш К.!

Так проста, можна сказаць, амаль па-сяброўску, узяў і назваў у камеры тых польскіх дзеячаў, якіх перад гэтым у Вільні (і, магчыма, не толькі ў Вільні) накрыла НКДБ.

Словам, Адам Станкевіч не мог не вярнуць квазіследству падкінутую яму праз таварыша К. «інфармацыю»...

Пасля чаго – а, няхай хоць увесь вялікі свет абсмяе цябе, а ты рабі сваё – дазволіў сабе, бо меў дальнабачны план, такі дадатак:

«...моя а/с[31] деятельность вызвана была моей служебной деятельностью, как служителя культа, злобы к Сов. власти я не имею и, как белорусский патриот, я бы мог еще поработать на пользу Сов. власти /.../ Врагов Сов. Союза я не считаю своими союзниками...»[32]

Меў савецкі пашпарт, а называў сябе беларускім патрыётам.

## 17. Дох

Гэты раздзел аповесці – апавяданне «Пашпарт серыі 1-ТЭ, № 604171...»

Чаму раптам апавяданне (мастацкі твор!), а не далейшая дакументальная плынь?

А каб крыху парушыць паслядоўны паказ падзей; каб тое, што адбывалася на працягу месяцаў і гадоў у розных кабінетах, сціснуць-змясціць у дзве-тры гадзіны і ўвесці ў адзін пакой, каб пазнейшае зрабіць ранейшым, таму выбачай, храналогія; выбачай, дакладнасць з адпаведнасцю таму ці іншаму віленскаму месцу!

У лістападзе-снежні 1944 года Адама Станкевіча дапытвалі не толькі афіцэры

Яратаў, Голасаў, Капкоў (ці Хапкоў?), а яшчэ і нейкі генерал; праўдзівей – не дапытваў, а кантраляваў работу гэтых следчых.

З айцом Адамам генерал сустракаўся і ў студзені 1945-га; выклікаў на гутаркі і ў наступныя гады.

Уважліва чытаючы пратаколы, дваццаць старонак жыццяпісу і стэнаграмы за студзень 1945-га, хітры дападкі генерал прапускаў міма вачэй высновы сваіх падначаленых накшталт – хоць ад палітыкі абвінавачаны А. Станкевіч і адышоў, аднак жа антысавецкую дзейнасць праводзіў у сваіх артыкулах.

Маючы пэўны план дзеяння (заснаванне ў БССР псеўдакаталіцкай дыяцэзіі, пры дапамозе якой льга было б лацвей сачыць за вернікамі!), генерал, мяркую, ухапіўся за наступныя святаровы словы:

«...Более двух миллионов белорусов-католиков заслуживают разрешения католического вопроса в этой исторической перспективе: Костел в Белоруссии – это родной и верный друг народа. Да поймет все это Великий Сталин!..»

Так, духоўны клопат айца Адама (вывад касцёла з-пад польскай апекі) і хціві генералаў план, здаецца, на нейкі гістарычны момант супалі.

Варта згадаць тут і ксяндзову занатоўку ад 4 красавіка 1945 года:

«...З успамінаў з турмы: справа беларускага біскупства ў БССР: гутаркі з генэралам у сьнежні месяцы 1944 і ў студзені 1945. Мой праект і ініцыятыва аб гэтым. Адносіны іх да гэтага. Аб гэтым я там напісаў...»[33]

Адам Станкевіч разумеў: **ім** верыць нельга, таму свайго настырнага візаві іменаваў «Меф-іст», «меф», «м-сто» – гэта значыць, Мефістофель, Чорт – словам, той злы дух, ад якога ніколі дабра не чакай, але (бо абставіны прымушаюць!) гешэфтаваць трэба.

Дарэчы, у маім Давыд-Гарадку на Чорта кажуць Дох, таму ў гэтым апавяданні я так і назваў генерала...

Ён чорт і, пэўна, смерць сама!
І землякі як здорава
«Ах, Доха на цабэ німа!» –
Гавораць так пра ворага...[34]

## «Пашпарт серыі 1-ТЭ, № 604171...»

Дох сядзеў за круглым сталом, які быў засланы белым абрусам і на якім ляжала чырвоная папка і стаяла вялікая крыштальная ваза, поўная аранжавых апельсінаў, і сядзеў ён не пад звыклым партрэтам Сталіна, а пад карцінаю «Гракі прыляцелі».

Робячы ўсё з намерам, Дох загадаў прывесці падследчага не ў кабінет, а ў пакой адпачынку.

«Ён што, яшчэ і аматар жывапісу?!» – атрымаўшы дазвол сесці і пакрысе авалодваючы сабою, падследчы з трывожным здзіўленнем апусціўся ў мяккае крэсла.

Зрэшты, ці не ўсё адно (аматар жывапісу, ці не аматар!), галоўнае, што пачатковай мэты ён, падследчы, здаецца, дасягнуў, таму сёння (на Новы год!), мяркуючы па ўсім, будзе не допыт, а нешта блізкае да гаворкі, магчыма нават з дамешкам дыпламатыі з абодвух бакоў.

Трэба думаць, Дох уважліва прачытаў ягоны праект беларускага каталіцкага біскупства, далажыў па камандзе, і там зрабілі памысныя высновы – словам, у апошні дзень 1944 года гутарка стане падобнай на абмеркаванне.

І гэта вельмі добра, што прачытаў менавіта ён, – з усіх іх найбольш адукаваны і з выгляду нешта чалавечае мае, хаця ў маладосці, пэўна, быў такім жа, як і ўсе яны...

Ці не пачынаў з таго, што каля цаглянага муру, перад тым, як ціснуць на курок, завязваў рот асуджаным на расстрэл, каб яны перад смерцю не крычалі, а калі пайшоў канвеер, то паблізу расстрэльнага муру, заглушаючы галасы няшчасных, запускаў рухавік, – бясконцым ахвярам завязваць раты, рукі адваляцца!

Здатнасць да катаўскай работы зазвычай і выводзіць у вялікія начальнікі, – ці не праўда?!

І здатнасць да правакацый – вялікіх і малых.

– Вашу дзейнасць фінансаваў і штаб Дзянікіна[35]? – аднойчы, нібыта мімаходзь, Дох укалоў бязглуздым пытаннем.

– Ніякіх кантактаў са штабам Дзянікіна я ніколі не меў!

– А ў пратаколах Беларускага навуковага таварыства адзначана, што ў 1922 годзе ў вас і ў Браніслава Тарашкевіча было на руках 10000 рублёў дзянікінскіх папяровых грошай!

– Божа мой, якія гэта грошы?! Музейныя экспанаты! І тады, у 1922 годзе, мы з Тарашкевічам і перадалі іх у Беларускі музей, што і засведчана было ў адным з пратаколаў нашага навуковага таварыства!

– Аднак жа гэтыя экспанаты, – з яхіднасцю ўдакладняў Дох, – трапілі да вас у той час, калі Дзянікін наступаў на Маскву?! Дык як яны аказаліся ў вас?

– Я не магу прызнаць, што яны трапілі менавіта ў той час, бо не памятаю ўжо, калі дакладна трапілі, але сітуацыя даволі простая... Каталіцкія сем'і вярталіся з поўдня Расіі ў Вільню і ахвяравалі на касцёл дзянікінскія грошы, бо іншых не мелі...

Так ён, арыштаваны ксёндз, адказаў тады правакатару, які меў вялікія пагоны, аднак жа досыць...

Трэба сабрацца і з думкамі, і словамі, а галоўнае з духам, бо і гэты пакой, дзе на сцяне замест выявы правадыра мастацкі твор, а на стале замест пратакола чырвоная папка і спакуслівa залацеюць апельсіны, таксама – пекла.

Але як супакоіцца, калі гняце адсутнасць заўсёды неабходнага спакою?!

Пад балотным позіркам Доха надзея выжыць не павялічвалася – наадварот, мізарнела, страх узмацняўся, і душу апаноўвала расчараванне.

Хрысціянін не павінен расчароўвацца, але з дня арышту, і нават раней, ахвота адпала жыць, бо ў галаве смылела: трапіў у пастку назаўсёды!

Так, зараз пойдуць не проста пытанні, якія ўжо былі (...імя ...калі і дзе нарадзіўся ...дзе жывеш ...хто бацька і маці ...колькі ў іх было зямлі ...дзе вучыўся ...да якой партыі належаў ...у якіх выданнях друкаваў антысавецкія артыкулы...), – зараз пачнецца гандаль, і, даючы адказы, трэба трапіць у тон.

А сіл амаль нестае, і сатана ж ніколі не спіць, таму каб не сесці макам, хочаш не хочаш, а неабходна патрапіць пад густ...

Ты і палітык, і царкоўны дзеяч, але найперш ты – летуценнік, нацыянальны фантазёр: у роднай гісторыі па-ранейшаму хочаш бачыць, як павінна быць, а не як было, і нават у сённяшнім сваім горкім існаванні спадзяешся іншы раз на тое, на што нельга спадзявацца.

Дарэчы, доўгія гады меў надзею, што ўсё складзецца, ды не склалася, а калі й склалася, то не зусім так, як хацелася, таму й застаецца пакуль адно, калі трапіў у кіпцюры, – будзь хітрэйшы за саму хітрасць...

Палякі хоць судзілі, гублялі час на выслухоўванне нейкіх там адвакатаў, а гэтыя знішчаюць без ніякага суда; праўда, могуць на апельсіны зазваць і вывесіць гракоў на сцяне...

На сумотным палатне, якое ў гэты момант з'яўлялася праўдзівым увасабленнем ягонага расчаравання, бліжэй былі паказаны непрыгожыя крывыя дрэвы (здаецца, бярозы), з невыразна-чорнымі несамавітымі на выгляд гнёздамі-кубламі і птушкамі (гракамі), якія таксама выглядалі несамавіта.

І тут падследчага ўсё адно як страпянула ўсяго:

«А гэта ж і ёсць яно, сапраўднае жыццё, і яно амаль заўсёды непрывабнае, таму на палатне й паказана бліжэй, набліжана да чалавечых вачэй! А што ад вачэй адсунута? Прычым знарок! Адсунута царква...»

Дох тут жа прачытаў зрух яго душы, угадаў ягоныя думкі:

– Вы і раз, і два сумна паглядзелі на рэпрадукцыю з саўрасаўскай карціны...

– Я паглядзеў на царкву, – як зачараваны, падследчы ўздыхнуў.

– Вось я і хачу сказаць пра царкву! – падхапіўшы патрэбнае яму слова, Дох пачаў нібыта лектар. – У царкве ўвесь час гавораць аб тым, чаго ў жыцці няма, і толькі таму, што яго няма, гавораць і гавораць... Просяць: не забі, бо забіваюць штодня і штоночы... Заклікаюць: не крадзь, бо зноў жа крадуць і штодня, і штоночы... Галосяць: не сведчы хлусліва, бо навокал усе набожныя і ненабожныя – манюкі, кожны праведнік і неправеднік – хлус... Царква заўсёды вучыць, як трэба жыць, але вось бачыце...

Паказаў на карціну:

– ...мастак адсунуў царкву, змясціў яе на заднім плане, каб тым самым, напэўна, выдзеліць сваю патаемную думку: царква мае другарадную ролю ў жыцці чалавека, а мо і наогул не патрэбна, бо чалавек не хоча вучыцца і слухацца, а хоча жыць так, як жывецца...

Дох быў задаволены тым, што выклаў, і скончыў сваю імгненную лекцыю, строга трымаючы яе, як жывую істоту, у такой струне:

– А чалавек... А чалавек наогул убогі, як убогія на карціне дрэвы, гнёзды і птушкі... Зрэшты, яны хоць намаляваны, а чалавека на карціне зусім няма, што вельмі сімвалічна... І гэта добра, што яго няма...

«Каб ты спрах, старанны дзеяч Лубянкі! Як жа ты хітра ўсё разабраў!» – арыштаваны ажно сцяўся ўвесь, і мяккае крэсла здалося яму цвёрдым.

Апусціў на хвіліну вочы, гэтак схаваў кароткую злосць: не, ніяк не скажаш, не падумаеш нават, што ён – ніжні пільшчык, звычайны прапагандыст, высновы ж свае догмамі не абмяжоўвае...

Варухнуўшы густымі зоркамі на плячах, начытаны Дох і далей паказваў дасведчанасць у царкоўным жыцці; з яго скупых разважанняў не адкрыта, прыхавана, аднак даволі выяўна чулася: няхай сабе мастакі й адсоўваюць царкву на задні план, але гэтая інстытуцыя ўсё ж патрэбна...

«О, мастакі вінаватыя... У іх заўсёды нехта вінаваты... А самі... Па ўсёй зямлі столькі храмаў пусцілі ў паветра, столькі святароў знішчылі, а тут раптам – царква патрэбна...» – падследчага ажно ў пот кінула.

Выціраючы лоб рукавом і трохі счакаўшы, мякка прамовіў:

– Людзям патрэбна вера ў Бога...

– Вы кажаце: людзям патрэбна вера? – голас Доха бліснуў, як соль. – Адна толькі вера?!

– Яна адна, але вялікая, як само жыццё! – арыштаваны разумна насцярожыўся і выйшаў за грань рэлігійнай тэмы. – Напрыклад, нашы песняры верылі ў народ, у свой край і кожны верыў у самога сябе, а таксама ж і сваім мазалям...

– Для пратакольнай паўнаты трэба верыць і яшчэ ў нешта! – абыякава зірнуўшы на чырвоную папку, Дох наўмысна зрабіў паўзу, па-гаспадарску пазяхнуў і плюснуў адсутным поглядам. – Трэба верыць, скажам... Ну, хоць бы ў рэлігію Эйнштэйна[36]!

Ён умеў здзіўляць, – на мінулым допыце нечакана зайшоў у кабінет і спытаў пра евангелічнага пастара Вэсэля, які разам з кайзераўскім войскам у верасні 1915 года прыбыў у Вільню.

Падследчы такога пастара не знаў і адказаў, што на могілках у Закрэце[37] нямецкія святары хавалі, праводзілі ў апошнюю дарогу сваіх забітых салдат, – магчыма, там чытаў малітвы і пастар Вэсэль.

«Магчыма...» – неяк зусім па-прасцецку згадзіўся Дох і тут жа выйшаў.

Калі дзверы зачыніліся, капітан, які вёў допыт, патлумачыў, што гэты пастар быў бацькам Хорста Вэсэля[38] – сябра Гімлера...

Так, Дох умеў здзіўляць, часам нават выклікаў прыхільнасць да сябе; мог, нібыта ўспамінаючы самае запаветнае, паведаміць, што яго хрысцілі ў папа, і змалку маці

вадзіла яго маліцца ў царкву, у гімназіі ён вельмі добра вучыўся і па літаратуры, і па фізіцы, і што каб жыў у Польшчы, то не дарос бы да такіх чыноў, бо ведае: палякі не давалі праваслаўным працаваць на дзяржаўнай службе, а ў сталінскай Расіі ён прыхаваў сваю праваслаўнасць і займеў высокае званне.

А наогул жа, каб не рэвалюцыя, то яму ад бацькі ў спадчыну перайшла б фуражачная майстэрня...

І от жа, гэты ўдачлівы сын шапачніка зноў здзівіў, агаласіўшы вестку пра нейкую там рэлігію Эйнштэйна.

– А што, ёсць і такая рэлігія?!

– Ну, чаму ж няма, ёсць... Рэлігія, ад якой разнявольваецца душа...

Трохі збіты з тропу, але не трацячы рэштку спакойнасці, падследчы памеркаваў, падумаў, ускінуў стомленае аблічча ўгару і ўдакладніў:

– Душа ўсё ж павінна супакойвацца, а не разнявольвацца...

– Так, няхай сабе й так! – па-дзіцячы проста такнуў Дох. – Тут галоўнае тое, што можна верыць у час і прастору!

– У якім сэнсе?!

– А ў тым, што яны паасобку не існуюць, бо час – гэта бачная прастора, а прастора – гэта нябачны, але адчувальны час!

«О-о, ды ты мяне заблытваеш...» – падследчы ніяк не чакаў пачуць такое з вуснаў сталінскага служкі.

Ягоная хітрасць, замешаная на слізкай гульні, палохала, таму трэба пільнавацца...

Зрэшты, ці варта настройвацца на нейкую яшчэ большую пільнасць, бо як толькі яны з'явіліся, – з таго часу ён і пільнаваўся, як умеў, ды, як бачна, кепска пільнаваўся.

Там, за гэтым снежаньскім акном, на якім няма жалезных кратаў, пільнуецца ўся Вільня, увесь край, увесь прыгнечаны люд; пільнуецца кожны – і ў каго ёсць ежа, і каму бракуе грошай на кавалак хлеба; там, за акном, у кожнага забіраюць гвалтам спакой, і ў любы момант могуць забраць жыццё.

Пільнуецца таксама зняважаная і скатаваная царква; яна яшчэ пакуль мае сілы шаптаць змучанаму кожнаму: «Будзь паслухмяны і трапіш у рай...», а навокал у поўны голас з любога слупа вучаць яны: «Будзь паслухмяны і трапіш у камунізм...»

А змучаны чалавек, хоць і паслухмяны, а не верыць ні ў рай, ні ў камунізм, а толькі ў сваю хату...

У пакоі ўсталявалася на момант вострая цішыня, і хоць арыштаваны быў гатовы да галоўнага ў гаворцы – яно, тое галоўнае, не проста прагучала, а жахнула, як бліскавіца.

– А вы хітры, пан-ойча!

– Хітры?!

– Ды яшчэ які хітры! Вы ж вельмі своечасова склалі свой праект! – Дох паказаў на чырвоную папку.

– Своечасова?! – падследчаму закалола пад сэрцам.

– У Маскве якраз вырашаюцца вялікія рэлігійныя пытанні...

– На жаль, не маю акрэсленай інфармацыі аб тым...

– Не маеце інфармацыі?! – Дох нібыта ўсумніўся. – А вы неблагі дыпламат... Але добра, я вам скажу... Праз месяц пройдзе памесны сабор рускай праваслаўнай царквы, на якім выберуць патрыярха маскоўскага і ўсяе Русі!

– Я рады за праваслаўных братоў!

– А праваслаўныя браты, магчыма, парадуюцца і за вас?! – няпэўна абнадзеіў Дох.

Зусім трохі памаўчалі.

– Тое каталіцтва, якое было, заняпала. Касцёл трэба пераўтварыць. Ён павінен стаць на народны падмурак, таму хачу ў новым часе па-новаму служыць народу, – падследчы вальней варухнуўся ў крэсле.

– Разам з намі хочаце, разам з уладай...

– Разам...

– Вы былі дэпутатам і ў польскім Сейме выступалі за тое, каб улада не ўмешвалася ў рэлігійнае жыццё! – Дох рагатнуў.

– Я не быў прыхільнікам той улады, а ў Сейме перш за ўсё адстойваў нацыянальныя правы свайго народа!

– Як палітык, вы ўхіляліся ад супрацоўніцтва з камуністамі... Чаму?

– Я сустракаўся з камуністамі, вёў з імі перамовы і ратаваў іх, калі тут былі немцы...

– Вы абачлівы, вы не верылі актывістам з КПЗБ і, дарэчы, правільна рабілі... Вялікі Сталін зразумеў, што яны – слугі дэфензівы і авантурысты!

– Іхняе жаданне падняць паўстанне, каб далучыць Заходнюю Беларусь да БССР, сапраўды з'яўлялася чыстай авантурай! – ажывіўся арыштаваны.

– У 1917 годзе вы часта выступалі перад сялянамі і заклікалі іх не ўдзельнічаць у сацыялістычнай рэвалюцыі! – Дох лёгка пераскочыў на іншую тэму.

– Я заклікаў сялян не збівацца з правільнай дарогі. Я ўгаворваў іх не чыніць разбой і вучыў правільна ўспрымаць свабоду, – такі быў адказ.

– Зрэшты, гэта ўжо гісторыя, – тон Доха заставаўся памяркоўны. – А вось ваш праект – дзень сённяшні. Паперу вы напісалі талкова. Так, вам патрэбна ўласная дыяцэзія. Але якая далей, на вашу думку, мае быць тактыка?

– Трэба выклапатаць згоду Рымскага пасада!

– Гэта згода непатрэбна!

– Я ж каталіцкі святар...

Спахмурнеўшы, Дох звыклым жэстам разгарнуў чырвоную папку, крыху пашукаў у ёй і дастаў пашпарт:

– Я прачытаю вам, што ў гэтым дакуменце напісана... Пашпарт серыі 1-ТЭ, №604171, выдадзены Адаму Вікенцьевічу Станкевічу 22 траўня 1941 года 5-м Віленскім аддзяленнем міліцыі... Гэта ваш дакумент?

– Так, гэта мой пашпарт! Вашы людзі яго канфіскавалі, калі забіралі мяне! – падследчы недаўменна ўзвысіў голас.

– Усе гады нямецкай акупацыі вы захоўвалі яго, і гэта вельмі добра! – Дох паклаў дакумент у папку. – Дык вось, перш за ўсё вы савецкі грамадзянін, а пасля ўжо каталіцкі святар!

– Але...

– А раз так, то цяпер замест Рыма ў вас Масква!

– Масква – трэці Рым, – міжвольна сухім голасам, нібыта самому сабе, асуджана прамовіў падследчы.

– Можаце пакуль і гэтак жартаваць... Але не гэта галоўнае, а галоўнае тое, што ваш праект кіраўніцтву спадабаўся, кіраўніцтва прызнала вашу рацыю і мяркуе з часам закласці новы беларускі касцёл, але, зразумела, без удзелу Ватыкана... Гэта будзе народны касцёл!

«Касцёл незалежны ад Апостальскай сталіцы?! Нешта неверагоднае! Які ж гэта тады касцёл?! Усё адно, што званіца без звона! Не, такога не павінна быць! З'ява немагчымая... Касцёл мусіць быць незалежны, але незалежны ад Масквы і Варшавы...» – так няшчасны арыштаваны падумаў, а збалелым голасам акрэсліў, што людзі не прызнаюць такі «народны» касцёл.

– Людзі ўсё прызнаюць, калі ім загадаюць! – катэгарычна заявіў Дох. – І вы станеце для іх новым духоўным кіраўніком, і будзеце служыць у тым віленскім храме, у якім захочаце! І да вас пойдуць каталікі з усіх куткоў Беларусі, і служыць будзеце па-беларуску... Палякі ж не дазвалялі вашай мовы?

– Дазвалялі ў касцёле святога Мікалая...

– А немцы?

– Дазвалялі больш...

– І вы супрацоўнічалі з немцамі?! – Дох пачаў нібыта зацягваць пятлю.

– Мая пастырская дзейнасць далёкая была і ад такога супрацоўніцтва, і ад нацысцкай ідэалогіі!

– Добра. На сёння хопіць ужо, нагаварыліся... Аднак жа хай і глухі пачуе: народнаму касцёлу непатрэбна блаславенне рымскага пераемніка апостала Пятра...

Дох біў, як у бубен, і ад раптоўнай стомы ў падследчага з'явіліся матылі ў вачах, і на нейкі момант, як жаданне шчаслівага адпачынку, ва ўяўленні чамусьці паўстаў зімовы святочны кірмаш...

На гэтым ажыўленым стракатым базары коні, накрытыя каляровымі гунькамі, елі з торбаў авёс, а вясёлыя гандляркі ў белых цесных халатах, нацягнутых паверх паліто, прадавалі вянкі смачных абаранкаў.

А яшчэ тут можна было купіць і лубачныя карціны, і калыскі, і драўляных конікаў, і дзіцячыя вазкі на гумавым ходу; прадаваліся нават і нейкія галасістыя птушкі ў клетках...

Ён ачуўся, матылі з вачэй зніклі, гракі на сцяне зрабіліся нібыта большымі, а Дох, падводзячы ў гаворцы канчатковую рысу, схаваў у шуфляду чырвоную папку, а да яго пасунуў, камечачы белы абрус, вялікую крыштальную вазу, поўную апельсінаў – частуйся, арыштант!

З пакоя адпачынку стомлены вязень вынес вялізны круглы аранжавы апельсін, на хаду ў калідоры вымяркоўваючы: у іхні касцёл служыць не пойдзе, а там, у агульнай камеры, з гэтай рэдкай заморскай смакаты канечне выйдзе сем хлябоў.

## 18. Білет на волю, або даведка Міхеева

7 лютага 1945 года старшы лейтэнант Заварын[39] склаў пастанову аб спыненні крымінальнай справы і вызваленні Адама Станкевіча з турмы, бо:

«...конкретных фактов, изобличающих Станкевича в антисоветской деятельности в период немецкой оккупации добыть не представилось возможным...»[40]

Пастанову зацвердзіў Гузявічус[41].

А Заварын гэты, да слова сказаць, у ліку іншых два месяцы таму назад быў на Полацкай з ордэрам на арышт, а 7 лютага, як бачым, выканаў ужо гуманны загад – склаў згаданую пастанову.

Тады ж, 7 лютага 1945 года, справу № 2661 спынілі[42], і праз тры дні, 10-га чысла, Адама Станкевіча адпусцілі.

Чаму так адбылося?

Рэлігійнага пісьменніка, арыштаванага па артыкуле 58-10 (контррэвалюцыйная дзейнасць![43]), які ў сваіх творах дапускаў антыбальшавіцкія высновы, ксяндза, які настройваў парафіян супраць камунізму – узнагародзілі свабодай!

Дзіўна...

П. Мядзёлка пісала, што за Адама Станкевіча «...заступілася жыдоўскае грамадства, засведчыўшы, што ў часе нямецкай акупацыі кс. Адам хаваў у сябе жыдоўскіх жанчын і дзяцей. Пасля камсамольская арганізацыя...»[44]

Пра заступніцтва габрэйскага грамадства згадка будзе наперадзе, а пакуль скажу пра заступніцтва перадавой моладзі.

Так, ёсць версія, што дапамаглі камсамольцы (мелі, відаць, уплыў на віленскае НКДБ); камсамольцам у 1941 годзе Адам Станкевіч даў ратунак, пра гэта (памятаем!) расказала Максіму Танку жонка Валянціна Таўлая Кіра.

І ў сваіх паказаннях айцец Адам сведчыў (таксама памятаем!), што ў канцы 1941 года ў Ашмянах ён заступіўся за юнакоў, якіх немцы збіраліся расстраляць; сярод тых юнакоў і былі два камсамольцы[45].

Не ведаю, ці падтрымліваў гэту версію Уладзімір Конан[46], і ці наогул быў з ёю

знаёмы, але ён падаў такую здагадку: бальшавікі «...павінны былі лічыцца з літоўскай адміністрацыяй горада (Вільні. – *Л. Д.-М.*)...»[47], таму і выпусцілі святара з турмы.

Тое, што літоўцы вельмі шанавалі нашага ксяндза, факт вядомы, і, здаецца, самае змястоўнае таму сведчанне – паказанні памочніка віленскага мітрапаліта біскупа М. Рэйніса.

5 студзеня 1945 года яго ў якасці пакуль яшчэ сведкі дапытаў маёр дзяржбяспекі Тодэсас[48].

М. Рэйніс паведаміў:

«...ксендз Станкевич всегда стоял ближе к литовскому, чем к польскому духовенству... Станкевич... при польской власти... высказывался, /.../ что Вильнюсский край должен принадлежать Литве. Станкевич, как ксендз, всегда вел себя сдержанно и корректно, и пользовался уважением моим и других литовских ксендзов за свое необычайное трудолюбие и то, что он, несмотря на преследования польских властей, всегда проводил свою белорусскую национальную линию...»[49]

Тады, у студзені 1945-га, М. Рэйніса адпусцілі – узялі ў чэрвені 1947-га, і ў той час Адам Станкевіч пакінуў патаемны запіс:

«21.VI /.../ арыштаваны арцыбіскуп М. Рэйніс. Занадта выдатная пад кожным углядам асоба, каб камуністы ды пакінулі яго на волі. Усе верныя Віленскай дыяцэзіі, бяз розьніцы народнасьці, душой зь ім...»[50]

Дарэчы, у красавіку 1949 года Адама Станкевіча абвінавачвалі і ў тым, што пры немцах ён чытаў у касцёле антысавецкія пастарскія пасланні біскупа М. Рэйніса!

Пад ціскам зняволены даводзіў, што проста выконваў біскупаў наказ – заклікаў у касцёле вернікаў маліцца за людзей, якія загінулі ў змаганні супраць **бязбожнага бальшавізму**, а пасланняў (саміх тэкстаў) не чытаў, бо не атрымліваў іх[51].

Зноў жа адзначу: словазлучэнне «бязбожны бальшавізм», якое з’явілася ў пратаколе, – відавочны след чэкісцкай рэдактуры.

Мусіць жа, пра мужнага літоўца М. Рэйніса, які спрыяў беларусам, добра ставіўся да нашай мовы, гаворка павінна быць шырэйшай, але гаворка тая – тэма для іншага твора, таму на астатку скажу: у кастрычніку 1944 года насуперак мітрапаліту Ялбжыкоўскаму М. Рэйніс высвяціў на ксяндза Уладзіслава Чарняўскага[52], – выхаванца Друйскага кляштара марыянаў...

Але хто ж усё-ткі дапамог айцу А. Станкевічу пакінуць катоўню ў лютым 1945-га?

Ашмянскія юнакі?!

Літоўская адміністрацыя Вільні?!

Уплывовыя габрэі?!

Сапраўды, пры немцах Адам Станкевіч даваў ратунак няшчасным, на чыім адзенні жаўцела шасціканцовая зорка...

А мо яшчэ нешта паспрыяла, дапамагло вярнуцца па віленскіх драўляных тратуарах на Полацкую?!

Можна ўявіць, як ішоў-хістаўся нядаўні вязень дадому, і яму, страшэнна змардаванаму, на хвіліну здавалася, што жыве не ў Вільні, а нібыта за Вільняй, а праўдзівей – паміж прыкрымі думкамі і неспакоем, невыразным спадзяваннем і роспаччу.

Так, хрысціянская душа не павінна кідацца ў роспач, аднак пасля таго, што сталася, а галоўнае – перад заўтрашняй няпэўнасцю, і хрысціянская душа магла б спытацца ў самой сябе: «А мо варта сысці?»

Зрэшты, не, смерці не трэба дапамагаць – хай сама робіць сваю работу, як і ўсё астатняе хай робіць, чаго не могуць людзі, а можа толькі час...

«Сов. секретно[53].

Справка

Агент «Белорус»[54] – Станкевич Адам Викентьевич, 1891 года рождения[55] завербован в январе 1945 года на[56] компрометирующих материалах, как один из

организаторов и руководителей белорусского буржуазно националистического движения, направленного на отторжение Белоруссии от Советского Союза и создания «независимого» буржуазного белорусского государства.

За время работы с органами МГБ Лит. ССР с января 1945 года по апрель 1949 года агент «Белорусс»[57] показал себя с отрицательной[58] стороны. Располагая обширными связями среди белорусской интеллигенции, а так же польского и литовского католического духовенства, материалов заслуживающего[59] оперативного внимания не давал, вел себя неискренне, двурушничал, от выполнения конкретных заданий по выявлению вражеского элемента из среды католического духовенства отказывался. Кроме того саморасшифровался перед Управляющим Вильнюсской епархии и другими служителями курии.

Зам. начальника 1-го отд-я отд. «О» МГБ ЛССР ст. лейтенант Михеев.

6.07.1949 г.»[60]

Вось такая надрукаваная на машынцы, але з датаю ад рукі, характарыстыка; выходзіць, каб вырвацца з катоўні, вязень пайшоў на кампраміс – прынамсі, так можна падумаць, прачытаўшы гэтую міхееўскую даведку.

І калі вязень так зрабіў, то і добра, што так зрабіў!

У адным дакументальным фільме чылійскі святар прызнаўся: пасля 11 верасня 1973 года ці не ўсе чылійскія ксяндзы рабілі тое, што ім загадвала дзяржава, бо адчувалі каля скроні піначэтаўскі пісталет.

І хто можа асудзіць за гэта чылійскіх ксяндзоў?

Мабыць, той, хто сам не быў пад пісталетам...

Наогул жа сакрэтным супрацоўнікам можа лічыцца толькі суб'ект, які па сваёй (!) волі захацеў стаць сакрэтным супрацоўнікам!

А ў тым выпадку, калі чалавека гвалтам вярбуюць, сілком цягнуць у бруд і пры гэтым выкручваюць рукі, пагражаюць жыццю, то, мяркую, сам Бог дазволіць такому чалавеку «згадзіцца» на так званую тайную работу, каб толькі аддаліць сваю смерць...

Аднак жа нехта скажа: «Не варта друкаваць такія дакументы!»

А мо і сапраўды не варта?

Даследчыкі часта апынаюцца на раздарожжы.

Скажам, гісторыкі А. Валахановіч і У. Міхнюк падрыхтавалі да друку аўтабіяграфію Б. Тарашкевіча і задумаліся:

«...Мы доўга разважалі: публікаваць яе без купюр ці ўрыўкамі?

Адзін з навукоўцаў, якога мы пазнаёмілі з жыццяпісам Б. Тарашкевіча, заявіў так:

– Публікаваць не трэба. Ён не ў лепшым святле паказвае аўтара першай «Беларускай граматыкі для школ»...»[61]

А праблема тут вядомая: у снежні 1933 года лубянская інквізіцыя загадала Б. Тарашкевічу напісаць аўтабіяграфію, асобныя абзацы якой, выснова, а найперш палітычныя характарыстыкі знакамітых беларусаў накрэслены пад дыктоўку.

Неўзабаве гэтыя матэрыялы інквізітары скарысталі для сваіх паклёпніцкіх выдумак і смяротных вытракаў.

А. Валахановіч і У. Міхнюк урэшце правільна пастанавілі: жыццяпіс друкаваць трэба без ніякіх скарачэнняў, бо «...Б. Тарашкевіч, апынуўшыся па сутнасці ў духоўным і фізічным палоне, не мог не прыняць жорсткія і ультыматыўныя правілы палітычнай гульні...»[62]

А мо папера Міхеева – ліпа, фабрыкацыя, наўмысна падкінутая ў справу?

Уласнаручнай падпіскі ж айца Адама (згоды на супрацоўніцтва), ці яе копіі, я не знайшоў...

Зрэшты, калі нават і не фабрыкацыя, то чалавек, які заўсёды высока трымаў галаву, меў права на такі рызыкоўны ход; яму навязалі небяспечную дамову, і ён (усё ж такі палітык!) прыняў яе, каб займець жаданую свабоду для сваёй працы.

Скажаце: змовіўся з д'яблам!

Але, аказваецца, можна «змовіцца» з д'яблам і захаваць душу, застацца чалавекам, не прадаць ні людзей, ні ўласных ідэй, каб урэшце супакоена прамовіць: анічуць я ім не пасадзейнічаў, анічым я ім не паспрыяў!

Падпіска ж у тых пякельных умовах – гэта адзіны білет на волю, а выйшаўшы на волю, можна і не супрацоўнічаць!

І Бог даў сілу – больш за чатыры гады замазваць вочы сатане!

І тут я магу сцвердзіць: святар Адам Станкевіч ступіў на шлях інжынера Адольфа Клімовіча, якому ў гэтым сэнсе Бог даў не чатыры гады, а значна больш часу...

Даведка ж Міхеева, дарэчы, лепшая ацэнка герою маёй аповесці:

«...показал себя с отрицательной стороны ...от выполнения конкретных заданий... отказывался... саморасшифровался перед Управляющим Вильнюсской епархии и другими служителями курии...»

Словам, беларускі грамадзянін перамог і пасмяяўся з апрычнікаў, пакінуў іх у дурнях, а такое не даруецца, таму даведка Міхеева – гэта яшчэ і пашпарт смерці!

Так, сапраўды: жыццё – плата за высокую мэту...

## 19. Язэп Германовіч. Копіі пратаколаў допыту з далёкай Чыты

Такое не даруецца, гэта праўда, і няўхільная кара тут адна – другі арышт у красавіку 1949-га.

Да помслівай акцыі рыхтаваліся некалькі месяцаў, прычым не толькі ў Вільні.

У далёкай забайкальскай Чыце маёр Іваноў[63] выбіваў паказанні на айца Адама з працаўніка Харбінскай каталіцкай місіі ксяндза Язэпа Германовіча.

Тры друкаваныя копіі пратаколаў допыту Я. Германовіча падшыты ў справу А. Станкевіча (у Вільню іх пераслалі з Забайкалля!); падшыта і яшчэ адна копія пратакола допыту ад 10 лютага 1949 года[64], але імя айца Адама тут не згадваецца.

У той дзень, 10 лютага, маёра Іванова цікавілі больш агульныя пытанні – скажам, колькі разоў, калі і з якою мэтаю Я. Германовіч наведваў Рым, як дзейнічае папская калегія «Русікум»[65], хто з'яўляецца яе рэктарам, з якіх асоб складаецца адміністрацыя і хто вучыцца ў «Русікуме»...

Але трэ паясніць, як Я. Германовіч апынуўся ў Чыце?

22 снежня 1948 года ён, кіраўнік Харбінскага ліцэя святога Мікалая, у ліку іншых рэлігійных дзеячаў быў гвалтоўна кітайскімі камуністамі вывезены ў мёрзлым вагоне на памежную станцыю і перададзены саветам, – узнікла следчая справа № 2788 па абвінавачанні Цікоты, Германовіча ды іншых...

У кнізе «Кітай, Сібір, Масква» Я. Германовіч (ужо як пісьменнік Вінцук Адважны) апісаў маёра Іванова: «...чырвоны быў наскрозь – і целам, і духам, і здаравенны, як буржуйскі бык...»

Дык вось, гэтага чыцінскага плебея, вядома ж, па ўказцы зверху, надта ж цікавіла асоба Адама Станкевіча.

Дапытваючы, маёр Іваноў умеў з людзей выцягваць жылы, і кожны з няшчасных, марнеючы ў такім становішчы, усведамляў: ягонае цяперашняе жыццё ад калюгі да яругі!

Магчыма, у чыцінскай яме ксёндз Я. Германовіч успамінаў, як яны разам з Адамам Станкевічам вучыліся, а мог згадаць і аб тым, як 5 чэрвеня 1937 года па чарзе прамаўлялі да пілігрымаў у Віленскай кальварыі, а мо проста думаў: калі б яго, гімназічнага выкладчыка латыні і святара Я. Германовіча, перад вайной не выселілі з Друі, то ён апынуўся б на зэдлі, прыкручаным да падлогі, перад такім Івановым-Міхайлавым значна раней!

20 студзеня 1949 года ў пратакол упісана: рэдактар «Хрысціянскай думкі»[66] Адам Станкевіч у 1932 годзе даручыў місіянеру Я. Германовічу даслаць з Манчжурыі

для друку вандроўныя нататкі пра Савецкі Саюз; доўгая ж дарога апошняга ў Харбін ляжала праз тэрыторыю СССР[67], таму часу было дастаткова, каб уважліва прыгледзецца (няхай сабе і з вагоннага акна) да нязвыклага жыцця.

Калі верыць надрукаванаму ў пратаколе: Я. Германовіч даслаў толькі два матэрыялы – 1). Праводзіны з Вільні; 2). Пераезд савецкай мяжы; надалей адмовіўся дасылаць артыкулы пра СССР, а таксама і пра Манчжурыю, бо лічыў, што тут неабходна закранаць палітыку, а яму, святару, гэтага рабіць не хацелася[68].

Згадка пра СССР падкрэслена ў дакуменце чорным алоўкам – крэслілі, відавочна, віленскія адмыслоўцы.

А самога Я. Германовіча маёр абвінавачваў, лавіў на тым блізкім, што ляжала пад ягонай чэкісцкай лавай – маўляў, сваіх ліцэістаў вы настройвалі супраць бальшавікоў!

Абвінавачаны мусіў быў адхрышчвацца – не, я не настройваў ліцэістаў супраць, а проста ў сваіх казаннях, як чалавек залежны, мусіў быў выконваць загады Святога Пасада, паводле якіх бальшавікі з'яўляюцца душыцелямі царквы.

Трэба думаць, маёр Іваноў прагнуў большага, таму 28 студзеня 1949 года ён махануў аглобляй: вы, абвінавачаны, атрымлівалі ад Адама Станкевіча шпіёнскія заданні[69]!

Я. Германовіч рашуча адкінуў пачутае і, пэўна ж, далей гаварыў у тым сэнсе, што ягоны сябар з тых нацыянальных падзвіжнікаў і палітычных дзеячаў, якія не баяцца называць сябе свядомымі беларусамі.

У выніку ў пратаколе з'явіўся запіс, таксама ж падкрэслены чорным алоўкам: «...Ксендз Станкевич по своим политическим убеждениям... белорусский националист...»[70]

Дарэчы, Я. Германовіча абвінавачвалі ў дапамозе міжнароднай буржуазіі, у падрыхтоўцы контррэвалюцыйных злачынстваў, а найперш – у шпіянажы!

І дзе было браць сілы, каб вытрываць усё?

У малітве хіба ды беларускай мове...

17 лютага 1949 года Іваноў дапытваўся (ці ўдаваў, што дапытваецца) пра палітычную, а найбольш пра антысавецкую дзейнасць айца Адама; зрэшты, і без Я. Германовіча Іваноў ведаў, што трэба занатаваць: Адам Станкевіч імкнуўся заснаваць незалежную (вядома, гэта слова ўзята ў двукоссе) буржуазна-дэмакратычную дзяржаву[71].

І вось, атрымаўшы такую «грунтоўную» падтрымку з Чыты, засведчанную малодшым лейтэнантам Паповай[72], віленскія пацукі вылезлі з нары...

## 20. Другі арышт. Следчая справа № 15896

Тэрор, замах на чалавечае жыццё, часты вынік якога смерць – вось асноўнае ў іхняй палітыцы.

Яны запалохвалі выклікамі на «бяседы»; яны вербавалі, наганялі страх арыштам, вобыскам, бясконцымі допытамі, шантажом, катаваннямі, турмой, высылкай, этапам, канцлагерам.

А калі чалавек, які быў у іх на падазрэнні, яшчэ знаходзіўся на волі, то за ім сачылі ці не штодня.

Скажам, і 3 красавіка 1947 года, прагнучы трапіць на след інжынера А. Клімовіча, не спускалі з вачэй ягоную жонку, якую ў сваіх рэляцыях называлі мянушкай – «Лиса».

У гэты дзень за «Лисой» віжавалі каля віленскай крамы «Рута» на Антокальскай вуліцы, у касцёле Пятра і Паўла, на вуліцах Папоўская і Русу, а таксама на беразе Вяллі.

Дапільнавалі (не маглі не дапільнаваць!), што»Лиса» ў другой палове дня бачылася з нейкай «Знакомой» (зноў жа іхняя мянушка).

У рапарце, дарэчы, адзначана: «Знакомая» жыве па адрасе – вуліца Полацкая, 9 – 4.

Апісаныя прыкметы і пазначаны ўзрост названай жанчыны (47 – 50 гадоў), а найперш адрас – без ніякага сумнення гавораць: «Знакомая» – гэта Марыя Шутовіч.

Трэба думаць, што дзеля нейкай пільнай справы Адам Станкевіч папрасіў сваю ахмістрыню сустрэцца з жонкай А. Клімовіча, – мо нешта на словах (ці нават пісьмова) хацеў перадаць інжынеру, які ў той час хаваўся паблізу Вільні.

Але скрозь і скрозь – яны, утаіцца ад іх было амаль немагчыма, і спадарыня Марыя таксама папалася ім на вочы

Хіба ўтоішся ад благіх вачэй?!

Так паволі і надышла новая хмара, закрыла неба, – выканаўцам нечалавечнай палітыкі зноў прырупіла, а каму прырупіць, то, як у прымаўцы, той вочы пралупіць...

16 сакавіка 1949 года з’явілася надрукаваная на машынцы пастанова на арышт Адама Станкевіча[73] – плён працы лейтэнанта Бушуева; на тытуле пастановы і яе адвароце чарнеюць званні, прозвішчы, пасады – падпалкоўнік Мартавічус[74], пракурор Літоўскай ССР Бахараў[75], сам «аўтар» дакумента Бушуеў, падпалкоўнік Шляпнікаў[76], палкоўнік Салаід[77].

Так, пастанова складзена 16 сакавіка (на тым асобніку, які маю, лічба «16» упісана сінім атрамантам ад рукі); дата ж пракурорскай санкцыі, накрэмзаная чырвоным алоўкам, незразумелая, але яна (11.04.1949 г.!) добра чытаецца на ордэры на арышт[78].

Згаданыя функцыянеры пачалі капаць дол айцу Адаму; крыху пазней з’явіліся новыя грабары і далакопы.

5 красавіка 1949 года Бушуеў склаў яшчэ адзін друкаваны «твор» – пастанову аб вызначэнні меры стрымання[79], паводле якой Адама Станкевіча, каб не пазбег следства і суда, неабходна пасадзіць за краты[80].

Лідар беларускай хадэцыі падазраваўся ў злачынствах, якія былі прапісаны ў артыкуле 58-4 (...дапамога міжнароднай буржуазіі... дзейнасць супраць Саюза ССР...)[81]

На тытуле дакумента свае візы тлустым чырвоным алоўкам пакінулі Мартавічус і Бахараў, а на адвароце пануе блакітнае чарніла – подпіс Бушуева, за Салаіда распісаўся яго намеснік Захараў, невядома хто падмахнуў за Шляпнікава, а ў самым нізе (у дзень арышту!) бачны святароў змушаны подпіс, ягоная рука...

6 ліпеня 1949 года маёр Пырыкаў на першай рукапіснай старонцы следчай справы № 15896 паведамляў: Адам Станкевіч арыштаваны 13 красавіка 1949 года і знаходзіцца пад вартай ва ўнутранай турме дзяржбяспекі Літвы[82].

А за два дні да арышту, 11-га числа, на бланку, надрукаваным па-літоўску і па-руску, узнік ордэр на арышт і вобыск № 121[83], на якім чырванеюць подпісы Мартавічуса і нейкага начальніка пятага аддзела МДБ ЛССР.

12 красавіка 1949 года падпалкоўнік Чаўнакоў[84] прыпісаў яшчэ неарыштаванага ксяндза за сваім 1-м аддзелам, за следчага паставіў капітана Трубачыстава і даручыў падпалкоўніку Грышыну[85] завесці на ксяндза новую следчую справу[86], і яна з’явілася пад нумарам, які вышэй ужо называўся, – 15896.

Калгасы ў СССР працавалі дрэнна, затое карныя органы – выдатна!

З ордэрам на Полацкую з’явіўся лейтэнант Бушуеў і на адвароце згаданага прадпісання прымусіў змучанага святара па-руску накрэсліць: «Настоящий ордер мне об’явлен[87]. 13 апреля 1949. Ад. Станкевич»[88].

Крывы, няўпэўнены, дрогкі, балючы, нервовы почырк паказвае – гаспадару кватэры гэтыя каменныя словы даліся вельмі цяжка.

## 21. Да справы № 15896 далучана справа № 2661

Пачалося так званае следства, на працягу адзінаццаці тыдняў цягліся допыты – першы 15 красавіка, апошні 5 ліпеня, а ўсяго было трынаццаць выклікаў з турэмнай камеры – вечаровых, начных, дзённых.

У сваім 116-м пакоі капітан Трубачыстаў правёў першыя сем допытаў, а тады яго памянялі; мусіць, забралі на нейкую іншую работу, ці ён асабліва не выказваў следчыцкі спрыт (але, здаецца, выказваў), або змарыўся, бедны, да пары (што мала верагодна), ці наогул працэдура была такая: тасаваць следчых пасярэдзіне следства – словам, 27 чэрвеня 1949 года замест капітана Трубачыстава паставілі маёра Пырыкава.

Зрэшты, капітан ці маёр – гэта нічога не мяняла, розніцы ніякай; яны, вядома ж, адзін другога варты, таму арыштаваны і ў пачатку следства, і ў канцы яго пільнаваўся вельмі.

Пра свае «грахі» перад ленінскай дзяржавай трэ было па новым крузе нешта казаць, і, збываючы цяжкі клопат, айцец Адам гаварыў прыкладна тое, што гаварыў на допытах у 1944 годзе, а таму ж Трубачыставу, мусіць жа, важна было зноў даведацца аб тым, аб чым ён ужо ведаў з пратаколаў пяцігадовай даўнасці: абвінавачаны кіраваў БХД, узначальваў антысавецкую газету «Крыніца», імкнуўся будаваць незалежную буржуазную Беларусь, ну і г.д.

А з новых звестак Трубачыстаў пытаўся пра ўсё таго ж ненавіснага біскупа Рэйніса, чые пасланні пры немцах ксёндз Адам, як мы ўжо добра запомнілі, чытаў сваім вернікам, хаця ксёндз (памятаем!) настойваў на тым, што не атрымліваў ніякіх пасланняў, а проста пераказваў у касцёле вусныя загады біскупа.

Следчы распытваў і пра часопіс «Хрысціянская думка», капітана цікавіла, хто ўдзельнічаў у рабоце часопіса; у выніку прагучалі імёны: Вінцэнт Гадлеўскі, Язэп Германовіч, Віктар Шутовіч[89], Янка Тарасевіч[90], Фабіян Абрантовіч[91].

Адсюль і вынікла д'ябальскае пытанне:

«...Кто из названных Вами лиц писал в журнал «Хрысціянская думка» статьи антисоветского содержания и какие именно?..»[92]

Адам Станкевіч адказаў бездакорна:

«...Насколько я помню, кроме меня, никто не писал в журнал «Хрысціянская думка» статей антисоветского содержания...»[93]

Дарэчы кажучы, і ў 1949 годзе не называў людзей, якія знаходзіліся на волі, а змушана згадваў толькі тых, каго «можна» было згадваць – перш за ўсё нежывых і тых, хто знаходзіўся ў бяспецы, за мяжой.

Таму і прагучалі гэтыя імёны, бо В. Гадлеўскага замардавалі немцы, пра Ф. Абрантовіча разышлася горкая чутка, што ён яшчэ восенню 1939-га, як толькі вярнуўся з Манчжурыі, быў знішчаны саветамі; Я. Тарасевіч жыў у эміграцыі, В. Шутовіч у 1945-м атрымаў ад Сталіна дзесяць гадоў турмы.

Айцец Адам звяртаўся да савецкага ўрада, прасіў даць свабоду ксяндзу В. Шутовічу, але ўсё марна.

А што да Я. Германовіча, то Адам Станкевіч быў упэўнены: ён служыць у Кітаі.

Вядома ж, не мог ведаць, што ягоны сябар пакутуе ўжо ў Чыцінскай катоўні.

Зрэшты, яго, Язэпа Германовіча, абараняў як мог – скажам, 2 ліпеня 1949 года заявіў маёру Пырыкаву, што артыкулы Я. Германовіча не былі накіраваны супраць бальшавікоў[94].

28 красавіка 1949 года Трубачыстаў прад'явіў святару пастанову абвінавачвання[95], вынятка з гэтага дакумента прыводзілася ў 8-м раздзеле «Пры немцах».

Адам Станкевіч нёс кару паводле ўсё тых жа артыкулаў 58-4 і 58-10, усё таго ж Крымінальнага кодэкса РСФСР.

Перад самай справядлівай краінай у свеце, мяркую, нават і перад самім маўзалеем Леніна, вялікі беларус быў вінаваты ў тым, што належаў да партыі БХД, марыў пра сваю дзяржаву, узбагачаў родную журналістыку выданнямі «Крыніца» і «Хрысціянская думка» і г.д.

На пастанове абвінавачання сінее «згода» капітана Галіцына[96] і падпалкоўніка Чаўнакова, а зацвердзіў дакумент сам Салаід.

Калі зняволенаму прачыталі гэту паперыну, то, усё яшчэ маючы надзею выжыць, ён прамовіў (тут паўней паверу пратаколу):

«...Виновным себя /.../ признаю в том, что я с 1925 года был идеологом и руководителем белорусской буржуазно(й) националистической партии «Белорусских христианских демократов» и по 1928 год, и в этот период вел борьбу за отторжение Белоруссии от Советского Союза за создание белорусского независимого буржуазного государства...»[97]

Гэта амаль паўтор адказу, які прагучаў 20 снежня 1944 года, пра што гаварылася ў 16-м раздзеле «Тры пратаколы».

І спадзяванне ў вязня магло быць такое: «Тады памагло, а раптам і сёння дапаможа?»

Словам, зноў яно, прызнанне: я, абвінавачаны, вёў змаганне, але нядоўга, нейкія там тры гады, а жывучы ў Польшчы, як я мог адрываць Беларусь ад Савецкага Саюза?

Нібыта спадзяваўся на цуд, скажам, на тое, што нейкі вышэйшы чын гуманна адзначыць: тры гады змагання – гэта зусім мала, і, сапраўды, жывучы ў Польшчы, немагчыма ж адарваць Беларусь ад Савецкага Саюза, хіба толькі ад самой Польшчы!

Пасля прад'яўлення згаданай пастановы Трубачыстаў нібыта і не ведаў, пра што пытацца далей, таму зноў завёў катрынку пра БХД, і з новага пачуў хіба толькі гэта:

«...В «БХД» в начале ее существования могли состоять только лица католического вероисповедания, а потом был изменен устав и в партию «БХД» принимались лица других вероисповеданий...»[98]

А на апошнім сваім допыце 7 чэрвеня 1949 года, атрымаўшы з архіва інфармацыю пра Беларускі нацыянальны камітэт (БНК), Трубачыстаў удакладняў: прадстаўнікі якіх партый уваходзілі ў БНК...

Праз чатыры дні, 11 чэрвеня, капітан склаў тры друкаваныя старонкі – пастанову адносна працягнення тэрміну следства і турэмнага зняволення Адама Станкевіча[99].

Трубачыстаў нагадаў начальству, што тэрмін знаходжання ксяндза пад вартай выходзіць 13 чэрвеня 1949 года (чалавека забіралі толькі на шэсцьдзесят дзён), таму прасіў пакінуць арыштаванага ў турме яшчэ на месяц – да 13 ліпеня.

Трубачыстава зноў жа падтрымалі і Галіцын, і Чаўнакоў; з'явілася на пастанове і санкцыя пракуратуры – 13 чэрвеня подпіс пакінуў дзяржаўны раднік юстыцыі 3-га класа Гірко[100], а зацвердзіў пастанову Салаідаў намеснік Захараў.

Законнікі...

Каб яны шула дубовае грызлі...

Памяць у машыны знішчэння заўсёды моцная, таму не забылі, успомнілі і пра следчую справу № 2661, якая з лютага 1945 года знаходзілася ў архіве аддзела «А» МДБ ЛССР.

І вось 2 ліпеня маёр Пырыкаў атрымаў дазвол далучыць яе справы № 15896[101].

Праўда, гэта зусім не значыла, што да ліпеня справа № 2661 знаходзілася ў архіве – ужо ў красавіку-траўні яна ляжала на стале Трубачыстава, а тады і на стале Пырыкава, проста 2 ліпеня афармілі «далучэнне»...

І апошняе ў гэтым раздзеле – пачынаючы з 27 чэрвеня і па гэты дзень, 2 ліпеня, Пырыкаў выклікаў на допыты Адама Станкевіча пяць разоў.

## 22. Падумалася...

Сапраўды, падумалася: а калі б Ленін дажыў да гэта часу – да 1949 года, калі б яго, як ворага народа, ці як таго ж японскага, напрыклад, шпіёна Пырыкаў пасадзіў бы перад сабою на зэдліку, прыкручаным да падлогі?!

Уяўляю: як бы загаварыў напалоханы Уладзімір Ільіч!

Як бы ён, картавячы, шапкаваў перад следчым, як бы ён ратаваў сваё каштоўнае жыццё!

А калі б Сталіна, з павешаным на шыю 58-м артыкулам, прывялі б з турэмнай камеры ў пырыкаўскі службовы пакой?

І тут няцяжка ўявіць вынік!

Не вагаючыся і доўга не думаючы, умлелы ад страху бацька народаў падпісаў бы любую паперыну, даў бы якую хочаце падпіску, прызнаўся б у чым заўгодна, узяў бы на сябе любую віну...

Баязлівыя правадыры камунізму былі мужныя толькі пад аховаю сваіх бясконцых слуг; такія ж і выканаўцы іхнія – скажам, Цанаве смеласці хапіла толькі на тое, каб цкаваць нашых вялікіх песнярак Наталлю Арсенневу[102] і Ларысу Геніюш...

Так на хвіліну падумалася (...а калі б Леніна... а калі б Сталіна...), але ці мала што часам падумаецца ў архіўнай пустэльні...

27 чэрвеня Пырыкаў распытваў пра Паўла Карузу[103], і Адам Станкевіч тушыў у сваёй душы агонь:

«...Каруза неоднократно помещал свои статьи в газете «Криница» /.../ статьи Каруза являлись ли антисоветскими я сейчас не помню... /.../

...Вопрос. Что Вам известно о связях Каруза с Польской политической полицией...

Ответ. Мне это неизвестно...»[104]

А тады зноў (у які ўжо раз!) пачыналася мова пра БНК, але калі Трубачыстава цікавіў партыйны склад камітэта, то Пырыкаў найбольш спрабаваў здабыць імёнаў.

А яшчэ Пырыкаў успомніў пра зварот БНК ад 11 жніўня 1942 года, знойдзены ў архіве камендатуры паліцыі бяспекі; невыпадкова ўспомніў – у тым звароце (памятаем!) Адам Станкевіч называўся: «...кандидатом в епископы для генерального викариата в Барановичах...»[105]

«Дакумент з нямецкага архіва! Не, лепей гаварыць пра тыя паперы, якія канфіскаваны з маёй бібліятэкі – гэта, магчыма, будзе для мяне меншым злом?!» – баронячыся, так мог падумаць зняволены.

Таму абачліва адкінуў інфармацыю з нямецкага архіва – маўляў, мне пра гэта нічога невядома, і прызнаўся ў «меншым зле» – у тым, што ў ранейшым звароце БНК ад 15 жніўня 1941 года (а гэтыя некалькі старонак якраз і захоўваў дома!)[106] ягоная кандыдатура была прадстаўлена Папу Рымскаму Пію XII на пасаду біскупа ў Мінску.

Дарэчы, пра змест вышэйназваных дакументаў падрабязная гаворка была ў 8-м раздзеле гэтай аповесці.

Пырыкаў хацеў даведацца, хто аўтар звароту да Папы Рымскага, і пачуў, што, магчыма, паперу склаў старшыня БНК Б. Грабінскі (заўважу: на той час Б. Грабінскі знаходзіўся ўжо ў эміграцыі).

А яшчэ маёру чамусьці карцела дазнацца, хто выдаваў часопіс «Калосьсе»[107], і адказ быў такі:

«...Журнал «Колосья» издавался редакционным коллективом, а ответственным редактором был – Шутович Иван...»[108]

З канца 1944-га Янка Шутовіч адбываў савецкае пакаранне – ксёндз Адам, як бачым, да апошняга пільнаваўся правіла: даваць вядомую інфармацыю, нікому не нашкодзіць, называць толькі тых (зраблю на гэтым зноў акцэнт!), каго «можна» назваць...

Апошні допыт адбыўся, як ужо было сказана, 5 ліпеня 1949 года.

Назаўтра, 6 чысла, на трох друкаваных старонках Пырыкаў падрыхтаваў пастанову[109], паводле якой паказаннямі абвінавачанага А. Станкевіча выкрыты трынаццаць чалавек.

Удакладню: нібыта выкрыты, бо ў пастанове сказана, што месца жыхарства гэтых трынаццаці душ невядомае, і таму нікога немагчыма арыштаваць.

Вязень Адам Станкевіч так «выкрываў» ворагаў Савецкай улады, каб іх немагчыма было кінуць у турму – вось аб чым дбаў чалавек!

Філосаф Уладзімір Конан адзначаў:

«...Адам Станкевіч гаварыў гэбістам пра сваю і сваіх сяброў дзейнасць дзеля ратавання /.../ роднай краіны ў патрыятычным Беларускім нацыянальным камітэце. А яму прыпісалі данос...»[110]

Але мне здаецца – данос прыпісаць не ўдалося!

7 ліпеня 1949 года з'явіўся пратакол аб сканчэнні следства[111] – Пырыкаў далажыў па камандзе, што Адам Станкевіч прачытаў матэрыялы следчай справы, больш нічога да іх не дадаў і хадайніцтваў ніякіх не напісаў.

Мужны пакутнік Адам зусім слушна меркаваў: «Што пісаць? Дарма ўсё... І марны клопат нешта там дадаваць! Аб нечым там прасіць...»

Пратакол завершаны подпісам юрыста 1-га класа А. Новіка[112]...

Назаўтра, 8 ліпеня, дзеля прафармы голас падалі турэмныя лекары – гэтыя, з дазволу сказаць, эскулапы вышэй за клятву Гіпакрата, безумоўна, ставілі крамлёўскі «Кароткі курс...»[113], таму нядужы зняволены атрымаў медычную даведку, ці праўдзівей будзе сказаць – ягоная справа ўзбагацілася даведкай, у якой выразна накрэслена, што ён здаровы і прыгодны да фізічнай працы[114].

Медагляд айцец Адам праходзіў у санчасці ўнутранай турмы МДБ ЛССР і паведаміў там (я проста ўпэўнены ў гэтым!) пра сваю хваробу і пра паездку ў Трускавец, – у 2-м раздзеле «Жыццё без адпачынку» была згадка пра тое, што ў Трускаўцы ксёндз лячыў хворыя ныркі...

Але, але...

Хто цябе, арыштант, пачуе, калі па загаду зверху ты, арыштант, павінен быць здаровы!

Сённяшнія прыхільнікі бальшавізму тут могуць задаволена адзначыць: «О, дакументы кажуць, што ў нас хворых не каралі! Каралі толькі здаровых... Вінаватых здаровых...»

## 23. 3600 польскіх марак і пасведчанне № 962

У той жа дзень, 8 ліпеня, Пырыкаў блакітным атрамантам і вельмі хуткім почыркам з двух пунктаў склаў на адным лістку вопіс асабістых дакументаў Адама Станкевіча[115], а таксама яшчэ падрыхтаваў чатыры машынапісныя старонкі абвінаваўчага заключэння[116] і на дзвюх друкаваных старонках зляпіў пастанову аб адпраўцы зняволенага ў Асобы лагер[117].

Апошняе, вядома ж, было прадвызначана – невыпадкова за следствам наглядаў пракурор па спецыяльных справах, і сам зняволены паводле чэкісцкай кваліфікацыі з'яўляўся вельмі небяспечным злачынцам.

У вопісе Пырыкаў назваў два дакументы: савецкі пашпарт, выдадзены айцу Адаму ў сакавіку 1945 года, і пасведчанне № 962 – дазвол служыць у касцёле.

У абвінаваўчым заключэнні маёр адзначыў: следчая справа № 15896 пры пасрэдніцтве пракурора Літоўскай ССР накіроўваецца ў Маскву на разгляд «Особого совещания» (ОСО), і тут сярод мноства «грахоў», прыпісаных Адаму Станкевічу, не забыта й тое, што з 1921 і па 1923 год з касы БНК штомесячна ён, як скарбнік, атрымліваў 3600 польскіх марак.

Ход разважанняў Пырыкава ясны: гэты ксёндз не проста ўдзельнічаў у рабоце антысавецкай арганізацыі, у дадзеным выпадку ў БНК, а яшчэ там і грошы браў!

Мусіць жа, Пырыкаў думаў, што гэта вялікія грошы, таму і ўпісаў іх у свой летапіс!

Аднак жа варта паясніць: абавязкі скарбніка БНК Адам Станкевіч пачаў выконваць са снежня 1921 года, а тады, як пісалі віленскія газеты, польская марка была слабейшаю і за чэшскую крону, і за латвійскі рубель, а таксама ж і за нямецкую марку.

Сярэдні месячны заробак у Вільні складаў прыблізна 50000 марак.

Сям'я на чатыры чалавекі, паснедаўшы, выдаткоўвала каля 200 – 220 марак, а самы танны полудзень без лусты хлеба каштаваў 800 марак – з хлебам жа 900.

За вячэру з вяндліны, з хлебам і гарбатай сям'я (тыя ж чатыры душы) мусіла аддаваць прыкладна 300 польскіх марак.

Словам, калі наогул у некага месячны заробак быў 50000, то зарплаты 3600 чалавеку магло хапіць толькі на посную капусту.

Так што за працу ў БНК Адам Станкевіч меў даволі мізэрны заробак, аднак жа і ён, гэты заробак, быў унесены ў абвінаваўчае заключэнне нароўні з пяццю антысавецкімі, паводле ацэнкі следства, святаровымі кнігамі.

Ад імя МДБ ЛССР Пырыкаў прапаноўваў засудзіць ксяндза А. Станкевіча на 10 гадоў «ИТЛ»[118] з канфіскацыяй маёмасці.

9 ліпеня 1949 года на абвінаваўчым заключэнні і пастанове аб адпраўцы вязня ў Асобы лагер з'явіліся аўтографы Альфонсаса Гайлявічуса[119] – ён распісаўся блакітным атрамантам заміж палкоўніка Лявонава[120] (заўважу: любілі яны блакітнае чарніла, як і чырвоныя алоўкі).

І тады ж, 9 ліпеня, крымінальную справу №15896 і пастанавілі накіраваць на разгляд «ОСО»[121] – так патрабавала дырэктыва міністэрства дзяржбяспекі СССР (дакумент № 11 ад 14 лютага 1947 года).

Праз тры дні, 12 ліпеня, выконваючы абавязкі намесніка пракурора ЛССР па спецыяльных справах Багачоў нагадаў сярод іншай інфармацыі падпалкоўніку Грышыну, што справа А. Станкевіча мае 151 ліст[122].

Для савецкай дзяржавы айцец Адам быў горш за крымінальніка, таму ён і падлягаў высылцы на край свету, і для пачатку трэ было прайсці праз «ОСО» – несудовы орган, які выносіў толькі жорсткія выракі.

Сведкаў, адвакатаў, публікі там не было; абвінавачанага не выклікалі, нават адным словам няшчасны не мог сябе абараніць; яго судзілі па фотаздымку; ніхто ні ў чым не разбіраўся – раз твая следчая справа трапіла ў «ОСО», значыць, ты вінаваты...

Гара папер няўмольна расла, заўзятыя гэбісты шкрабалі алоўкамі, рыпелі пёрамі, стукалі на канфіскаваных, а па сутнасці ўкрадзеных, «Рэмінгтонах» – канцылярыя ад пільнай работы вачэй не зводзіла.

14 ліпеня 1949 года азваўся яшчэ адзін канцылярскі летапісец – лейтэнант Уласенка[123]; ён засведчыў, што асабістыя дакументы арыштаванага Адама Станкевіча захоўваюцца ў аддзеле «А» МДБ ЛССР[124].

Уласенка нічога не назваў, але, думаю, меў на ўвазе тыя дакументы, якія пералічыў у сваім рукапісным вопісе маёр Пырыкаў – другі савецкі пашпарт айца Адама і пасведчанне за нумарам 962[125].

Ні першага, ні другога пашпарта ў архіве я не знайшоў, а вось пасведчанне (на літоўскай мове!) убачыў – яно выдадзена 21 жніўня 1948 года таварышам Пушынісам[126]; у дакуменце адзначана: ксёндз Адам Станкевіч служыць вікарыем у Віленскім касцёле святой Тэрэзы.

## 24. Іхнія імёны

А 1949 году, здавалася, канца не будзе – дарэчы, слава сямідзесяцігоддзю вялікага Сталіна...

16 ліпеня за подпісамі падпалкоўніка Грышына і капітана Вісева[127]...

Вось яшчэ адно слізкае імя – нейкі капітан Вісеў...

І колькі іх – такіх імёнаў?

Папраўдзе, не злічыць!

Даволі іх ужо набегла на старонкі маёй горкай аповесці...

Бушуеў, Пырыкаў, Алеіна, Масленікаў, Казлоўскі, Сакалоў, Трубачыстаў,

Каўбаеў, Голасаў, Мікулаенкаў, Быкаў, Гузявічус, Рудакоў, Шуцьеў, Пяткявічус, Заварын, Васільева, Яратаў, Капкоў (Хапкоў?), Качэргін, Тодэсас, Міхееў, Іваноў-Міхайлаў, Папова, Мартавічус, Бахараў, Шляпнікаў, Салаід, Захараў, Чаўнакоў, Грышын, Галіцын, Гірко, Новік, Гайлявічус, Лявонаў, Багачоў, Уласенка...

І вось яшчэ капітан Вісеў, і ён зусім не апошні ў гэтым спісе – так, не апошні, бо кропку пакуль у сваім творы не стаўлю, таму наперадзе новыя чорныя імёны.

І ў гэты момант, калі думаю пра ксяндза Адама, то думаю і так: яны, яшчэ не ўсе пералічаныя мной, такой вялікай гайнёй нападалі на аднаго чалавека, безабароннага святара, на адну беларускую душу.

А наогул колькі ўсё-ткі сытых крывавых лайдакоў у пагонах і без пагон сядзелі на шыі народнай і чынілі злачынствы!

А гэта ж яны (і такія, як яны!) выкасілі нашу інтэлігенцыю, знішчылі кіраўнікоў нашай нацыянальнай палітыкі.

Да Беларусі ж яны, паны з чырвона-імперскага дазволу, ставіліся як да парабчанкі (амаль у поўнай згодзе з вобразамі колішняга верша): калі малая, то глядзі качкі, а як ужо трохі большая, то пасві гусі!

## 25. 25 гадоў без канфіскацыі маёмасці

Дык вось, 16-га чысла за подпісамі Грышына, Вісева і выканаўцы Быкава з'явілася пасланне ў Маскву генерал-маёру Герцоўскаму[128] – кароткі даклад пра тое, што справа № 15896 накіроўваецца на разгляд ОСО[129].

Пайшлі дні і тыдні пакутлівага для вязня чакання, і часу мінула паўтара месяца.

31 жніўня 1949 года ОСО разгледзела справу і склала пратакол № 48[130]; пра гэта ў Вільню паведамілі два падпалкоўнікі, Заслаўскі[131] і Бурынін[132]; тры асобнікі выпіскі з пратакола № 48 21 верасня былі адпраўлены Грышыну, і праз пяць дзён, 26 верасня, ён атрымаў гэтае маскоўскае пасланне[133].

Складна выйшла – падпалкоўнікі напісалі падпалкоўніку!

Масква загадала Адама Станкевіча «...за принадлежность к контрреволюционной организации и антисоветскую агитацию...»[134] этапіраваць у Азёрны лагер, але не на дзесяць гадоў, як вызначаў «гуманны» маёр Пырыкаў, а на дваццаць пяць!

Уяўляю страх Пырыкава: заяўлены ім тэрмін (усяго дзесяць гадоў!) там, наверсе, маглі палічыць за праяву паблажлівасці да класавага ворага!

Вырак абвясцілі.

І што мог на гэта сказаць той, каго на чвэрць стагоддзя запраторвалі ў сібірскую яму?!

Хіба адно: іду сваёй дарогай, а жыццё йдзе ўбок ад мяне...

Пра канфіскацыю, аб якой (памятаем!) таксама рупіўся Пырыкаў, Заслаўскі і Бурынін не прамовілі ні слова, і гэта, мусіць, успрынялі як загад: вярнуць узятае!

3 кастрычніка 1949 года старшы лейтэнант Дарашэнка[135] наказаў айцу Адаму падпісаць даручэнне, у якім і адзначана, што ён, Адам Станкевіч, засуджаны без канфіскацыі маёмасці, таму даручае сваёй сваячцы (так сказана ў дакуменце!) Марыі Шутовіч атрымаць тыя каштоўнасці і рэчы, якія былі забраны ў час ягонага арышту.

Спадарыню Марыю паклікалі не адразу, а толькі праз тры гады, і ўжо іншы старшы лейтэнант (нейкі Макараў[136]) прапанаваў ёй з пашпартам з'явіцца 6 верасня 1952 года[137].

У прызначаны дзень а 12-й гадзіне Марыя Шутовіч зайшла ў будынак літоўскай дзяржбяспекі і прачыніла дзверы ў кабінет № 15...

Разгарнуўшы маёмасную справу № 927, аддалі не ўсё; здаецца ж, пакінулі сабе і дзве машынкі – і тую, якая з футаралам, і тую, якая з металічнай накрыўкай; не вярнулі таксама й золата – царскую манету вартасцю 15 рублёў і пярсцёнак з выбітай на ім датай «1908 г.»

Савецкая ўлада золата заўсёды толькі забірала і ніколі не вяртала!

Іншы раз ладная частка гэтага золата ляжала ў патаемных каморках пры высокіх кабінетах – гэта каб чынам зручна было карыстацца, і чыны запускалі лапу ў тое золата – насілі яго і жонкам сваім, і каханкам.

Але каштоўныя рэчы Адама Станкевіча ў 1949 годзе (памятаем!) былі ўзяты на ўлік скарбнікам Каўбаевым.

А праз тры гады з'явіўся новы хавальнік забраных каштоўнасцей.

6 верасня 1952 года скарбнік унутранай турмы дзяржбяспекі нейкі сяржант (прозвішча ягонае цяжка расчытаць!) выдаў дзве чарнільныя даведкі, змест якіх ясны, як зварот «Ойча наш»: царская манета здадзена 5 траўня 1949 года ў фінансавы аддзел міністэрства дзяржбяспекі[138], а пярсцёнак адпраўлены (на захаванне?) у турму № 1 МДБ ЛССР 2 жніўня 1949 года[139].

«Чаму ў турму?» – пэўна ж, свярбела спытацца.

Але ці варта пытацца?

Лепей згадзіцца, што золата знаходзіцца на законным, так бы мовіць, захаванні.

Словам, абачлівая спадарыня Марыя ніякіх прэтэнзій не выказала, а раз так, то чыноўная рука блакітным атрамантам вывела:

«Расписка

Я, Шутович Мария Иосифовна, проживающая по ул. Полоцкая № 9, кв. 4, даю настоящую расписку органам МГБ Лит. ССР в том, что на основании доверенности осужденного Станкевича Адама Викентьевича от 3 октября 1949 года получила имущество, описанное при его аресте согласно описи от 11 апреля 1949 года, полностью. Претензий к органам МГБ никаких не имею, в чем и расписываюсь.

6 сентября 1952 г. Шутович.

Расписку отобрал оп. уп. отд. «А» МГБ ЛССР ст. л-нт Макаров»[140].

Чыноўная рука вывела не толькі тэкст распіскі, але, здаецца, і Марыін подпіс пад ёй, так што сцвярджэнне «...в чем и расписываюсь...» выглядае лішнім.

Я не графолаг, але калі на вока прыкінуць, то графіка распіскі і подпісу аднолькавая.

А яшчэ, мяркую, варта ўдакладніць і наступнае – у распісцы заяўлена: «...согласно описи от 11 апреля...»

Але правільна будзе: «...от 13 апреля...», бо вопіс арыштаванай маёмасці завяршаецца датай – «...13. 4. 1949 года»[141].

Як вядома, Адама Станкевіча арыштавалі і апісалі яго маёмасць 13 красавіка, але на першай старонцы вопісу[142] стаіць 11 красавіка 1949 года – дата ордэра на арышт, і гэтае чысло Макараў, відаць жа, не наўмысна, а памылкова ўпісаў у сваю паперку як дату згаданага вопісу.

11 верасня 1952 года маёмасная справа № 927 (дадатак да следчай справы № 15896) была скончана[143].

Нумары, нумары і лічбы, лічбы – як атручанае насенне, яны кінуты на дарогу Адама Станкевіча.

Капрызная і, здаецца, нават блытаная архіўная арыфметыка.

У траўні 1949 года капітан Трубачыстаў прасіў выдаць яму архіўна-следчую справу на Адама Станкевіча № 3001/3[144], – пад такім нумарам захоўвалася справа 2661.

А праз 21 год, 5 лютага 1970 года, падпалкоўнік Добрусеў[145] пісаў з Мінска ў Вільню начальніку 10-га аддзела КДБ пры СМ Літоўскай ССР:

«...В связи с проверкой жалобы Карузо Павла Иосифовича, вторично прошу Вас выслаць нам архивное уголовное дело № 37260 на Станкевича Адама Викеньтьевича...»[146]

Пад гэтым нумарам захоўвалася справа Р - 12505[147], якая ўвесь час згадваецца ў зносках.

Скарга кампазітара П. Карузы – асобная тэма (магчыма, некалі яе раскрыю), а пакуль адзначу: просьбу Добрусева задаволілі падпалкоўнік Мыльнікаў[148] і старшы інспектар Тарасаў, – 16 лютага 1970 года справу № 37260/3 атрымалі ў Мінску[149].

Ксяндза А. Станкевіча не было на белым свеце ўжо больш за дваццаць гадоў, а тайная служба ўсё рабіла і рабіла сваю работу.

## 26. Нішто не магло збавіць ад смерці

Шчасце выпала ў лютым 1945-га (праўдзівей – прывід шчасця!), калі айцец Адам вярнуўся дадому, але ў верасні 1949-га шчасце здрадзіла, нават ніякага ягонага прывіду і блізка не мільгнула, адкрылася дарога ў Сібір; маскоўскія падпалкоўнікі Заслаўскі і Бурынін загадалі, як ужо гаварылася, тэрмінова адправіць змучанага чалавека ў лагер.

Цяжка сказаць – тэрмінова ці не, але вырак ОСО віленская дзяржбяспека выканала толькі праз месяц; маёр Сквіра[150] адрапартаваў Грышыну, што Адам Станкевіч адпраўлены ў Азёрны лагер (станцыя Тайшэт, Брацк) 21 кастрычніка 1949 года[151].

А трэба ведаць, названы лагер – жахлівая пустэльня, якую ахоўвалі канваіры-садысты; мясціна, куды груган касцей не занясе.

Чалавеку, які апынаўся там, жыццё бачылася ў яго сапраўдным святле.

Аляксандр Мядынскі[152], аднагодак айца Адама і сам пасляваенны вязень «Озерлага»[153] пісаў у сваіх успамінах, што ў гэтым гібельным месцы зэкаў запісвалі ў спецзэкаў, і такой катэгорыі сібірскіх паднявольных нельга было мець грошы, чытаць газеты, атрымліваць і пасылаць лісты, пісаць скаргі; у спецзэкі ў асноўным залічвалі лекараў, настаўнікаў, інжынераў, музыкаў, пісьменнікаў і, вядома ж, святароў.

Нішто не магло збавіць ад смерці, бо па сутнасці гэта і быў лагер смерці, якая надыходзіла вельмі хутка – праз некалькі месяцаў невыноснай катаржнай працы...

Катарга – гербавы знак беларускага духу...

У 1939-м па катаржным шляху павялі Антона Луцкевіча...

Прадчуваючы, што больш не ўбачыць свайго сябра-ворага, а мо нават і ведаючы, што яго ўжо няма сярод жывых, Адам Станкевіч нібыта папрасіў прабачэння, нібыта павініўся перад А. Луцкевічам, назваўшы яго ў «Расказах з гісторыіі Беларусі...» выдатным будзіцелем нашага народа.

Памятаў святар, што ён, Антон Луцкевіч, сказаў пра яго добрыя словы мітрапаліту Шаптыцкаму; памятаў, што пра кніжніка Антона яны добра гаварылі з мітрапалітам у Львове, як і пра Беларускі музей, якому Шаптыцкі дапамог не толькі ў 1924 годзе, пазней таксама – 27 студзеня 1935 года зрабіў паштовы перавод на 1500 злотых[154]...

Памятаў, канаючы ў катаржным лістападзе перад самым снежнем...

У снежні Адам Станкевіч нарадзіўся, у снежні прыняў святарства, у снежні мусіў пакінуць пасаду рэдактара «Крыніцы» і выйсці з БХД, у снежні быў высланы з Вільні, у снежні выпісалі ордэр на ягоны першы арышт і на парозе гэтага месяца ў пакутах злажыў без пары галаву.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі (ЭГБ) гаворыць: Адам Станкевіч памёр 29 лістапада 1949 года[155].

4 снежня быў складзены акт аб смерці № 4432/3 - 43[156].

Пакідаючы на тонкай несамавітай паперы кропельныя блакітныя кляксы, акт падпісалі – маёр Круглоў[157], капітан медыцынскай службы Нельга[158], дзяжурны ўрач Дзіле[159] ды інспектар па ўліку Ражкоў.

У адзінаццатай графе «Причина смерти» можна прачытаць «Ожирение сердца».

Я не тое што не паверыў такой прычыне смерці, проста пачаў высветляць правільнасць запісу.

Хірург Віктар Майсюк[160] патлумачыў: запіс прафесійны, у Адама Станкевіча хутчэй за ўсё адбылася тлушчавая дыстрафія сэрца – гэта значыць, мышачная тканка замянілася тлушчавай тканкай.

А паэт і ўрач Фелікс Баторын[161] удакладніў:

– Больш правільны запіс быў бы такі: «Тлушчавая дыстрафія міякарда».

Апошнія сілы забрала доўгая дарога ў Азярлаг.

Наш рэлігійны мысляр не пацалаваў сталінскую парфіру і, паміраючы, быў пэўны: з ім застаецца Беларусь і Бог.

## 27. Рэабілітацыя

21 ліпеня 1989 года, у час гарбачоўскай перабудовы, следчы Лейб[162] падрыхтаваў reikalavimas[163] – патрабаванне, прычым тэрміновае, паводле якога неабходна было аформіць адпаведную даведку і пачаць працэс рэабілітацыі Адама Станкевіча[164].

Палітычныя абставіны спрыялі, і ў нетрах камітэта дзяржаўнай бяспекі Літоўскай ССР ішоў перагляд спраў, сфабрыкаваных сталіністамі.

Праз шэсць дзён, 27 ліпеня, Лейб разам з пракурорам Каражынасам[165] падпісаў заключэнне, згодна з якім у адносінах да Адама Станкевіча, як ахвяры камуністычнага тэрору, аднаўлялася поўная справядлівасць[166].

1 жніўня 1989 года гэта заключэнне зацвердзіў пракурор Бараўскас[167], і ў той жа дзень ён падпісаў пасведчанне аб рэабілітацыі Адама Станкевіча[168].

Асабіста для мяне тут цікава тое, што чатырма месяцамі раней, 31 сакавіка 1989 года, пракурор Бараўскас падпісаў паперы і па рэабілітацыі Антона Луцкевіча[169].

У 2014 годзе я расказаў пра гэта ў апавяданні «Не знаць перад карай страху»...

Практыкуючыся ў дэмакратызме, Бараўскас на нейкую хвіліну аб'яднаў на сваім стале імёны Антона Луцкевіча і Адама Станкевіча, узяў іх пад свой пракурорскі нагляд, а нагляд гэты быў ужо, калі так можна сказаць, на апошнім савецкім уздыху.

## Пасляслоўе

### *1.*

Адам Станкевіч валодаў пяром, умеў ясна выстраіць на паперы думкі, мог супакоіць і друкаваным словам, і проста голасам.

Верыў, што не ўсе кветкі засохнуць і шанаваў правіла: не раскідай – збірай...

Зазвычай так рабіў, каб не сварыцца, але сварыўся; не хацеў казаць лішняга, але казаў...

І што цікава – быў ён вечным скарбнікам!

Яму заўсёды давяралі грошы, і ён ні разу нікога не падмануў, не ўтаіў ні капейкі; часта плаціў не толькі за сваіх пляменнікаў – за чужых дзяцей таксама, каб мелі прытулак і маглі вучыцца.

Зрэшты, можна і не здзіўляцца, што быў такі – гадаваўся ж у сям'і, дзе шчыра шанавалі запавет: не крадзь!

Грошы з ягоных рук без астачы йшлі на грамадскую справу, і калі справа ўдавалася, то ён мог тады і весела ўздыхнуць: «Эх, каб грошы ўмелі размаўляць і размаўлялі па-беларуску, то тады па-беларуску загаварылі б усе!»

З юнацтва зведаўшы навуку заходняй царквы, Адам Станкевіч усё сваё жыццё прыстасоўваў тую навуку да роднай прасторы; увесь час даказваў: беларусы-каталікі – гэта не палякі!

Зусім слушна лічыў: бяда пайшла яшчэ з XIV стагоддзя, ад неразумнай палітыкі Ягайлы, які здаў край заходнім суседзям і гэтак навязаў нашым людзям каталіцтва менавіта як веру польскую.

Дарэчы, Ягайлаў празелітызм, калі так можна сказаць, расцягнуўся ці не да нашых дзён, Ватыкан спрыяў такому напрамку, і толькі сённяшні Папа Францішак абвясціў: нельга гвалтам абарачаць у сваю веру іншых!

А ў 1919 годзе крыва азвалася й заходняя палітыка, і справа пагоршала.

З Версаля ў Варшаву прывезлі прынцып унітарнай Польшчы, а не прынцып усяпольскай федэрацыі, таму й немагчыма было беларусам збудаваць свой нацыянальны дом, а найперш – немагчыма было захаваць адукацыю на роднай мове.

Становішча склалася вельмі крыўднае: ты мог пра сваё, набалелае, гаварыць, але цябе не чулі!

Скажам, сяляне пэўнай вёскі пэўнай гміны пэўнага павета, прачуўшы пра закон аб мове, казалі школьнаму інспектару:

– Хочам, каб нашы дзеці вучыліся па-беларуску!

– Добра, – ласкава адказваў інспектар, забіраў спіс дзяцей школьнага веку і дэкларацыю аб жаданні сялян вучыць дзяцей па-свойму, і ўсё на гэтым.

Інспектар знікаў з гарызонта, і дазволу заснаваць беларускую школу ў той вёсцы ўлада не давала.

*2.*

На будынку былой Віленскай нашай гімназіі да памятных дошак у гонар Максіма Гарэцкага[170] і Наталлі Арсенневай дадалася й табліца[171] на ўшанаванне памяці Адама Станкевіча, на якой дакладна і сцісла адзначана: «Ахвяра бальшавіцкага тэрору».

Пазбавіўшы народ улады, сталінізм называў сябе народнай уладай і ад імя народа гнаў у магілу вялікіх беларусаў, для якіх нацыянальная ідэя пачыналася як хлеб, а яе на працягу аднаго пакалення стаўклі на атруту.

Так дзейнічала нялюдская дзяржаўная сістэма, за што падзякую ёй ліхам.

З турмы народаў выдатныя беларусы трапілі ў яму народаў, аднак жа яны перамаглі.

Так, яны пераможцы хоць бы з той бачнай прычыны, што ў Вільні ім усталяваны памятныя знакі і помнікі, а вось помнікі Леніну-Сталіну з віленскага поля зніклі.

Праўда, часам запаўзаюць сюды хітратупыя падобнікі сталіністаў, русіфікатары-матолкі, сапселыя сыны парторгаў – іхнія касавокія галовы аздабляюць віленскія сметнікі.

*3.*

Душа Адама Станкевіча супакоена верай: Бог прамаўляе беларускай мовай таксама...

Магчыма, у апошнюю сваю хвіліну святар адкрыў галоўнае: калі пытацца, то пытацца заўсёды варта пра адно – дзе ты, Беларусь?

А магчыма, у тую хвіліну ўспомніў пра вяселле ў Кане Галілейскай, на якім Ісус Хрыстос ваду ператварыў у віно – зрабіў немагчымае.

Тое ж немагчымае рабіў і ён, Адам Станкевіч, бо таксама ж бачыў нястачу віна, – брак Беларусі ў Беларусі, – і да апошняга (як мог і як умеў!) ператвараў буднае – у святочнае.

І аддаў жыццё, бо толькі жыццё – плата за высокую мэту!

*7 чэрвеня 2019 г., 11 г. 49 хв., пятніца; Менск.*

---

[1] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 152.
[2] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 153.
[3] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 155.
[4] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 160 ap.

[5] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 161.
[6] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 161 ap.
[7] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l.l. 118, 119.
[8] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 164 ap.
[9] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 165.
[10] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 165 ap.
[11] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 164.
[12] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 166.
[13] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 169.
[14] Капітан дзяржбяспекі, начальнік 4-га аддзялення 2-га аддзела НКДБ ЛССР.
[15] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 170 ap.
[16] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 172 ap, 173.
[17] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. 12505, b.b., l. 171.
[18] Люцыян Хвецька (1889 – 1944) – каталіцкі святар, магістр тэалогіі, адзін з актыўных заснавальнікаў «Хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці». Рэктар Місіянерскага інстытута ў Любліне.
[19] Ян Пазняк (1887 – 1939) – беларускі палітык, публіцыст, удзельнік хрысціянска-дэмакратычнага руху; рэдагаваў газету «Беларуская крыніца» і часопіс «Хрысціянская думка». Забіты сталіністамі.
[20] Баляслаў Бабарыка – узначальваў беларускі рух у Будславе; у 1939 годзе арыштаваны НКУС, але ў 1942 годзе шчасліва трапіў у польскае войска.
[21] Альбін Сянкевіч – дзеяч ЦК БХД. Забіты немцамі ў 1942 годзе ў Докшыцах.
[22] Язэп Малецкі (1906 – 1982) – беларускі грамадскі дзеяч, лекар, скончыў медычны факультэт Віленскага ўніверсітэта, адзін з кіраўнікоў БНК; з 1935 года працаваў у Варшаве, з 1944 года ў эміграцыі. Памёр у Аўстраліі.
[23] Мікалай Дварэцкі (1903 – 1988) – узначальваў беларускі рух на Браслаўшчыне, віцэ-старшыня БХД, у Іказні кіраваў гуртком БІГК, у 1944 годзе эміграваў; у друку выступаў як Мікола Базылюк. У жніўні 1939 года прывітаў А. Станкевіча вершам, прысвечаным 25-м угодкам свяшчэнства і беларускай працы святара.
[24] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 171 ap.
[25] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 172.
[26] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 172 ap.
[27] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 173 ap.
[28] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 174.
[29] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 167.
[30] Малодшы лейтэнант дзяржбяспекі, старшы оперупаўнаважаны НКДБ ЛССР.
[31] А/с – антисоветская.
[32] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 168 ap.
[33] Каляндарныя нататкі: А. Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 850.
[34] Страфа з майго верша «Дох» (2006 г.)
[35] Антон Дзянікін (1872 – 1947) – расійскі генерал-лейтэнант, адзін з кіраўнікоў Белага руху, кіраваў Поўднем Расіі ў 1918 – 1920 гг.
[36] Альберт Эйнштэйн (1879 – 1955) – нямецкі і амерыканскі фізік-тэарэтык, стваральнік тэорыі адноснасці спецыяльнай (1905) і агульнай (1916); лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1921).
[37] Закрэт – парк у Вільні.
[38] Хорст Ханс Вэсэль (1907 – 1930) – нямецкі штурмавік, аўтар нацысцкага гімна.
[39] Старшы оперупаўнаважаны 2-га аддзялення 2-га аддзела НКДБ Літоўскай ССР.
[40] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b. (196), l. 24.
[41] У 1945 г. з'яўляўся народным камісарам дзяржаўнай бяспекі Літоўскай ССР.
[42] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 7 ap. (Даведка 1-га Спецаддзела МУС Літоўскай ССР ад 8 ліпеня 1949 г. за подпісам начальніка 1-га аддзялення 1-га аддзела МУС ЛССР Качэргіна). Фактычна справа № 2661 скончана 8 лютага 1945 г, а 16 чэрвеня 1947 г. здадзена ў архіў за нумарам 3001/3 – LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 143.
[43] Артыкул Крымінальнага кодэкса РСФСР.
[44] П. Мядзёлка. Сцежкамі жыцця. 2018 г.; с. 466.
[45] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 186.
[46] Уладзімір Конан (1934 – 2011) – беларускі філосаф, гісторык, літаратурны крытык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).
[47] А. Станкевіч. Выбранае. 2008 г.; с. 19.
[48] Намеснік начальніка 2-га аддзела НКДБ ЛССР.
[49] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l.l. 204 ap, 205.
[50] Каляндарныя нататкі: А. Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; сс. 859, 860.

[51] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l.35 (пратакол допыту ад 28 красавіка 1949 г.; допыт вёў капітан дзяржбяспекі Трубачыстаў).

[52] Уладзіслаў Чарняўскі (1916 – 2001) – беларускі каталіцкі святар, пра адраджэнскую дзейнасць якога ўпершыню я пачуў ад Міхала Дубянецкага.

[53] Словы падкрэслены машынапісным спосабам.

[54] Напісанне з адным «с».

[55] Гісторык Анатоль Сідарэвіч удакладніў: Адам Станкевіч нарадзіўся паводле юліянскага календара 24 снежня 1891 г., а паводле новага стылю – 5 студзеня 1892 г.

[56] Словы «...завербован в январе 1945 года на...» падкрэслены ад рукі блакітным атрамантам.

[57] Напісанне з двума «с».

[58] Словы «...За время работы с органами МГБ Лит. ССР с января 1945 года по апрель 1949 года агент «Белорусс» показал себя с отрицательной...» – падкрэслены ад рукі блакітным атрамантам.

[59] Відавочна трэба: «...заслуживающих...»

[60] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 225 – 1.

[61] А. Валахановіч, У. Міхнюк. Споведзь у надзеі застацца жывым. Аўтабіяграфія Браніслава Тарашкевіча. Мінск. БелНДІДАС. 1999 г.; сс. 9, 10.

[62] Тамсама, с. 10.

[63] Гэты тып меў падвойнае прозвішча – Іваноў-Міхайлаў і з'яўляўся намеснікам начальніка следчага аддзела ўпраўлення МДБ па Чыцінскай вобласці.

[64] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. l., 128, 129, 130.

[65] Каталіцкая навучальная ўстанова ў Рыме, якая рыхтуе святароў усходняй традыцыі.

[66] «Хрысціянская думка» – віленскі беларускі часопіс, выдаваўся з 1928 па 1939 гг.; адстойваў нацыянальныя каштоўнасці, выступаў супраць паланізацыі.

[67] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 122.

[68] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 123.

[69] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 126.

[70] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 127.

[71] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 132.

[72] Сакратарка следчага аддзела ўпраўлення МДБ па Чыцінскай вобласці.

[73] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l. 2.

[74] Намеснік міністра дзяржбяспекі ЛССР. Подпісу Мартавічуса на пастанове няма – прынамсі, на тым паасобніку, які маю.

[75] Дзяржаўны раднік юстыцыі 3-га класа. Гэты чыноўнік пакінуў на пастанове подпіс чырвоным алоўкам.

[76] Начальнік аддзела «О» МДБ ЛССР. За Шляпнікава на адвароце пастановы сінім атрамантам распісаўся нейкі іншы чын.

[77] Начальнік следчай часткі МДБ ЛССР. Ягонага подпісу няма.

[78] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 4.

[79] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l. 3.

[80] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), 3 ap.

[81] Артыкул Крымінальнага кодэкса РСФСР.

[82] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 1. Спіс абвінавачаных, якія маюць дачыненне да следчай справы № 15896. У гэтым спісе пад лічбаю «1» пазначана толькі адно імя – Станкевіч Адам Вікенцьевіч.

[83] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 4.

[84] Начальнік 1-га аддзела следчай часткі дзяржбяспекі ЛССР.

[85] Начальнік аддзела «А» МДБ ЛССР.

[86] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l. 1.

[87] Слова напісана праз апостраф.

[88] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 4 ap.

[89] Віктар Шутовіч (1890 – 1960) – беларускі каталіцкі святар, публіцыст, быў цкаваны палякамі за беларускую мову; у 1944 – 1945 гг. служыў у Чырвоным касцёле (Мінск), быў асуджаны бальшавікамі на дзесяць гадоў зняволення; з 1956 г. жыў у Барысаве.

[90] Янка Тарасевіч (1892 – 1978) – беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч, скончыў Фрыбургскі каталіцкі ўніверсітэт. Памёр у ЗША.

[91] Фабіян Абрантовіч (1884 – 1946) – беларускі рэлігійны і культурны дзеяч, вучыўся ў каталіцкім універсітэце ў Лёвене, доктар філасофіі, магістр тэалогіі, місіянер, кіраваў каталіцкай епархіяй усходняга абраду. Замардаваны ў Бутырках.

[92] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 27.

[93] Тамсама, l. 27.

[94] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 108.

[95] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 32.
[96] Начальнік 1-га аддзялення 1-га аддзела следчай часткі МДБ ЛССР.
[97] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 34. Пратакол допыту абвінавачанага А. Станкевіча ад 28 красавіка 1949 г.
[98] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I.I. 41, 42. Пратакол допыту абвінавачанага А. Станкевіча ад 2 чэрвеня 1949 г.
[99] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l. 6. У дакуменце адзначана, што А. Станкевіча дапыталі восем разоў, аднак восьмы допыт маёр Пырыкаў правёў толькі 27 чэрвеня 1949 г.
[100] Намеснік пракурора ЛССР па спецыяльных справах.
[101] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l. 9. Следчую справу № 15896 пачалі 13 красавіка 1949 г., а закрылі (што даволі цікава!) толькі 1 жніўня 1989 г.
[102] Наталля Арсеннева (1903 – 1997) – беларуская паэтэса, стварыла лірычную кнігу «Пад сінім небам» (Вільня, 1927). Творы Н. Арсенневай уважліва чыталі Антон Луцкевіч і Максім Танк. Пры немцах выйшаў зборнік яе вершаў «Сягоння» (Менск, 1944). Склала верш «Малітва», які стаў духоўным гімнам «Магутны Божа» (музыка Міколы Равенскага). Скончыла свае дні ў ЗША.
[103] Павел Каруза (1906 – 1988) – беларускі грамадскі дзеяч, фалькларыст, кампазітар. Скончыў Віленскую кансерваторыю. Старшыня ЦК БХД, пасол польскага Сейма. Апынуўшыся ў СССР, некалькі разоў арыштоўваўся. Жыў у Вільні ў Закрэце.
[104] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 64. Пратакол допыту абвінавачанага А. Станкевіча ад 27 чэрвеня 1949 г.
[105] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 91. Пратакол допыту абвінавачанага А. Станкевіча ад 1 ліпеня 1949 г.
[106] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 11: «...13. Обращение белорусского народа к Папе Римскому – на немецком языке, в 1 экз. ...» Пратакол вобыску кватэры ад 30 чэрвеня 1949 г.
[107] «Калосьсе» – беларускі літаратурна-навуковы часопіс; выдаваўся ў Вільні ў 1935 – 1939 гг. Аб'ядноўваў творцаў розных эстэтычных і палітычных кірункаў.
[108] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 120. Пратакол допыту абвінавачанага А. Станкевіча ад 5 ліпеня 1949 г.
[109] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, I. 140.
[110] А. Станкевіч. Выбранае. 2008 г., с. 20.
[111] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 207.
[112] Памочнік пракурора па спецыяльных справах Літоўскай ССР.
[113] Маецца на ўвазе «История ВКП (б). Краткий курс» – падручнік па гісторыі Усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў), надрукаваны ў 1938 г.
[114] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 208.
[115] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 222 - 1.
[116] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l.l. 10, 11, 12, 13.
[117] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l.l. 14, 15.
[118] «ИТЛ» (рускае: исправительно-трудовой лагерь) – папраўча-працоўны лагер.
[119] Намеснік міністра дзяржбяспекі ЛССР. Дарэчы, 20 ліпеня 1950 г. А. Гайлявічус быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
[120] Намеснік міністра дзяржбяспекі ЛССР.
[121] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 213.
[122] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l. 20.
[123] Оперупаўнаважаны аддзела «А» МДБ ЛССР.
[124] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 224 - 4.
[125] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 222 - 3.
[126] Упаўнаважаны рады па справах рэлігійных культаў пры радзе міністраў СССР па Літоўскай ССР.
[127] Начальнік 1-га аддзялення МДБ ЛССР.
[128] Начальнік аддзела «А» МДБ СССР.
[129] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l. 19.
[130] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l. 16.
[131] Памочнік начальніка аддзела «А» МДБ СССР.
[132] Начальнік 14-га аддзялення МДБ СССР.
[133] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l. 17.
[134] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l. 17.
[135] Начальнік унутранай турмы МДБ ЛССР у Вільні.
[136] Оперупаўнаважаны аддзела «А» МДБ ЛССР.
[137] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, t.b., l. 6.
[138] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, t.b., l. 4.

[139] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, t.b., l. 4 ap.
[140] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, t.b., l. 7.
[141] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, t.b., l. 2.
[142] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, t.b., l. 1.
[143] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, t.b., l. Virśelis.
[144] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (197), l. 1.
[145] Намеснік начальніка следчага аддзела КДБ пры СМ БССР.
[146] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l. 27.
[147] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 225 - 2.
[148] Начальнік улікова-архіўнага аддзела КДБ пры СМ Літоўскай ССР.
[149] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l. 28.
[150] Начальнік турмы № 1 МДБ ЛССР.
[151] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b., (196), l. 18.
[152] А. Мядынскі (1891 – 1969) – казацкі палкоўнік, белаэмігрант.
[153] «Озерлаг» (*руск.*) – Особый закрытый режимный лагерь.
[154] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 11794, s.b., l.l. 34 - 7, 34 - 7 ap.
[155] ЭГБ, Мн.: выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 2001 г., т. 6, кн. 1, с. 403.
[156] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 218.
[157] Начальнік цэнтральнай бальніцы Азярлага.
[158] Намеснік начальніка бальніцы.
[159] Я. Я. Дзіле быў зняволены.
[160] Загадчык хірургічнага аддзялення Столінскай раённай бальніцы.
[161] Фелікс Баторын (1948 г.н.) – беларускі паэт; з апошніх ягоных кніг вылучаецца дакументальная аповесць «Чорны год» (2011) і зборнік вершаў і паэм «Яблычны пах цішыні» (2018).
[162] Старшы следчы следчага аддзела КДБ ЛССР.
[163] Reikalavimas (*літ.*) – патрабаванне.
[164] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 219.
[165] Пракурор следчага ўпраўлення пракуратуры ЛССР.
[166] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 220 ap.
[167] Пракурор Літоўскай ССР, дзяржаўны раднік юстыцыі 3-га класа.
[168] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., I. 221 - 1.
[169] LYA, F. K - 1, ap. 58. P - 11794, t. 2, l.l. 340, 342 - 1.
[170] Максім Гарэцкі (1893 – 1938) – беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, засуджаны чэкісцкай тройкай да расстрэлу; аўтар маіх любімых твораў «Дзве душы» (1919), «Гісторыя беларускае літаратуры» (1920), «На імперыялістычнай вайне» (1926), «Ціхая плынь» (1930), «Віленскія камунары» (1932).
[171] Табліца (*польск.* tablica) – мемарыяльная дошка.

Ванда Марцінш душ Рэйш



*...Хачу пад сэрца стук*
*Палаць, згарэць датла,*
*Пакуль спявае лук,*
*Пакуль ляціць страла...*

# Плод авакада

### *МОРА І МАРА*

На беразе мора набуду хаціну
І буду я стому на шпацыр вадзіць,
Упраўна пісаць па начах успаміны
І вершамі палкасць душы халадзіць.

Пад ціхі напеў ружавеючай далі
Завабіць Марфей у пасцель раніцой,
А вецер між скал змеле бурныя хвалі,
Ў кашлата-брунатны бязважкі прыбой.

Расчараванняў і страт анальгетык –
Мора і сну суцяшальны спарыш –
Сэрца загоіць і высвенціць гэтак,
Каб і далей шчыра несла свой крыж.

На беразе мора набуду хаціну.
Свой верш развітальны, як першы, складу.
І зноў да людзей. Толькі мо напамінам
Кавалачак неба з сабой пакладу.

## ЛЮБЫ ВОСТРАЎ

Мадэйра, зялёны засмужаны край,
Што хвалі Атлантыкі песцяць,
Мяне, як заўсёды, у госці страчай
Віном, садавінай і песняй!

Раўнюткі ў штыль акіянскі прастор,
У непагадзь енчыць вусцішна,
Даліны між стромкімі сценамі гор,
Тут скрозь – таямніца і пышнасць.

Загадкаю вабяць тэрасы-сады,
Іх кветкі казурак люляюць.
Тут кожнаму ёсць даспадобы плады,
Што фарбаў вясёлкай здзіўляюць.

Стагоддзі ў гарах прабівалі хады
Цапамі дажджоў праз каменне.
Віно ў бурдзюках вандравала тады
Ў Фунчал на плячах з прыгумення.

Закінулі шылы свае гарбары
І спяць бестурботна ў пасцелі:
Цяпер за гадзіну адну жыхары
Дамчаць хоць куды праз тунелі.

Засмужаным ранкам нябёсаў сафіт
Сталіцу абсвеціць узнёсла.
У бухце на якары лайнер стаіць,
А мроіцца ветразь і вёслы.

На рынку, падводны закончыўшы шлях,
Сумуюць марскія пачвары,
Здаецца, свет цэлы ў Мадэйры ў гасцях,
Усмешкі, як кветкі, на тварах.

Сцяжынкі наўсперак бягуць і ўдаўжкі,
Іскрацца расы самацветы.
Мілуе пялёсткаў агонь трапяткі
Вільготнае вечнае лета.

Закончыўся водпуск. Мадэйра, бывай!
Ладую ў валізкі спякоту.
Як я, калі ласка, з журбою чакай
Маіх штогадовых зваротаў.

## АДКРЫВАЛЬНІКАМ І ПЕРШЫМ ЖЫХАРАМ МАДЭЙРЫ

Мараплаўцы, шукальнікі новых зямель,
З крыкам хрыплым і радасным: “*Terra*!”*,
На суворую выспу сышлі з каравэл,
За лясістасць назваўшы Мадэйрай.

Пад прыроду падладзілі людзі свой склад.
Над абрывам схіліліся хаты.
Штурмавалі паселішчы горай нашмат
Гураганы-вятры, чым піраты.

Ды рабілася *vida*** цішэйшай штогод,
Па адгор’ях загойсалі козы,
Заваёўніцкім крокам прыйшлі ў агарод
Панаваць вінаградныя лозы.

Астраўляне ўплялі архідэі і мох
Ў край гасцінны і клімат здаровы,
А ў гарыстых далінах адкрыўся разлог
Партугальскае дзіўнае мовы.

* *terra* (партуг.) – зямля, суша.
** *vida* (партуг.) – жыццё.

## ДОЖДЖ НА МАДЭЙРЫ

Хтосьці вывернуў з неба духмяны ўзвар –
У вакно сыпле дожджыкам спорным.
Надзвычайна цнатліва карункамі хмар,
Як фатой, завінуліся горы.

Велічэзныя лаўры хістаюць вяршкі,
Быццам змоўнікі, ўлева і ўправа.
Прыбярэжныя хвалі ўзбаўтнулі гаршчкі
Перасоленай, збросненай стравы.

Як заўсёды не спяць пад зямлёю кіты,
Ды ад стомы ўздыхаюць глыбока...
І ахвярна губляюць дажджынкі кусты,
Каб вярнуліся сонца і спёка.

## *СОН*

У сне вільготны брыз з Мадэйры
Прынёс, абвіўшы паўзямлі,
Бадзёры водар *limoeiro**
І чарназёмны пах раллі.

Залевы шум начной парою
Прадвесцем чуйны сон п’яніць,
Як пачуццё, як хмель напою,
Што люд спрадвеку весяліць.

Працуюць шчыра, да знямогі
Сусед і дзевер, кум і сват –
І ў такт зарухаюцца ногі,
Як быццам ціснуць вінаград.

Душа тугою адзавецца.
Асвеціць памяці прамень
Сярод малюнкаў, мілых сэрцу,
Трапічных дрэў салодкі цень.

---

* *limoeiro* (партуг.) – цытрынавае дрэва

## *SAUDADE***

Мора выкархнула лодку –
Мабыць горкая на смак.
Ем мясцовую гаворку
З хлебам, з бульбаю і так.

Слоў збягаюцца ласункі
З вуліц, з радыёнавін.
Падмацоўкай страваванню
Прабіётык хатніх він.

Гнала мачыха-нястача
Партугальцаў з родных хат –
На чужыне віўся следам
Горкі смутак – *saudade.*

Гэты смутак – мой знаёмы,
Надакучлівы, як гнюс.
Зноў збіраю самабранку –
З мовай водарнай абрус.

Тут цяпло і красаванне,
Там зіма і халады...
Птушку ў вырай, краю родны,
Ці адпусціш назаўжды?

** *saudade* (партуг.) – моцная настальгія, звычайна па радзіме альбо па блізкім чалавеку. Вымаўляецца, як “саўдад”.

## ФУНЧАЛ

Урываюцца ў дом вечнага лета пахі –
З кветак і спецый парфуму за так аддае гандляр.
Цешаць рознагалосымі спевамі птахі,
Сціснуты між гатэлямі пальмаў і бананавых дрэваў гушчар.

А там, далей, бачу гарэзлівае іскрыста-блакітнае мора –
Багоў прадоння ўлюбёнага пестуна-гадунца.
Сонца-вершнік промнямі, як залатымі шпорамі,
Выбівае шматы пены ў акіяна – загнанага жарабца.

Белы горад рассеўся дзівіцца марскімі далямі
У амфітэатры пакатых смарагдавых гор,
І выходзіць, быццам “на біс”, аточаны зыбкімі хвалямі
Велізарны круізны лайнер – вядучы актор.

Далікатна яму ў ладкі пляскаюць крыламі чайкі.
Задаволена б’е ў званы, як у далоні, касцёл.
І такое каляровае і ёмкае жыццё тут цячэ запаволена,
Быццам на вечнасць атрымала ў Бога дазвол.

## ФЛОРБЕЛА ЭШПАНКА

Цёмны позірк – агонь і загадка.
Бледны твар, як слановая косць.
Пры жыцці называлі “вар’яткай”
Так заўсёды з паэткамі ёсць.

Пра жаданні жаночага цела
У твой ханжаскі век ні гу-гу –
За жыццё на душы накіпела
І абрала сястрою тугу.

Маскі лёсу, трывогі, пакуты.
Кніга смуткаў, фартуны рука.
На расцвілую пустку атрутай
Пралілася зласлоўя рака.

Душ чужых непрыступныя вежы
Білі здрадай у чысты запал,
І жаданы, амаль непазбежны,
Лёгкім збаўцам прыйшоў веранал.

Іншых дзён папярэднік, заранка!
Спаў з пісьмёнаў мінулага гнёт.
Як сучасны Флорбелы Эшпанкі
Хуткіх крыл страказіных палёт!

## ПАКАЗ МОРСКІХ МОД

Палымнее ружовым агнём далягляд
Супакоем абнятага мора.
Урачыста зара абвяшчае прагляд
Наймаднейшых сучасных убораў.

Хмаркі гафтамі неба аздобілі, каб
У вадзе паўтарыцца бясконца.
Аксаміт, залатая парча і ядваб
Самацветамі ўспыхнуць пад сонцам.

Швы красуюцца кантам з бліскучых манет.
Рабізна стужкай срэбнаю свеціць.
Як глядзіш, ператворыць ядвабы ў вельвет,
Наляцеўшы ад захаду, вецер.

Гвалтам ловіць зара водных гадаў і рыб,
Каб чароўныя строі надзелі,
Ды, баўтнуўшы хвастом, пахаваліся ўглыб
Сарамлівыя фотамадэлі.

Статкі белых прыручаных хваль-бараноў
Сігануць на пясок вокамгненна.
Як заўсёды магутнай красою ізноў
Заварожыць абшар белапенны.

## ТВОРЦА І ТВОР

Паэт Камоэнс быў арыгіналам.
Шляхетны род прыйшоў у заняпад.
Ні грошай, ні знаёмстваў не ставала.
З дрыгвы пазык на свет глядзеў з-за крат.

Кахаў кабет ці біўся на дуэлі –
Усё ўпляце ў санет ці мадрыгал.

На жаль, яны амаль не ацалелі,
Бо межы ўсе крышыў яго запал.

Упарта не ўсміхалася і ўдача –
Выгнаннем сталі Гоы берагі.
Падступны лёс яго пракляў, няйначай,
Гадамі недаверу і тугі.

Памёр манарх, сканала шмат урадаў,
Народ сваім жыццём будзённым жыў,
А ён усё пісаў “Луізіяды”
І ўрэшце мову новую стварыў.

Згубілі цот-няцот гадоў лічылкі.
Асела з цягам часу плётак муць.
Даўно забыліся яго памылкі,
А словы бессмяротныя жывуць.

Чытаю зноў паэму летнім ранкам.
Ці ноч яшчэ? І веру – ўсё адно
Крывым *fidalgo**, дзіваком-каханкам
Пастукае Камоэнс у вакно.

---

* *fidalgo* (партуг.) – шляхціц.

## *У ГАВАНІ ФУНЧАЛА*

Выпраўляліся ў Індыю шляху шукаць
Педро Сінтра і Васко да Гама
Вострых спецый, бавоўны, шаўкоў накупляць
І сілком ахрысціць басурманаў.

Пазіралі з тугой на яе маракі
З каравэл крутабокіх Калумба.
І не ведалі ў тую пару бедакі
Жахаў тых непакораных румбаў.

Смерці гідкі і жудасны зведалі пах,
Калі шчэрылі пашчу хваробы,
І не ведалі што: люты голад ці страх
Вываровчваў дашчэнту вантробы...

Сёння б’юцца за нафту, металы, АЭС
Паасобку, у звязках, напару:
Хціўы Молах пад назвай траскучай Прагрэс,
Як раней, патрабуе ахвяраў.

## НА ПОЎНАЧЫ МАДЭЙРЫ

Не наслухацца сэрцам шумлівы прыбой,
Не змарыць краявідамі вочы:
Непрыступнай цвярдыняй са стромай сцяной
Узвышаецца бераг паўночны.

Ярка ззяюць пад сонцам, як з белай слюды
Статуэткі, дамы трох Ламбадаў,
І збягаюць з адгор'яў да самай вады
Сан Вінцэнтэ і Понта Дэльгада.

Дрэмлюць пікі задумлівых гор. За адзін
Зачапілася млява хмурынка.
Падымуся туды, каб на пару гадзін
Стаць свабоднай душой пілігрымкай.

Тут на кожным уступе – у кветках алтар.
Што ні крок – то пячора-капліца.
Прахалода-манашка і ветрык-святар
Просяць шчыра ў цяньку памаліцца.

Навакол ні душы. Чую толькі адно
Мора, лесу і гор пераразвоны...
І фарбуе ў крыніцы ваду, як віно,
Сонца водсвет у колер чырвоны

## ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ

Звястуе мудры Ўсход,
Што наша смерць – страла.
Ах, каб яе палёт
Я затрымаць магла!

Ды ўдача – рэдкі госць
На кірмашы жыцця.
Нам зрэдку кіне косць
Здалёк – і не дастаць.

Калі ж плаціць аброк
Даводзіцца спаўна,
Тады жаданняў трох
Мне мроіцца цана.

Хачу, каб быў сяброў
Выратавальны круг.

Каханне без умоў,
Як крылле, не ланцуг.

Хачу пад сэрца стук
Палаць, згарэць датла,
Пакуль спявае лук,
Пакуль ляціць страла.

### *БЕССАНЬ*

Зноў замучыла бессань дазвання,
Не даклікацца ранку ніяк,
А душу раздзіраюць жаданні
Зграяй хіжых галодных сабак.

Палахлівыя мары і згадкі
У бязладдзі ледзь чутна гучаць.
Назаўжды застаецца загадкай,
Як працьлеглае спалучаць.

То пужае сустрэч скарацечнасць
(Шчасце ж нельга лічыць на гады),
То палохае здрадліва вечнасць
Гучным словам пустым "назаўжды".

Глухнуць палкія хвалі пяшчоты,
Рассыпаюцца перламі слоў.
І кружляе ў начы адзінота
На нястомных абцасах часоў.

* * *

Жыццё, ты – імгненне, ты – ўспышка,
След знічкі на фотапаперы.
Тэатр, дзе няма рэпетыцый:
Ёсць толькі прэм'еры.
Кіно, дзе мы самі сабе рэжысёры,
І блытаюць ролі нашчэнт самавукі-акторы.

### *LISBOA**

Лішбоа – дзяўчынка й бабуля, квітненне і восень.
Над Тэжу-ракой сарамлівыя ранкі.
Заспаны трамвай па кварталах развозіць
Касцёлаў на фоне нябёс выцінанкі.

Засмуціць парома гудком развітальным,
Закружыць завулкаў вязьмом гаманлівым,
А ў поўдзень твой позірк такі асляпляльны,
А смех закаханых тваіх гэткі шчаслівы.

Спявае Альфама нязбытнае нешта.
Тут смакаў, фарбаў і кветак кораб.
Тут шмат прыгожых хлопцаў, ды зрэшты,
Прылашчыць заходні ветрык, што пахне морам.

Нястомна вандруе па горадзе ценем былое.
Над замкам крыжовых паходаў грымоты.
І палымнеюць чароўным агнём пад гарою
Тваёй Маўрарыі ссівелай высокія ноты.

---

**Lisboa* (партуг.) – Лісабон

## ***ПЛОД АВАКАДА***

Гайдае вецер авакада,
Плады страсае на зямлю.
Міфічным яблыкам разладу
Ў падол ападыш я злаўлю.

Належыць есці з цукрам, з соллю?
А мо кактэйль з какосам збіць?
З кінзой нацерці *guacamole**,
Ці *maki sushi*** нарабіць?

Не да спадобы дзіўны звычай –
Экалагічныя харчы,
Прадукты свежасці крынічнай
У цуру прыкрую стаўчы.

Загубім ягаду-Персею,
Разбурым кожны вітамін
І замардуем панацэю
Капы хвароб – фітастэрын.

Апроч карыснасці і смаку
Тут філасофіі ядро:
Нягеглы выгляд, нораў мяккі
І непахіснае нутро.

---

**Guacamole* (партуг.) – салата альбо соўс на аснове авакада, які сучасныя мексіканцы ўспадкавалі ад ацтэкаў.

***Maki sushi* – японская страва, на аснове рысу з воцтам, да якога далучаюць рыбу альбо іншыя морапрадукты, гародніну, радзей – экзатычныя фрукты.

## НАСТАЛЬГІЯ ПА МАДЭЙРЫ

Сакавік абвінае сядзібу
Кашамірам падманлівым хмар.
Не здаецца зацяты адзімак,
Бляхай грукае вецер-страхар.

Толькі песень нядаўніх водгук,
Чарнавокіх спакус віхор
Затрымалі душу ў палоне
Сярод думных левадаў і гор.

Там цвітуць архідэі і макі
І шуміць эўкаліптавы гай.
Лашчаць горныя вадаспады
Мураві́сты, карункавы край.

Там, забыўшыся на рэчаіснасць,
Саматужніцтва заняпад,
Працавітыя залаташвачкі
Расшываюць "плывучы сад".

Там, зашыўшыся ў вінаграднік,
Без дазволу, вядзьмак-ветравей
Накануе багатыя гронкі
Па арэлях духмяных завей.

Згіне лета, і восень пагоніць
Срэбным ранкам вазы на кірмаш.
Звонкай чаркай і роднай семільяй*
Прычасціцца мясцовы бульбаш.

---

*_semilha_ – бульба (на мясцовым дыялекце).

Міхась Булавацкі



...ганарыстаму *homo sapiens*
цяжка паверыць,
што жывёла можа мець розум...

# Згадкі маленства

*Так атрымалася, што маё жыццё раздзелена чорнай паласой на дзве часткі: кароткую – няпоўныя шэсць год ад нараджэння, і доўгую – пасля трынаццаці. А паміж імі тая чорная паласа ў сем год, якія я праляжаў у сухотным санаторыі.*

*З той першай часткі помніцца, натуральна, не ўсё. Не помню бацьку , які пайшоў у іншы свет на першым годзе майго жыцця. Існаванне ў сталінскім лагеры не дадало здароўя.*

*Не помню, як я нарадзіўся. Спытаў аднойчы пра тое ў маці.*

*– Ну як, – усміхнулася яна. – Прыйшла з калгаснага поля вечарам, парвала і пацягала буракі ў стопку, пакарміла свіней, напаіла і падаіла карову, прынесла вады з калодзежа, прынесла дроў у печ... Усё ўправілася, легла і нарадзіла. Добра, што была субота і назаўтра выходны дзень. А ў панядзелак закруціла цябе ў пялюшкі, і пайшлі мы з табой працаваць на калгаснае поле.*

*Вось так, на трэцім дні жыцця я адчуў, што такое калгас.*

*Не помню шмат чаго з таго, чым я тады жыў. Але некаторыя падзеі-гісторыі памяць захавала. Пра іх і распавяду.*

## Лыска

На грошы, якія прывёз Пятро, Анця вырашыла набыць карову. Каровы ў пасляваенныя гады былі рэдка ў каго, а ў Восах ніводнай. Таму і дзяцей не нараджалі. Хаця, праўда, ад каго было нараджаць? А тут Пятро вярнуўся. Худы, хворы, слабы, – але жывы. І калі дзіцятка народзіцца, то чым карміць яго без каровы? Не халадніком жа з лебяды ды крапівы. Не бульбай з тоўчаным ільняным семем.

Карову набыць – справа няпростая. Паблізу і пытацца няварта. Тут добрай каровы ніхто не прадасць, а нядобрую навошта купляць. Толькі грошы ўваткнуць. Анця ведала, распыталася: па добрую карову трэба ехаць на базар у Слуцк. Там выбар вялікі і добрыя каровы не пазводзіліся. Але ж за морам і цялушка – паўгроша... Да таго Слуцка семдзесят кіламетраў па шашы, дый да шашы яшчэ дванаццаць тэпаць. Але што рабіць! Не чакаць жа, пакуль карова сама да цябе прыйдзе.

Выпрасіла ў старшыні колькі вольных дзён. Маўляў, мае права савецкая калгасніца на водпуск. Да Слуцка даехала на спадарожнай машыне. Тады шафёры спагадлівыя былі, а аўтобусы рэдка хадзілі. Дый дзе на той аўтобус грошай узяць, калі заробак у калгасе палачкамі пазначалі – адна палачка за адзін працадзень, а ў канцы года выплочвалі двума мяхамі бульбы ці паўмехам жыта. У тых шафёраў, мабыць, жонкі таксама ў калгасе, і яны ведалі, як тыя грошы дастаюцца. Вось і гэты – давёз да самага базара, а платы не ўзяў: ідзі, жанчына, па што ехала, а то на карову можа не хапіць. І ўсміхнуўся цёплай усмешкай. “Такі добры чалавек!” – распавядала Анця. І пазней часта ўспамінала яго добрым словам.

Зайшла на гаманкі базар і... “Я яе адразу ўбачыла. Стаіць і глядзіць на мяне ласкавымі вачыма. А на лобе белая плямка, круглая, як месячык. Іду да яе, а яна пысу ка мне цягне. Я іншых і не глядзела”. Вось жа, любоў з першага позірку бывае не толькі паміж людзьмі. Шчэ крыху патаргавалася, штосьці гаспадыня скінула. Надзела на шыю Лыскі вяроўчыну, і пайшлі разам у свет белы.

Чатыры дні ішлі Анця з Лыскай дадому. Начавалі ў добрых людзей, за начлег плацілі Лысчыным малаком. Людзі тады даверлівыя былі, чужога пускалі пераначаваць ахвотна: мо што цікавае пачуеш. І крадзяжу не баяліся, бо што было красці. І платы не патрабавалі, але ж не несці тое малако дадому.

І так за тую дарогу жанчына з каровай зжыліся-зблізіліся, што ўжо пачыналі разумець адна адну без гукаў. Анця адчувала, калі Лыска стамілася ці прагаладалася, і рабіла прыпынак на добрай траве, на якой і сама прылягала адпачыць, адчувала, калі вымя Лыскі поўнілася малаком, і спынялася, каб падаіць. І Лыска не капрызіла, калі Анця падыходзіла і бралася за вяроўку, хаця вакол была смачная трава, паслухмяна падымала пысу, і яны рухаліся далей...

Так Лыска стала новым членам сям'і. Карова аказалася надзіва ўдалай. Мала таго, што яна давала добрае тлустае малако, яна пагаджалася, калі яе

запрагалі на цяжкую працу – цягаць плуг, каб заараць сядзібу, ці прывезці з лесу бярвенні на хату. Бо коней у людзей не было, не было іх і ў калгасе, было толькі двое валоў, за якіх калгас павінен быў паступова сплочваць дзяржаве. І за выкарыстаннем валоў па-за калгаснай працай была чарга з калгаснікаў, у якіх заводзіліся сякія-такія грошы. Лыска выконвала цяжкую працу без капрызаў, неяк нават па-філасофску спакойна: трэба – значыць будзем рабіць. Бо, мабыць, бачыла і разумела (свядома выкарыстоўваю гэтае слова), што гаспадары таксама шмат і цяжка працуюць.

Неяк зайшла Варка, суседка, і папрасіла:

– Анця, дай мне тваю карову, каб узараць зямлю. У мяне ж маленькая сядзіба.

– Не, не дам, – пахітала галавой Анця. – Выбачай, не дам. Я яе сама баюся натамляць, нагружаю асцярожна. Не яе гэта работа – зямлю араць. Калі з ёю што здарыцца, ты ж сябе ўсё жыццё праклінаць будзеш, што ўзяла. Хочаш, я дам табе тварагу ці масла.

Вось так, разам з Лыскай, збудавалі хату, першымі ў Восах перасяліліся з зямлянкі. Хата была далёка не такая, як даваенная на сем вокнаў, але палічылі, што пакуль і трох вокнаў хопіць. Усё ж не зямлянка! У гэтай хаце і нарадзіўся сынок, які ўзгадаваўся Лысчыным малаком і які зараз распавядае вам гэтую гісторыю.

Маё маленства прайшло побач з Лыскай, хаця мне мала што помніцца з нашых з ёю стасункаў. Засталася ў памяці карцінка, калі я, маленькі, стаю на двары, абняўшы Лыску за пярэднюю нагу, а маці ходзіць побач і не турбуецца. Такі давер у яе быў да каровы.

Помню, як насіў ёй у хлеў траву, што маці накасіла за сядзібай (бацькі ўжо не было), і Лыска, перш чым узяцца за траву, абнюхвала мяне і ціха мыкала, як бы віталася. Ці, можа, прасіла прабачэння. Яна ж мела ўскоснае дачыненне да майго калецтва.

Неяк, калі я яшчэ ляжаў у пялюшках, маці пайшла даіць Лыску, а дзвюх суседскіх дзяўчынак папрасіла панаглядаць за хлапчанём. Яны пацёцёхалі са мной, я паўсміхаўся ім сваім бяззубым ротам, ну і ўсё. Ім стала сумна з малым. Паглядзелі, што ён закручаны ў пялюшкі дый маці хутка прыйдзе, і пабеглі на вуліцу, дзе весялей.

А малому захацелася за імі. Не дарма ж я ім паўсміхаўся, спадабаліся, значыць. Спакусілі і ўцяклі, жаночае семя. Я круціўся, крахтаў, круціўся і – неяк жа выкруціўся з тых пялюшак. Выкруціўся і папоўз па ложку. Я тады не ведаў, што такое "высока" і што – "нізка". Ложак урэшце скончыўся...

Калі маці вярнулася з даёнкай, малы ляжаў голы на падлозе і штомоцы крычаў. Рука і нага былі зламаныя. Шукаць урача не выпадала, урачы былі далёка, а рабіць нешта трэ было цяпер. Кансіліум з суседак вырашыў проста: скласці костачкі, замацаваўшы іх дашчэчкамі, у малога зрасцецца. Зраслося. Руку склалі добра, а костачкі нагі не зусім добра, так і застаўся навек кульгавым.

Маці потым сумна жартавала: "Рана за дзеўкамі бегаць пачаў".

Лыска не ведала пра сваё дачыненне да маёй кульгавасці, але калі жывёлы загадзя адчуваюць прыродныя катаклізмы, а значыць, адчуваюць болей, чым адчувае чалавек, дык мо і тут што адчувала.

Адзін эпізод урэзаўся ў памяць вельмі яскрава. На двары выкапалі неяк ямку, мабыць, які слуп збіраліся ўкапаць. Мне, чатырохгадоваму хлопчы-

ку, захацелася праверыць глыбіню той ямкі, і я скочыў у яе. Ямка была вузкая, для мяне цесная і на глыбіню якраз па мае плечы. Пакруціўшыся ў ямцы, я захацеў вылезці, але абаперціся не было аб што, а выціснуцца слабымі рукамі мне ніяк не ўдавалася. Колькі я тузаўся, крактаў, каб вылезці, але ніяк. Не хацелася турбаваць маці сваім крыкам, ведаў, што яна без справы не сядзіць, але пасля чарговай няўдалай тузаніны вымушаны быў крыкнуць:

– Мама!

Лыска ўважліва назірала за маімі высілкамі ў ямцы і, калі пачула мой крык, нахіліла галаву і пайшла ў мой бок, выставіўшы рогі. З ямкі яна здавалася нейкай аграмаднай. Я спалохаўся, што яна можа наступіць на мяне ці шчэ што зрабіць, і закрычаў яшчэ мацней. Лыска незадаволена матнула галавой і пакрыўджана адвярнулася. Прыйшла маці і дапамагла мне выбрацца з ямкі.

Гэта зараз, з вышыні свайго дарослага розуму, я магу патлумачыць паводзіны Лыскі. Можа, гэтае тлумачэнне выкліча ў каго іранічную ўсмешку, але вы смейцеся, а я ўпэўнены, што было менавіта так. Лыска, убачыўшы, што хлопчык тузаецца і ніяк не можа вылезці з ямкі, вырашыла дапамагчы яму. Яна нахіліла галаву і хацела, каб я ўхапіўся за яе рог, і яна выцягнула б мяне з ямкі. Так бы й было, каб я не спалохаўся і не закрычаў.

А наконт таго, што маё тлумачэнне падаецца неверагодным, то магу сказаць наступнае: ганарыстаму *homo sapiens* цяжка паверыць, што жывёла можа мець розум і выконваць разумныя дзеянні, але гэта праўда, што пацвярджаецца не толькі паводзінамі дэльфінаў, сабак і малпаў.

На шостым годзе жыцця я вымушаны быў развітацца і з хатай, і з вёскай, і з Лыскай, бо паклалі ў сухотны санаторый лячыцца. Ніхто тады не ведаў, што гэта зацягнецца на цэлых сем год. Калі вярнуўся, Лыскі ўжо не было. Была яе дачка, таксама з белай плямкай на лобе, толькі не круглай, а ў выглядзе няроўнай літары “П”. Дый наравістая была дачушка неўпадоб да маці, хаця малако давала такое ж тлустае. Назвалі ад літары “П” і за нораў Паненкай. Ды з Паненкай то ўжо іншая і менш цікавая гісторыя.

Хіба што застаўся фотаздымак маці з Паненкай. Злева – суседка Варка.

Яшчэ адзін эпізод з жыцця Лыскі мне распавялі пазней, па вяртанні з санаторыя.

Маці неяк пачала адчуваць трывожнасць Лыскі. Ноччу яна адчайна рыкала, а назаўтра раніцай давала вельмі мала малака. Вечарам жа была звычайная дойка. Некалькі разоў Анця падымалася ноччу, калі чула рыканне каровы, заходзіла ў хлеў, але нічога не заўважала, толькі Лыска была нібыта спуджаная, калацілася. Маці яе пагладжвала па шыі, супакойвала, але малака раніцай не было.

Тут вярнуўся Мікола з войска, мой брат, старэйшы за мяне на пятнаццаць год. Яму пашчасціла вайну перажыць, лес уратаваў, а меншыя сястрычкі загінулі. Ён стаў надзейнай апорай маці, пакуль у войска не забралі. Адслужыў тры гады і вярнуўся ўжо з правамі шафёра і спецыяльнасцю аўтаслесара. Пасля абдыманкаў-пацалункаў маці падзялілася турботай пра карову: як быццам бы нехта выдойвае яе ноччу. Мо якая нячыстая сіла.

Мікола ўзяў ліхтарык і пайшоў вечарам спаць на сенавал, у застаронак, які быў побач са стойлам Лыскі. Лёг, не распрануўшыся; ляжыць,

прыслухоўваецца. Нічога. Ён і задрамаў ужо. А тут Лыска голас падала. Ён схапіўся, уключыў ліхтарык і скочыў з сена ў Лысчына стойла. Бачыць, нейкі цень шугануў да сцяны і караскаецца ў дзірку пад ніжнім бервяном, толькі хвост шавеліцца. Мікола схапіў за той хвост, і тут яго абдало нечым смярдзючым з характэрным гукам. Ад нечаканасці ён выпусціў хвост, і хвост знік у дзірцы разам з яго гаспадаром.

Маці ён вырашыў не будзіць, знайшоў нейкі камень, каб закрыць дзірку, прыціснуўшы яго тоўстым паленам, адмыў руку ад таго "стрэлу" і пайшоў зноў на сенавал.

Дзірку назаўтра добра закрылі. Вечарам маці пайшла накапаць бульбы на вячэру і ўбачыла за сядзібай дохлага звера. Выявілася, што гэта стары воўк, настолькі стары, што ўжо й зубы павыпадалі. З голаду ён знайшоў такое выйсце: падкапаўся пад хлеў і па начах высмоктваў-выдойваў карову, як цяля, чым і жыў бы, калі б за хвост не схапілі. Ад нечаканкі ён аддупліўся тым "стрэлам", але ўсё ж выкараскаўся і змог прабегчы за сядзібу, дзе і паваліўся ад разрыву сэрца.

Больш ніхто Лыску па начах не турбаваў.

А наконт наяўнасці розуму ў жывёлы тут вось яшчэ прыклад: гэты воўк. Наўрад ці ён карміўся такім чынам, калі ў яго зубы былі. Тады былі іншыя здабыткі, іншая ежа. А як зубы страціў, задумаўся: як жыць далей, чым карміцца? Мо, успомніў сябе малым ваўчанём, як з братамі-сёстрамі смактаў вымя маці-ваўчыцы. Мо бачыў, як на пашы цяля смокча вымя каровы. Голад уключае розум. Падумаў (падумаў!) сваім воўчым розумам: чаму б і мне так не паспрабаваць?

Мабыць, не адзін хлеў аббегаў з розных бакоў (тады ж каровы былі ў кожнай гаспадарцы), пакуль не знайшоў прыгодны варыянт. І некалькі дзён праіснаваў на прыдуманым. Хіба тут не разумнае дзеянне?..

## Шаптуха

Неяк на вуліцы да мяне кінуўся чужы сабака, загаўкаў. Я спужаўся і пасля таго стаў заікацца. Маці думала, што гэта хутка пройдзе, але ішлі дні, а яе сын т-так і н-не вярт-таў нарм-мальную г-гаворку. Трэ было нешта рабіць. Але што? Якія тут лекі?

З даўніх часоў жыхары лясных вёсак лекавалі сябе самі. Як умелі. Наколькі пераймалі гэтае майстэрства ад дзядоў і бабуль, часцей ад бабуль. Умела гэта рабіць і Анціна маці, мая бабуля Каця, з якой я не пабачыўся, бо яна стала адной з ахвяр спаленай фашыстамі вёскі. Да яе ішлі з сваімі хваробамі людзі, і яна дапамагала каму травамі, каму шэптамі, мо яшчэ чым.

Магчыма, гэта некаму сапраўды дапамагала, бо добрая слава пра лекарку разносілася па суседніх вёсках і, не маючы вучоных дактароў, людзі ішлі да таго, хто хоць як мог дапамагчы. А не дапаможа, дык на тое воля Божая. Бо да доктара вучонага трэ было йсці ў Асіповічы ці Глуск, а гэта дваццаць пяць кіламетраў. Пакуль дойдзеш, дык загнешся, тады ўжо й лячэнне не спатрэбіцца.

Анця ад сваёй маці майстэрства лекавання травамі ды шэптамі не пераняла. Маладая была, здаровая; а калі самой ніякія лекі не патрэбныя, дык і іншым яны навошта. А што старыя стогнуць, дык старым прыйшла пара пастагнаць перад сыходам. А калі спахапілася, паразумнела, тады было позна: сышла Каця ў лепшы свет не сваёй воляй.

Час ад часу да Анці прыходзілі жанчыны з сваімі хваробамі. Маўляў, маці ж лячыла, дык і ты мо зможаш. Паспрабуй. Яна спрабавала. Брала жменьку солі, паводзіла ёю над галавой нябогі, шэпчучы тое, што ўрыўкамі падслухоўвала ў маці-лекаркі, ахінала нябогу крыжам, дзьмухала, потым расчыняла дзверы і праз верх дзвярэй выкідвала тую соль, з якой павінна быць выкінутая і хвароба.

Сама ставілася да свайго лякарства з посмехам, не верачы ў тое, што яно дапамагае. Але людзі йшлі, прасілі – і яна рабіла, як умела. Грошай ці іншай платы не брала. А калі хто прапаноўваў, сердавалася: якая я лекарка! Дапаможа, дык і добра, а не дапаможа, – шукайце каго іншага.

Я неяк, ужо нашмат пазней, спытаў:

– Што ты там шэпчаш?

Яна махнула рукой:

– Табе гэта не трэба.

І, калі прыходзілі па лекаванне, бачачы маю ўсмешлівую цікаўнасць, адпраўляла мяне з хаты.

А незадоўга да смерці сказала ціха, але пачуццёва:

– Сынок, ты хаця нікога не праклінай!

Сказана было так, што я адчуў яе палкае жаданне, каб гэтыя словы дайшлі да мяне.

– Чаму? – здзівіўся я з такой нечаканай парады.

– Таму што твае праклёны збывацца будуць.

На той час я ўжо не быў тым шалапутным камсамольцам, які пасмейваецца з усяго мінулага, успрыняў яе словы раздумліва. Магчыма, калі бабуля сапраўды валодала нейкімі незвычайнымі здольнасцямі, то гэтымі здольнасцямі ў пэўнай меры могуць валодаць яе нашчадкі. Перадаюцца ж здольнасці да музыкі, да матэматыкі, – чаму б і тут не быць такому? Не развіваеш дадзенае продкамі і Богам – яно так і застанецца ў зародкавай форме. Але ўсё ж неяк існуе ў падсвядомасці ці яшчэ дзе і, можа, так ці інакш праяўляцца. Такія праявы зрэдку я заўважаў у сабе. Напрыклад, я не паддаюся гіпнозу, што ўжо праверана.

Парада маці была ўспрынята з разуменнем. І хаця за доўгае жыццё час ад часу сустракаліся людзі з гнілой душой і подлымі ўчынкамі, у тым ліку ў мой бок ці ў бок блізкіх мне людзей, і вельмі хацелася пажадаць ім якой-небудзь злыбяды, пажадаць ад самых глыбінь душы (бо разумеў, што менавіта пра такія праклёны казала матуля, не проста пра словы “каб цябе чэрці затапталі”, а пра тое, што вырываецца з самога нутра тваёй істоты, узрушанай і разгневанай нахабствам подласці), але стрымліваўся. А тыя, да каго мог бы не стрымацца, ужо не сустрэнуцца мне, бо трымаюць адказ перад самім Гаспадаром свету.

Але ўсё тое было пазней.

А тут вось бяда з сынам. Спрабавала яму пашаптаць, але нячысцік на гэты раз быў мацнейшы, не дапамагло. Распытала, хто яшчэ лечыць такія хваробы. Нараілі нейкую жанчыну з іншай вёскі. Пайшла да яе, упрасіла.

І вось вечарам зайшла ў хату нейкая старая. Малога заіку паклалі на ложак, і старая, ахінуўшы сябе крыжам перад абразом, стала над ім, паглядзела ў вочы, правяла далонямі па галаве, па шчаках, па грудзях, жываце, потым узняла рукі і, крыху рухаючы імі, пачала нешта шаптаць. Слоў я не разбіраў, яе шэпт зліваўся ў суцэльнае “шу-шу-шу”. Доўжылася

гэта немалы час, я з цікавасцю назіраў і раптам адчуў, як нешта цяжкое павольна спаўзае з маіх грудзей. Мне захацелася глыбока ўздыхнуць, я заварушыўся. Старая ўважліва зірнула на мяне, зрабіла яшчэ колькі рухаў рукамі, нешта прашаптала і сама ўздыхнула, як бы выдыхнула.

Я сапраўды перастаў заікацца. Кажуць: як рукой зняло. Тут мо і насамрэч рукамі зняло.

Не ведаю, ці заплаціла маці што лекарцы. Мабыць, усё ж нечым аддзячыла; хутчэй, не грашыма, бо дзе тыя грошы ўзяць.

Пазней у школе настаўнікі нам тлумачылі, што ўсе гэтыя шэпты, варажба ды іншыя цёмныя справы – лухта, праўда толькі за навукай. Трэба вывучаць навукі, тады станеш разумным, засвоіш якую прафесію, патрэбную людзям, можа, нават прафесію доктара, і станеш лячыць людзей па навуцы. Настаўнікі ў мяне былі добрыя, я адчуваў, што яны гавораць шчыра, гавораць тое, у што хочуць верыць самі. І мне хацелася ім верыць. Але я ўспамінаў (нібыта зноў адчуваў), як нешта цяжкое павольна спаўзае з маіх грудзей і мне становіцца лёгка дыхаць...

## Яблынька

Неяк восенню завітаў да нас дзядзька Рыгор з Каменкі. Госць гэты для нашай сям'і быў вельмі прыемны і чаканы, бо менавіта дзядзька Рыгор зімой 1943 года, калі вёску спалілі фашысты, знайшоў у лесе дзевяцігадовага Міколку, які, ужо седзячы пад елкай, скалеў так, што не мог ні рухацца, ні голас падаць, чым уратаваў яго ад гібелі. Пра тое Мікола распавёў у сваіх успамінах.

Дзядзька прывёз яблыкаў са свайго саду, адзін даў мне. Яблык быў вялікі і вельмі прыгожы. Мне хацелася яго з'есці, але яшчэ больш хацелася любавацца ім. Я хадзіў па хаце і па двары, трымаючы яблык у руках, з адчуваннем шчаслівага ўладальніка дарагой чароўнай цацкі.

– Ды еш ты яго ўжо, – усміхнулася маці, калі я ў чарговы раз сеў ля вакна, з замілаваннем гледзячы на яблык.

Я, шкадуючы псаваць прыгажосць, усё ж насмеліўся адкусіць. Яблык да таго ж аказаўся і вельмі смачным. Таму хутка ад яго застаўся толькі агрызак з цёмнымі зярняткамі. У роце яшчэ быў прыемны смак, але прыгажосць знікла, і мне стала крыўдна на сябе, крыўдна да слёз.

Пабачыўшы маю роспач, маці параіла:

– А ты пасадзі зярнятка пад фікусам, з яго новая яблынька вырасце. І будуць табе такія ж яблыкі.

Парада мне спадабалася. Я выбраў самае вялікае зярнятка і панёс яго да драўлянай скрыні з фікусам, якая стаяла ў кутку хаты. Адкуль той фікус узяўся ў нас у пасляваенны час, не ведаю. Ён узняўся ўжо амаль да столі, і я, паглядаючы на яго, неяк пацікавіўся ў маці:

– А калі фікус дастане столі, як ён далей будзе расці?

Не помню, што мне адказала маці, а дрэва з шырокімі гладкімі лістамі цешыла нас сваёй пекнатой.

У зямлі, што напаўняла скрыню, я праціснуў пальцам ямку, паклаў туды зярнятка і закрыў зямлёй. Маці падала кубак з вадой паліць зярнятка.

Мінула восень, потым зіма. Я ўжо за дзіцячымі клопатамі забыў пра пасаджанае зярнятка. Неяк маці паклікала мяне:

– Ідзі, паглядзі. Там ля фікуса нейкі парастак. Гэта ж тваё зярнятка прарасло.

Я пабег да фікуса. Сапраўды, у тым месцы, дзе я ўваткнуў зярнятка, паказалася тоненькая сцяблінка.

– Вось, будзе твая яблынька. Толькі тут ёй цёмна. Давай перасадзім пад вакном.

Сцяблінку перанеслі на сонечнае месца, і яна пачала хутка расці. Праз два гады было ўжо прыкметнае дрэўца, і маці перасадзіла яблыньку ў сад побач з іншымі яблынямі.

На шостым годзе жыцця я захварэў, і летам мяне завезлі ў санаторый.

Яблынька таксама захварэла. У яе пачаліся нейкія наросты на ствале, з-за чаго ствол пакрывіўся, і яблынька стаяла як бы нахіленая, сумная. І не цвіла.

Калі маё лячэнне пачало даваць нейкі плён, чаго чакаць давялося аж сем гадоў, яблынька ўпершыню закрасавала. Яна ўжо абрасла галінкамі, за якімі крывы ствол не вельмі праглядваўся. А кветачкі зрабілі яе зусім прыгожай. Праўда, я таго не бачыў, пра тое мне распавядала маці, калі наведвала мяне ў санаторыі.

Летам мяне выпісалі з лячэбніцы, і я вярнуўся дадому. Дом стаў нейкі маленькі.

– Гэта не дом маленькі, – усміхнулася маці. – Гэта ты стаў ужо вялікім. Ідзі, падзівуйся на яблыньку.

Я пралез праз картаплянік, пастаяў побач з яблынькай, пакратаў яе шурпаты ствол. На ёй віселі чатыры яблыкі, відавочна яшчэ няспелыя.

Я стаў чакаць, калі яны паспеюць. Два ўпалі недаспелымі, яблынька скінула іх разам з чарвякамі. Калі заканчваўся жнівень і мне трэ было ехаць вучыцца ў школу ў суседняй вёсцы, я сарваў адзін яблык і з'еў. Яблык быў яшчэ недаспелы, цвёрды, і яго саладкавата-горкі смак мне не спадабаўся.

Маці патлумачыла, што гатунак позні і апошні яблык саспее толькі праз месяц. Я дачакаўся, калі яблык саспеў. Ён быў ужо салодкі, але не такі смачны, як той, што прывёз дзядзька Рыгор.

– Прывіць трэба, – раілі знаўцы.

А нехта дадаў:

– А то ж і сам застанешся непрывітым, без жонкі.

Але ні мне за школьнымі клопатамі далёка ад дому, ні матулі за паўсядзённымі турботамі ў калгасе і ў сваёй гаспадарцы яблынька была не ў галаве. Яна так і засталася непрывітай, выгадоўваючы позняй восенню па некалькі цвердаватых і гаркавых на смак яблычак. І я застаўся непрывітым, не стварыўшы сям'і.

Я не маю намеру звязваць хваробу яблынькі са сваёй хваробай, хаця старыя аднавяскоўцы такія высновы рабілі. Адна жанчына нават выказала меркаванне, што яблынька ўзяла на сябе частку маёй хваробы, чым дапамагла мне акрыяць. Калі і ёсць тут нейкая касмічная сувязь, то пранікнуць у гэтыя таямніцы звычайнаму чалавеку наўрад ці магчыма. Думаю, што хутчэй тут простае супадзенне. Хаця неяк прыемна думаць, што тыя жанчыны мелі рацыю...



Ганна Комар



...Разам маўчаць –
значыць, мецць давер,
не маючы словаў...

# Мора ўнутры

### АБ'ЯДНАЦЬ

Зрабі так:
прыедзь, пасадзі іх
перад сабой, абоіх,

скажы: “Мне трэба
з вамі пагаварыць”.
І пачынай плакаць.

Пра ўсё, чым яны
для цябе не сталі,
пра тое, што так ніколі
і не пасталелі,
як ад саміх сябе
не абаранілі,
як ім нельга верыць.

Што глядзець у вакно
цікавей, чым з імі,
і “я так падобна на вас”
гучыць невылечна,

і каб збегчы
ад гэтага кідаешся
ў абдымкі не тых,
як адкрываеш сама,
пра сябе,
прыняцце й любоў.

Як трывога ўстае
раней за цябе і напявае:

“Спі, дзетачка, спі,
тут вусцішна і небяспечна,
ты не зможаш сама,
не спрабуй паверыць,
знайдзі, да каго прысмактацца,
прывяжыся, прыліпні,
няхай ён нясе за цябе адказнасць,
а ты пабудзеш яшчэ
трошкі маленькай”.

Плач доўга, захлынаючыся,
не рабі паўз,
каб яны не паспявалі
з табой не згаджацца,
няхай не разумеюць,
задаюцца пытаннямі,
разгублена пераглядаюцца
і вінавата маўчаць.

Калі ва ўсіх тваіх перамог
не атрымалася,
можа хаця б віна
нарэшце іх аб’яднае.

### *ВОСТРАЕ*

Узіраешся ў ласкавы яе твар,
як яна кранае доўгія свае валасы,
як яна ўсміхаецца і размаўляе –
кожная рыска жывая.
І ты цвёрда вырашыў, што кахаеш.

А ў яе пад адзеннем
ад ключыц да шчыкалатак
словы, напісаныя
вострым прадметам,
нашкрэбаныя наспех,
рэльефныя, для чытання
з заплюшчанымі вачыма.

“татачка” “люблю”
“балюча” “супакойся”
“кладзіся спаць” “люблю”
“калі ласка” “цябе болей”
“мама” “татачка”
“татачка” “не бі”
“калені” “сям’я”
“збегчы” “цішыня”
“пакінь” “кінь”
“татачка” “татачка”
“харошы” “люблю”
“ненавіджу” “ненавіджу”
“ненавіджу” “ненавіджу”
“ненавіджу”

Надрапаныя іржавым
халодным прадметам.

І хоць ты цвёрда вырашыў
кахаць яе, шукаеш іншыя
гладкаскурыя целы,
пакідаеш на іх колеры –
сіні, чырвоны, жоўты,
колеры, што мяняюць
адценне і з часам
блякнуць, саступаючы
месца новым.

– А ў цябе самога,
што там?
– Ды так, дробязі,
выцятае рабро.

* * *

Гэта мора ўнутры
супакоіцца, калі я

раскажу, як лічыла
твае радзімкі
і складала з іх
новы Сусвет,

якія прывіды
падступаліся да цябе,
пакуль ты спаў,
як я аддала ім
ланцужкі свае ды пярсцёнкі
і нават чырвоныя туфлікі,

як я дыхала ледзь-ледзь
па іх сыходзе,
каб не разбудзіць цябе,
і мае лёгкія ператварыліся
ў асеннія лісцікі.

Гэта мора ўнутры
супакоіцца, калі я
раскажу, а ты
пачуеш мяне
скрозь сны.

## ЖОНКА МУСУЛЬМАНІНА

*Аміры Кабзар*

Ты плакаў толькі аднойчы,
калі я зламала твае акуляры,
а смяяўся разам са мной
усяго два разы,
я не памятаю, з чаго –
раптам стала так светла,
нібы мне падарылі сонца,
мне адной,
і яно маё.

Я плакала кожную трэцюю ноч
пасля тых трох хвілін без святла,
калі ты дазваляў мне зняць адзенне,
што хавала складкі на жываце,
іх магло б расправіць дзіця,
але да тваёй згоды заставалася
дзесяць кіло маёй вагі.

Я плакала праз дзень,
потым штодня, мне пякло,
калі яечня шкварчэла на патэльні,
калі гарачы чай выліваўся на рукі,
калі твая маці не верыла ніводнаму майму слову.

Душа галасіла, бы цётка з Цэнтральнага рынка
Касабланкі, што твой тавар самы лепшы.
Я не верыла ёй, але зноў і зноў яго набывала.

### *КЛЮЧЫ*

адна звязка – у маёй кішэні,
другая – ляжыць на стале.
а чаканне бразгоча...
прыслухоўваюся
да чужых вяртанняў –
пальцы слізгаюць,
намацваюць колца,
цяплейшае за пярсцёнак,
і металічны рот –
няроўныя зубы
клацаюць і ўгрызаюцца
у адсутнасць цябе.
калі б ты быў тут,
я б раззлавалася:
пятая раніцы!
і заснула б нарэшце
пад цокат чужых ключэй.

### *ПАМЯЦІ ТАНІ САПАЧ*

Дваццаць шостага ўсё растане ў апошні раз,
разальецца наканаванай і непазбежнай
адзінотай, і ўсе рашэнні даўно прыняты.

Але лёгка не будзе й цяпер, калі я
ў абдымкі вярнуся таго,
каго пакідала на час
і паспела забыць.

### *ПЕРАСОХЛАЕ...*

рака мая
корміць мноства

жывых істот,
ды не можа
спатоліць смагу
тваіх каранёў,
якія шукаюць
іншых крыніц –
слодычы іх свежай
вільгаці прагнуць
прожылкі, тканкі,
існасць твая,
і крыніцы,
адчуўшы сябе
жаданымі,
прабіваюцца там,
дзе іншыя дрэвы
іх не шукалі,
напаўняюць цябе
жыццём, цешацца
набрынялым тваім
плодам.
І побач з вамі
я – перасохлае горла.

* * *

Проста быць побач –
рэзаць пірог і маўчаць,
лагодныя драбкі цішы
выпускаць на стол,
ведаць, што вастрыня
нажа – не метафара,
а частка нашай
агульнай прасторы.

Рэзаць пірог
і маўчаць,
не перакрываць
дождж.
Дазволіць усім
удзельнікам сцэны
граць свае ролі.
Няхай застануцца
у свеце толькі
гэтая імітацыя
сонца і гэты нож.

І верш няхай зусім
не пра вас,
і кран цячэ,
і рэчы жывуць
уласным жыццём.
А вы паднясеце
да рота кавалкі
вільготнага пірага,
запоўніце рот
літарамі яго,
загаворыце мовай,
што аддае больш,
чым бярэ, –
гэта і ёсць любоў.

Разам маўчаць –
значыць, мець давер,
не маючы словаў.

* * *

Я і ёсць тая дзяўчынка
з сіндромам Даўна,
для якой ты – крыніца
неспатольнай блізасці,
безумоўнай бяспекі,
ежы, цяпла.

Мае вочы могуць
толькі цябе разглядзець
без акуляраў
з таўшчэзнымі шкельцамі.
Мае гарлавыя гукі
перакладзі ў вершы,
выдай іх за свае –
табе павераць.

Трымай мяне за руку
на эскалатарах,
не адпускай
у паўнюткіх аўтобусах.
Вострыя гукі,
зыркія пахі,
тлустыя погляды,
тлумныя целы
мяне пужаюць.

Застанемся дома.
Чытай мне ўголас.
Расчэсвай мне валасы.
Забудзься на вуліцу
з яе нерытмічным
дыханнем, з яе
апетытам,
яна забярэ цябе.

Абдымі –
такой адданай удзячнасці
не адчуеш у ніводнай
дарослай жанчыне.

### ТРЫ СНЫ

Выцягвае мяне на паверхню,
нібы я акунулася з галавой
і забыла дыхаць,
лупіць па шчоках:
прачынайся, распавядай!

А я чую яшчэ зубатае
тое гудзенне
ручной пілой каля вуха.

А я здымаю яшчэ з сябе
шматкі павуціны
з наліплымі мухамі,
лісцем і пылам,

і дождж лупцуе
мяне па шчоках.

Прыняць рашэнне,
прыняць рашэнне,
прыняць рашэнне.

Хтосьці са мною ёсць
і мог бы штурхнуць
у патрэбны бок,
і мы маглі б
прагнаць гэтых восаў,
пайсці іншай сцежкай,
а не праз дрэвы...

Павярнула дадому –
пастаяць пад пад’ездам.
Мёдам выманіла
за вакно восаў.
І толькі гэтае ліпкае
не магу з сябе зняць,
Заблыталася.

* * *

каханне
ўсмакталася ў поры
прасціны,
расфарбавала
яе чысціню
нашымі пахамі.
не засцілаю пасцель,
колеры выпарваюцца
і пакідаюць размытае
сонца пакоя –
я ўдыхаю яго
каторы дзень без цябе,
прыціскаюся
ўсёй вагой жывата
і грудзей, утыкаюся
каленямі, локцямі
ў плоскае ўлонне
кахання,
а болей нічога
мяне не трымае тут.

* * *

Гара і цень гары,

мой цень
і цень ад ценю –

так і іду праз лес,
баючыся ўсяго:
карчоў,
слізкіх вусякоў,
таго, як дрэвы
размаўляюць.

Нібыта гэты свет
заўжды круціўся
вакол мяне,
нібыта ён ніколі
і не жыў
жыццямі іншых.
Нібыта карані
пасярод сцежкі
тырчаць, адно
каб я праз іх упала
і падала ўсю дарогу,
нібыта мох на дрэвах
не расце,
каб мне не быць
арыенцірам.

Чаго яшчэ чакаць
ад ценю ценя,
што ідзе
па цёмным лесе.

### ЧУЦЬ

Калі ты са мной гаворыш,
я хацела б чуць
толькі тое,
што ты кажаш.

Не адзяваць яго
ў гарнітур
мамы і таты,
не афарбоўваць
дзяцінствам,
не аздабляць
досведам.

Не перагортваць
пасярэдзіне сказа,
не выключаць
на паўзе.

Не тыкаць
у соплі,
не зліваць
ва ўнітаз,

не зграбаць
у купу,
не паліць
над газам.

Не параязджаць
грузавіком.
Не цягнуць
мордай па асфальце.

Не здагадвацца,
не ўгадваць,
не ведаць.

Слухаць
і чуць толькі
тое, што
ты кажаш.

Павал Касцюкевіч



...цырк – гэта ўсё адразу.
І рэстаран, і кіно, і тэатр...

# Мяне вучыў ангельскай Лі Харві Освальд

*Два аповеды*

## Мой дзед вадзіў палюбоўніц у цырк

Мой дзед, Імануіл Веліказўскі, вадзіў палюбоўніц у цырк. Перад спатканнем ён загадзя купляў два квіткі. Прагуляўшыся па набярэжнай Свіслачы і расказаўшы фрашкі з багатай адвакацкай практыкі, дзед паціху накіроўваў шпацыр у бок парка культуры і адпачынку. Калі яны з палюбоўніцай праходзілі ў тунэлі пад мостам, што пад праспектам, або ля пернікавага дамка першага з'езда РСДРП, або поруч з помнікам Максіму Горкаму, які, седзячы на чыгуннай лаўцы, па-мужыцку закінуў нага за нагу, дзед казаў сваю прапанову – наведаць цырк. Палюбоўніца хіхікала, даставала памаду з торбачкі, мазала і так пунсовыя вусны, і пытала, чаму менавіта туды, а

не, скажам, у рэстаран? Дзед закочваў вочы і адказваў, бо ў цырку новая праграма: тыгры, афрыканскія сланы, дрэсіраваныя малпачкі і кітайскія акрабаты, а ў рэстаране – старое меню. Пры гэтым яго вочы загараліся дыяментавым бляскам, голас набываў аксамітную пераконлівасць. Яго апантанасць перадавалася жанчыне, і тая адказвала, от хай сабе, добра. Чаму, уласна кажучы, не?

І яны ішлі праз мост, каля старой электрастанцыі. Цераз нядошлы парчок выскоквалі на праспект. Прашываліся праз каланаду карынфскага ордэна на ганак шэрага будынка. Праз важкія дубовыя дзверы заходзілі ў фае, дзе пахла зверынай і марозівам.

Білецёркі ў блакітных мундзірах прапаноўвалі набыць каляровыя праграмкі, і дзед купляў адразу тры ды, з камічнай урачыстасцю ўстаўшы на калена, уручаў палюбоўніцы іх веерам так, нібыта гэта былі кветкі, якіх тут, вядома, не прадавалі. Палюбоўніца манерна ўсміхалася і казала: “Імануіл, я чакаю сапраўдных знакаў увагі”. Са столі звісала груваcткая ляпніна. Вакол гарэлі сотні свяцільняў і жырандоляў. Людзі, што прыйшлі на прадстаўленне, ўсміхаліся, ды іх усмешкі адбіваліся ў тысячы люстраў, ажно было цяжка вызначыць, дзе сапраўдная ўсмешка, а дзе яе адбітак. Пасля адведзін буфету натоўп каціўся ў вялізную залу. Аднекуль з гары ляцелі зыкі эстрадных мелодый, якія на адмысловым гаўбцы аглушальна граў цыркавы аркестр. Праз адчыненыя дзверы прыглядалася ўся зала – кавалак абабітай кумачом арэны і бясконцыя шэрагі малінавых крэслаў з белымі спінкамі, нібыта разяўленыя тыгрыныя пашчы з ікламі.

Чаму менавіта ў цырк, а не скажам, у рэстаран ці ў кінатэатр? Мама думае, можа быць, каб заблытаць сляды? Усе пяць жонак дзеда маглі апантана прачэсваць кінатэатры на праспекце: “Цэнтральны”, “Перамога” і “Кастрычнік”, або завітваць у кіназалу Дома прафсаюзаў, або ў Купалаўскі тэатр. Ці ў абураных пачуццях забягаць у рэстараны: “На ростанях”, “Батлейку” і, вядома, у “Бярозку”. У дадатак дзед прызначаў спатканне ў абедзены час і купляў білеты ў цырк выключна на дзённыя прадстаўленні, каб канчаткова ўвесці пераследніц у зман.

Я ж лічу, што дзед вадзіў палюбоўніц у цырк, бо цырк – гэта ўсё адразу. І рэстаран, і кіно, і тэатр.

Дзед браў усё найлепшае, што было ў гэтых трох установах. Усё роўна як у кіно, ён цалаваўся з палюбоўніцамі ў сутонні, краем вока назіраючы дзею: пасярод канатных суплётаў высока-высока ўверсе акрабаты легкадумна распараджаліся сваімі целамі. Або прыабдымаў жанчыну за плечы, калі фокуснікі ў строгіх касцюмах і ружовых чалмах нікеляванымі піламі кроілі сваіх паўаголеных партнёрак, а тыя ўсміхаліся, як бы заахвочваючы разню. І ўсё роўна як у тэатры – на канцы ўдалых нумароў дзед падымаўся са свайго месца і крычаў “біс!”, заводзячы ўсю залу і ўзбуджаючы партнёрку.

І ўсё роўна як у рэстаране, ён падоўгу засядаў за столікам буфета, дзе купляў самае далікатэснае. Бутэрброды з чырвонай рыбай або ікрой, аздобленыя скрылікам цытрынкі і лапкай кропу. Ім з палюбоўніцай выносілі чвэрць порцыі качкі ў журавінах, і пляшку шампану або сто пяцьдзясят брэндзі ў прыгожых, распаўнелых у крыжы, бакалах. Калі ж палюбоўніца заказвала толькі марозіва, дзед ускідваў правае брыво і падціскаў губы, так як ён рабіў падчас сваіх адвакацкіх выступаў у гарсудзе, міна, пасля якой пачнецца доўгая тырада, поўная неаспрэчных доказаў і праведнага гневу. Уражаная гэтай грымасай палюбоўніца перадумвала і заказвала па

поўнай праграме: бутэрброды, нарэзку, кактэйль-салаты і вішню на каньяку. Дзед, усё роўна як у рэстарацыі, трактаваў гасцінай, тры-пяць рублёў буфетчыцам, а таксама, калі спазняўся – гардэробшчыцам і білецёркам, якія ў суцэльнай цемры ліхтарыкамі паказвалі месцы. Трупе гасціны дзед не даваў. Але час ад часу па пошце дасылаў улюбёнаму дрэсіроўшчыку ці клоўну ў падарунак гадзіннік “Луч” або бурштынавыя запінкі.

Персанал цырка дзеда таксама прывячаў і выказваў павагу. Да дзеда падыходзілі, распраналі і ў абыход чаргі дапамагалі здаць вопратку ў гардэроб. Калі ён не здолеў купіць білеты на самыя выгодныя, як цыркавыя казалі – “лобныя месцы”, дык пад яго і яго спадарожніцу падладжваўся цэлы цырк. Ужо праз пару нумароў, убачыўшы сярод публікі дзеда, уся трупа, усё гэтае войска, складзенае з артыстаў, сланоў і дрэсіраваных малпаў, рабіла такую сабе невялічкую карэкціроўку. На круглай арэне ўсё прадстаўленне паварочвалася па восі на некалькі градусаў, каб стаць да дзеда і яго спадарожніцы тварам.

Клоўны і дрэсіраваныя малпы падчас сваіх выступаў падыходзілі да дзедавай спадарожніцы з букетамі кветак. Дзед падміргваў палюбоўніцы, маўляў, бачыш, вось як ты і прасіла, сапраўдныя кветкі. Клоўны ладзілі кранальныя розыгрышы. Але заўжды розыгрышы з палюбоўніцай не былі абразлівыя. Артысты ніколі не разыгрывалі палюбоўніцу такім чынам, каб зацягнуць яе на сцэну і там прымусіць нешта рабіць ці, скажам, абліць фальшывымі слязьмі.

Дзед перадаваў у аркестр скручаныя ў трубачку грошы і нататкі з назвай песні на замову і казаў са сваім жытомірскім акцэнтам (хоць ні разу ва Украіне не быў):

– Маэстро, хай бы товаріщ ілюзіоніст порежыть сваю памочніцу пад щось такэ з пахом стэпу і прысмаком бязмэжнасці. Будь ласка! – даставаў з кішэнькі пінжака белую хусцінку і ўзмахваў. І аркестр замест туша выцылінгваў гэтак любыя сэрцу дзеда песні “Ніч така місячна” ці “Тумбалалайку”.

У перабудовачныя часы, калі аркестр стаў нерэнтабельны, гаўбец пуставаў, музыку пачалі ставіць з магнітафона. Цяпер дзед вельмі перажываў. Падчас прадстаўлення безупынку соўгаўся на крэсле і паглядаў наверх, на гаўбец, на самую верхатуру, дзе калісь увіхаліся ў фраках музыкі. Яму рабілася ніякавата: не было спакою і дасканаласці. Пустата ці, можа быць, змены яго прыгняталі.

Аднойчы ў яго нарадзілася ідэя, і ён распавёў яе дырэктару. Пасля іхняй размовы аркестровы гаўбец пакрысе ажыў. Там паставілі тры столікі, і буфетчыцы, якія перакваліфікаваліся ў афіцыянтак, сталі падносіць дарагім кліентам закускі і нават гарачыя стравы. Туды адчынілі асобны ўваход, каб можна было незаўважна ад чужога вока баляваць. Атрымалася такая сабе ложа. На дзвярах ложы павесілі шыльду “Буфетная”, каб жаданым гасцям можна было патлумачыць у якія дзверы заходзіць, а ў непажаданых мінакоў пры выглядзе шыльды адразу ўспыхвала адмаўленне, маўляў, калі гэта буфет ці кафетэрый, дык чаму так проста не назваць, і значыцца, там схавалі нейкую ўбогую “Раздатачную” ці падсобку, таму туды ўвогуле не варта саваць нос.

З цягам часу высветлілася, што паесці і адначасова паглядзець з “Буфетнай” на цыркавое прадстаўленне нават сярод выбранай публікі хацеў шмат хто.

На гаўбец прыходзілі “новыя беларусы”. Яны раскідаліся грашыма, але ўзамен вымагалі немагчымага. Патрабавалі выпусціць на арэну тыграў разам з кітайскімі акрабаткамі, а дрэсіраваных катоў спароўваць з дрэсіраванымі сабачкамі. Загадвалі тут і цяпер загарнуць і перавезці цыркавы выступ з рыштункам і трупай да іх на загарадны катэдж.

“Думалі, што тут цырк на дроце”, – са смехам казала білецёрка Сіма.

Былі таксама бандыты-рэцыдывісты, якія часам не адрознівалі прадстаўлення ад рэальнасці. Аднойчы бандыт заўважыў гутаперчавую дзяўчынку, пайшоў на арэну і запрасіў яе проста з арэны, калі яна стаяла на галаве, а яе ногі былі запіхнутыя паміж рук. Іншым разам бандыты схапіліся за пісталеты і, пападаўшы пад стол, сталі адстрэльвацца ад лятучых кітайскіх акрабатаў. Акрабаты гойсалі пад скляпеннямі цырка з павязкамі на тварах, апранутыя ў касцюмы модных тады сярэднявечных разведчыкаў, японскіх ніндзя, і дзеля большага эфекту стралялі з пугачоў, абсыпаючы публіку канфеці. Але ж затуманеным каньяком і какаінам бандытам падалося, што гэта опер-група ў масках прыехала сюды іх арыштоўваць.

Прыходзілі на былы аркестровы гаўбец старыя цэхавікі, уладальнік падпольных фабрык па пашыве “фірм*ы*” – падробленых пад амерыканскія джынсаў і спартовых касцюмаў. Гэтыя старыя матэрыялісты паглядалі на ўсю гэтую раскошу і разумелі, што вось яна, вяршыня, адкуль толькі дарога ўніз. Жыццё спраўдзілася, і маеш бараду бога ў руках. Адчувалі, што вось зараз яны на самым піку мілаты. Яны гэтак доўга адбіваліся ад следчых обэхээсэс, праваахоўных органаў і зайздрасці суседзяў, так доўга ненавідзелі камуністаў пры ўладзе, так доўга, азіраючыся, пілі шампан па явачных барах. А цяпер, бач, – увесь цырк з усімі сланамі і дрэсіроўшчыкамі кленчыць перад імі.

Выгляд спраўджанай мроі цэхавікоў засмучаў. Іх вочы засланяла плеўка невымоўнае журбы. Зараз трэба або шукаць новую мару, або ганебна спусціцца долу, або памерці, або я не ведаю што... Яны сыходзілі ў антракт і больш ніколі не вярталіся.

На аркестравым гаўбцы сядзелі таксама маральна ўстойлівыя дыпламаты, але ў гэтай краіне ім усё муляла, – гэта быў звычайны для іх стан, і таму яны асабліва не турбаваліся.

Аднойчы на гаўбец да дзеда прыйшоў Саша Курылёнак, прынёс пакаштаваць сланяціны, а дакладней, вараны хобат слана. За дзедам быў замацаваны яго столік, бо ён “фактычна выратаваў цырк ад галечы”. Найвялікшы далікатэс, пяшчотнае мяса, якое дастаць вельмі цяжка, сказаў Саша, патомны прыбіральшчык вальераў. Саша прадаў за дзесяць рублёў тонкі, у пяцьдзясят грам кавалак. Яшчэ Саша Курылёнак прасіў нікому не казаць, бо гэта такі гонар. “Вялікі гонар”, патлумачыў ён, што яму, дзеду, як заўсёдніку даюць сланяціну, і яе ўжо зранку пакаштавалі ўсе супрацоўнікі цырка. Гэта страшны далікатэс і рытуальная для цыркавых еміна, а цяпер прыслалі ім знаёмыя дрэсіроўшчыкі з Афрыкі. А тут усё супала, казаў Саша Курылёнак.

Калі яны з палюбоўніцай выходзілі, дзед падміргнуў білецёркам і не вытрымаў. Прымаючы палітон, сказаў гардэробшчыцы Сіме, што такога смачнага слана ён даўно не каштаваў. Сіма дзіўна глянула на яго і паклікала дырэктара цырка, які якраз праходзіў побач. Дзеда з палюбоўніцай завялі ў кабінет, заклеены стракатымі афішамі мінулых гадоў і клоўнскімі маскамі.

Як высветлілася, рытуальнасць едзіва Саша Курылёнак, які быў патомным прыбіральшчыкам вальераў, прыдумаў. Напярэдадні ў цырку здарыўся патоп у падвальным памяшканні, дзе сядзелі звяры-гастралёры, заліло нейкія правады, і маладога слана забіла электрычнасцю.

Дарэчы, дадала Сіма, яго бацька, Баляслаў, што служыў за палякамі ў гарадзенскім заапарку, каб атрымаць каштоўны слановвы хобат, сам зладзіў катастрофу – правёў дробны гарадскі прыток Нёмана напрасткі ў будынак цырка. На шчасце, Другая сусветная вызваліла яго з турмы, а таксама паспрыяла ягонаму сыну, Сашу Курылёнку, бо інакш той бы папросту не нарадзіўся.

Дырэктар распавёў дзеду, што калі вада схлынула, дык чэхаславацкі дрэсіроўшчык, пан Новатны, убачыў абуральную карціну – слон, забіты электрычнасцю, ляжыць, а ў яго адсутнічае хобат. Кроў амаль уся змытая з вадой, і таму на месцы зрэзу блішчэла шэрая плеўка.

Пачуўшы гэтую навіну, палюбоўніца неяк сшарэла, абаперлася на спінку крэсла, і яе стала ванітаваць проста на макет цыркавой залы з пап'е-машэ. Потым кволым голасам папрасіла адвесці яе дадому, але дырэктар цырка, трохі скрывіўшыся, выклікаў прыбіральшчыцу, сказаў, апусціўшы вочы, "Імануіл Якаўлевіч, мне непрыемна, але трэба дачакацца міліцыі". Бо смерць слана крымінальнае злачынства, такое ж амаль, як смерць чалавека, пагатоў беларускаму ўраду давядзецца плаціць іншаземнаму цырку такія грошы, што ніводны чалавек столькі не каштуе, бо слон карміў Чэхію і Славакію разам, а нашаму цырку не разлічыцца, мусіць, да наступнай пяцігодкі, але ён зробіць усё магчымае, каб дзеда адпусцілі як мага раней, бо ён з чароўнай спадарожніцай, вядома, па-за падазрэннем.

Дзеда з палюбоўніцай сапраўды амаль што адразу вызвалілі. Бо Сашу Курылёнка злавілі ўжо праз лічаныя хвіліны на Камароўцы, калі ён стаяў на гандлёвых шэрагах, дзе не трэба рэгістраваць сваю прадукцыю, і таму там значна танней, бо адміністрацыя не нясе адказнасці за прададзены тавар, і паціху гандляваў сланяцінай. Саша паспеў пазбыцца амаль усяго хобата і нават атрымаў адну замову на будучыню. Супрацоўнік афрыканскага гандальпрадстаўніцтва заказаў у Лёшы Курылёнка мяса антылопы, а Саша Курылёнак сваім панібрацкім тонам запэўніў, канечне, абавязкова будзе вам пару дзясяткаў кілаграмаў адборнай антылапяціны, прыходзьце ў наступны чацвер.

Дырэктар паведаміў следчым, што дзед – ахвяра злачынства, але следчы запярэчыў, што гэта яшчэ трэба праверыць, можа, наадварот, – натхняльнік і верхавод. Дырэктар сышоў разам з міліцыянтамі, каб асведчыць месца крадзяжу. Саша Курылёнак і дзед засталіся ў дырэктарскім кабінеце. Тады Саша Курылёнак стаў перад дзедам на калені, пачаў упрошваць быць яго адвакатам. Справу дзед узяў, ён быў добрым чалавекам, і да таго ж быў адвакатам, і сама наяўнасць такіх абвінавачванняў магла паставіць крыж на яго кар'еры юрысконсульта прадпрыемстваў.

Праз месяц быў суд, на якім дзед бліскуча даказаў невінаватасць Сашы Курылёнка. Ужыўшы ўсю сваю красамоўнасць і спрыт, а таксама фірмовую міміку – драматычна прыўзнятае брыво і тонкія губы. Давёў, што яго падапечны быў непрытомны – усё гэта наступствы вайны, падчас якой Сашу Курылёнка зусім малым хлопцам немцы трымалі пад Баранавічамі ў лагеры для перамешчаных асобаў, і ў таго на лютым марозе пашкодзілася галава, што, уласна кажучы, было праўдай. Дзед дамогся ад суда Перша-

майскага раёна г. Мінска, каб Сашу выправілі не на “хімію”, а перавялі дзеля лекавання ў Масюкоўшчыну на загарадны стацыянар, калі ўвесь тыдзень ты сядзіш у псіхлякарні, а на вечар і выхадныя ідзеш дадому.

Потым, паводле чутак білецёрак, у лякарні Саша Курылёнак ахмурыў медсястру, і ў яе нарадзіўся чароўны хлопчык, з якім парадзіха вярнулася адна да мамы ў Магілёў. Таму трэба меркаваць, што і пры новай уладзе слаўная дынастыя сланагубцаў Курылёнкаў не перапыніцца, бо ў Магілёве за часамі незалежнасці якраз адчыніліся заапарк і цырк-шапіто.

## Мяне вучыў ангельскай Лі Харві Освальд

У пачатку васьмідзясятых, за Андропавым, сталі ладзіць аблавы на дармаедаў у месцах культурнага адпачынку. На дзённыя прадстаўленні ў цырк пачалі прыходзіць міліцыянты ды іх памочнікі. Дружыннікі, людзі з чырвонымі павязкамі на рукавах, якія патрабавалі дакументы і запісвалі ўсіх прагульшчыкаў у непрыемныя спісы.

У антракце прадстаўлення мой дзед, Імануіл Велікоўскі, згледзеўшы дружыннікаў, перапалохаўся. Перапалохаўся, ясная рэч, не за сябе, бо ён быў юрысконсультам на прадпрыемстве, а ў іх ненармаваны графік і ніхто яму нічога не зробіць, а за палюбоўніцу, якая працавала ў нейкім картаграфічным інстытуце і якую праз гэтае няўрочнае сутыкненне з дружыннікамі чакалі ўсякія прыкрасці і можа нават казённы дом і крыжовая дарога. Калі дзед хваляваўся за іншых, – у процівагу ад выпадкаў, калі ён палохаўся за сваю рэпутацыю (а ў судзе ён хваляваўся за яе заўжды), – дык яму займала мову. Ён рабіўся чырвоным, як рак, намагаўся нешта вымавіць, але словы захрасалі ў горле.

І вось цяпер, седзячы ў зале, дзед таксама не змог паўстаць перад дружыннікамі вымоўным і гаваркім. Хапаючы паветра ротам, выглядаў жалю вартым. Яго тагачасная палюбоўніца, жанчына ад прыроды маўклівая, аціхла зусім. Дружыннік перапытаў, дык чаму вы не працы?

– Яны ж падсадныя! – адказала за дзеда білецёрка Сіма. – Ну, падсадныя, артысты, якія ўдзельнічаюць у фокусах. Іх выклікаюць на сцэну, ці абліваюць вадой. Яны нашыя, цыркавыя. Брат і сястра.

– А чаго маўчаць? – не адставаў дружыннік.

– А іх у дзяцінстве тыгр напалохаў, – як нічога ніякага адказала Сіма. – Вырваўся з клеткі і прабраўся ў жылы адсек цыркавой трупы. Тыгры задралі маму з таткам у іх на вачах, і з таго часу яны маўчаць.

– Бачыце? – сказала Сіма яшчэ. – Пастаянна трымаюцца за рукі.

Дружыннікі з разуменнем хітнулі. Бутэрброты з чырвонай ікрой, што стаялі перад дзедам і палюбоўніцай, а таксама шклянкі з шампанам на мініяцюрным падносе, якія дружыннікі палічылі за ліманад, ды ўвіханні персанала перад гэтай парачкай добра ўпісаліся ў пададзеную Сімай карціну.

Але Сіме гэтага падалося мала, і яна дадала, што зараз вывядуць на арэну звяроў, і таму яна не раіла б таварышам дружыннікам стаяць вось так, перад крэсламі, спінамі да арэны.

Дружыннікі хуценька сышлі ў фае – пытацца пра дакументы ў іншых прагульшчыкаў. Толькі ля выхада да аднаго задуранага дружынніка дайшла вялікая розніца ва ўзросце паміж дзедам і палюбоўніцай – гадоў трыццаць – таму распавед пра напалоханых брата і сястру разляцеўся

ўдруз. Дружыннікі вярнуліся, але дзед з палюбоўніцай ужо далі драла праз службовы выхад.

Смеючыся, дзед з палюбоўніцай беглі праз гардэробы, сярод шэрагаў футраў і аблавушак, праз калідор, прапахлы дрэсіраванымі бабрамі і курыцамі. Цалаваліся і весела перагукваліся, паўз вальеры, дзе ўстрывожылі тыгра, сына таго самага, абылганага Сімай, самца, які і так быў устрывожаны смачнымі пахамі з гардэроба ўсіх гэтых трусікаў, лісаў і фарбаваных коцікаў, якія звісалі з вешакоў. Урэшце праз пажарны выхад яны выскачылі на бераг Свіслачы, якая на павароце перад мастом пенілася і клекатала, цешачыся сваім хуткімі ўцёкамі з Менску.

У маёй мамы з дзедам таксама вялікая розніца ва ўзросце – у дваццаць пяць гадоў. Дзед пазнаёміўся з мамай у той год, калі кіеўская акрабатка, забыўшы прычапіць страхоўку, сарвалася са скляпення цырка і разбілася аб арэну, і прадстаўленне адмянілі, а тагачасная палюбоўніца так расчулілася, што адразу з’ехала дадому. Дзед без мэты і спадарожніцы гуляў па праспекце і зайшоў у домік першага з’езда РСДРП на экскурсію. Там яны і пазнаёміліся. Мама працавала ў тым доміку экскурсаводкай.

Музей у цэнтры горада, усе яго называюць “домік эрэсдээрпэ”. Хаця сказаць слова “эрэсдээрпэ” не так проста, але менчукі неяк прызвычаіліся. Гэтаксама як прызвычаіліся ў нас у пад’ездзе клікаць нашу старую суседку Драздраперма, што з’яўляецца скаротам ад “Да здравствует первое мая!” і яе сапраўдным імем.

Потым у іх нарадзіўся я. У мамы не было ніякіх ілюзій стасоўна дзеда, яна цудоўна ведала яго натуру і яго захапленні жанчынамі, таму не зарэгістравала шлюбу, бо гэта было бессэнсоўна, і выхоўвала мяне адна. Але калі мне было пяць гадоў, дзед прыйшоў і сказаў, “я твой бацька па генах, але прыемней і зручней для нас абаіх, каб я быў дзедам, бо бацька любіць і чубіць, а дзед толькі любіць”. Пагатоў у яго, дадаў ён, усе атрыбуты дзеда: ён стары і з намі не жыве. Мы з мамай пагадзіліся.

Гэтак Імануіл Велікоўскі стаў мне не толькі бацькам, але і дзедам, як і я яму – сынам, але таксама ўнукам. Дзед аказаўся добрым бацькам, і калі ў мяне ўжо пачаліся шумы ў галаве праз менінгіт, нават сам вазіў мяне ў Маскву на абследванне. Праўда, падчас візіту ў маскоўскіх лекараў ён не мог нічога вымавіць, – так ён за мяне хваляваўся, – таму лекарам даводзілася ўсё пытаць пра скаргі непасрэдна ў мяне. Гэтая непасрэднасць мне спадабалася. Бо гісторыі хваробы – усё роўна гісторыі. А я люблю іх распавядаць.

Праз менінгіт я не змог вучыцца ў школе. Было кепска з датамі, лічбамі ды імёнамі. Затое ў доміку РСДРП я навучыўся першарадна распавядаць гісторыі. Таму ў мяне няблага ішлі пераказы і замежныя мовы. Бо што такое чужая мова, як не шмат-шмат чужых гісторый?

У доміку РСДРП я правёў усё дзяцінства і юнацтва. Маімі цацкамі былі чайнік першага камуніста і качарга з дарчым надпісам, якую падарыў музею Фідэль Кастра, “каб падтрымліваць пажар сусветнай рэвалюцыі”. Там я і застаўся працаваць “экскурсаводам-стажорам”.

Тамсама я быў, калі ў домік прыехала жонка амерыканскага прэзідэнта. Пакуль наш прэм’ер-міністр з амерыканскім прзідэнтам ускладалі кветкі побач на Плошчы Перамогі, дык наш першы беларускі прэзідэнт, якога ўсе называлі “спадар Станіслаў Станіслававіч”, павёў жонку амерыканскага прэзідэнта ў домік эрэсдээрпэ.

За два тыдні да прыезду жонкі амерыканскага прэзідэнта ў домік эрэсдээрпэ прыехалі людзі ў цывільным, і жанчына з дырэкцыі музея сказала пра мяне: ён жа непаўнавартасны, толькі гляньце, але Жанна Канстанцінаўна, самая старая экскурсаводка Менска, запярэчыла, не, вартасны, бо кожная сікуха тут прыходзіць і сыходзіць праз два месяцы, пацокае сваімі абцасікамі і збяжыць, цьху, верціхвосткі, а ў яго з мінусаў толькі тое, што стаіць на ўліку ў менінгіт-дыспансеры. Ён, можа, трохі марудны і трохі дзівакаваты, але ўжо пяць гадоў працуе на адным месцы, афіцыйна аформлены, і ніхто нічога кепскага не сказаў, толькі добрае, нават пішуць ў кнігу падзякі яму, бо ён спакойны і кантактны, сам можа праводзіць экскурсіі, калі верціхвосткі адпачываюць на сваіх дэкрэтах і пазашлюбных абортах.

Увогуле мне тая гутарка не спадабалася. Людзі ў цывільным глядзелі на мяне, як на Старажоўскім рынку глядзяць на шчанюка, па знешнім выглядзе спрабуючы даведацца, ці не сікае ён на дыван. Нібыта размова не пра мяне ішла, а пра нейкую васкавую скульптуру, якая імітуе першых камуністаў.

Але жанчынка з дырэкцыі разгулялася і цвердзіла, што ўсё тут – кумаўство і зямляцтва, бо мая мама тут працавала, а Жанна Канстанцінаўна жыла ў нашым доме, у суседнім пад'ездзе. Людзі ў цывільным сказалі, што абавязкова разбяруцца, і сышлі.

Але, нягледзячы на абгаворы, я быў тут і вёў экскурсію, калі жонка амерыканскага прэзідэнта прыйшла глянуць, дзе адбыўся першы з'езд партыі. У прыемнай дымчатай сіняй сукні і з вялікай брошкай на грудзях. Тым часам першы беларускі прэзідэнт, спадар Станіслаў Станіслававіч, які быў ужо ў фраку, бо ў іх з амерыканскім калегам прызначана ўрачыстая вячэра ў Доме дружбы народаў на Захарава, паліў паблізу на заднім дворыку музея.

Яны не вельмі ладзілі, спадар Станіслаў Станіслававіч і спадар прэм'ер-міністр, і таму вазілі амерыканскага прэзідэнта па чарзе. Спачатку першы – у Курапаты ўскласці кветкі ахвярам сталінскіх рэпрэсій, і потым другі – да помніка Перамогі, ускласці кветкі фашысцкім ахвярам і савецкім ваярам.

Дык вось, жонка амерыканскага прэзідэнта зайшла ў дамок эрэсдээрпэ і з цікаўнасцю ўсё разглядала. Ад яе духмяна прыемна пахла, і я ціхенька запытаў Жанну Канстанцінаўну, што гэта за парфума. Тая павяла ноздрамі і аўтарытэтна зазначыла: "Дарагая". На ганку, дзе калісь віселі два кумачовыя сцягі, цяпер матляліся амерыканскі і наш, бела-чырвона-белы сцяг. І жонка амерыканскага прэзідэнта праз перакладчыка сказала, што яе дзед быў камуністам, ну, не тое што камуністам, але спачуваў і трымаўся ідэі, што рабочыя заслугоўваюць большага. І што для яго, калі б ён быў жывы, вядома, гэта пэўна стала не раўнуючы як пабываць у Віфлееме, хаця, канечне, камуністы зрабілі шмат кепскага, але іх царства працягвалася не так доўга, як хрысціянскае. Я хацеў сказаць, што любы чалавек заслугоўвае большага. І хацеў дадаць, што хоць камуністы зрабілі столькі кепскага, аднак пачатак кепскай, але векапомнай рэчы ўсё роўна хвалюе і прыцягвае, ды стрымаўся, бо размаўляць, пакуль цябе не прадставілі, – нявыхаванасць.

Жонка амерыканскага прэзідэнта аглядала стол, пры якім сядзелі васковыя пудзілы двух таварышаў, удзельнікаў з'езда. У іх былі наіўныя позіркі людзей, членаў малюпасенькай партыі на некалькі дзясяткаў сяброў, якія нікога не яшчэ не расстралялі і яшчэ не ведаюць, што іх партыя захопіць усю Расію, Азію і Кітай.

І тады жонка амерыканскага прэзідэнта запыталася, ці дакладна за гэтым сталом ўсё адбывалася, і Жанна Канстанцінаўна, бліснуўшы акулярамі, дыпламатычна сказала, дакладнага месца няма, а жонка прэзідэнта сказала, што так нельга, трэба вызначыць дакладнае месца, дзе ўсё і адбылося. Тады Жанна Канстанцінаўна не вытрымала і сказала, што домік эрээсдээрпэ не аўтэнтычны, бо сапраўдны спалілі фашысты, ды і месца іншае, бо рэчышча Нямігі не дазволіла паставіць яго на гістарычным месцы, а жонка амерыканскага прэзідэнта сказала, гэта няважна, галоўнае – заслупіць кропку, як тое зрабіла са святымі месцамі маці імператара Канстанціна, каралева Алена, у Ерусаліме, бо ўсё роўна першы з'езд адбыўся недзе паблізу, і калі людзі ходзяць сюды, то можна лічыць, што гэта тут.

Тут Жанна Канстанцінаваўна паглядзела на мяне. Яна адчула, што размова робіцца складанай і закранае сур'ёзныя тэмы, а яе запасу словаў не хапае, а праз перакладчыка яна інтымныя эскурсійныя звесткі перадаваць не хацела. Тады яна прадставіла мяне, і я стаў адказваць па-ангельску.

Жонка прэзідэнта спытала, хто сюды прыязджаў з важных персон. Я адказаў, што тут былі Эрых Хонэкер, Фідэль Кастра і Войцех Ярузэльскі. І гэта калі не лічыць савецкіх генсекаў, якія былі тут усе пагалоўна, акрамя Сталіна.

Тады ў гутарку ўмяшаўся спадар Станіслаў Станіслававіч, які ўжо пакурыў і вярнуўся, і сказаў, што вучыў у суседнім доме Лі Харві Освальда, забойцу Джона Кенэдзі, расейскай мове. Жонка прэзідэнта сказала, як цікава, такое супадзенне.

І я дадаў, што паколькі тут паблізу жыў Лі Харві Освальд, дык існуе версія, што Фідэль Кастра прыязджаў у Мінск і быў у гэтым раёне, дык заадно навучыў Лі Освальда стральбе з вінтоўкі. Але ў канцы дадаў, што гэта толькі прыгожая казка, бо насамрэч Фідэль тут быў гадоў на дзесяць пазней за Освальда, у пачатку сямідзясятых, і сустрэцца яны не маглі аніяк.

Тут усе прысутныя ўсміхнуліся, а жонка амерыканскага прэзідэнта сказала, што гэта цікавая версія, і што нам варта расказваць пра гэтую сустрэчу, і ніколі не варта ўдакладняць пра разбежку ў гадах. У цырку ж фокуснік, які пілуе сваю памочніцу, не паказвае свае хітрыкі, – сказала яна, – бо гэта непатрэбныя дэталі. Бо праз сто гадоў ніхто пра гэтую прыкрую разбежку не ўзгадае. “А пачатак кепскай, але векапомнай рэчы хвалюе і прыцягвае”, – дадала яна.

Пры слове “цырк” я схамянуўся і прыгадаў сваё жыццё. Ніякіх хітрыкаў, сказаў я, усё праўда. Вось мяне дакладна вучыў ангельскай мове Лі Харві Освальд.

Жонка амерыканскага прэзідэнта сказала, што гэта мусіць, цікавая гісторыя, і папрасіла мяне яе распавесці.

Я распавёў. У пачатку 80-х, калі мы вывучалі ангельскую на першых платных курсах у ін'язе, у класах стаялі бабінныя магнітафоны з навушнікамі. І вось аднойчы наш выкладчык – цяпер, дарэчы, сябар БНФ, гэта партыя, якая цяпер у фаворы, патлумачыў ёй я, Дзяніс Антонавіч, якога мы, юныя падшыванцы, абсалютна незаслужана абзывалі за вочы Пяніс Гандонавіч – падышоў да нас падчас слухання ангельскага тэксту і спытаў мімаходзь, а ведаеце, хто тэкст начытвае? І амаль без паўзы дадаў, гэта Освальд. Хто такі Освальд? – спыталі мы з маім аднакласнікам Андрэем Кузьменкам. “Не ведаеце? Забойца прэзідэнта Кенэдзі!”

Освальд жыў у Мінску і быў ці не адзіным, хто начытаў на стужку нам тады шмат матэрыялу. Выявілася, што Лі Харві Освальд быў у 1962 вельмі папулярны. Сярод жанчын, мужчын, агентаў КДБ. І, відаць, падчас візіту амерыканца і прыпахалі як рэдкага ў нашых краях носьбіта ангельскай мовы, начытаць некалькі топікаў, як тады было прынята – пра Лондан і пра Мінск.

І я на памяць прадэкламаваў радкі з топіка, надыктаванага забойцам амерыканскага прэзідэнта, пра тое, што “Мінск із зэ кэпітал оф Беларашн Соўет Сашыялістык Рэпаблік, ітс палітыкал, эканомікал энд калчэрал сэнтэр”.

Тады жонка амерыканскага прэзідэнта спытала, які быў голас у Лі Освальда на запісе, а я адказаў, што голас у Освальда быў глухі і пацёрты, як і належыць чалавеку з іншага свету.

Потым яна сказала, як цікава, нават неверагодна, і пляснула ў далоні, і дадала, што напэўна сапраўды ўсё для яе мужа вельмі добра, што ёсць разбежка ў гадах, у сэнсе, што амерыканскі прэзідэнт адведвае Беларусь значна пазней за забойцу прэзідэнтаў. Я пераклаў гэта, і ўсе засмяяліся.

Потым спадар Станіслаў Станіслававіч прапанаваў жонцы прэзідэнта сфатаграфавацца ля ўвахода ў музей, але тая адмовілася, бо ў Штатах у іх і так праблемы з прэсай, а калі яе здымуць у дамку, дзе нарадзілася камуністычная партыя, дык праблем не абярэшся, яны яшчэ зарэтушуюць амерыканскі і беларускі сцягі ды прылепяць кумач. З той жа нагоды яна адмовілася і распісвацца ў кнізе гасцей, таму маю гісторыю пацвердзіць можа спадар Станіслаў Станіслававіч і людзі ў цывільным, бо Жанна Канстанцінаўна памёрла праз пяць гадоў пасля таго візіту.

Тут тады я выпаліў, спадарыня жонка прэзідэнта, а вы ж можаце зарэтушаваць і будынак. Але зразумеў, што ляпнуў абы што, але яна падышла да мяне і дакранулася да пляча, і сказала, ты мне падабаешся, хадзем з намі на ўрачысты абед, хоць ты не ў фраку.

І мы паехалі на Вайсковы завулак, хаця можна было прайсці пехам якія пяць хвілін, але я ехаў у шыкоўнай машыне з людзьмі ў цывільным, якія толькі тыдзень назад глядзелі на мяне як на васковую фігуру, а цяпер паважліва пасадзілі паміж сабой і па дарозе нават пачаставалі цыгарэтай, хоць на мне не было фрака.

На Вайсковым завулку быў палац, і вялікая зала, і белыя калоны, і гарэла тысяча свяцільняў і жырандоляў, у якіх адбіваліся сляпуча-белыя сценкі, і ўсмешкі лёкаяў і кельнераў у сурдутах. Праз тры гады ў гэтых самых сценах у апошнюю ноч для беларускай дэмакратыі таксама будзе гарэць тысяча люстраў. Пры іх святле парламент будзе спрабаваць дамовіцца са спадаром прэзідэнтам, які не захоча, каб яго называлі спадаром, а толькі прэзідэнтам, але ж прэзідэнтам з вялікай літары “П”.

Але гэта адбудзецца потым. А цяпер, у самы апагей беларускай дэмакратыі, пасярод залы стаяў доўгі-доўгі стол з разнастайнымі ласункамі. Я вельмі хваляваўся, што мяне пасадзяць з жонкай амерыканскага прэзідэнта і давядзецца правільна трымаць відэлец і нож, але мяне з перакладчыкамі запраторылі далёка ад спадароў амерыканскага прэзідэнта, прэм’ер-міністра і спадара Станіслава Станіслававіча, якія, як усе ведалі, не вельмі ладзілі, але тут, на людзях, усміхаліся і пілі за здароўе адзін аднаго, а таксама за паслоў іншых краін.

Перакладчык, які сядзеў побач, распавядаў, што ў нас большасць зам-

каў не захаваліся, бо іх рабілі з дрэва. І што не варта займацца самабічаваннем – мы не вінаваты, усе народы будуюць з таго, што пад рукой, і хіба мы вінаваты, што пад рукой у нас дрэва, а не камень? І што ўвогуле за ўсю нашую гісторыю мы практычна ні ў чым не былі вінаватыя, усе злачынствы на нашай зямлі адбываліся без нашага ўдзелу, калі тут раз-пораз барукаліся вялікія і жахлівыя монстры. Нават забойца прэзідэнтаў, менчук Лі Харві Освальд, быў не зусім наш, а прысланы да нас памылкова.

І я пагадзіўся, што ў нас нават лепш, і таксама цікава, што ў нас было не горш за Берлін ці Парыж, бо аднойчы на Камароўцы – няхай сабе толькі паўгадзіны, – але прадаваўся кавалак маладога слана, а ў планах у камароўскіх гандляроў ёсць антылапяціна.

Перакладчык падтакнуў і распавёў, што ўчора яны з амерыканцамі ездзілі падпісваць дамову аб адмове Беларусі ад ядзернай зброі. Ездзілі на былую вайсковую базу, каб запэўніцца, што яе сапраўды знішчаюць, і што калі ўсю дэлегацыю запрасілі ў сталоўку на ўрачысты абед, дык амерыканскі генерал, які ішоў па былой савецкай базе, сказаў: “Я лепей прайду праз вунь тую алейку, я ж тут усё ведаю, бо мы столькі гадоў сачылі за вамі са спадарожніка і ўсё бачылі”.

Усе, хто сядзеў побач, засмяяліся. І перакладчык дадаў, няма чаго шкадаваць, што мы адмаўляемся ад ракет, бомбаў, якія могуць разнесці іх амерыканскія гарады, – за так, за “дзякуй”. Бо гэта надзвычай прыгожа – аддаць самае каштоўнае колішняму ворагу. Бо пасля стагоддзяў нянавісці і адчаю прыспеў час усім адкінуць варожасць, дараваць, і цяпер самая пара піць шампан.



Таццяна Барысюк



...Мне самота – як панцыр, самота – як лёс.
Гэты шлях мне вяршыць ад зямлі да нябёс...

# Віртуальнае каханне

– Да чаго з чалавечага жыцця падобная віртуальная рэальнасць?
– Да снабачанняў.
– Правільна.

*(Дыялог паміж выкладчыкам і аўтаркай падчас здачы экзамена кандыдацкага мінімуму па інфармацыйных тэхналогіях.)*

## КАЛЯДНЫ СУМ

Я пішу свой калядны дар – верш.
А натхнення – няма і не будзе.
Адчуваю падманным давер
да здзяйснення фантазій аб цудзе.

Я прачнуся бязрадасным днём
без амбіцый да ног зоры кінуць.
А каханы знікае са сном,
бо ён сам для сябе – сэнс адзіны.

А я жыць не магу і не жыць!
Божы клопат сыдзе паратункам.
А сляза ледзяная дрыжыць,
студзень сэрца снягамі ахутаў.

Будзе дзень – будзе мройлівы шанц
здзейсніць так, што дабро пераважыць.
Зноў у бой – без прываблівых зман,
што каханне і шчасце – дасяжныя...

* * *

Кадр уявіла: бачу карты
пра тое, як, калі памру, –
тады адкіну, што нявартa
і буду дзейсніць спраў гару.

Без веды гэтае сакральнай
размыты час, уроссып планы.
Здаецца, вечнасць, ты вітальна,
ды гэта сталасці падманы.

А смерць пільнуе зноў ахвяру.
А час ласо на ногі кіне.
Іду. Бягу. Працую. Мару.
І продкаў шчыт бароніць спіну*.

## ***РАМАНС***

У паралельных сусветах
сэрцы сінхронна пульсуюць.
Пры віртуальных сустрэчах
музыку Вечнасці чуюць.

З вішань абодвух сусветаў
квецень злятае паволі.
Быццам накладзена вета
нам на спатканне і долю.

Вабіць шматзорная далеч.
Сонца згарае ў нябёсах.
На таямнічых скрыжалях
нашы запісаны лёсы.

---

* Такое адчуванне з’явілася ў мяне пасля смерці мамы. Тады ж усур’ёз занялася складаннем радаводнай схемы па мамінай лініі.

* * *

Апошні дзень вясны –
апошняе каханне.
Я мару зліцца з ім
у жарсным парыванні.

Ды толькі ці магчыма
шчаслівае здзяйсненне?
Анёлам за плячыма
ён, мройным вабным сненнем...

Не для мяне, о не!..

## *АДЫСЕЙ І ПЕНЕЛОПА*

*Soli Soli Soli**

“Адзінаму Свяцілу на Зямлі”, –
яна яму ўначы свой верш шаптала.
Яму сябры мілейшымі былі.
Яе адной было яму замала.

Міналі ночы, месяцы, гады.
Лёс Адысея ў доўгіх вандраваннях.
Занеслі Пенелопу на клады.
Трагедыя адчайнага кахання.

## *АДКАЗ НА “СТЫХІЙНУЮ ВІРТУАЛІЗАЦЫЮ”*

Зямля Вы. Сфера прыцягнення.
Шукаю пункт апоры/сілы.
Аднак чакаю Вас і ў сненнях,
бо рада бачыць вобраз мілы.

Паветра Вы. Маё адхланне.
Я Вамі дыхаю. Раўную.
Маё апошняе каханне.
Што Вы далёка – я сумую.

Вада Вы, што дае спатолю,
але мне ўволю не напіцца.
Няхай я ў клетцы, Вы – на волі,
натхнення Вы мая крыніца.

---

* Soli Soli Soli (з *лац.*) – адзінаму Сонцу на Зямлі.

Агонь Вы, што ўва мне згарае,
хоць Вы ў чужым, далёкім свеце.
Мне іншага не трэба раю,
мне Ваша зорка Сонцам свеціць.

І днём, і ноччу...

## МАТЫЛЁК

З жанчынамі Вы – быццам матылёк:
лятаеце ад кветкі і да кветкі.
Адной, другой і іншых лёгкі флёр
Вас вабіць – і туды нясе Вас ветрам.

З прастораю Вы – быццам матылёк:
вандроўніцтва – абраны шлях і Даа.
З жанчынамі ласкавы дыялог.
Слядоў узор па мапах раскіданы.

І з Вечнасцю Вы – быццам матылёк:
тварыць без кніг – дык трэба быць Сакратам!
Каб вучні Вашых думак псіха-логас
знайшлі і неслі людзям з Вашых спратаў.

Са мною Вы – як быццам матылёк...

* * *

У клетцы-кватэры
птушку-жанчыну
б'е яе муж.

* * *

На яго фота
мноства розных жанчын.
Мяне там няма...

## ЛІСТ САБЕ 45-ГАДОВАЙ АД 85-ГАДОВАЙ

Добры дзень, Таццяна-кветка ў 45 гадоў!
Зычу, родненькая, шчасця, ды на сто ладоў!
Не сумуй, не плач у скрусе, у ліхой журбе.
Тое, што цяпер маркоціць, – шанец для цябе!

У далейшым грошы будуць, хопіць для жыцця.
Ты не бойся мар-жаданняў, жарсці-пачуцця.
Не жыві мінулым, зданьмі. Сёння – лепшы дзень.
Мары здзейсняцца, вучыся шчасце мець цяпер!
Ты Яго, павер, сустрэнеш – будзеш, як у раі.
Слухай сэрца – там аркестрам музыка зайграе!
Інтуіцыя адкажа на твае пытанні!
Не давай сябе пакрыўдзіць, беражы каханне.
Танчы ты, спявай, пішы вершы і карціны.
У чуллівай хай душы Сонца не загіне!
Будзь жаноцкай, маладою, чыстай і прыгожай.
Будзь рашучай – і тады планы здзейсніць зможаш!
Да вяршыняў – крок за крокам – руш заўсёды ўпарта.
Свет жаночага даверу барані ад гвалту!
Беражы сваіх сыночкаў, перадай ім веды.
Дзён цудоўных і натхняльных шмат яшчэ наперадзе!
Ты шукай сябе ў навуцы, шчасце, Абсалют.
Ты ўсяго дасягнеш, ведай! Я цябе люблю!

## *ПТУШКА ФЕНІКС*

Як толькі заўважаю, што не любіць
мяне мужчына, – забіваю
ў сабе прыязныя пачуцці,
паплачу і – уваскрасаю.

Я выразаю фота з памяці –
і выдаляю ў сметнік-урну.
Адтуль – таксама – хай ляціць
у апраметную пурпурную!

Хай спусташэнне, хай сум горкі.
Няхай свет крышыцца варожы.
А вочы! А пасмешкі росквіт!
Як доўга гэта згадваць, Божа?..

* * *

Зацалавала б! Згатавала б
я мяса, дранікі, шарлотку...
Захвалявана хвалявала б,
Мінск паказала б – свой, шматнотны...

Хацела ўволю наглядзецца
на твар, на постаць, на манеры.

Запомніць Вас вачмі і сэрцам,
прагнаць хімераў недаверу.

Не адпусціць. Забраць навечна.
Не разамкнуць сваіх абдымкаў...
Эх, мроі! Як вы недарэчны!
Ён застанецца толькі дымкай.

Пад нескончальнымі дажджамі
ідзём – у розных вымярэннях...
Раслінай вольнай між крыжамі
я дапаўзу да Вас карэннямі...

## САМОТА

Надзейная, Самота, ты сяброўка!
Не шкодзіла ты мне і не кідала!
З табою мне бывае скрушна, горка,
але ж ты жорсткай праўдай ратавала!

Ты побач, каб уцерці з твару слёзы,
сказаць, што ад пакутаў не схавацца.
Выпрабаванняў лютых вострыя лёзы
падносяць дома, звонку і на працы.

Самота – з нараджэння і да смерці!
Самота-выбар і самота-вырак.
Жыццё з высокай хуткасцю нясецца
насустрач немінучасці няспыннай.

## ВІРТУАЛЬНАЕ КАХАННЕ

Пяшчотна дакранаўся ў сваім вершы.
Было ад тых пачуццяў так прыемна!
За целам следам – затрымцела сэрца,
душа ляцела зліцца з патаемным.

Абстрактна віртуальнае каханне,
калі абранніка не бачыш нават.
Абняць не можаш і адчуць дыханне,
а страсць свядомасць прасвятляе лавай.

Згадаць Яго – і адчуваеш Вечнасць,
бясконцасць Свету – і адсутнасць межаў.
Далёка Ён. Збліжэнне – небяспечна.
Не мой – і тым не менш Ён мне належыць!

* * *

Выбіраю між тых, каму мілая я.
Выбірае душа – малада, вечная.
Насядзелася ў клетцы –
вольнай птушкай лунаць бы!
Не з'яднала б свой лёс
з "залатым" мужам, мабыць.
Мне самота – як панцыр, самота – як лёс.
Гэты шлях мне вяршыць ад зямлі да нябёс.

* * *

Як сонца праменні па небе рассее
на захадзе-ўсходзе, ад краю да краю, –
Сірэна чакае свайго Адысея,
не плача, а Песню Надзеі спявае...

## ЧАГО Я ХАЧУ?..

Чаго я хачу? – Быць для Вас непаўторнай,
у Ваш ДНК-код – мне б хваляй нябачнай,
уплесціся ў кроў, у нейроны, свядомасць,
каб быць незабыўнай, каханай і значнай.

А з іншага боку – свабода і воля
асобаю быць і тварыць, і натхняцца.
Бо "клетцы" ёсць звычны антонім "раздолле",
"мужчыну" – антонім "жанчынаю звацца"...

* * *

Сапраўднага кахання не было,
але кажу сабе *dum spiro spero**.
Яно святлом прагоніць нечысць-зло,
каб зноў у пробліск шчасця мне паверыць.

А часу не так шмат, бо маладосць
так хуткаплынна, як і ўсё на свеце...
Мілосць патрэбна, як надзея ёсць,
што страсць – навечна, што яна – не вецер...

Што ён мяне не кіне, не паб'е,
не скрышыць мараў жорсткаю сякерай.

---

* Dum spiro spero (з *лац.*) – пакуль дыхаю, спадзяюся.

Атуліць шчырай ласкай у журбе,
каб я змагла ў каханне зноў паверыць...

* * *

Арыяднай была клапатліваю.
Мне здраджвалі мае мужы,
забралі ўладу і пакінулі,
каб знішчыць моц маёй душы,
агмень у ёй каб патушыць,
каб не змагла ад здзекаў выжыць...

* * *

Без надзеі на сустрэчу
ў гэту Вечнасць, ў гэты вечар.

Сэрца сцяць, схаваць цяпло –
каб не холадна было.

І заснуць у тых пачуццях
без надзеі на “прачнуцца”...

***ЛЯЛЬКА***

Нагуляўся з лялькай – не патрэбна!
І паклаў у ніжнюю шуфляду:
каб не бачыць, бо душу не грэе,
непрыгожай стала для пагляду.

А яна, заплаканая, з крыўдай,
уцякла ў сусвет, ёй невядомы,
каб знайсці таго, хто дасць ёй крылы,
дасць адчуць: яна нарэшце дома!

Пакахаць і прытуліць – не проста.
Гэта пачуццё – раз на стагоддзе!
І блукае лялька па пагостах
мар былых і аб любві не просіць.



Кацярына Янчэўская



...шкада:
не прыйшло ў галаву
пашукаць *іншы* колер
для *нашай* размовы...

# Белае шматкроп'е

## *ВЯРТАННЕ*

Дробязі знікаюць
у татальным белым:
завіруха
спакушае
забыць
пра чорныя вежы
самотных літар,
пуцявіны-радкі
паміж быць і не быць.
Стомлены снег
шукае прытулку
у цёмных завулках –
старонках душы.
Дробязь?
Здаецца,
няма паратунку

у тэкстах зімовых,
прабач!
...Нябачныя літары
 забытых імёнаў
чакаюць вясны...

* * *

Сваёй чароўнасцю
скрадае роспач холаду
студзеньскі снег.
Сёння ён – як пялёсткі язміну –
мае водар збаўлення і дабрыні.
Замест чорнага шматкроп'я –
Белы снег.
Абнаўленне надзеі
і абнуленне тугі.

* * *

Амаль вясна. Памежжа прадчуванняў.
Архітэктоніка імклівага святла.
Ля берага няспыннага вяртання –
зноў сілуэты нашага жыцця.

## ІНШЫ КОЛЕР

Чорна-белая графіка
нашай размовы
пакрыху
губляе
выразнасць малюнку
і насычанасць тону.
Кампазіцыя словаў
вось-вось пératворыцца
у суцэльную пляму
нічыйнай свабоды,
без межаў і без адценняў, –
паглынуўшы цябе і мяне.
Шкада:
не прыйшло ў галаву
пашукаць *іншы* колер
для *нашай* размовы.

## *АВАНТУРНАЯ ГАРБАТА*

Сумяшчаюць
лекавае і атрутнае
кветкі постмадэрну:
гарбата з іх двухсэнсоўная,
як грэчаскі фармакон.
Класічны дуалізм
хаваецца
у (не)звычайных кветках?
Рызыка набліжэння да сучаснасці –
зранку?
Мо лепш не каштаваць
такую авантурную гарбату?

## *НАЦЮРМОРТ*

Твая вытанчаная рацыянальнасць
нагадвае
стары галандскі нацюрморт:
узаемасувязь рэчаў
і неабходныя акцэнты.
Мёртвая прырода або ціхае жыццё?
Ты з лёгкасцю прачытваеш
усе алегорыі,
падлічваеш,
узважваеш,
тараўноўваеш.
Але раптам...
апантана кідаеш
лупіну лімона
на падлогу
мне пад ногі.
І я бачу:
твой рацыянальны досвед –
хлусня – *trompe-l'œil**.

* * *

Апраўдваю пялёсткамі вясны
няспраўджанасць як заканамернасць.
Прыступкі мармуровыя ў цішы
я блытаю з пяшчотай ў тваім сэрцы.

---

* Падман зроку (*франц.*).

Праз крокі дзьмухаўцоў
жыццё ляціць,
нястомнае паветра аблачынак,
пялёсткі зноў як завушніцы кніг,
прачытаных паміж зімой і летам...

* * *

Меланхолія звольнена з пачэснай пасады
па збіранні ўраджаю каменняў
у скляпеннях займенніка “я”.
Меланхолія ў дождж і з вялікім пасагам
па знаёмай мясцовасці
вольна крочыць
да княжацкіх замкаў –
старажытным руінам нясе камяні...

## СЭРЦАБІЦЦЁ

У кровазвароце маіх летуценняў
ружы гатычных сабораў
аздоблены промнямі сонца.
Праз цені сумневу –
світанні спатканняў,
надзея.
Ружы гатычных сабораў
святлом атуляюць
задымлены ранак
заблытанага ўяўлення.
Над стральчатым парталам –
падарунак інакшасці,
сустрэча ў паветры
дзівоснага ўвасаблення.
Спадчына думкі
ўплецена ў разнастайнасць
свабоды.
У кровазвароце маіх летуценняў
ружы гатычных сабораў
рупліва ахоўваюць
сэрцабіццё...

## ЛЁС

Стары калодзеж
чыстай вады

абдымае
крыніцу пяшчоты.
Журботу маўчання майго –
паглыні!
Перамяні на мову!
Ночы праходзяць
і дні настаюць.
Новыя людзі і словы.
...Лёс мой крынічны,
бы плёскат вады
зорнага мора.

### *“СТАРЫЯ ЯБЛЫНІ” ФЕРДЫНАНДА РУШЧЫЦА*

Сцяжынка – паміж небам і зямлёй –
Мінулае злучае і сучаснасць,
У родным садзе: блізкі шлях дамоў,
У родным садзе: восеньская памяць.
“Старыя яблыні” – ўвесь радавод сям’і,
Граматыка і сінтаксіс пачуццяў,
Задумкі для карцін сярод галін,
Узнёсласць колеру ў смарагдавым ландшафце.
Танцуюць дрэвы ці пакутуюць ад болю,
Спяваюць ці стаміліся ў маўчанні?
Журботная паэзія прызнання...
“Старыя яблыні” – мастацтва і жыццё.

Станіслаў Ежы Лец



...чалавек –

пабочны прадукт кахання...

# З непрычасаных думак

***П****а бакавых сцежках мыслення прашмыгне часам поруч з табой напалоханы сэнс.*

Павіліца не эгаістычная, не пнецца ўверх адна.

Павінны існаваць тарыфы: колькі каштуе "любой цаной"?

Падзел грамадства адбываецца на кіруючых і кіраваных.

"Падла!" – сказала гіена. І з'ела.

Падумаць толькі, што людзі падкопваюцца адзін да другога ў цемры, як краты, толькі для таго, каб даць адзін аднаму па мордзе.

"Пажыла, як у казцы!"– сказала Пачвара, уласна, з яе.

Паказвайце язык раней, чым сцісьнеце зубы.

Па кутах усмешкі можна вылічыць размах свабоды.

Палавы такт.

Палітыка – не мая справа. Аднак падазраю, што яна лічыць мяне сваёй справай.

Паміж адным каханнем і другім, для прыстойнасці, патрэбна адбыць у каранціне з трэцім.

*Заканчэнне. Пачатак у №№98-99.*

*Пераклад з польскай Міхася МІРАНОВІЧА.*

Памыляйся разам з усімі!

Памятай: ніколі не здраджвай праўдзе! Здраджвай з праўдай!!!

Памятайце, у чалавека няма выбару, ён павінен быць чалавекам!

Памятай, што парашут перашкаджае развіццю крылаў.

“Пан разбурае наш дзяржаўны лад!” – крыкнуў мне прадстаўнік улады. “Пан заўважыў гэта па мне, ці па дзяржаўнаму ладу?” – запытаў я з цікаўнасцю.

Пасля доўгіх гадоў настойлівага навучання яму ўдалося пад вялікімі пластамі ведаў схаваць сваё невуцтва.

Пасля смерці выплысці на паверхню здараецца і здохлым рыбам.

Пастарэла мая нянавісць – стала пагардай.

Паўдуркі павінны, па меншай меры, насіць пратэзы.

Пахаванне караеда ў труннай дошцы.

Па чым я пазнаў, што гэта – кабета? Па сабе.

Певень славіць нават той ранак, у каторы пойдзе ў суп.

Пекла, відавочна, мае ўваход і выхад. Значыць, можна прайсці праз пекла.

Перад чалавекам стаіць прывід вяртання ў пячору. Але хто асмеліцца сцвярджаць, што ён зноў не пачне з вынаходства дубіны?

Перажыць, перажыць жыццё, потым ужо дамо сабе рады!

Пераходная палка ўлады.

Перахрысціўся на крыж сярпом і молатам.

Першы чалавек не адчуваў самоты, бо не ўмеў лічыць.

Перыметр нуля можа быць вельмі вялікім.

Пісьменнікі, кнігі каторых ніхто не купляе, лягчэй за ўсё прадаюцца.

Плагіятары могуць спаць спакойна. Муза – жанчына, яна наўрад ці скажа, хто ў яе быў першым.

Плотка сказала: “Кіт – мой стрыечны брат”.

Позна стукаць па стале, калі ты ўжо з’яўляешся толькі стравай.

Помнік можа быць дасканалым сонечным гадзіннікам. А потым, калі яго ўжо прыбяруць, будзе ясна, якая гадз*і*на прабіла.

“Помсціць ворагам!” – з гэтым крыкам муха падае з ліпкай стужкі ў талерку з супам.

Поспех Гейнэ? Стаць на ўвесь свет вядомым “невядомым паэтам”!

Права кулака – гэта таксама паказванне фігі.

Праўда мацней за мастацтва. Шамаценне паперак ад шакаладак у суседкі ў тэатры раздражняў мяне больш, чым злачынства Атэла.

Праўду трымаюць на замку, як самы дарагі скарб, тыя, хто яе цэніць менш за ўсіх.

Проста не верыцца, што хлусня існавала яшчэ да таго, як пачалі друкаваць газеты.

Прыгожай жанчыне не абавязкова быць разумнай. Сама ідэя прыгажосці жанчыны ўжо разумная.

Прыгожая мана? Увага! Гэта ўжо творчасць.

Прызнайцеся! Нічога чалавек так не баіцца, як таго, што памрэ з бруднымі нагамі.

Прыснілася мне рэчаіснасць. З якой палёгкай я прачнуўся!

Прытуліліся адно да аднаго так блізка, што ўжо не засталося месца на ніводнае пачуццё.

Прыхавалі сорам ганьбай!

Прэсу прэсуюць.

Пустка ў галаве павялічвае свабоду руху асобы.

Пустыя талеркі народа падлягаюць закону злучаных сасудаў.

Пэўнае стварэнне стаяла на дзвюх канечнасцях, а потым апусцілася на чатыры колы.

***Р***абіць з людзей анучы? Я за іншае працаўладкаванне чалавека.

Разбураючы помнікі, захоўвайце п’едэсталы. Яны калісьці могуць спатрэбіцца.

Раздзяляе не прорва, а розніца ўзроўняў.

Разумовая абмежаванасць пашыраецца.

Рак чырванее пасля сваёй смерці. Вось дзе прыклад вытанчанасці ў ахвяры!

Раней грамадзянін піхаў зберажэнні ў панчоху, сёння ж ён ходзіць басанож.

Раўнапраўе ў часы бяспраўя – гэта таксама штосьці!

Рукі павінны быць чыстымі. Па меншай меры, указальны палец.

Рэформа календара не скароціць цяжарнасць.

Рэха – гэта ікаўка прасторы.

Рэха, якое аглухла, павінна мець хаця б фантазію.

Рэчы, якія не існуюць, прыгнятаюць.

***С***абака ад радасці віляе хвастом. Для гэтага патрэбныя радасць і хвост.

Сабачы хвост не паказвае, адкуль дзьме вецер. Морда.

Садысты і мазахісты павінны ўтвараць паміж сабою самадастатковыя суполкі, трэсты і дзяржавы.

Самы нізкі ўпадак мастацтва – на калені.

Саноўнік літаратуры.

Сапраўднага мужчыну пазнаеш, нават калі ён голы.

Сапраўдны штандар не губляе колераў, калі вы нават выціраеце ім сабе рот.

Сатыра ніколі не можа здаць экзамены – у экзаменацыйнай камісіі сядзяць яе аб’екты.

Свабода калісьці была ўтопіяй. Сёння яна нават не з’яўляецца рэчаіснасцю.

Свабода – распусніца: аддаецца сваім праціўнікам.

Свабода, роўнасць, братэрства – як дайсці да дзеясловаў?

Свабоду нельга сімуляваць!

“Свет належыць табе!” – крыкнуў я аднаму юнаку. “Ну, і што з гэтага? – адказаў ён. – Яго ж не прадасі!”

Свет ніколі не можа прабачыць таму, хто ні ў чым не вінаваты.

Скароцім метр. Будзем большымі.

Слабейшае звяно ланцуга – самае моцнае. Яно рве ўвесь ланцуг.

Сліны даўжэй хапае на цмоканне, чым на пагардлівае аплёўванне.

Слова – гэта некралог думкі.

Слова “kurwa” страціла сваю жаночасць, і сёння з’яўляецца толькі словам з палітычнага лексікону.

Служыў ён, як сабака, як сабаку і забілі.

Смешна, колькі клопату задаюць сабе жывёлы, каб зрабіць больш разнастайным меню чалавека.

Спробы барацьбы праўды з хлуснёй заўсёды аказваліся дарэмнымі. Хлусню можна знішчыць толькі яшчэ большай хлуснёй.

Спрыяльнага ветру можа хапіць толькі на тое, каб узняць прахожай дзяўчыне спадніцу.

Стань чалавекам! Малпам гэта ўжо ўдалося.

Страціўшы зубы, атрымліваеш большую свабоду для языка.

Страшна зірнуць небяспецы ў вочы, калі яны прыгожыя.

Страшна, што вечнасць складаецца са справаздачных перыядаў.

Суцяшае мяне тое, што на зорках, якія падаюць у азёры, ніхто не жыве.

***Т***абліца размнажэння.

Там, дзе закон жорсткі, народ марыць пра беззаконне.

Там, дзе нельга ўзняць галавы, людзі ведаюць уладу толькі па яе ботах.

Тое, што адзін паэт кажа пра другога паэта, можна сказаць, і не будучы паэтам.

Толькі падумайце: на тым агні, што ўкраў Праметэй у багоў, спалілі Джардана Бруна!

Тоўстыя жывуць менш. Але ядуць больш.

Траґладыт быў патэнцыяльным вынаходнікам кола, газавай лямпы, самалёта, тэлевізара і т.п. А сучасны чалавек – чаго?

Трымайцеся ад мэты на бяспечнай адлегласці.

Трымай язык за зубамі – напагатове.

Трэба абражаць кампліментамі!

Трэба мець вялікую цярплівасць, каб ёй навучыцца.

“Трэба нешта сказаць”, – сказаў ён і сплюнуў.

Турма – цяжкі зыходны пункт.

***У*** смерці кліентура не вымірае.

У што я веру? У Бога, калі ён ёсць.

У эпоху ерасі было цяплей. Ад кастроў.

У апошні час з’явілася мода на лісіныя футры. Хітрыя гэтыя лісіцы!

У барацьбе ідэй гінуць людзі.

Уваскрэснуць могуць толькі нябожчыкі. Жывым гэта цяжэй.

У гарызантальным становішчы мозг не ўзвышаецца над іншымі органамі.

У доме павешанага не гавораць пра вяроўку. А ў доме ка́та?

Ужо даўно залатое цяля вырасла ў дойную карову.

Ужо і крылы чалавек мае, а анёлам не стаў.

У іх кабарэ выступалі голыя дзяўчаты, апранутыя ў дэфініцыі.

У каго няма сумлення, павінен кампенсаваць гэта яго адсутнасцю.

Указальны палец мае два напрамкі – туды і назад.

У канчатковым рахунку звязваюць мяне з сабой нейкія сямейныя адносіны.

Улада часцей пераходзіць з рук у рукі, чым з галавы ў галаву.

У Маскве адкрылі Тэатр Сатыры. Дзве тысячы месцаў для публікі, а колькі для сатыры?

Умацаваў анучу на палцы, а многія палічылі гэта за штандар.

У нас зусім няма годнасці. Бог выгнаў нашых прабацькоў з раю, а мы ўвесь час хочам туды вярнуцца.

У некаторых краінах дзяржаўны лад павінен быць дзяржаўнай таямніцай.

У некаторых крыніцах натхнення Музы мыюць ногі.

У паўліна гонар знаходзіцца ў хвасце.

У пачатку было Слова, а ў канцы – Фраза.

У пачатку было Слова. І толькі потым вынікла Маўчанне.

У пачатку быў уступны артыкул, у канцы – некралог.

У пекле чорт з'яўляецца асобай станоўчай.

У пустую жанчыну можна змясціць шмат грошай.

У рамках таталітарнай дзяржавы не можа быць ніякай іншай карціны, чым партрэт дыктатара.

Усе багі былі бессмяротнымі.

Усе людзі – акцёры. Адкуль узяць для ўсіх рэпертуар?

Усё жыццё ісці да мэты можна тады, калі яна ўвесь час адсоўваецца.

Усё ўжо напісана. На шчасце, не ўсё яшчэ падумана.

Усё ў руках чалавека. Таму патрэбна часцей іх мыць.

Уступайце месца дамам у вашым сэрцы!

***Ф***абрыкі геніяў ёсць, толькі сыравіны няма.

Феміда сляпая. Але няўжо яна не бачыць сваіх слуг?

Фігура тут, фігура там.

Французская рэвалюцыя паказала на прыкладах, што прайграюць тыя, хто губляе галовы.

***Х***ацелася б падчас дыскусіі спыніць апанента і шапнуць яму: "Я выбачаюся, але пан не зашпіліў сабе рот".

Хвіліна разумення сваёй няздатнасці з'яўляецца праблескам геніяльнасці.

Хлеб адчыняе кожны рот.

Хлусня нічым не адрозніваецца ад праўды, акрамя таго, што ёю не з'яўляецца.

Хочацца часам памаліцца аб існаванні Бога!

Хочаш схаваць твар – выходзь голай.

Хто без граху, няхай першым кіне камень. Вось тут пастка! Тады ён ужо не будзе бязгрэшным.

Хто ведае, колькі слоў выпрабаваў Бог, пакуль не знайшоў тое адзінае, якім і быў створаны свет.

Хто ж можа ўстаяць перад спакусай, каб не нарадзіцца?

Хто мае геніяльнасць, талент, адукаванасць і т.п. рэчы, таму спатрэбілася б яшчэ і нахабства. А хто мае нахабства, таму ўжо не патрэбныя папярэдне названыя дробязі.

Хто не хоча сядзець, павінен паўстаць.

Хто стварыў свет? Да гэтага часу прызнаваўся ў гэтым толькі Бог.

Хто ў пекле меў эпалеты, той і ў раі носіць аксельбанты.

Хутка мы перадумаем усе думкі і наступіць шчаслівая эпоха бяздум'я.

***Ц***і веру я ў Бога? Бог яго ведае!

Ці веру я ў Бога? Заўсёды пытаюць у мяне аб гэтым людзі, і ніколі – Ён.

Ці думае часам матадор на арэне, што змагаецца з біфштэксам або з завінутымі зразамі?

Ці ёсць сярод людаедаў вегетарыянцы?

Ці ёсць хто страшнейшы, чым Чынгісхан? Чынгісхам.

Ці з'яўляюцца злачынствы, не прадугледжаныя заканадаўствам, нелегальнымі?

Ці інтэлігентныя голыя жанчыны?

Цікаўлюся: якая рэшта вечнасці яшчэ засталася?

Ці можа з'едзены місіянер лічыць сваю місію выканай?

Ці можна мастацтву быць толькі здагадкай, калі ўсё навокал ужо ясна?

Ці можна праз сілу стварыць геніяльныя творы? Так, трэба толькі мець тую сілу.

Ці праблема ўлады – адзіная праблема ўлады?

Ці рэнтабельны выраб людзей? Хто ведае, які працэнт будзе прадажным?

Ці самога чалавека не дастаткова замест пашпарта?

Ці шкілет быў эскізам чалавека?

Цудаў не бывае, але ж мусяць калісьці здарыцца!

Цэзараў звычайна забіваюць сябры. Бо з'яўляюцца ворагамі.

Цэлая ўласная галава – добры трафей перамогі.

Цяжка апладзіраваць тым, у каго звязаны рукі.

Цяжка сціснуць кулак, у якім заціснута міласціна.

Цяжэй за ўсё развязаць гордзіеў вузел, калі ў ім тырчыць уласная галава.

***Ч***аго варты кляп, які можна з'есці?

Чалавек – вянец тварэння. Цярновы.

Чалавек жыве мала. Справа ў малой прапускной здольнасці свету.

Чалавек заўсёды ў небяспецы. Бо ён з ядомага матэрыялу.

Чалавек з'яўляецца мерай усяго? Што за выгода? Адзін раз мерыцца гігантам, другі раз – карлікам.

Чалавек любіць смяяцца. З іншых.

Чалавек мае яшчэ тую перавагу над машынай, што ўмее сам прадацца.

Чалавек нараджаецца для таго, каб нешта сказаць, іншыя – каб яму гэта забараніць.

Чалавек не адзінокі! Нехта ж яго пільнуе!

Чалавек – пабочны прадукт кахання.

Чаму людзі сёння ўжо не людаеды? Ну, бадай, трэба верыць у нейкі прагрэс кулінарыі!

Чарапаха павінна быць такой цвёрдай зверху, паколькі яна такая мяккая знізу.

Часам лаўр пускае карэнне ў галаву.

Часам мяне апаноўвае пачуццё страху, што я ўжо ў раі.

Часам незгінальная пастава з’яўляецца вынікам паралюшу.

Часам патрэбны суфлёры, якія б нашэптвалі, чаго нельга гаварыць.

Часам прымацоўваюць людзей ардэнамі да мундзіраў.

Часам трэба замаўчаць, каб цябе пачулі.

Часам у мяне з’яўляецца сумненне, што прадвызначэннем чалавека з’яўляецца жыццё.

Часам чорт мяне штурхае паверыць у Бога.

Часам юбілеі правакуюць перагартаць кодэкс: ці не падпадаюць ужо некаторыя справы пад тэрмін даўнасці?

Час нараджае геніяў. Маем надзею, што хоць некалькі з іх будуць здольнымі.

Час робіць сваё. А ты, чалавеча?

Часта, толькі калі мыслячая істота штосьці скажа, ты разумееш, што гэта – быдла.

Часта шлюб не мае сэнсу, але – дзяцей.

Часцей губляюць свабоду тыя, хто яе прагнуць.

Часцей за ўсё выхад там, дзе быў уваход.

Чорт не спіць. Абы з кім.

Чорт хітры, іншы раз можа прыйсці проста, як чорт.

Чым большы смурод, тым большую прастору займае. І ў палітыцы.

Чым хутчэй здзейсніш злачынства, тым раней пачне дзейнічаць тэрмін даўнасці.

Чым цямней, тым лягчэй быць зоркай.

Чытач павінен быць масавым, не літаратура.

***Ш***ануй слова! Кожнае можа стаць тваім апошнім.

Шлейкі падтрымліваюць штаны ў добрым настроі.

Што мы ведаем пра кабету? Ну, толькі тое, што яна з мужчыны робіць чалавека.

Што называюць марай? Ды хоць бы думкі пра сасіскі, калі ясі паляўнічыя каўбаскі.

“Што табе нагадвае гэты стары шлягер?” – запыталі ў Ікса. “Мой першы візіт да венеролага”.

Што такое хаос? Гэта той парадак, які быў знішчаны пры стварэнні свету.

Што трымае нас на гэтай зямлі, акрамя сілы прыцяжэння?

Штодзённа мяне пераконваюць, што ўлада – гэта я. Не ведаў, што я такі мазахіст!

Шэдэўр зразумее нават дурань. Але ж наколькі іначай!

***Э***лектронны мозг будзе за нас так думаць, як электрычнае крэсла за нас памірае.

Эротыка: “Ад мяне да цябе бліжэй, чым ад цябе да мяне”.

***Я*** веру ў дакладную выпадковасць.

Я вярнуўся з падарожжа па правінцыі і сцвярджаю, што Польшча – прыморская краіна. Знаходзіцца пры моры гарэлкі.

Яго продкі сядзелі яшчэ на ўласным генеалагічным дрэве.

Ягоная галава так напоўнена эрудыцыяй, што месца для ўласных думак ужо няма.

Яе ногі пайшлі па руках.

Я зноў быў у Вене. Як жа я змяніўся!

Як для генія, ён меў зашмат таленту.

Як мяняецца граматыка! Даўней была маса тавару, а сёння – таварная маса.

Як навучыць памяць, каб яна ўмела забываць?

Як растуць карлікі? Ушыркі.

Як цяжка запоўніць прастору адной фразай, асабліва калі яна кароткая.

Як цяжка прыхаваць сваё неіснаванне.

Які толк ад шырокіх поглядаў, калі дэманстраваць іх можна толькі ў вузкім коле?

Якое прызначэнне чалавека? Быць ім.

Я любіў сябе. Трэба прызнацца, што выкарыстаў для гэтага шмат прыгожых жаночых цел.

Я маю думкі, якіх нават сам не ведаю.

Яна аддалася яму, але не хоча забрацца.

Яна выглядала, як капуста, аголеная да храпкі.

Яна насіла вянок цноты, як лаўровы.

Яна падняла нагу на мараль!

Я не веру тым, хто кажа, што ляжыць плазам перад тыранам толькі таму, што так любіць зямлю Айчыны.

Я не згодны з матэматыкай. Лічу, што сума нулёў дае пагрозлівую лічбу.

Я не разбіраюся ў жанчынах, адрозніваю іх ад мужчын толькі па полу.

Я не раздушыў таго клапа – не хацеў пляміць рук сваёй крывёй.

Я ніколі не выйграваў у латарэю. Магчыма, таму, што ніколі не купляў латарэйных білетаў.

Яны б паверылі, што Бога няма, калі б ён з’явіўся і ім гэта пацвердзіў.

Яны мелі неаднолькавы старт. Адзін атрымаў выспятка.

Яны па-бунтарску сціснулі кулакі, але, падняўшы іх да галавы, засалютавалі.

Я ставіў бы помнікі для сабак. Каб яны мелі дзе падняць нагу.

Я сустрэў неяк чалавека, такога неначытанага, што цытаты з класікаў ён выдумляў сам.

Я трапіў не ў мішэнь? Менавіта туды і цэліўся.

Я ўжо трымаў шчасце за хвост, але яно вырвалася, пакінуўшы мне ў руцэ пяро, якім і пішу.

Я хацеў сказаць свету толькі адно слова. Але гэта мне не ўдалося – стаў пісьменнікам.

Я чытаю ўсё з некаторым спазненнем. Нядаўна прачытаў паведамленне, што Бог стварыў чалавека. Гэта мяне бязмерна зацікавіла.



Мохан Рана



...праўда –
ні ключ,
ні замок...

# Набліжэнне мінулага

**Мохан Рана** (**मोहन राणा**) нарадзіўся ў Дэлі (1964) і ўжо шмат год жыве ў Вялікабрытаніі. З’яўляецца адным з вядучых паэтаў, які піша на хіндзі і жыве па-за межамі Індыі. Сціслацьць, яснасць і дакладнасць – вызначальныя характарыстыкі ягонай паэзіі.

Мохан Рана выдаў восем зборнікаў вершаў на хіндзі ў Індыі, ягоныя вершы ўключаныя ў розныя анталогіі. У 2011 годзе Цэнтр паэтычнага перакладу ў Лондане апублікаваў двухмоўны зборнік вершаў, перакладзены з хіндзі на англійскую мову выдатным ірландскім паэтам Бернардам Оў’Донах’ю ў суаўтарстве з перакладчыцай Люсі Розенштайн.

Апошні зборнік вершаў на хіндзі “Шмат застаецца” выйшаў у Індыі ў 2016 годзе. Вершы М. Рана перакладзены на нямецкую, галандскую, іспанскую, італьянскую, нарвежскую, балгарскую, маратхі і непальскую мовы. Выступае з чытаннямі ў Індыі, Вялікабрытаніі і Еўропе.

*Пераклад з ангельскай і прадмова Вольгі ГАПЕЕВАЙ.*

## РАНІШНЯЯ ПОШТА

Ноччу нанесла пяску з Сахары
Пераадолеўшы кантыненты ён асеў на горад
А мо нейкі шторм прынёс яго з бліжэйшых палёў
Хіба ўпершыню зважыў на пясок,
Усё жыццё жыў і не бачыў
усё тут было звычайным, усё
На сваіх месцах
Птушкі ў небе, людзі на зямлі
і рыбы ў чорных глыбінях

на твары маім маска, адмыслова прыдуманая для
гэтага верша
я стаю з расплюшчанымі вачыма на пустой сцэне,
у шкляной скрыні
балбачу
сваё імя, прозвішча, мянушку, псеўданім, адрас, узрост,
месца нараджэння,
адукацыю, месца працы.
шмат дзён, штодзень, з тых часоў, як расплюшчыў вочы,
я трымчу як зламаная марыянетка.
курчуся на пераблытаных нітках
зморшчыўся і глэмаю паветра
пакуль ненароджаны персанаж

Непрачытаная пошта
ляжыць на парозе
з кожным ранкам яе сэнс губляецца
больш і больш,
адсюль я іду далей і новы мінае дзень
як цень

ранішняя пошта
геаграфія ў адлегласцяў і блізкасцяў свая
яна вызначае законы жыцця – радасць і смутак
я ўсё вучу і вучу памылкі знакаў прыпынку
жыццё марнуецца на нешта нязначнае
ўчорашняя нясконачаная справа застаецца нясконачанай
і заўтра
і абнаўляючыся старэю
у гэтым сённяшнім паліто

*1992 Лестэр*

## ЗВЫЧАЙНАЯ КАШУЛЯ

Паміж поўднем і вечарам
надыходзіць прамежак
калі гукі і справы
стамляюцца

быццам цяпер,
усе жаданні завершыліся,
я сядаю на любое
вольнае крэсла.

Вось прамінае хлопчык
у жоўтай кашулі
я ўзгадваю
кашулю сваю
у тыя звычайныя дні.

Тое было мажліва.
Так, гэта жыццё было мажлівым.
І на мне ўсё яшчэ
такая ж кашуля

*3.11.1988*

## СЭНС НЕ Ў СЛОВАХ, А ЎНУТРЫ

Я высушваю словы пад дажджом
і калісь ад іх застанецца адно белата
Веранда асляпляе пустэчай
і я заношу іх унутр.

Яны – занялалыя, раскіданыя кроплі жыцця
Збіраючы і злучаючы іх я прадукую досвед
Сэнс якога не вызначыць
Чамусьці ў іх раскрываецца падзенне лісця
Дажджлівае воблака
сутыкаецца з межамі саду,
і мост што раптам тут, падпіраючы два берагі,
нібы гэта мусіць сведчыць пра нешта,
Зазвычай на гэтай дарозе людзей не ўбачыш
Яе няма ні на воднай мапе
Гэтай дарогі, што ідзе ў нікуды,
Толькі быццам калі я штось падбіраю падчас шпацыркі
з'яўляецца раптам кірунак,
як быццам падымаеш апалы ліст
бо дзесь нараджаецца зерне з яго падзення

*7.11.2005*

### НАБЛІЖАЮЧЫСЯ ДА МІНУЛАГА

Набліжэнне мінулага
Будучыня, якую нават пражыўшы
Усё адно застаецца няяснай
За дзвярыма – жыццё
а ў галаве роздум
тое ўсё звонку або ўнутрох
бок гэты ці іншы
Зачыненыя або наросхрыст яны
Хто там чакае мяне?
Каго чакаю я?
Усё адно застаецца няясным

Адна нага наперадзе
Адна – ззаду
Праўда – ні ключ, ні замок

*30.5.2005*

### РАЗВІТАННЕ

Стоячы ў дзвярах
развітваецца жанчына
Аўтобус ад'язджае слізгаючы за паваротам
Жанчына развітваецца з тварам што аддаляецца
Дзень знікае ў цемры вечара
Цень мінулых сезонаў, згасаючы
Твар знікае ў вакне бы ва ўласным адлюстраванні.

Яна думае пра тыя дні
тыя моманты
І блізкасці набліжаюцца
бы хвалі разбіваюцца і вяртаюцца
на ўздых мора –
Прамежак
калі вецер маўчыць
мова маўчыць нібы сумняецца
час маўчыць
разам з жанчынай якая развітваецца
у адзіноце аглушальнага шуму

### У СЯБЕ

Магчыма, думаў я,
гэта ціхае месца для мяне,

Тут быццам рэчы
чакаюць мяне
Час сядзіць ля дзвярэй
Ягоныя ўспаміны – мае
Спазніўся?
Пытаюся ў сябе.

## *ІМЯ*

Садовы схіл ператвараю ў лесвіцу
Каб дасягнуць ускрайку схілу
Не куляючыся долу, не саслізгваючы
так каб наступным разам пайсці проста без страху
З гэтага саду хочацца зрабіць зручнае месца
Зручнае месца для сябе, без доўгіх ценяў

Калі пачынаецца дзень, я паварочваю ўнутраны ключ
і саскокваю ў гоман жыцця

Я хачу пакласці лесвіцу ў кішэню.
як асадку і паперу для непраходных дарог
Я нікуды не трапляю трапляючы адно кудысьці
Я выправіўся ў іншае месца
Я раскладаю лесвіцу ў садзе.
сёння адну, заўтра іншую. Пасля завяршэння
як назавуць іх
У іх ёсць імя
Але ці ёсць у цябе

## *РАСКАЖЫЦЕ*

Ці слушна штосьці пра сябе казаць?
і гэтага мо хопіць:

Я чорны дрозд з блакітнымі вачыма
Вядомыя ўсе напрамкі маім крылам
Кранаў я колер неба ў палёце
Лунаючы ў цемру зазіраў і далей
Ішоў я следам рэк, што высыхалі, пустэльняў следам,
што пашыраліся
Лясы палалі, і з імі, бывала, смаліўся я
І цалаваў тугу, што пад дажджом знікала
Жанчыну бачыў, што на дрэве нараджала сярод патопу
Безліч раз мяняўся целам
і ўсё ж я заставаўся чорнай птушкай
з блакітнымі вачыма.

Бягуць ад войнаў людзі каб схавацца,
Узбіраюцца на схілы, але спыняюцца, забачыўшы мяне.
І думаюць, што так высока, так далёка, ніколі ім не быць
хоць я так блізка, у іхніх сэрцах
у рысах іхніх твараў
Краіны знішчаюцца і ўзнаўляюцца
Яны купляюць новыя замкі і новыя ключы ад раю
Што думаў Баабдзіль, калі даваў ключы
ад Альгамбры Ізабэле
сказаўшы толькі “вось ключы ад раю”?

Палёт бясконцы мой ні дня ні ночы
і сонца то сядае то ўстае
мерыдыяны схаваныя ў вачах
Чытаю дзённік сноў паэта
згубіўшыся ў тумане, я некуды лячу
мяшаючыся з пылам
народзіцца наноў блакітнавокі чорны дрозд

Раней скіроўвалі стрэлы на мяне, цяпер жа ружжы
Але не страшна мне, перамяшаецца барвяны колер
восені з маёй кроўю
Я свой палёт пачну з краіны іншай
ў напрамку іншым
выточваючы жыццё са словаў
Не з гэтага я свету
Ці слушна штосьці пра сябе казаць?
І гэтага мо хопіць

Сяргей Кавалёў



...у такія моманты – гісторыя ведае –
лёгка ўзнікаюць культы...

# Прарок – блазан – легенда:
## *аўтарская траекторыя Анатоля Сыса*

### Трыумф і крызіс біяграфіі

У кожнай нацыянальнай літаратуры ёсць пісьменнікі, імя якіх ператварылася ў легенду, а рэальная біяграфія абрасла чуткамі і міфамі. Найчасцей гэта *паэты* з выбітным талентам і *трагічным* лёсам, якім неспрыяльныя гістарычныя абставіны перашкодзілі напоўніцу рэалізаваць свой творчы патэнцыял і пражыць доўгае шчаслівае жыццё ў арэоле славы. Паколькі беларуская літаратура ўвесь час развівалася ў *неспрыяльных* гістарычных абставінах, у беларускім літаратурным пантэоне таленавітых паэтаў з трагічным лёсам асабліва шмат. XIX ста-

**Ад аўтара.** Гэты артыкул быў напісаны для польскага чытача і друкаваўся па-польску ў часопісе “Porywnania” (2018, №2 (23), с. 107-126). Тэкст адрасаваны ў першую чаргу тым, хто ніколі не чуў пра Анатоля Сыса і мала што ведае пра беларускую літаратуру 80-90-х гг. XX ст. Я падумаў, аднак, што гэта не толькі замежныя чытачы, але і *сучасныя беларускія чытачы* таксама, таму зрабіў беларускую версію артыкула пра паэта, якому ў гэтым годзе споўнілася б 60 гадоў.

годдзе пакінула ажно тры легенды пра паэтаў – аўтараў аднаго верша: Паўлюка Багрыма (“Зайграй, зайграй, хлопча малы”), Франца Савіча (“Дзе ж тое шчасце падзелася?”) і Кастуся Каліноўскага (“Марыська чарнаброва, галубка мая...”). Усе трое сталі ахвярамі расійскага самадзяржаўя: сялянскага хлопца Багрыма адправілі на 25 гадоў у рэкруты, студэнта-вальнадумцу Савіча – на Каўказ пад чачэнскія кулі, а паўстанца-рэвалюцыянера Каліноўскага – напрасткі на эшафот. Напачатку XX стагоддзя беларускай літаратуры ўсё ж такі ўдалося заявіць пра сябе на поўны голас, і ўжо не асобныя вершы, а асобныя зборнікі пакінулі пасля сябе паэты-легенды той пары: Алаіза Пашкевіч (“Скрыпка беларуская”, “Хрэст на свабоду”), Максім Багдановіч (“Вянок”), Алесь Гарун (“Матчын дар”). Выявіўшы свой талент больш поўна, чым іх папярэднікі (Максім Багдановіч нават стаў класікам), паэты пачатку XX ст. не ўсцерагліся аднак ад нешчаслівага лёсу: Пашкевіч зведала лёс эмігранткі і памерла ў сорак гадоў ад тыфа; Гарун дзесяць гадоў пакутваў на сібірскай катарзе, а вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, мусіў неўзабаве ўцякаць ад бальшавікоў у Кракаў, дзе і памёр у трыццаць тры гады ад сухотаў; Багдановіч амаль усё жыццё пражыў у глыбіні Расіі, а памёр у Ялце ад сухотаў ва ўзросце 26 гадоў.

Змена расійскай улады на савецкую азнаменавалася часовым росквітам беларускай літаратуры ў 20-я гады XX ст. і масавымі рэпрэсіямі 30-х гадоў, калі была высланая ў лагеры альбо расстраляная большасць беларускіх пісьменнікаў. Сярод паэтаў-легендаў таго жахлівага часу – Міхась Чарот, які перад расстрэлам сваёй крывёю напісаў на сцяне камеры развітальны верш, і Валеры Маракоў, якому турэмшчыкі прыбілі рукі да сцяны цвікамі, каб ужо нічога не напісаў... Другая Сусветная вайна нарадзіла чарговыя легенды: пра паэтаў, загінулых на фронце (Мікола Сурначоў, Аляксей Коршак, Змітрок Астапенка), і тых, хто быў абвінавачаны ў супрацоўніцтве з нямецкімі ўладамі і апынуўся ў савецкіх лагерах (Ларыса Геніюш) ці ў пажыццёвай эміграцыі (Наталля Арсеннева, Рыгор Крушына, Алесь Салавей)...

Толькі пасля заканчэння Другой Сусветнай вайны, а дакладней пасля смерці Сталіна ў 1953 г. і палітычнай адлігі, якая неўзабаве пачалася ў СССР, варункі жыцця і творчасці пісьменнікаў у Беларусі (БССР), скажам так, *нармалізаваліся*. Што праўда, і далей панавала савецкая ідэалогія, дзейнічала дзяржаўная цэнзура, твор маглі пакалечыць рэдактарскімі праўкамі або ўвогуле не пусціць у друк, але аўтараў ужо не арыштоўвалі, не высылалі і не расстрэльвалі. Дысідэнцкі рух у БССР быў не вельмі актыўны, ва ўсякім разе ў пісьменніцкім асяроддзі: адзіным паэтам-дысідэнтам стаўся лекар па адукацыі Алесь Наўроцкі, які ў 1978 г. выйшаў з Саюза пісьменнікаў у знак пратэсту супраць прымянення псіхіятрыі ў палітычных мэтах.

Адсутнасць гістарычных катаклізмаў, пацяпленне палітычнага клімату ў краіне, нармалізацыя (ці, хутчэй, строгая іерархізацыя ды уніфікацыя) літаратурнага працэсу прывялі ды *крызісу пісьменніцкай біяграфіі* ў беларускай літаратуры другой паловы XX ст. Жыццяпісы пісьменнікаў, народжаных пасля Другой Сусветнай вайны, аказаліся блізняча падобнымі, аднастайнымі і ідэалагічна вытрыманымі: нараджэнне (найчасцей, у вёсцы) – школа – служба ў арміі (у мужчын) – універсітэт (найчасцей, філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта) – праца ў рэдакцыі альбо выдавецтве (найчасцей, у Мінску). З’явілася нават паняцце *філалагічнае пакаленне; біяграфія* пісьменніка больш не працавала на папулярнасць ягоных твораў у чытача, яе паступова замяніла *бібліяграфія (*спіс апублікаваных зборнікаў, двухтомнікаў, шматтомнікаў) і спіс узнагарод і званняў.

Першым сучасным беларускім пісьменнікам, які “вылузнуўся” з гэтага уніфікаванага шэрагу, парушыўшы ўсе сталыя іерархіі і традыцыйныя траекторыі (а разам з тым – агульнапрынятыя нормы паводзінаў у грамадстве), стаў Анатоль Сыс (1959-2005), чый лёс інтрыгуе чытача не менш, чым ягоныя паэтычныя творы, і прымушае даследчыкаў шукаць усё новыя тлумачэнні ягоных мастацкіх

і жыццёвых метамарфозаў, нечаканых узлётаў і падзенняў. Пра Анатоля Сыса напісана і апублікавана шмат: навуковых артыкулаў, успамінаў, мастацкіх твораў, але, чытаючы ўсе гэтыя тэксты, сустракаеш супярэчлівыя характарыстыкі асобы паэта і вызначэнні яго месца ў гісторыі беларускай літаратуры. З аднаго боку: *выбітны паэт, голас пакалення, змагар, прарок нацыянальнага адраджэння, Геній.* З другога: *агідны паэт, блазан, алкаголік, вырадак, блюзнер, хам.*

Нават у тым самым выданні, у таго самага аўтара можна сустрэць розныя ацэнкі асобы і творчасці Сыса. У акадэмічнай "Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя" (выдадзена ў 1999-2014 гадах у чатырох тамах і сямі кнігах) чытаем: "Жыццё і творчасць Анатоля Сыса – гэта яшчэ адна легенда Беларушчыны (пасля Паўлюка Багрыма, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Паўлюка Труса, Уладзіміра Жылкі, Уладзіміра Караткевіча)" **(Гарэлік, 1019).**

Такім чынам, Анатоль Сыс залічваецца ў шэраг найвялікшых беларускіх паэтаў, паэтаў з узнёслым, рамантычным арэолам, прарокаў-будзіцеляў нацыянальнай самасвядомасці. Але напрыканцы раздзела нечакана сустракаем наступную выснову: "Нягледзячы на тое, што Анатоль Сыс папоўніў шэрагі "клятых паэтаў" (Поль Верлен, Арцюр Рэмбо, Сяргей Ясенін і інш.), яркі талент і багатая літаратурная спадчына патрабуюць далейшага вывучэння" **(Гарэлік, 1036)**.

Як бачым, тут Анатоль Сыс апынуўся зусім у іншым, багемна-скандальным суседстве, ператварыўшыся з "легенды Беларушчыны" ў "клятага паэта". Дарэчы, у школьнай гісторыі беларускай літаратуры, у адрозненні ад акадэмічнай, раздзела пра Сыса няма: складальнікі школьнай праграмы пакуль не адважыліся ўключыць у яе творчасць такога неадназначнага, "маральна няўстойлівага" паэта.

Андрэй Мельнікаў у сваёй кнізе "Анатоль Сыс. Псальмяр эпохі перагною" (2017), выдадзенай у серыі *100 выдатных дзеячаў беларускай культуры*, называе свайго героя *прарокам* (**Мельнікаў, 62**), але ў той жа час адзначае, што выхадзец з палескай глыбінкі Анатоль Сыс у 90-я гады XX стагоддзя стаў для беларускай культурнай эліты падабенствам харызматычнага "старца" Грыгорыя Распуціна для дваранскай эліты апошніх гадоў Расійскай імперыі **(Мельнікаў, 45-46).**

Калі адзін і той жа даследчык, у той самай публікацыі залічвае Сыса і ў шэрагі паэтаў-прарокаў, і ў кампанію клятых паэтаў, або называе яго стваральнікам беларускага паэтычнага Псалтыра і адначасова новым Распуціным, няма чаго дзівіцца рознагалоссю сярод шматлікіх літаратуразнаўцаў, крытыкаў, пісьменнікаў, якія пісалі пра Анатоля Сыса, ствараючы чарговыя міфы пра ягоную асобу і творчасць.

Думаецца, усе гэтыя рознагалоссі і разначытанні ў ацэнках асобы Анатоля Сыса і ў вызначэнні месца ягонай творчасці ў гісторыі беларускай літаратуры вынікаюць з трох прычынаў: 1) неардынарнай і супярэчлівай натуры паэта; 2) спецыфікі адрэзку часу, у які жыў Анатоль Сыс і які насамрэч прыйшоўся на тры эпохі: застойна-савецкую (да 1984 г.), перабудовачна-адраджэнскую (1985-1992) і лукашэнкаўскую (ад 1993 г.); 3) складанай траекторыі жыццёвага і творчага шляху паэта, у якім можна вылучыць тры этапы: пачаткоўскі, адраджэнскі і багемны ("выкляты").

Пазбягаючы эмацыянальных ацэнак і суб'ектыўных канатацый, якія міжволі ўзнікаюць, калі звяртаешся да біяграфіі і творчасці пісьменніка, які жыў у тваім часе і якога ты ведаў асабіста, паспрабуем прасачыць складаную аўтарскую траекторыю Анатоля Сыса, абапіраючыся на біяграфічныя нарысы Леаніда Галубовіча і Андрэя Мельнікава, успаміны сяброў і знаёмых паэта, яго інтэрв'ю ў прэсе, а таксама цытуючы асобныя вершы паэта (тэрмін *аўтарская траекторыя* я ўжываю ўслед за П'ерам Бурдзьё (**Бурдье, 22-87**) як альтэрнатыву звычайнай пісьменніцкай біяграфіі, як суму літаратурных і пазалітаратурных фактараў, як вынік выкарыстаных пісьменнікам аўтарскіх стратэгій).

## Сыс – пачынаючы паэт

Першы адрэзак аўтарскай траекторыі Сыса – шлях у літаратуру – досыць тыповы для беларускага паэта савецкай эпохі, але з пэўнымі нюансамі, якія адыграюць сваю ролю на пазнейшых стадыях яго творчай біяграфіі.

Анатоль Сыс нарадзіўся 26 кастрычніка 1959 у вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Нарадзіўся ў *вёсцы*, як і большасць беларускіх пісьменнікаў, але ў адрозненне ад некаторых сваіх калег не саромеўся вясковага паходжання і ў той жа час не эксплутаваў тэму вёскі ў сваёй творчасці, што было апазнавальным знакам і праклёнам беларускай літаратуры ХХ ст. Калі ў Сыса і быў унутраны, затоены комплекс вясковасці, то ён яго ўмела хаваў, публічна дэкларуючы сваё паходжанне з вёскі, але не абы якой Вёскі, *міфалагізуючы* сваю малую радзіму: “Я дарэчы часта жартую, што сталіца Беларусі – Гарошкаў, бо першага глінянага каня знайшлі на маім гародзе як бульбу капалі. Ён зараз ва ўсіх энцыклапедыях. Вось адкуль узялася Пагоня!” (**Сыс, 409**).

З іншага боку, вясковае паходжанне ў сукупнасці з задзірыстым характарам спрыялі пазнейшаму пазіцыянаванню Сыса ў пісьменніцкім асяроддзі як *простага* хлопца (*a la* Ясенін), ягонаму недаверу да інтэлігенцкай этыкі і дэманстратыўнай пагардзе да агульнапрынятых нормаў паводзінаў. Невыпадкова некаторыя сябры называлі яго “гарошкавец” (**Асташонак, 11-12**).

Бацькамі будучага паэта былі Ціхан Сыс (калгасны шафёр) і Марыя Сыс з Гапоненкаў (настаўніца). Маці паэт абагаўляў, прысвяціўшы ёй мноства вершаў, у тым ліку знакавы верш “Неапалімая купіна” (цяжарная Анатолем Марыя Іванаўна ледзь не загінула ў пажары), ад бацькі яму дасталіся характар жартаўніка-гаваруна і... гены алкаголіка. “<...> Радзімай для мяне быў заўсёды падвыпіўшы бацька. І той час, калі ён жыў – таксама Радзіма”, – прызнаваўся Сыс у адным з першых сваіх інтэрв’ю (**Ліпай, 255**). Прыклад бацькі, якога рана загубіла гарэлка, спрыяў негатыўнаму стаўленню Сыса да алкаголю ў маладосці, у перыяд творчага ўзыходжання. На жаль, генетычная схільнасць да алкагалізму праявілася пазней, у часы паэтавай славы.

Свой першы верш Анатоль напісаў у дзесяць гадоў, па-беларуску, і “з таго часу быў упэўнены, што жыццё будзе звязана з літаратурай” (**Сыс, 392**). Ва ўсякім разе, так сцвярджаў сам паэт у 1988 годзе. У 1997 г. ён выказваецца на гэтую тэму больш катэгарычна: “Свой першы верш я напісаў на роднай мове ў дзевяць гадоў, і гэтым ганаруся. Не хвалюся, але ўжо тады я быў упэўнены, што надыдзе час, і мяне будуць вывучаць у школах” (**Сыс, 409**).

Нягледзячы на сваю ўпэўненасць у *літаратурным* прызванні, пасля заканчэння сярэдняй школы ў 1977-м Сыс спрабуе паступіць на *акцёрскае* аддзяленне Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, марыць пра акцёрскую кар’еру на сцэне Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы ў Мінску. І, нонсенс, не праходзіць па конкурсе з-за беларускага акцэнту ў вымаўленні! (**Сыс, 402**) У зрусіфікаванай савецкай Беларусі, дзе з 27 тэатраў толькі 3 былі беларускамоўныя, на ўступных экзаменах ад будучых акцёраў вымагалі дэкламацыі вершаў на рускай мове.

Няўдалая спроба стаць акцёрам шмат тлумачаць у жыццёвым і творчым лёсе Анатоля Сыса, не выпадкова паэт шматкроць згадваў гэты факт сваёй біяграфіі ў розных інтэрв’ю і канстатаваў: “...я шмат у чым – тэатр аднаго паэта (**Сыс, 393**), “...тое, што не рэалізаваў у тэатры, рэалізоўваю ў жыцці” (**Сыс, 402**). Леанід Галубовіч, аўтар першага біяграфічнага нарыса пра Анатоля Сыса, слушна сцвярджае, што “... ў асобе Анатоля Сыса мы згубілі неардынарнага нацыянальнага артыста беларускай тэатральнай сцэны” (**Галубовіч, 6**). Думаю, што паспяховая кар’ера акцёра (магчыма, у спалучэнні з паэтычнай творчасцю) зрабіла б жыццё Сыса больш гарманічным і працяглым: сыгранныя на сцэне трагічныя ролі ўберaглі б паэта ад ператварэння ў тэатр уласнага жыцця.

Не паступіўшы “на акцёра” ў Мінск, Анатоль Сыс у тым самым годзе падае дакументы на менш прэстыжнае гісторыка-філалагічнае аддзяленне Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Прыняты на вучобу, без вялікага энтузіязму ходзіць на заняткі (часам дэманстратыўна ў вясковай кухвайцы), ладзіць розыгрышы ў студэнцкім інтэрнаце (вые ваўком у цёмных калідорах, прымушае наведвальнікаў дыскатэкі цалаваць беларускі сцяг), круціць раманы з дзяўчатамі і шакіруе сваімі экстравагантнымі паводзінамі выкладчыкаў, з-за чаго яго двойчы ледзь не выключылі з універсітэта (**Бяляцкі, 104; Мельнікаў, 12-13**). А з найбольшай ахвотай піша вершы, наведвае ўніверсітэцкае літаб’яднанне “Крыніца”, публікуецца ва ўніверсітэцкай і абласной газетах і ўпотайкі марыць стаць вядомым паэтам. Можна быць пэўным, што прафесія настаўніка беларускай мовы і літаратуры ў вясковай школе, якую гарантаваў універсітэцкі дыплом, ці нават магчымасць уладкавацца журналістам ў раённую газету не прываблівалі амбітнага маладзёна.

Леанід Галубовіч у сваім нарысе “Як шаравая маланка...” выказаў наступную гіпотэзу:

> <...> я думаю, што яшчэ тады, студэнтам, ён “спланаваў і тэзісна вызначыў” свой магчымы літаратурны шлях. Шараговым *саюзапісьменніцкім* паэтам ён быць не мог і не хацеў (Багдановіч, Купала і Караткевіч – вось “Тройца”, на якую ён моліцца!) Ён павінен быў стаць вызначальным для нацыі Паэтам. І для гэтага ў яго было ўсё: **характар, воля і талент.** Трэба было толькі змірыцца з тымі ахвярамі, якія яму неабходна будзе пакласці на закланне Таленту (дабрабыт, сям’я, радасць паўнацэннага зямнога жыцця) і да канца быць непахісным у сваёй мэтанакіраванасці (**Галубовіч, 4**).

Думаецца, Галубовіч крыху перабольшвае: падобнае ўсведамленне (свядомая аўтарская стратэгія) прыйшло да Анатоля не ў студэнцкія гады, а значна пазней, у другой палове 80-х гг., калі кардынальна змянілася палітычная і культурная сітуацыя ў краіне (пашырылася прастора магчымасцяў), а талент паэта выйшаў на якасна новы ўзровень, што дало падставы канкураваць з найлепшымі сталічнымі паэтамі і нават апярэджваць іх у папулярнасці сярод чытачоў. У студэнцкія гады Анатоль Сыс дакладна ўсвядоміў адно: каб выбіцца ў пісьменнікі, трэба арыентавацца не на ўніверсітэцкае літаб’яднанне і не на абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў, а заявіць пра сябе ў сталіцы, на рэспубліканскай літаратурнай сцэне. Рэалізуючы гэты план, ён дасылае ў 1981 г. машынапіс паэтычнага зборніка “Берагі майго юнацтва” ў Саюз пісьменнікаў БССР, а восенню таго ж года з дапамогай кіраўніка Гомельскага абласнога аддзялення СП Івана Сяркова трапляе на Рэспубліканскі семінар маладых беларускіх пісьменнікаў у Каралішчавічах.

І тут яго чакаюць два вялікія расчараванні. Машынапіс зборніка вяртаецца з негатыўнай рэцэнзіяй Фёдара Яфімава (паэта, супрацоўніка рэдакцыі “Мастацкая літаратура”), а ў Каралішчавічах нікому невядомы правінцыял Анатоль Сыс са сваімі досыць банальнымі вершамі і пародыямі застаецца абсалютна незаўважаным на фоне іншых удзельнікаў семінару, пераважна старэйшых за яго: Леаніда Галубовіча, Уладзіміра Арлова, Уладзіміра Ягоўдзіка, Алега Мінкіна, Віктара Шніпа і інш. Гэта быў балючы ўдар па самалюбстве амбітнага творцы, менавіта пасля фіаска ў Каралішчавічах Анатоль Сыс паабяцаў даказаць сабе і іншым, што ён найлепшы паэт сярод сваіх равеснікаў і стане найлепшым сучасным паэтам Беларусі (на лаўры класікаў ён у той час яшчэ не замахваўся).

Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1982 г. Анатоля Сыса прызываюць у савецкую армію, ён служыць у Польшчы (Легніца), прычым першыя паўтара года загадвае батальённай бібліятэкай, што дае магчымасць шмат чытаць і пісаць. З дому ён узяў з сабой томік выбраных твораў паэткі пачатку ХХ ст. Алаізы Пашкевіч і зборнік Алеся Разанава “Шлях-360” (лепшы беларускі паэтычны зборнік пачатку 80-х гг. ХХ ст.), якія робяцца ягонымі настольнымі кнігамі і творчымі арыенцірамі (**Сыс, 395**). Змагарная, трыбунная, патрыятычная паэзія Пашкевіч вучыць эмацыянальна

ўздзейнічаць на пачуцці чытача-слухача; эксперыментальная, інтэлектуальная паэзія Разанава вучыць філасофскаму спасціжэнню Сусвету і аваладанню сучаснымі формамі і жанрамі. Творчым вынікам гэтай вучобы стала паэма "Алаіза", прысвечаная Алаізе Пашкевіч і напісаная ў стылі Разанава, а таксама паэма "Агонь-птушка" і шэраг вершаў, якія ўвойдуць пазней у новы паэтычны зборнік "Агмень", створаны на значна вышэйшым узроўні, чым "Берагі майго юнацтва".

Пасля вяртання з войска ў 1984 г. Анатоль Сыс нейкі час працуе журналістам у веткаўскай раённай газеце з красамоўнай назвай "Перамога Кастрычніка", друкуецца таксама ў іншай раённай газеце пад назвай "Камуніст Палесся", але напачатку 1985 г. рашуча кідае нялюбую працу і прыязджае ў Мінск, дзе з дапамогай Віктара Шніпа (маладога паэта, з якім Сыс пазнаёміўся ў Каралішчавічах і падтрымліваў перапіску) знаходзіць працу тэхніка на Беларускім тэлебачанні і атрымлівае пакой у інтэрнаце. На працягу некалькіх наступных гадоў учарашні правінцыял Анатоль Сыс робіцца адным з самых вядомых сучасных паэтаў Беларусі і ўваходзіць у шэрагі нацыянальнай культурнай эліты...

## Сыс – Прарок

Для аўтарскай траекторыі Анатоля Сыса важна не толькі тое, што ён перабраўся з правінцыі ў сталіцу, а *час*, *гістарычны момант*, у які ён гэта зрабіў. Калі б Сыс пераехаў у Мінск адразу пасля заканчэння ўніверсітэта, яшчэ ў брэжнеўскую *застойную* эпоху, такога імклівага творчага ўзлёту і прарыву да славы не адбылося б. У лепшым выпадку малады паэт апублікаваў бы некалькі нізак вершаў у рэспубліканскім друку і цярпліва чакаў бы выхаду свайго першага зборніка ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Але ў 1985 г. пачалася абвешчаная новым генеральным сакратаром КПСС Міхаілам Гарбачовым палітыка перабудовы і дэмакратызацыі грамадства, якая выклікала магутную хвалю нацыянальнага адраджэння ў Беларусі і іншых савецкіх рэспубліках. У Мінску, а потым і ў іншых гарадах Беларусі, узнікаюць нефармальныя патрыятычныя суполкі моладзі ("Талака", "Пагоня", "Ратуша" і інш.), якія дбаюць пра захаванне гістарычнай спадчыны і нацыянальнага фальклору, пра папулярызацыю ў грамадстве беларускай мовы і культуры. Анатоль Сыс, які ў 1981 г. рашуча адмяжоўваўся ад палітыкі ("Казаў, што ў Менску – нацыяналісты, і што ўсё гэта скончыцца турмой, а ён хоча пісаць вершы і нічога болей" **(Бяляцкі, 108)**) і сумняваўся ў сваім беларускім патрыятызме яшчэ ў 1984 годзе ("...не ведаю, ці змагу я ўліцца ў "Беларусы". Я эгаіст... хачу прыгожа жыць" **(Мельнікаў, 23)**), у 1985 г. актыўна ўключаецца ў дзейнасць мінскай "Талакі", якой кіруе Сяржук Вітушка, а ў снежні 1986 г. разам з Міхасём Талочкам і Алесем Бяляцкім ініцыюе ўтварэнне літаратурнай суполкі "Тутэйшыя", якая неўзабаве ператвараецца ў Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя" пра СП БССР і аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах каля шасцідзесяці маладых пісьменнікаў з усёй Беларусі. Таварыства "Тутэйшыя" (1986-1989) адыграла вялікую ролю ў грамадска-палітычным і культурным жыцці Беларусі і дало назву цэламу пісьменніцкаму пакаленню.

Валодаючы выдатнымі акцёрскімі здольнасцямі, нязвыклай "шаманскай" манерай чытання вершаў, Анатоль Сыс робіцца "фронтмэнам" "Тутэйшых", голасам і тварам Таварыства, дэкламуючы свае новыя творы на паэтычных вечарынах і нелегальных мітынгах, ператвараючы іх у паэтычныя шлягеры, якія беларуская патрыятычная моладзь ведала на памяць, яшчэ да з'яўлення іх у друку: "Маналог "Тутэйшага"", "Колькі нашай крыві...", "Маналог Апанаса Філіповіча", "Дух", "Пацір". І гэта не была рыфмаваная плакатная публіцыстыка, гэта была таленавітая лірыка, якая шчыра адлюстроўвала стан душы аўтара і ў той жа час

кандэнсавала ў сабе боль некалькіх пакленняў беларусаў, пазбаўленых свабоды і нацыянальнай годнасці.

Выхад у 1988 г. зборніка “Агмень”, а асабліва зборніка “Пан Лес” у 1989 г., толькі пацвердзіў вусную славу Анатоля Сыса як найлепшага паэта свайго пакалення, і замацаваў за ім імідж *Прарока* новай хвалі беларускага адраджэння.

Верш “З чаго пачаць?” са зборніка “Агмень” стаў паэтычным маніфестам Анатоля Сыса і ўсяго пакалення “Тутэйшых”**:**

– З чаго пачаць?.. Пачну з Радзімы.
Так абавязаны пачаць.
– Але ў яе ты не адзіны.
Навошта пра любоў крычаць?

– Няхай, няхай я паўтаруся
ў любові тысячу разоў,
затое шчыра ў ёй клянуся,
без фальшу, без падробных слоў.

– Што ж, пачынай.
Сам выбраў долю...
й нядоля знойдзецца сама.
Перад табою поле бою —
Тут не адзін паэт сканаў.

**(Сыс, 13)**

Паэтам-прарокам называлі напачатку XX ст. Янку Купалу **(Луцкевіч, 289-299)**, прарокам-будзіцелем нацыянальнай самасвядомасці беларусаў назвалі “тутэйшаўцы” ў сваім *Маніфесце* Уладзіміра Караткевіча (1930-1984) **(Manifest “Tutejszych”, 12)**, наступнікам Купалы і Караткевіча, новым Прарокам, Геніем пачынае ўсведамляць сябе Сыс – спачатку метафарычна, у вершах **(Сыс, 108)**, а потым усур’ёз, у рэальным жыцці. У размовах з сябрамі, выступленнях са сцэны, а потым і ў друку ён называе сябе “сынам Янкі Купалы і братам Максіма Багдановіча”, перакананы, што “належыць не сабе, Беларусі” і наракае на адсутнасць у сучаснай літаратуры роўнага яму талентам наступніка: “Сумна, бо пасля сябе не бачу нікога. Я прыйшоў пасля Караткевіча, пасля мяне – ніхто” **(Сыс, 400, 403, 405)**.

Развіццю “зорнай хваробы” ў маладога таленавітага паэта, *гіпертрафіі творчых амбіцый* **(Шынкарэнка, с. 29)** спрыялі старэйшыя пісьменнікі, якія свядома вылучалі яго сярод іншых “тутэйшаўцаў”, дазвалялі звяртацца да іх на “ты”, як роўны з роўным, хаця за вочы з пагардай называлі яго: “Анатоль Шыз” (Ніл Гілевіч) альбо іранічна: “Анатоль Ціханавіч” (Рыгор Барадулін). Восенню 1988 г. Анатоля Сыса – першага з “тутэйшаўцаў – прымаюць у шэрагі Саюза пісьменнікаў БССР і СССР, у кастрычніку 1989 г. у вялікай зале Дома літаратара з помпай праходзіць аўтарская вечарына трыццацігадовага паэта (раней беларускі пісьменнік толькі на пяцідзесяцігадовы юбілей меў такі гонар), зборнік “Пан Лес” абмяркоўваюць на спецыяльным паседжанні секцыі крытыкі Саюза пісьменнікаў у сакавіку 1990 г. як значную падзею ў беларускай літаратуры, у тэматычным плане выдавецтва “Мастацкая літаратура” анансуецца новы зборнік Анатоля Сыса “Ягамосць...” Новыя вершы паэта, якія з’явіліся ў гэты час у друку, сведчылі пра далейшы творчы рост Сыса і давалі падставы меркаваць, што зборнік “Ягамосць...” станецца адной з найлепшых паэтычных кніг у гісторыі беларускай літаратуры, заняўшы месца поруч з “Вянком” Багдановіча і “Шляхам-360” Разанава. Што праўда, тэматыка і інтанацыя вершаў Сыса паступова мяняюцца; побач з тэмай Радзімы ўсё большае месца займае ў іх тэма Паэзіі і трагічнага лёсу паэта:

Я думаў,
Вершы мае відушчыя,
Аж пакуль не аслепнуў сам
Ад маланкі, самім жа пушчанай,
Я гарэў як бязбожны храм,
Сам сабе я ў ім здаўся богам,
Адпускаў сам сабе грахі –
Грызла ганак, вяла дарога
Зноў на д’ябальскія кругі...

**(Сыс, 228)**

## Сыс – блазан

Адразу пасля ўступлення ў Саюз пісьменнікаў Анатоль Сыс выходзіць з шэрагаў “Тутэйшых” (паводле Статута Таварыства чалец СП не можа быць адначасова сябрам Таварыства маладых літаратараў), а ўслед за ім у “дарослы” СП уступаюць некаторыя іншыя “тутэйшаўцы” (Адам Глобус, Алег Мінкін, Алесь Наварыч, Андрэй Федарэнка, Уладзімір Сцяпан), кіраўнік Таварыства Алесь Бяляцкі выбірае шлях палітыка і ўваходзіць ва ўправу “Беларускага Народнага Фронту”, а вядучы крытык “Тутэйшых”, аўтар “Маніфесту...” Сяргей Дубавец дэманстратыўна не прызнае “геніяльнасць” Сыса, публікуючы ў альманаху “Тутэйшыя” (1989) толькі адзін вершык фронтмэна Таварыства, а ў самвыдатаўскіх альманахах “Літаратура-1” (1989), “Літаратура-2” (1990) не змяшчае ніводнага ягонага твора. У артыкуле “Хто там?” Дубавец кпіць з іміджа *прарока*, якім надзяляюць Анатоля Сыса легкаверная публіка і старэйшыя пісьменнікі:

У такія моманты – гісторыя ведае – лёгка ўзнікаюць культы. Ссумавалая па мінулым публіка прагне цвёрдай рукі, прарока і масавага псіхозу. І вось собіла ж у такі момант ўвайсці ў будынак на Фрунзе, 5 *[адрас Дома Літаратара і Саюза пісьменнікаў БССР – С.К.]* Толіку Сысу – выпускніку Гомельскага, як ён кажа, “універмагу”. Дабрадушны і бесшабашны Толік, які “касіў пад Разанава” (гэта таксама ягоныя словы) на нейкі час міжволі апынуўся ў цэнтры ўвагі. <...> Ведаеце, што трэба, каб стаць прарокам? Скрайні інфантылізм плюс фамільярная пагарда да правілаў паводзінаў, маветон. <...> А каб не толькі з’явіцца, але і застацца прарокам, святаром ці фюрэрам – вам трэба яшчэ жалезная воля і – зноў – здольнасць да ахвяры. Гэта апошняе, бадай, самае складанае... **(Дубавец, с. 29)**

Зрэшты, пасля ўступлення ў Саюз пісьменнікаў і выхад з “Тутэйшых” імідж Анатоля Сыса пачынае паступова мяняцца: з *прарока* і *змагара-адраджэнца* на *багемнага паэта-скандаліста*. Цяпер паэта можна сустрэць не на мітынгах і грамадскіх шэсцях, а ў бары Дома літаратара ў кампаніі знаных пісьменнікаў (Уладзіміра Някляева, Аляксея Дударава і інш.), а яго выступленні, найчасцей у нецвярозым выглядзе, суправаджаюць ледзь не кожную вечарыну ў Саюзе пісьменнікаў, ствараючы праблемы яе арганізатарам і ўдзельнікам. Нерэалізаваныя акцёрскія амбіцыі, прага заўсёды знаходзіцца ў цэнтры ўвагі, харызматычны характар – гэтыя якасці дапамаглі Сысу здабыць папулярнасць у патрыятычнай беларускамоўнай публіцы, але гэтыя ж якасці перашкаджалі яму цяпер засяродзіцца на творчасці.

Многім маладзейшым літаратарам экстравагантныя паводзіны выбітнага паэта і тэатралізацыя нуднага саюзапісьменніцкага жыцця ў ягоным выкананні падабаліся. Лідэр літаратурнай групы “Бум-бам-літ” (утварылася ў сярэдзіне 90-х гг. XX ст.) Зміцер Вішнёў не без зайздрасці адзначаў:

А колькі плётак і міфаў стварыў вакол сябе Анатоль Сыс!.. На маю думку, гэта цалкам натуральна. Паэт заўсёды павінен быць на вастрыні падзеяў – калі не на амбразуры, дык хоць на барным століку. Паэзія – рэч самадастатковая, але ў XXI стагоддзі яна шпацыруе ў тандэме з іншымі відамі мастацтва. Відарысы радкоў паэт Сыс аздабляе сваім дэбошным існаваннем **(Вішнёў, с. 41)**.

Але сяброў паэта, тых, хто памятаў Сыса з другой паловы 80-х і цаніў ягоныя таленавітыя вершы больш, чым ягоную скандальную славу, раптоўная змена іміджу і ладу жыцця паэта ў 90-х гадах засмучала. Як слушна заўважыў Міхась Скобла, "...найбольшую трывогу выклікала тое, што падобныя дзівацтвы рабіліся ледзь не адзіным спосабам самавыяўлення для таленавітага паэта" **(Сыс, 415)**. А Ганна Кісліцына не пабаялася ў твар паэту выказаць горкую праўду: "Твае "шызы" прывялі да таго, што многія адводзяць табе толькі адну адзіную ролю – блазна" **(Сыс, 413)**.

Чуткі пра скандалы і выхадкі Анатоля Сыса дайшлі нават за мяжу. Укладальнік анталогіі новай беларускай паэзіі *Za niebokresem Europy* (Беласток, 1998) Ян Максімюк у пасляслоўі падзяліўся з польскім чытачом наступнай інфармацыяй:

> Сыс стаў героем некалькіх хуліганска-п'яных скандалаў у Доме літаратара ў Мінску, дзе шмат разоў перапыняў тамтэйшыя юбілеі асабістымі перформансамі і быў выпраўджаны з залы пісьменнікамі-патрыярхамі, якія памяталі яшчэ даваенныя часы. Ахвярай Сыса стаў вялізны бюст Леніна (разляцеўся на кавалкі падчас сутыкнення з паэтам), а таксама тамтэйшы бар (пасля чарговай оргіі з удзелам паэта быў надоўга зачынены). Маска блазна не вельмі пасавала Сысу: пасля кожнага чарговага скандала ён трапляў у глыбокую дэпрэсію, чуўся самотным і ўсё менш пісаў (**Maksymiuk, 107,** пераклад мой. – *С.К.*).

Сапраўды, у пачатку 90-х гадоў з пісаннем новых вершаў у Анатоля Сыса ўзніклі праблемы, гэтак жа як і з сумяшчэннем багемнага ладу жыцця і прагрэсуючай алкагольнай залежнасці з якой-небудзь працай увогуле. У 1991 годзе з-за перыядычнага нез'яўлення на працу ён губляе сціплую пасаду тэхніка на Беларускім тэлебачанні, пазней з-за адсутнасці якой-кольвечы дысцыпліны не вытрымлівае нават месяца на пасадзе загадчыка аддзела паэзіі ў часопісе "Крыніца", а напрыканцы 90-х гг. робіць апошнюю спробу зачапіцца за працу – у якасці вядучага рубрыкі "Анталогія аднаго верша" ў газеце "Звязда" – на жаль, непрацяглую (выйшла толькі дванаццаць выпускаў рубрыкі). Здавалася б, што не маючы ні сталай працы, ні сям'і (сваім адзіным каханнем, сваёй жонкай ён называе Паэзію), Сыс можа цалкам аддацца творчасці, але насамрэч амаль замаўкае як паэт, апублікаваўшы з 1991 г. па 2005 г. усяго дваццаць-трыццаць вершаў, у якіх пануюць матывы самоты, беспрытульнасці, прадчування блізкай смерці:

Як той сабака,
я шукаю схову –
сканаць у ім,
каб шкельцы гострых слёз
спаўзлі з вачніц,
нібы з асвіных гнёзд,
на вусны
і з крывёй збудзілі мову.

Няхай хоць перад смерцю,
я пачую –
што
кроў мая раскажа пра мяне?..

Ды гэтай ноччу смерць хай абміне,
і, бы ў труне, я ў схове заначую,
як той сабака...

Я пагібель чую.
**(Сыс, 248)**

Ператварэнню папулярнага паэта, патрыёта-адраджэнца ў выраджэнца-маргінала спрыялі не толькі спецыфічныя рысы ягонага характару, але і палітычна-эканамічныя змены ў грамадстве. У 1991 г. Беларусь атрымала незалежнасць, але гэтая

незалежнасць не стала свядомым выбарам народа, а прыйшла звонку, у выніку распаду СССР, таму пасля выбараў Аляксандра Лукашэнкі прэзідэнтам у 1994 г. пачалося імклівае вяртанне да савецкіх ідэалаў, і нацыянальныя каштоўнасці, якімі жыло пакаленне "тутэйшых", аказаліся не ў пашане ва ўладаў і ў бальшыні грамадства ("Я зжэр бы свой народ..." – называецца адзін з вершаў Сыса). Пасля распаду савецкай імперыі ў былых рэспубліках пачаўся востры эканамічны крызіс, а потым і крызіс духоўны – як вынік расчаравання ў дэмакратычных ідэалах і прыстасавання да новай капіталістычнай рэчаіснасці. Расквітнелая ў перыяд перабудовы кнігавыдавецкая справа ў сярэдзіне 90-х гг. прыйшла ў заняпад, у эпоху ўсеагульнага гандлю адбылося рэзкае падзенне аўтарытэту пісьменніка ў грамадстве.

У канцы 80-х гадоў, атрымаўшы вялікі ганарар за свой зборнік "Пан Лес", выдадзены накладам 5000 экз., Анатоль Сыс макаў сторублёвыя банкноты ў вядро каньяку і абклейваў імі сцены ў бары Дома літаратара (**Сыс, с. 414**). У сярэдзіне 90-х гг. дзяржаўнае выдавецтва "Мастацкая літаратура" з-за фінансавых цяжкасцяў рэзка скараціла выданне беларускамоўных кніг і фактычна перастала плаціць аўтарам ганарары. Запланаваны да выдання зборнік Сыса "Ягамосць" так і не пабачыў свет, наступная кніга паэта – зборнік выбраных вершаў "Сыс" – выйшла ў 2002 г. мізэрным накладам 200 экз. на сродкі даўняй сяброўкі паэта Валянціны Якімовіч, якая зарабіла гэтыя грошы ў ЗША, даглядаючы старых амерыканак (**Мельнікаў, с. 54**).

Апошнія дзесяць гадоў свайго жыцця Анатоль Сыс жыў фактычна на ахвяраванні сяброў альбо з'язджаў у родную вёску Гарошкаў, дзе дапамагаў маці даглядаць гаспадарку. Пісьменніцкае асяроддзе стамілася ад выхадак Сыса, якія рабіліся ўсё больш аднастайнымі і зводзіліся да банальнай дэкларацыі "Я – геній, а вы – ніхто". Сыс апускаўся фізічна і духоўна і з выгляду ўсё больш нагадваў бамжа-алкаголіка, жабрака з вакзальных ваколіц. Ён усё радзей з'яўляўся ў публічных месцах, а слухачамі ягоных вершаў сталі цяпер маргіналы-сабутэльнікі ды мінскія міліцыянты, якім часта даводзілася затрымліваць п'янага дзівака, што называў сябе сынам Купалы і братам Багдановіча ды паказваў ім зашмальцаваны членскі білет Саюза пісьменнікаў СССР.

4 мая 2005 г. Анатоль Сыс памёр у сваёй аднапакаёвай мінскай кватэры ад язвы страўніка, захлынуўшыся ўласнай крывёй, як ён і прадбачыў у адным з вершаў. Пахаваны ў роднай вёсцы Гарошкаў, "сталіцы Беларусі".

## Сыс – легенда

Адразу пасля смерці Анатоля Сыса ягоная асоба і творчасць пачалі абрастаць міфамі і легендамі. Прыкрыя выхадкі і ўчынкі скандальнага паэта забываліся, а дасціпныя і смелыя, наадварот, гераізаваліся. Напрыклад, у кнізе Уладзіміра Арлова "Імёны свабоды" згадваецца, як Сыс у 1990-м з крыкам "Акупанты, прэч!" спыніў разам з сябрамі на сталічным праспекце калону бронетэхнікі, што рыхтавалася да кастрычніцкага параду **(Арлоў, 523).** Не ўдакладняецца пры гэтым, што вясёлая кампанія (Сыс, Асташонак, Сцепаненка-малодшы, Наварыч) высыпала на праспект з начнога бара і была на добрым падпітку. Многія пісьменнікі, якім Сыс моцна дакучаў сваімі нечаканымі начнымі візітамі ў пошуках пачастунку (вычытваў у "Даведніку Саюза пісьменнікаў", калі ў каго з калегаў дзень нараджэння), праз шмат гадоў сталі згадваць гэтыя візіты з гумарам, забываючы такія характэрныя дэталі, як выламаныя дзверы, пабіты посуд, перапалоханыя дзеці.

Успамінаў, нарысаў, артыкулаў пра Анатоля Сыса напісана і апублікавана шмат – сябрамі, знаёмымі, незнаёмымі, учарашнімі ворагамі – і трэба адзначыць, што амаль усе гэтыя ўспаміны надзвычай цікавыя, адкрываюць асобу паэта з розных бакоў, з іншых узроставых перспектыў гледжання (пры гэтым пераконваешся, што і ва ўласнай памяці захавалася шмат цікавых эпізодаў, характэрных дэталяў, нікім пакуль

не згаданых). Калі хочаш паглядзець на Сыса вачыма старэйшага пакалення – варта пачытаць артыкулы Вольгі Шынкарэнкі, Івана Штэйнера, Алы Сямёнавай, вачыма аднагодкаў – Леаніда Галубовіча, Адама Глобуса, Алеся Бяляцкага, Алеся Аркуша, Уладзіміра Сцяпана, Міколы Сцепаненкі, Андрэя Мельнікава, вачыма маладога пакалення (дарэчы, найбольш крытычнага ў адносінах да паэта) – Усевалада Гарачкі, Аксаны Бязлепкінай, Віктара Корбута, Валерыі Куставай.

Пра неардынарнасць і прыцягальнасць асобы Анатоля Сыса сведчыць таксама той факт, што ён – адзіны з сучасных беларускіх пісьменнікаў – стаў героем цэлага шэрагу мастацкіх твораў: апавядання Вольгі Куртаніч "Пакіньце яго плакаць", аповесці "Танцы над горадам" Уладзіміра Арлова, раманаў "Рэвізія" Андрэя Федарэнкі і "Уладар рыбаў" Людмілы Шчэрбы (думаецца, колькасць такіх твораў будзе павялічвацца).

І амаль усе, хто пісаў пра Анатоля Сыса – журналісты, пісьменнікі, літаратуразнаўцы – спрабавалі разгадаць і растлумачыць дзіўную траекторыя ягонага жыццёвага і творчага лёсу, прапануючы цікавыя гіпотэзы і будуючы чарговыя міфы, якія не заўсёды стасуюцца з рэальнымі фактамі і выказваннямі самога паэта ў лістах і інтэрв'ю.

Так, Леанід Галубовіч выказаў меркаванне, што змена іміджу Анатоля Сыса на пераломе 80-90-х гг., маргінальны лад жыцця і ранняя смерць былі вынікам свядомай аўтарскай стратэгіі (той самай *здольнасці да ахвяры*, пра якую пісаў Сяргей Дубавец), свядомым будаваннем міфа, які дапаможа яму застацца ў гісторыі нацыянальнай літаратуры:

"<...> **рэпутацыя выклятага нацыянальнага паэта** была створана немалым коштам душэўных пакут і фізічнымі стратамі ў тым ліку. Гэта толькі з першага погляду здаецца, што ўсё прасцей простага: ужыцца ў пэўны вобраз, заціснуць у кулак нервы і пачуцці і стварыць у чытачоў і прыхільнікаў рэдкі тып звыш адоранага самародка альбо, прабачаюся, таленавітага вырадка" **(Галубовіч, 10)**.

Аўтары некаторых публікацый сцвярджалі, што прычынай дэградацыі Сыса-чалавека і Сыса-паэта былі палітычныя змены ў Беларусі і ягонае расчараванне ўяўнай незалежнасцю краіны, пра якую марыў усё сваё жыццё. Сябра паэта па "Тутэйшых" Адам Глобус пісаў:

Думаецца такое: Сыс насамрэч памёр у 1991 годзе, у дзень абвяшчэння Незалежнасці Беларусі, з 1991 па 2005 Сыс піў, што да вершаў, апублікаваных пазней, дык ён проста ўспамінаў складзенае раней і запісваў. Да 1991-га мы пісалі і выдавалі кнігі, каб атрымаць незалежнасць, калі не поўную, дык хоць бы праспект Незалежнасці. Атрымалі і стала горка **(Глобус, 197).**

Скандальны лад жыцця паэта пасля 1991 года Ян Максімюк тлумачыў як своеасаблівы пратэст супраць прафанацыі ідэі нацыянальнага адраджэння ў Беларусі:

Сыс вельмі балюча адчуваў разрыў паміж разбуджанымі чаканнямі народа і рэальнай палітычна-грамадскай сітуацыяй у Беларусі (называнай у публіцыстыцы 80-х гадоў "Вандэяй перабудовы" і "запаведнікам камунізму"). Сыс хацеў гаварыць пра Беларусь "без фальшу, без падробных слоў" <...>, але ягоны голас патануў у хоры вершапісцаў, якія пачалі ўжываць слова "Беларусь" амаль у кожным радку. Бо цяпер ужо можна было" (**Maksymiuk, 107,** пераклад мой. – *С.К.*)

Што праўда, сам Анатоль Сыс у прыжыццёвых інтэрв'ю тлумачыў свой горкі лёс не свядомым выбарам, а збегам трагічных акалічнасцяў:

"Бацька мяне такім зрабіў. У маім раду ўсе пілі, п'юць і будуць піць. <...> Грошы мне за першыя кнігі заплацілі вялікія. <...> Пачалася зоркавая хвароба – малады, прыгожы, ды яшчэ пры грашах. <...> Шкадую, гарэлка мяне падкасіла. Я б зараз зусім па-іншаму распарадзіўся сваім жыццём... а тады "закайфаваў" – ад славы, ад пахвальбы" **(Сыс, 414)**.

Яшчэ пры жыцці Анатоля Сыса і адразу пасля яго смерці сталі гучаць галасы, што новае пакаленне чытачоў Сыса не ведае **(Шніп, с. 37),** што і сам паэт, і ягоная творчасць засталіся ў перабудовачных 80-х і адраджэнскіх 90-х гадах **(Корбут, с. 66),** што Сыс – ніякі не Прарок і новаму пакаленню патрэбныя зусім іншыя героі **(Гарачка, с. 40).**

Аксана Бязлепкіна, якая напісала першую манаграфіі пра Таварыства "Тутэйшыя" **(Бязлепкіна, 2003)**, выказала меркаванне, што лёс спадчыны і кананізацыя паэта залежыць у першую чаргу ад ягоных сяброў, прадстаўнікоў пакалення "тутэйшых":

> Сыс – гэта з'ява ў беларускай літаратуры, але сапраўднае, самае каштоўнае і праўдзівае слова пра яго могуць сказаць тыя, хто ведаў паэта асабіста з маладых гадоў. <...> Першы крок да стварэння легенды зроблены – паэт памёр. Цяпер колішнім паплечнікам вырашаць, якое месца ён заслужыў у літаратуры сваім жыццём і творчасцю – каморку ці пентхаўз... **(Бязлепкіна, 2005, с. 204)**.

І, сапраўды, пасля смерці Анатоля Сыса найбольш для ўшанавання яго памяці і папулярызацыі яго творчасці зрабілі былыя сябры і паплечнікі. Мастак-талаковец Генадзь Лойка на сабраныя грамадой сродкі зрабіў помнік на магіле паэта. Кіраўнік "Тутэйшых" Алесь Бяляцкі апублікаваў шэраг успамінаў пра паэта **(Бяляцкі, 103-148)** і падрыхтаваў да выдання кнігу яго выбраных вершаў "Алаіза" (2009). "Тутэйшаўцы" Эдуард Акулін і Сяржук Сыс ініцыявалі правядзенне ў вёсцы Гарошкаў штогадовага свята паэзіі пад назвай "Дух – гэта, людзі, я!", а "тутэйшавец" Міхась Скобла выдаў кнігу "Лён", у якую ўвайшлі вершы Сыса з трох прыжыццёвых зборнікаў, вершы апошніх гадоў, а таксама публіцыстычныя артыкулы і інтэрв'ю. І нарэшце ў 2016 г. Алесь Бяляцкі і Эдуард Акулін выдалі зборнік ранніх вершаў Сыса "Берагі майго юнацтва", знойдзены ў сястры паэта. Прадмова Бяляцкага мае красамоўную назву "Прарок свабоды і незалежнасці", а Акулін у пасляслоўі да кнігі "Беларусь мая – мая магіла!.." пераканана сцвярджае:

> Пры жыцці ён сам вызначыў сваё месца ў беларускай паэзіі – паміж Янкам Купалам і Максімам Багдановічам, называючы Купалу – бацькам па духу, а Багдановіча – братам па крыві... Пасля ягонай смерці ўтварылася святая Тройца нацыянальнай літаратуры, амаль як у біблії: Айцец, Сын і святы Дух беларускай Паэзіі. Тры літаратурныя волаты, тры кіты айчыннай паэзіі, тры нацыянальныя Геніі **(Акулін, 241)**.

Не ўсе літаратуразнаўцы ды і звыклыя чытачы будуць згодныя з такой высокай ацэнкай творчасці Анатоля Сыса, з сакралізацыяй яго неадназначнай асобы і "запісваннем" нашага сучасніка ў пантэон нацыянальных класікаў узроўню Купалы і Багдановіча, прыніжаючы тым самы статус Якуба Коласа, Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Максім Танка, Ларысы Геніюш, Уладзіміра Караткевіча і ншых выдатных беларускіх паэтаў XX ст.

Бясспрэчна, аднак, што Анатоль Сыс назаўсёды застанецца ў гісторыі беларускай літаратуры як выдатны паэт канца XX ст., творчы лідэр свайго пакалення, голас нацыянальнага адраджэння ў Беларусі, пісьменнік з нетыповай біяграфіяй і трагічным лёсам.

**Крыніцы спасылак:**

Акулін Э. "Беларусь мая – мая магіла!..." // Сыс А. Берагі майго юнацтва: вершы, пародыі. – Мінск, 2016. – с. 241-243.
Арлоў У. Імёны свабоды. – Прага, 2007.
Асташонак А. Пасьведчаньне таленту. Мэмуар. – Калосьсе. – 2006. – №1 (10). – с. 8-24.
Бурдье П. Поле литературы. – Новое литературное обозрение. – 2000. – №45. – с. 22-87.
Бяляцкі А. Асвечаныя беларушчынай. – Вільня, 2012. – с. 103-143.

Бяляцкі А. Прарок свабоды і незалежнасці // Сыс А. Берагі майго юнацтва: вершы, пародыі. Мінск. – 2016. – с. 4-12.
Бязлепкіна А. Пентхауз для Сыса. – Arche. – 2005. – №4 (21). – с. 200-204.
Бязлепкіна А. Разам і паасобку: таварыства "Тутэйшыя". Гісторыя. Асобы. Жанры. – Мінск, 2003.
Вішнёў З. Напаўпрыдушаная свабода. – Крыніца. – 2001 – №6 (66) – с. 40-42.
Галубовіч Л. Сыс і кулуары. Літаратурна-крытычныя эсэ. Мінск. – 2010.
Гарачка У. Слёзы, слёзы, слёзы... – Крыніца. – 2001. – №6 (66). – с. 37-40.
Гарэлік Л.М. Анатоль Сыс // Гніламёдаў У.В., Лаўшук С.С. (рэд.), Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Мінск, 2014. – т. 4. – кн. 3. – с. 1019-1037.
Глобус А. Мой бедны таварыш, мой Сыс і дні незалежнасці. – Arche. – 2005. – №4 (21). – с. 193-199.
Дубавец С. Хто там? – Крыніца. – 1990. – №2. – с. 28-29.
Корбут В. Бліжэй да цела. – Калосьсе. – 2006. – №1 (10). – с. 63-67.
Ліпай А. "Любіце нас такімі, якім і стварылі..." Гутарка Алеся Ліпая з Анатолем Сысом. – Дзеяслоў. – 2007. – №5 (30). – с. 265-273.
Луцкевіч А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва. Мінск. – 2006. – с. 289-299.
Maksymiuk J. Poeci wśród ruin nadchodzącego królestwa // Za niebokresem Europy. Antologia nowej poezji białoruskiej 1987-1997. Wyb. J. Maksymiuk. Białystok. – 1998. – s. 101-115.
Manifest "Tutejszych". – Kartki. – 1997. – nr. 1. – s. 12-13.
Мельнікаў А. Анатоль Сыс. Псальмяр эпохі перагною. – Мінск, 2017.
Сыс А. Лён: выбраныя творы. – Мінск, 2006.
Шніп В. Дваццаць гадоў з Анатолем Сысам. – Крыніца. – 2001. – №6 (66). – с. 35-37.
Шынкарэнка В. "Светлы мой, бялюткі ты мой хлопчык..." – Крыніца. – 2001. – №6 (66). – с. 25-30.



Валянцін Акудовіч



...зварот да беларускага слова ў Беларусі ёсць ні чым іншым, як грамадзянскім учынкам...

# “Крыніца” і “Крыніца”

***З новай кнігі “Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)”***

*Працяг. Пачатак у №№95-99.*

Напрыканцы васьмідзясятых пад уплывам гарбачоўскай перабудовы ЦК КПСС вырашыла стварыць у кожнай нацыянальнай рэспубліцы літаратурны часопіс, які б адначасна выходзіў у дзвюх версіях: на рускай і нацыянальнай мове. Уладзімір Някляеў неяк распавёў мне, што меў непасрэднае дачыненне да самой канцэпцыі гэтага маскоўскага праекта. Можа і так, а можа і не зусім... Паэты любяць перабольшваць, бо паэты. Толькі факт застаецца фактам. У Беларусі “Крыніцай” (“Родніком”) было даручана кіраваць Уладзіміру Някляеву.

І паручэнцы не памыліліся...

Першы нумар пабачыў свет у студзені 1988 года. Літаральна адразу ён займеў не абы-якую папулярнасць. А ў пару свайго імклівага росквіту “грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі” часопіс з Мінска меў наклад болей як у 400 тысяч асобнікаў.

Нешта неверагоднае! Яго чыталі ад Брэста да Камчаткі. (Натуральна, тут гаворка пра рускамоўную версію.) Я таксама

быў у захапленні. Чакаў кожнага наступнага нумара і пытаўся ва ўсіх газетных шапіках, пакуль не знаходзіў – менавіта “Крыніцу”, а не “Родник”.

Цяпер, калі нейкі нумар часопіса выпадкова патрапіць каму ў рукі, то чалавек ніяк не зразумее, з чаго быў той шалёны поспех? Ну так, трохі перабудовачнай палітыкі, трохі выкрасленай камуністамі гісторыі, трохі раней забароненай рок-музыкі, трохі *аголенай* эротыкі, трохі мадэрнай літаратуры...

Ну і што?

Бачыце, усё гэтае “трохі” тады было *ў-пер-шы-ню*. А ўсё, што некалі здараецца ўпершыню, мае зусім іншы кошт і значнасць, раўнуючы з тым, што будзе пасля. Да таго ж усё гэта друкавалася ў дзяржаўным часопісе, які паводле азначэння не мог размінацца з этычнымі і эстэтычнымі калькамі, зацверджанымі ў партыйных кабінетах.

Ну і рызыкант гэты Някляеў! – ужо ж напэўна раз-пораз казалі тады чытачы пра галоўнага рэдактара. І я быў сярод іх...

***

У літаратурны інстытут я паступаў вучыцца на празаіка. І абараняўся з кнігай (друкапісам) прозы. Але ўсё тое згубіла для мяне хоць якое значэнне, калі я захлынуўся мовай і незалежнасцю. Таму мая ўжо ўласна беларуская проза пісалася не столькі дзеля сябе самой, колькі з мэтай мацавання кантэксту волі, што яе і ствараў. Бо ўсё, што ў тую пару ні рабілася, – рабілася дзеля гэтага. Дарэчы, ніхто тады нікога не штурхаў да вызвольнай працы, вярэда свабоды і незалежнасці вырастала знутры цябе самога, як жарсць. І ўсё, што не падпадала пад пакліканне гэтай жарсці, быццам не існавала...

“Крыніца”, безумоўна, была з таго вызвольнага кантэксту. І таму свае першыя *показкі* я даслаў у любімы часопіс. Між іншым, пад псеўданімам. Рэч у тым, што на тую пару я быў ужо трохі вядомым крытыкам і мне не хацелася, каб гэта паўплывала на стаўленне да маіх ужо ўласна мастацкіх тэкстаў.

Некалькі з тых *показак* (“Крыніца”, 1989) я прылучу да ўспамінаў, бо тады атрымаў з іх публікацыі шмат салодкага хвалявання і трошкі чытацкай ухвалы.

## Там, дзе неба сыходзіцца з зямлёй

Там, дзе неба сыходзіцца з зямлёй, жылі маленькія мужчыны і яшчэ меншыя ад іх жанчыны. Вядома, пад нізкім небам і дрэвы, і людзі не могуць вырасці высокімі. Праўда, у дробязях гэтыя людзі нічым не адрозніваліся ад нас, хіба што на пісьме не мелі вялікіх літар. А яшчэ помнікаў у іх не было, бо помнікі, як вы разумееце, ставяць адно вялікім...

Як я ўжо казаў, жылі яны чортведама дзе, але бабы з нашай вёскі адвеку ездзілі да іх па голкі, а мужыкі – каб падзівіцца. Раней ездзілі коньмі, а потым, як паклалі калейку, на цягніку. Што-што, а голкі ў іх атрымліваліся файныя. Далібог, ва ўсім свеце ніхто не рабіў лепшых. Больш спрытная баба такой голкай магла з адных плётак спадніцу выштукаваць. Толькі ўсё гэта ў прамінулым...

Аднойчы апынуўся ў тых мясцінах надта вучоны чалавек.

– Апамятайцеся, людзі, – накінуўся ён. – Зямля круглая, і таму неба ўсюды аднолькава высокае.

– Калі неба аднолькава высокае, дык чаму мы маленькія?! – упікнулі яго.

– Няма маленькіх людзей, ёсць разумныя і не вельмі, – запэўніў ён.

– На ўсё боская воля,– нагадалі яму.

Толькі не быў бы то вучоны. Не адразу, але неяк пераканаў, што зямля круглая і неба аднолькава высокае ўсюды...

Тады гэтыя людзі кінулі выраблять голкі і звялі ўсё жалеза на помнік таму вялікаму чалавеку.

Файны атрымаўся помнік. Але дзівіў не гэтак сваімі памерамі, як вытанчанасцю дробязяў. Шкада толькі, што ён і дасюль покатам марнуецца ля кузні, бо няма каму ўсцягнуць яго на пастамент. Вядома, якія там людзі пад нізкім небам! Адно што прызываюцца людзьмі...

## Першае каханне

Мы і перажагнуцца не паспелі, а Богусь ужо сядзеў на чырвоным даху касцёла. Аднак гэтага яму падалося мала, і ён усцягнуўся на самы крыж.

Першы анёл, які вяртаўся, мяркуючы па стомленых рухах, аднекуль здалёк, толькі прабуркатаў незадаволена: “Што, іншага месца не знайшлося?”, а другі, яшчэ зусім маладзенькі, аж аслупянеў, убачыўшы Богуся. Анёлак стаяў слупам у паветры і лыпаў вачыма.

– Гэй, ты, лупавокі, – закамандаваў Богусь, – злётай у вёску па Маню.

Маня хутка прыбегла і, нічога не пытаючыся, засакатала, як сячкарня:

– Дурны ты, Богусь! Каб меней піў гарэлкі, а болей чытаў кніжак, дык ведаў бы, што першае каханне не дзеля таго, каб закаханыя бралі шлюб, а каб потым усё жыццё замілавана ўспамінаць тыя шчаслівыя хвіліны...

– Хай сабе, – толькі й адказаў Богусь.

– Ну, калі ты гэткі дурань, дык і сядзі сабе тут, як варона, – раззлавалася Маня і паспяшалася дахаты, адкуль хутка з’ехала вучыцца ў горад. Але шлюбам яна так ніколі і не пабралася, бо ў яе былі надта валасатыя ногі, а на той час якраз прыспела мода на голыя лыткі. Калі тая мода скончылася, Маня была ўжо старой дзеўкай, і ёй больш нічога не заставалася, як усё жыццё замілавана ўспамінаць сваё першае каханне. А Богусь дасюль не злез з даху. Тырчыць там ці як укрыжаваны, ці як варона, і мы ўсе (і анёлы, і людзі) даўно ўжо з гэтым звыкліся. Бо калі тое было – мода на голыя лыткі.

## Аргумент

Адзін з нас меў аргумент, а ўсе астатнія праставалі туды, куды дзьме вецер.

Сёння вецер быў з аднаго боку, заўтра з іншага, і таму рана ці позна, але мы зноў вярталіся да выспы за вёскай, дзе сядзеў той – з аргументам.

– Куды гэта вы, хлопцы? – шкадуючы, пытаўся ён і пазяхаў так, што нават дурань разумеў: гэты чалавек мае аргумент, і яму няма патрэбы куды б там ні было цягнуцца і недзе нешта шукаць.

Звычайна яму не адказвалі, хіба найбольш стомлены гняўліва буркатне:

– А табе што за справа, абібок?!

І мы рушылі далей, хаця сёй-той, употайкі ад іншых, доўга азіраўся туды, дзе сядзеў гэты, з аргументам, і сачыў за дымам над комінамі. І неаднойчы сяму-таму карцела запытацца, чаму ён сядзіць, калі ўсе мы ходзім. Толькі запытацца ніяк не выпадала, бо калі адзін пытаецца ва ўсіх – гэта зразумела, але дзе вы чулі, каб усе пыталіся ў аднаго?

І мы крочылі далей і мелі шляхетны гонар ад упартай хады, сэнс якой быў у няспынным руху. І калі што нас палохала, дык гэта не стома, пабітыя ногі ці смага, а спакой. Раптам вецер сціхаў, і мы спыняліся, як бы спатыкнуўшыся, бо без ветру не ведалі, куды нам цяпер кіраваць?

Што ў тыя хвіліны рабілася – цяжка нават згадваць, ды, дзякаваць Богу, усялякі раз вецер падымаўся зноў, а разам з ім падымаліся і мы, каб рушыць далей.

Так здарылася, гэтак аднойчы мусіла здарыцца, што вецер зноў суняўся якраз

тады, калі мы праміналі выспу, на якой сядзеў той, з аргументам. Толькі гэтым разам мы не вытрывалі і запыталі: які такі важкі аргумент ён мае пры сабе, што не баіцца сядзець на адным месцы, калі ўсе астатнія спыняюцца адно тады, як спыніцца вецер?

– Колькі б вы ні хадзілі, хлопцы, усюды ў вас пад нагамі будзе зямля, над галавой – неба, а на карку – дармаед з пугай, – гэтак адказаў ён. І наастачу яшчэ раз запэўніў: – Усюды.

Толькі нямногія з нас пачулі ягоныя словы, бо раптам далягляд абазваўся ветрыкам, і мы ўсхапіліся...

Мы ўсхапіліся і, з'едліва пазіраючы лайдаку ў твар, рушылі паўз выспу туды, куды праставаў вецер.

***

А цяпер час патлумачыць, што гэты раздзел прызначаны зусім не той "Крыніцы", з якой я распачаў аповед. Пара яе азарэння была кароткай, бо неўзабаве пачаўся распад імперыі і ўсюды запанавала вольная воля як для прамоўленага, так і для друкаванага слова. І ў гэтым вэрхале вербальных свабодаў "Крыніца" згубілася, што тая голка ў капе сена. Імклівае ўзвышша перакулілася ў яшчэ больш імклівы заняпад. Чытач знікаў на вачах – амаль дазвання.

"Не ведаю што, але нешта трэба рабіць". Напэўна, так думаў Уладзімір Някляеў у тую пару. І прыдумаў...

Потым я не аднойчы выкажу шкадаванне, што сярод шматлікіх і яскравых талентаў Някляева мала хто зважае на яго *талент галоўнага рэдактара часопіса*. А гэта вельмі рэдкі і надзвычай важны для літаратуры талент. У нашым часе бліжэй да Някляева я магу паставіць хіба толькі Барыса Пятровіча ("Дзеяслоў"). Што праўда, сюды просіцца быць далучаным Валерка Булгакаў ("Архэ"). Хаця ягоны праект часопісам увогуле складана назваць...

Калі коратка, дык урэшце рэшт Някляеў здумеўся і наважыўся перафарматаваць сваё масавае моладзевае выданне ў элітны культуралагічны часопіс. Які паводле азначэння не мог быць чытаны "ад Камчаткі да Брэста".

Два радыкальна розныя часопісы пад адной вокладкай і з тым жа рэдактарам – гэта калі не ўнікальны, дык надзвычай рэдкі выпадак. І ніхто не мог ведаць, што з гэтай авантуры атрымаецца? Але каб даведацца, найперш трэба было абнавіць увесь склад рэдакцыі, а менавіта, пазвальняць былых паплечнікаў і знайсці людзей, якія з прыроды сваёй творчай канстытуцыі проста не ўмелі б рабіць прадукт для поп-культуры.

Як ён збіраў новы хаўрус – яшчэ тая гісторыя, і я неўзабаве на ўласным прыкладзе трохі пра яе распавяду. А пакуль вось што атрымалася на яве: Уладзімір Някляеў, Алесь Разанаў, Уладзімір Арлоў, Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Асташонак, Валянцін Акудовіч...

Тут найперш варта заўважыць, што і тут Някляеў рызыкаваў, бо амаль кожны з большыні гэтага складу сам на той час мог быць галоўным рэдактарам хоць якога літаратурнага часопіса. Таленавітыя, папулярныя, шырока вядомыя сваімі кніжкамі і публічнымі выступамі... Ну што тут яшчэ казаць?

Я пра нейкую небяспеку ў гэтым сэнсе тады з сваёй наіўнасці і падумаць не мог, пакуль не здарыўся адзін анекдатычны, хаця і зусім не смешны, выпадак. Сядзелі неяк хаўрусам у адным з рэдакцыйных кабінетаў (дзверы шырока адчыненыя) і наракалі – нешта даўно заробку не было. І тут прыдумляка па жыцці Алесь Асташонак весела кажа: слухайце, хлопцы, паколькі Някляеву шкадуюць грошай, то давайце зменім галоўнага рэдактара. У нас жа дэмакратыя...

Мы бурлескава пачалі абмяркоўваць, каго з нас выбраць замест Някляева? Весяліліся, пакуль не надакучыла. І ўжо добра забыліся на той бурлеск, як

урываецца ў расчыненыя дзверы раз'юшаны Някляеў (я такім яго потым, здаецца, ніколі болей не бачыў) і амаль што не енчыць. З таго шалёнага маналога мне блізка да сэнсу запомніўся ўсяго адзін фрагмент. Маўляў, разумныя людзі мяне (Някляева) папярэдждвалі, каб набіраў у рэдактары звычайных філолагаў, бо гэтыя геніі толькі і будуць чакаць моманту, каб заняць тваё месца...

Мы не хутка зразумелі, скуль ягоны шал, а як уцямілі, дык абурана пачалі тлумачыць, што проста весяліліся ад няма чаго... Толькі ён не адразу даў нам веры і нават прагаварыўся, што яму дахаты патэлефанавалі дзяўчаты з тэхнічнага аддзелу і папярэдзілі: супраць цябе рыхтуецца змова...

Дарэчы, прамінуць гады, і Някляеў будзе змушаны схавацца ад арышту ў эміграцыю. Тады мы папрасілі міністэрства, каб галоўным рэдактарам нам прызначылі Алеся Разанава, толькі ўладам нашая ідэя зусім не спадабалася...

***

Праз нейкі час, калі новая "Крыніца" заявіць пра сябе як ці не пра самы адметны беларускі часопіс (і не толькі таго часу), Някляеву прапануюць яшчэ ўзначаліць тыднёвік "Літаратура і мастацтва", каб яго таксама рэфармаваць.

Тады ён сабраў нас і сказаў: я пагаджуся, але толькі як вы таксама пойдзеце са мной у "ЛіМ" дапамагаць.

З гэтага я пачаў чапляцца, каб ён патлумачыў у які аддзел мяне накіруе, на якую пасаду? Відаць, ён сам не ведаў, куды мяне прыткнуць, бо нейкі час нічога ўцямнага не мог прапанаваць. А калі я ўжо моцна яму надакучыў, дык з насмешлівым абурэннем сказаў:

– Адчапіся. Пойдзеш працаваць на пасаду Акудовіча.

Я згадаў той эпізод не так сабе, а каб трохі патлумачыць у канкрэтыцы талент Някляева як галоўнага рэдактара. Ён запрашаў у шараговыя супрацоўнікі асобаў, якія самі мелі што сказаць чытачу. А як ты пагадзіўся, то і рабі, што табе карціць. Някляеў настолькі даваў нам веры, што, здаецца, нават не кожны нумар часопіса чытаў. Ну хіба адно перагортваў пасля выхаду ў свет.

Хаця, натуральна, у "Крыніцы", як у дзяржаўнага прадпрыемства, была афіцыйна зацверджаная структура аддзелаў і штатных адзінак. У звязку з апошнім просіцца быць згаданы яшчэ адзін эпізод. Паколькі часопіс меўся стацца культуралагічным выданнем, то Някляеў пад гэтую перамену прыдумаў дамагчыся ў міністэрстве адзінку *штатнага* культуролага. І калі я ўпарціўся пераходзіць з "Культуры" у "Крыніцу", ён мяне гэтым нават шантажаваў:

– Я дзеля цябе дамогся новай пасады, а ты ведаеш, як гэта складана?!

Час пакажа, што гісторыя з пераходам у "Крыніцу" потым аказалася для мяне надзвычай важнай. З гэтага я яе таксама не праміну.

У тую пару з Уладзімірам Някляевым я яшчэ не быў асабіста знаёмы. Таму мяне моцна здзівіла яго тэлефанаванне з прапановай сустрэцца...

У кабінеце галоўнага рэдактара ён чакаў мяне з выдатным празаікам і чалавекам Кастусём Тарасавым. На століку стаяла ледзьве распачатая пляшка добрага напою. Як пакрысе сталася зразумелым, Кастусь – мы з ім былі ўжо трохі знаёмыя – быў пакліканы, каб падтрымаць інтэнцыю Някляева.

Пасля таго, як я пачуў шмат словаў пра ідэю новай "Крыніцы", Някляеў прапанаваў далучыцца да гэтай справы. Паводле яго меркавання, яна мне пасавала як нікому яшчэ.

Што і казаць, ні пра што такое я і думаць не думаў. Гэта было залішне знянацку. А калі трохі ачомаўся, дык адразу згадаў пра "ЗНО". Сшытак на вачах набіраўся моцы, і я ўсё болей адчуваў яго як свой уласны праект. А, магчыма, нават і як пакліканне.

Шчыра падзякаваўшы за гонар, я і нагадаў сумоўнікам пра "ЗНО". Яны пра

яго добра ведалі, хаця, пакуль у чарках заставаўся напой, не спыняліся даводзіць, што мне мусова далучыцца да новай "Крыніцы".

На развітанне я паабяцаў усё тут прамоўленае ўзважыць...

Хаця ўзважваць не было чаго. Навошта мне цягнуцца некуды яшчэ, калі ў "Культуры" я маю ўсё, пра што раней і марыць не мог.

***

Дарэчы, праца *яшчэ* і ў "ЛіМе" лішне не задоўжылася. Разам з тым згадалася, што менавіта тут у розныя гады я надрукаваў ці не найбольш знакавых для сябе матэрыялаў (раўнуючы з іншымі перыёдыкамі). Адзін з іх, адсланіўшыся на момант ад "Крыніцы", і хачу паказаць.

Здараюцца шчаслівыя тэксты, якія ў справе назапашвання сімвалічнага капіталу адыгрываюць для аўтара не меншую ролю, чым некаторыя кнігі. У маёй гісторыі менавіта так яно некалькі разоў і здаралася. Першым сярод падобных выпадкаў сталася эсэ "Вялікая Айчынная ці Другая сусветная? (ЛіМ, 1992 г.)". Разумею, што яно будзе вытыркацца з тут-кантэкста. Але паколькі мне шмат што з таго эсэ ўсё яшчэ бачыцца актуальным, то я адшкадую дзеля асобных фрагментаў з яго трохі месца.

"У размовах пра партызанку падчас апошняй вайны звычайна застаюцца ўбаку ці ўзгадваюцца адно ўскосна прынцыповыя пытанні гэтай падзеі і найперш наступнае: масавы партызанскі рух – штучна створаны прэцэдэнт ці натуральна абумоўлены гісторыяй Беларусі факт? Паколькі гэтае пытанне ўтрымлівае ў сабе шмат аспектаў, паспрабуем вылучыць у ім галоўнае. Нашы вясковыя дзядзькі самахоць пацягнуліся ў лясы, ці наўмысна створаная сітуацыя справакавала іх хавацца ў гушчарах і часам хапацца за стрэльбы. І яшчэ больш канкрэтна: партызанская вайна была нязмушаным памкненнем вольналюбівых і мужных беларусаў да вызвалення ад акупацыі ці такі выраз ёй надалі, зыходзячы з пэўных палітычных інтарэсаў?

Асабіста я схільны лічыць, што ідэя змагання з акупантамі не-беларускага паходжання. Як на маё разуменне, дык у праекцыі на беларусаў яна не мае гістарычна пацверджанага генезісу, прынамсі не мела на той час, бо традыцыя барацьбы з іншаземцамі была перарваная для беларусаў у апакаліптычных войнах з маскоўцамі ў другой палове XVII стагоддзя (...).

Ды і ўвогуле, гераічнай бывае асоба, народ прынцыпова не-гераічны. Масавы збройны гераізм – гэта аксюмарон. Калі б гэтая з'ява існавала папраўдзе, а не была толькі ідэалагічнай фігурай, то народы ўжо даўно павыбівалі б адзін аднаго ўшчэнт.

Масавы гераізм з'ява больш небяспечная, чым адсутнасць гераізму ўвогуле. Кожная праява масавага гераізму павінна разглядацца як сімптом смяртэльнай хваробы, за якой страта народам важнейшага з інстынктаў – інстынкту самазахавання.

Невыпадкова ў мове беларусаў няма слова, якое б казала пра гэтую з'яву. Больш таго, нават яе паасобныя праявы не абапіраюцца на ўстойлівыя лексемы, а кніжнае, з ідэалагічнай лексікі "герой" у жывым вымаўленні гучыць не інакш як скептычна (...).

Вернемся да вылучанай раней тэзы: ідэя ўзброенага змагання з нямецкімі акупантамі не-беларускага паходжання.

Яшчэ да апошняга падзелу Рэчы Паспалітай, вынішчаная войнамі з маскоўцамі, наша Бацькаўшчына ўжо была, у нейкім сэнсе, акупаваная Польшчай. А далей пацягнулася суцэльная эпоха перманентных акупацый: шведы, французы, немцы, палякі, зноў немцы, а напачатку, у прамежках і потым – расейцы, расейцы, расейцы. Паднявольны стан, стан акупацыі зрабіўся натуральным для нас, і з цягам часу беларускі народ ужыўся з прыгнётам, як ужываецца чалавек з ціскам атмасферы.

Зноў жа звернем увагу, як сітуацыя бесперапыннага прыгнёту адбілася ў мове. Вызначаючы час той ці іншай падзеі, яны звычайна кажуць: за палякамі, за немцамі, за саветамі. Мова народа ўжо не ўтрымлівае катэгорыі самастойнага існавання на сваёй зямлі. (...)

Спроба вылучыць з вайны ў якасці станоўчага прыкладу той ці іншы гераічны імператыў – інтэлектуальная прафанацыя. Ніякі грамадскі інстытут не можа быць больш маральным за маральнасць таго часу, таго грамадскага стану і ладу, у якім існуе. Ён можа дэклараваць якія заўгодна маральныя пастулаты, абапірацца на якія заўгодна высакародныя прынцыпы, але рэальна дзейнічаць будзе на тых, што сфармаваныя тагачасным жыццём. Этычны кодэкс хрысціянства застаецца нязменным з часоў апостала Паўла, а сама царква ў розную пару і рабавала, і забівала, і здраджвала сабе і Богу, карацей, падпарадкоўвалася маральнаму закону рэальнага існавання-бытавання. (...)

Вайна – гэта паганства, вайна – гэта вяртанне чалавека ў задушлівае лона пячорнага бога, жорсткага і памыслівага. Як быццам не было дзвюх тысяч год цярплівага гадаваня этычнага імператыву, як быццам мы зноў вярнуліся ў дагісторыю.

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых
Каб не ўскрэслі век яны.
..............................
Рыйце загадзя магілы,
Вырывайце з жывых жылы,
Кроў за кроў, а смерць за смерць.

**Янка Купала**".

Савецкая вайна 1941-1945 гг. для бальшыні беларусаў і па сёння застаецца святарным капішчам, куды збіраюцца толькі маліцца "со слезами на глазах" – і нічога больш. Хаця за гэтыя гады надрукавана мноства артыкулаў і кніг, якія даводзяць, што нічога святарнага ў той вайне і блізу не было. Адно палітычнае паскудства ў апакаліптычных памерах. І ўсё роўна гэтаму не шмат хто дае веры, у чым не складана пераканацца 9 траўня хоць якога года, зазірнуўшы на плошчы беларускіх гарадоў і мястэчак.

А чвэрць стагоддзя таму маё эсэ выглядала нават не блюзнерствам, а публічным злачынствам. Не стану згадваць усе тыя праклёны, што неўзабаве абрынуліся на мяне. Хіба вось толькі гэты...

Зусім выпадкова пачуў па радыё, як знакамітыя ветэраны вайны абмяркоўвалі маё эсэ. У нейкі момант адзін з іх літаральна закрычаў: мінула 40 год пасля Перамогі, а Акудовіч усё яшчэ страляе ў нашыя спіны...

Што праўда, і падтрымлівалі мяне моцна. Хаця пераважна цішком...

***

Мяркую, што я чалавек досыць адказны. Прынамсі, абяцанае звычайна выконваю. А тут не хапала адвагі сказаць Някляеву кароткае слова – "Не". І я схаваўся ў моўчу.

Як ні дзіўна, радыкальная перамена ў той сітуацыі адбылася праз кароткую рэпліку Алеся Разанава, які ўжо раней даў згоду бурыць старую "Крыніцу".

Неяк мы развітваліся ў цёмным пераходзе да метро і ўсё не маглі развітацца, бо я тлумачыў ды шматкроць ператлумачваў, чаму не магу пакінуць "Культуру". А калі стаміўся ад сваіх словаў, Алесь Разанаў сказаў:

– Валянцін, без Вас я таксама не застануся ў “Крыніцы”.

І пайшоў.

Я быў настолькі ўражаны, што, здаецца, і па сёння не магу ачомацца. Чаму ён так сказаў, з чаго?

Толькі як бы там ні было, пасля ягоных словаў я пагадзіўся ў адной рэдакцыі працаваць на поўную стаўку, а ў другой – на палову. Тым болей, што яны месціліся непадалёку адна да другой і за працоўны дзень можна было лёгка перабегчы некалькі разоў паміж імі...

А потым мы падступіліся да распрацоўкі канцэпцыі. Збіраліся ўсім хаўрусам раз-пораз колькі месяцаў запар і ўсё распрацоўвалі, распрацоўвалі, распрацоўвалі, пакуль у Някляева каньяк не скончыўся. Хаця мы яго ашчаджалі. За вечар звычайна не болей як дзве пляшкі адкаркоўвалі.

Рэч у тым, што ў бязладдзі канца васьмідзясятых – пачатку дзевяностых, калі грошы нічога не каштавалі, розныя фінансавыя аперацыі рабіліся праз бартэр. За якія такія паслугі старая “Крыніца” атрымала поўны склеп з найлепшым грузінскім каньяком, мы, зразумела, не цікавіліся. Але нават у 1994 годзе заставалася яшчэ не апошняя скрыня...

Дарэчы, каньяк нам зусім не замінаў, а хутчэй адно падахвочваў да крытычных рэфлексій, і ўрэшце рэшт канцэпцыя атрымалася абсалютна арыгінальнай, прынамсі, у кантэксце айчыннага пісьменства. Нехта (можа, і я?) нават запрапанаваў надрукаваць на пачатку першага нумара тыя нашыя рэфлексіі ў суплёце персанальных эсэ. Так і зрабілі.

У сваім эсэ (“Пярэйсце”) я пісаў:

“Хацелася б яшчэ раз засцерагчы часопіс ад небяспекі трансфармацыі ў чарговы «літарацкі кангрэс», дзе на падставе парытэту стануць яднацца ўсе дзейнікі літарацкай грамады.

Не яднацца, а вылучацца.

Вылучацца з агульнага – адметным, з савецкага – нацыянальным, з нацыянальнага – еўрапейскім, з еўрапейскага – праз самаідэнтыфікацыю, – беларускім...

Апошняе – найскладаней, бо як ні цяжка нам сёння ўвайсці ў культурны дыскурс Еўропы, вярнуцца з яго да саміх сябе будзе значна цяжэй”.

***

Калі казаць зусім коратка, то сутнасць канцэпцыі новай “Крыніцы” была ў тым, каб на нашых старонках натуральным чынам злучыць беларускую літаратуру з сусветнай (найперш з еўрапейскай) у агульны дыскурс – і наадварот. Такога ў нас раней не рабілася. Было ў гэтай канцэпцыі і тое, што яшчэ не рабілася нідзе. Тут найперш маю на ўвазе лексічна цэласную і абсалютна інавацыйную рубрыкацыю.

Мы сядзелі ўдвох з Алесем Разанавым і трудзілі глузды над гэтай самай *рубрыкацыяй*. Класічны часопісны падзел на прозу, паэзію, літаратурную крытыку і што-кольвек яшчэ ў дадатак намі адпрэчваўся як само сабой зразумелае. Уласныя прыдумкі амаль без абгаворвання таксама касаваліся адна за адной. Усё болей чулася бездапаможнай моўчы і ўсё меней жывых словаў. І тут нехта, здаецца, Алесь Разанаў (бо геній) сказаў:

– Я.

– Ты, – падхапіў я.

– Мы, – працягнуў ён.

І далей навыперадкі: Ён, Яны, Яно, Наш...

Відавочна, тут трэба хоць трохі патлумачыць. Рубрыка “Я” прэзентавала буйную, пераважна мысліўную, фігуру з айчыннага кантэксту (скажам, Кірылу Тураўскага). Пад “Мы” былі *мы*, гэта значыць тэксты тых, хто рабіў часопіс. Замежныя літаратары і філосафы апыналіся ў рубрыцы “Яны”. “Наш” – беларус-

кія літаратары замежжа. Аднак самай актуальнай сталася рубрыка “Ты”. Сюды патрапляў адметны сучасны літаратар з сваімі тэкстамі. Акрамя таго з ім рабілася разгорнутая гутарка і ў дадатак шэраг эсэ розных аўтараў, напісаных паводле ягонай творчасці і падзейнага жыцця.

Яшчэ большай праблемай стаўся выбар *мовы*. На чым нам запыніцца: на цяперашняй *школьнай* мове ці на “Беларускай граматыцы для школаў”, у якой Браніслаў Тарашкевіч упершыню сфармуляваў правапісныя нормы беларускай літаратурнай мовы (“тарашкевіца”). У савецкай Беларусі “тарашкевіца” пратрымалася не лішне доўга. У 1926 годзе быў зацверджаны радыкальна новы правапіс (“наркамаўка”). Вось з ім актывісты новага Адраджэння пачалі апантана змагацца, прапануючы вярнуць “тарашкевіцу”.

На пачатку гэтая ідэя мне таксама падабалася, і таму ў “ЗНО” было вырашана, што кожны аўтар сам выбірае сабе *мову* (бедныя карэктары). Я і цяпер маю пэўны сантымент да “тарашкевіцы” за яе натуральны філасофскі слоўнік, за яе набліжанасць да нізінных ландшафтаў, у якіх хаваюцца туманы і балоты, за яе метафізічную таемнасць і анталагічную моўчу.

Але калі ў рэдакцыі пачалося галасаванне (паколькі дыскусіі зацягнуліся, а згоды не было), я ўжо выступаў больш “супраць”, чым “за”. Бо ўжо пачаў адчуваць, што гэтая ініцыятыва паводле сваёй сутвы ёсць вялікай правакацыяй супраць беларускай мовы як такой. З іншай пазіцыі не прымаў “тарашкевіцу” і Алесь Разанаў. Ён лічыў, што нават “наркамаўка” залішне мяккая стасоўна натуральнай фанетыкі нашай мовы, а што тады казаць пра “тарашкевіцу” з яе бясконцымі мяккімі знакамі.

Самым зацятым абаронцам “тарашкевіцы” выявіўся Уладзімір Арлоў. Пасля першых адкрытых галасаванняў, якія не вызначылі пераможцу, ён прапанаваў *падпольнае* галасаванне. Мы нарэзалі паперы, і кожны свой “таемны голас” кінуў у капялюш. Уладзімер спадзяваўся, што праз такі спосаб нехта з баязліўцаў дадасць свой голас на карысць “наркамаўкі”. Толькі атрымалася наадварот.

– Продкі вам не даруюць, – сувора сказаў Уладзімір і забраў нашыя паперчыны ў свой архіў.

*P.S.* Пра Уладзіміра Арлова я яшчэ буду адмыслова апавядаць упаасобку ад “Крыніцы”.

***

Яшчэ з часоў “перабудовы” у айчынную палітыку патрапіла ладная сціжма энергічных філолагаў, падмацаваная літаратарамі, журналістамі і проста гуманітарыямі, для якіх лінгвістычныя праблемы выявіліся таксама не чужымі. Толькі ў адрозненне ад іншых краінаў, дзе падобнага тыпу палітыкі хутка выпетрыліся з палітычнага жыцця, у нас яны (верагодна, з прычыны задоўжанай папулярнасці “*моўна*-этнаграфічнай” канцэпцыі нацыяналізму) затрымаліся на ладны кавалак часу. Адсюль мовазнаўчыя праблемы, як натуральна актуальныя для палітыкаўфілолагаў, праз апазіцыйныя СМІ, суполкі і супольнасці перараслі ў палітычныя. І хаця для бальшыні шараговых валанцёраў апазіцыі і з унармаванай беларускай мовай хапала праблемаў, яны мусілі засвойваць “тарашкевіцу”, каб забяспечыць сабе радыкальнай апазіцыйнасцю.

Больш за тое, у пару пад’ёму нацыянал-дэмакратычнага руху, завабленыя паноўнай модай на адраджэнне чаго заўгодна, да “тарашкевіцы” пачалі хіліцца і шэраг дзяржаўных выданняў (“Бярозка”, “Мастацтва”. “Культура”...). Здавалася, яшчэ трохі, і “тарашкевіца” пераможа “наркамаўку” ды запануе спрэс.

Не запанавала – бо была спароджаная не патрэбамі ўласна соцыўма, а пэўнай палітычнай сітуацыяй. І як толькі сітуацыя перамянілася, палітыкі-філолагі са

сваімі філалагічнымі праблемамі апынуліся на самым ускрайку грамадскага жыцця. Праўда, нельга сказаць, што там жа апынулася і ”тарашкевіца”. За немалы час актуальнага дамінавання апазіцыйнасці, праз яе на беларушчыну навярнулася некалькі генерацыяў маладых людзей, якія ў горадзе іншай роднай мовы, акрамя як арганізаванай правапісам Тарашкевіча, ужо не ведалі (найперш – не чулі). Для іх гэткая беларуская мова была адзіна правільная, тым болей, што ідэолагі адраджэння не ленаваліся раз-пораз падкрэсліваць ейную *ісцінную сапраўднасць*, нагадваючы пра рэпрэсаваную сутву “наркомаўкі”, яе зрусіфікаванасць, засаветаванасць і да т.п.

Мне няцяжка зразумець пазіцыю заангажаваных “тарашкевіцай” філолагаў як філолагаў (і нават часткова пагадзіцца з ёй у дыскурсе ўласна філалогіі), але я не магу зразумець палітыкаў-філолагаў, якія надзвычай вострую і складаную сапраўды *палітычную* праблему беларускай мовы як вялікага цэлага раздрабілі, ускладнілі ды заблыталі сваімі філалагічнымі капрызамі і прыхамацямі.

У сітуацыі, калі мовай апанавала амаль безнадзейная крыза і калі адзіным рацыянальным крокам была апеляцыя да грамадства на той беларускай мове, якую яно хоць трохі ведала з школьных падручнікаў, кніг Брыля, Караткевіча і Быкава, праграмаў радыё і тэлебачання, дадаткова ўскладняць праблему яе канцэптуальнай контррэформай, хоць трохі ўцямнай адно філалагічна адукаванаму чалавеку – да гэтага трэба было яшчэ дадумацца.

Мая дачка, вучаніца Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, дзе ад пачатку нелегальна запанавала “тарашкевіца”, летам 2003 года са студэнтамі педуніверсітэта ездзіла ў фальклорную экспедыцыю. А калі вярнулася, дык з сарамлівым посмехам зазначыла:

– Ведаеш, тата, у вёсках нашу беларускую мову ніхто не разумее.

– Натуральна,– буркатнуў я. – Нашыя філолагі сваёй мовай загубілі палітыку, а сваёй палітыкай – мову.

Тэза залішне эмацыйная і таму не надта справядлівая. Сляпое памкненне да прасоўвання “тарашкевіцы” ў народ бяспрэчна пагоршыла і ўскладніла агульную сітуацыю з беларускай мовай, хаця прычына самой сітуацыі, зразумела, паходзіла не з канфлікту правапісаў “тарашкевіцы” і “наркамаўкі”.

***

Калі ў мяне атрымлівалася завітаць у мястэчка Свіслач, дзе я нарадзіўся і пасталеў, дык нябожчык бацька зазвычай сустракаў словамі: “Беларус прыехаў”. Ён не казаў: “сын”, “пісьменнік”, “мянчук”, урэшце – “валацуга”. Усё астатняе не было для яго вартай увагі адметнасцю, раўнуючы з тым, што я – *беларус*.

З гэтага вітання я трохі злаваўся і часам мне карцела запытацца:

– А вы што, бацька, з неба зваліліся? Ці ж не такі вы самы беларус, як і я?

Але не пытаўся, паколькі разумеў: бацька мае рацыю. Бо з даўніх давён так павялося, што азначэнне беларус у нас найперш адсылае да экзістэнцыйнага выбару чалавека, яго ідэалагічнай заангажаванасці, палітычнай залежнасці, свядома абранай экзатычнай мовы і з гэтага – да адметнага спосабу мыслення і ладу жыцця, а толькі потым да нацыянальнай кадыфікацыі, якая сама па сабе ні пра што не кажа.

Быць беларусам на Беларусі – гэта выключыць сябе з нормы і паўз уласную хэнць быць для некага місіянерам новай веры, для кагосьці варожым прыблудам, а для ўсіх астатніх – от такім сабе блазнам. Нават сам зварот да беларускага слова ў Беларусі ёсць ні чым іншым, як грамадзянскім учынкам (і яшчэ – эстэтычным актам).

Ва ўсім свеце чалавек, размаўляючы на роднай мове, проста размаўляе. У нас зусім інакш. Кожны раз, калі на людзях мы прамаўляем па-беларуску, дык не

проста сумовімся, а як бы ладзім грамадзянскую акцыю ці мастацкі перформанс, паколькі ўвага ўсіх, хто выпадкова апынуўся побач, адразу засяроджваецца на нечаканым дзіве.

Уласна, быць беларусам – гэта штодня выконваць ролю беларуса ў бясконцым спектаклі без пачатку і канца... Гэта жыць і памерці на сцэне з родным словам на вуснах. Але і па смерці твая месіянерская доля не мусіць быць перапыненай і на помніку тваё імя і прозвішча абавязкова напішуць на матчынай мове.

Пасля восьмага класа бацькі выправілі мяне з мястэчка ў няблізкі свет – паступаць у тэхнічную вучэльню аж пад Маскву. Праз два тыдні я вярнуўся да хаты без студэнцкага білета, але з неблагой расейскай гаворкай (на тую пару я ўжо ад пуза быў наеты расейскай літаратурай, і ў расейскамоўным асяродку мая лінгвістычная інверсія адбылася без аніякіх высілкаў з майго боку). На бацькаўшчыне я хутчэй па інерцыі, хаця і не без пэўнага форсу, нейкі час працягваў размаўляць па-расейску. Ах, з якім захапленнем і зайздрасцю глядзелі на мяне сябрукі, якой глыбокай і шчаслівай радасцю свяціліся вочы бацькоў, калі яны слухалі маё “оканье”.

І толькі праз шмат год, ужо ў пару “перабудовы”, неяк згадаўшы тую сітуацыю, я зразумеў: прычынай захаплення і зайздрасці былі зусім не мае лінгвістычныя здольнасці, а здавён сфармаванае ўсведамленне, што ў чалавека, які лёгка развітваецца са сваёй мовай, ёсць варыянты лепшай за беларускую долі...

Дарэчы, мая маці сталася самай прывілеяванай *партніхай* мястэчка не толькі з сваіх прафесійных здольнасцяў, але і з моўных. Паколькі ўсё мясцовае начальства было з прысланых сюды пасля вайны расейцаў (ці добра абруселых беларусаў), дык яна хуценька засвоіла рускую мову і тым самым прыгарнула да сябе найбольш заможную кліентуру.

Карацей кажучы, для беларусаў тутэйшая мова з даўніх давён была тым ганебным таўром, якое кожны мусіў з сябе вытравіць (ці хаця б старанна прыхаваць), калі ён імкнуўся падвысіць свой сацыяльны статус.

***

Першы нумар новага часопіса, што не дзіва, выклікаў цікаўнасць. Хаця ажыятажу не заўважалася. А самай частай эмоцыяй выявілася непаразуменне... Для яго хапала самых розных падставаў, аднак паперадзе іх, безумоўна, была наступная: як можна агулам у адну лінейку друкаваць Алеся Асташонка, Міхаіла Бахціна, Франсуа Рабле, Галіну Булыку, Самуэля Бэкета... Дзе той Бэкет і дзе тая Булыка?!

Ва ўласна літарацкім асяроддзі гэтае непаразуменне падвышалася раздражнёнасцю, маўляў, ніхто не адмаўляе, што Булыка таленавітая паэтка, аднак колькі ў нас больш заслужаных празаікаў і паэтаў, каб прэзентаваць прыгожае беларускае пісьменства ў першым нумары?

У гэтым яны мелі рацыю, толькі заўважу (весела), што з *постацыю* больш “заслужанага” негатыўных эмоцыяў напэўна было б яшчэ болей. Такая ўжо прырода мастацкага таленту – яго без зайдрасці, здаецца, і не бывае.

Дарэчы, у тым, часткова і сітуацыйным выбары *постаці*, ніхто тады не расчытаў патаемнага знаку. Менавіта Галіна Булыка стане галоўным рэдактарам “Крыніцы” пасля Уладзіміра Някляева.

А вось адзін верш з той паэтычнай нізкі...

**ЮВЕЛІР**

Калі навечна вызваліў ён грані,
Калі з кутоў бліскучы пыл скрышыў,
Калі таварным стаў прыродны камень,–
Сышло натхненне з майстравай душы.

Аправіць адмыслова і багата,
Схавае ў аксамітны футарал...
Імкнуцца долу спелыя караты,
Як пачуццё, якога не чакаў.

І бліснe дыямент на раздарожжы
Малой дваінкай існасці зямной,
І ў лужыне абудзіцца...
Дык, можа,
Ён да натуры вернецца самой?

І ў летуценнай ювелірнай форме,
У жудаснай дакладнасці кута
Паспее пакрывіцца слепа-чорны,
Усюдыісны
Цень ад капыта?

***

Пасля выхаду першага нумара неяк зазірнуў у кабінет Някляева. Каля яго стала сядзеў Павел Якубовіч (тады ўжо галоўны рэдактар "Савецкай Беларусі"). Яны з нечага моцна весяліліся.

– О, Валянцін! – радасна ўсклікнуў Павал Ізотавіч. – А мы тут цябе вывучаем. І нічога не разумеем. Паслухай. – І ён працытаваў некалькі радкоў з майго эсэ пра паэзію Галіны Булыкі. Натуральна, я ўжо не памятаю, з чаго яны рагаталі канкрэтна, таму абнаяўлю той невялічкі тэкст.

"(...) Галіна Булыка небяспечна наблізілася да нябёсаў...

Каб пераадолець уладны цяжар *зямлі*, ёй спатрэбілася вынесці паэзію з кантэксту цялеснай кранальнасці ў метафізічны дыскурс...

Мяркую, што на сёння Галіна Булыка ўжо змагла амаль канчаткова разасобіць "плоць" і "дух", рассунуць іх па розных вымярэннях аднаго існавання і гэтым як бы ўзаконіць амбівалентнасць у якасці парадыгмы ўласнага лёсу. З апошняга вынікла магчымасць асвойтваць геаграфію трансцэндэнтнага, не ахвяруючы ўжытковым, і песціцца ва ўтульнасці жытла, не пазбягаючы скразнякоў астральнага бязмежжа.

І ўсё ж не будзем ідэалізаваць амбівалентнасць у якасці парадыгмы існавання. Дваістае прачытанне сябе, як падзеі быцця, пагражае непаўнатой прысутнасці і там і тут, тоіць небяспеку блытаніны ў прамежку паміж не-лінейна рассунутымі скранямі і не выключае таго, што аднойчы дваістасць абернецца раздвоенасцю, дзе кожная з супрацьлегласцяў гэтай раздвоенасці станецца асобным, але аднолькава чужым для паэта лёсам...

Зрэшты, ці не ёсць адчужанасць ад самога сябе тым наканаваннем, з якім мусіць змірыцца ўсялякі, хто наважыўся зрыфмаваць рып астральнага кола з тахканнем крыві ў скронях?"

Я павесяліўся разам з імі, бо іх смех быў не крыўдлівы – хутчэй наадварот. Гэтак з аднаго боку, а з другога, галоўны рэдактар "Савецкай Беларусі" і не мусіў разумець мае тэксты. У гонар яму было тое, што ён мог весела прызнацца ў гэтым. Заакцэнтую, ключавым словам тут ёсць *весела*... Бо праз некалькі месяцаў прыкладна на гэтым самым месцы побач з Някляевым сядзелі самы знакаміты беларускі драматург і галоўны рэдактар найбольш знанага літаратурнага часопіса. У той дзень "Культура" якраз выйшла з чарговым сшыткам "ЗНО", і я прынёс некалькі асобнікаў Някляеву. Той прадставіў мяне, запрасіў прысесці збоку да іх сябрыны і паказаў сваім сумоўнікам "ЗНО". Тыя паспрабавалі ўчытацца ў розныя тэксты, але неўзабаве я пачуў зласлівае "Гы-гы-гы". Сустрэнуць слова "амбівалентнасць" – "гы-гы-гы", "ментальнасць" – гы-гы-гы", "бінарная апазіцыя" – "гы-гы-гы" (і г.д і да т.п). У паўзах паміж злоснымі і пагардлівымі "гы-гы-гы" адзін кажа: я амаль нічога тут не разумею, хаця мае п'есы ва ўсіх тэатрах Саюза ставяць. Другі кажа: я і разумець тут нічога не хачу. У мяне найлепшы беларускі часопіс, а гэта што? Вучыся, хлопец, у нас пісаць...

Мяне іх пыхлівае гы-гы-гы напяла нечым нядобрым данельга. Звычайна на

падобнае я мала звяртаў увагі, але ж гэта былі дзве асобы сярод найбольш знаных у нашай культуры. І вось цяпер яны прылюдна ганарыліся сваёй несусветнай інтэлектуальнай тупасцю. У той момант мне нечакана зноў згадалася, як мы на выспе ля кальцавой слухалі выступы Зянона Пазняка і Уладзімера Арлова, а пасля на нас насунулася чорная сцяна карнікаў, і я ў адначассе зразумеў, што пакуль мы не раструшчым гэтую сцяну ў друз і пыл, датуль не мецьмем людскага жыцця.

Ясна ўсведамляю, што злучыць у адзін шэраг амапаўцаў з нацыянальна заангажаванымі як бы дэмакратамі – гэта ўжо залішне. Толькі за наступным, па-за палітычным, кантэкстам, і тыя, хто ахоўваў вычварныя скажэнні былога амапаўскімі дубінкамі, і тыя, хто абараняў іх сваім, ужо даўно састарэлым слоўнікам і выцвілай пыхай, былі паплечнікамі.

Падчас гэтага кароткага *сумоўя* я колькі разоў зірнуў у бок Някляева – ён сумна пасміхаўся з сваіх быццам бы сяброў.

***

Як на мяне, дык у тым першым нумары “Крыніцы” было шмат новага і сэнсоўнага. Хаця я не меў сумневу, што паэма “Гліна” Алеся Разанава вылучалася з усяго астатняга “эпахальна” (так любяць казаць літаратары пра штосьці выключнае).

Я ўжо ведаў, што гэта першая з трох паэм (“Гліна”, “Камень”, “Жалеза”), якія паэт мяркуе стварыць у *жанры* фундаментальнай анталогіі быцця. Прынамсі такім агулам я пазначаў гэты глабальны праект.

Няма чаго і казаць, што ён мне моцна падабаўся. Паэзія Разанава ўвогуле была наскрозь філасафічная і таму заўсёды блізкая маім метафізічным вярэдам. Толькі раней яна ўся была ўблытаная ў лакальнасці і аблытаная лакальнасцямі. А я чакаў ад яго большага, нечага блізкага да геніяльнай паэмы Парменіда “Аб прыродзе”. (Цікава, што дакладна з такой назвай ёсць паэмы ў Анаксімандра, Ксенафана, Эмпедокла, Анаксагора, Анцісфена і г.д.)

З “Глінай” звязаны яшчэ адзін глыбока схаваны эпізод у творчай біяграфіі паэта. На тую пару Алесь Разанаў ужо даўно быў не толькі бясспрэчным класікам для не лішне шырокага кола яго заўзятараў, але і абсалютна дасканалым майстрам паэтычнага пісьма для ўсіх. Скласці ўзорны верш яму было гэтак жа проста, як мне выпаліць цыгарэту. Толькі вершапісанне само паводле сябе – гэта яшчэ не паэзія. Ну зусім яшчэ не паэзія...

Кожны малады творца найперш шукае самога сябе ў творчасці, а як знойдзе, дык распрацоўвае знойдзенае, што тую “залатаносную жылу”. Зразумела, рана ці позна яна спусташаецца дарэшты. А той усё махае і махае кайлом, пусты грукат уважаючы за плён...

Раней я пісаў, што ў Разанава “геніяльнае вуха”, і таму яно не магло не расчуць, як у яго паэзіі ўсё болей становіцца пустога паветра паміж прамоўленымі словамі. І тады ён спыніўся. І пачаў наноў шукаць сябе ў заблытаных нетрах гукаў, рытмаў, цьмяных пакуль сэнсаў і чаго там яшчэ...

Магчыма, яго прыход у “Крыніцу” і быў абумоўлены пошукамі новага самога сябе. Паэма “Гліна” засведчыла – знайшоў. І далей зноў усё будзе добра. Натуральна, да пары...

Пра значнасць гэтай *знаходкі* для самога аўтара, бадай, кажа і такая драбніца, як надпіс на кніжцы “Гліна. Камень. Жалеза”, выдадзенай на нямецкай і беларускай мовах аж ў 2013 годзе: “*Таму, хто “Гліну” чытаў яшчэ ў чарнавіку: Валянціну Акудовічу – Алесь Разанаў*”. Так з аднаго боку. А з другога, калі ў 1997 годзе я падбіраў тэксты дзеля калектыўнай рэфлексіі на аддзяленні філасофія/літаратура Беларускага калегіума, то сярод першых была вылучаная паэма “Гліна”. І з той пары ўжо дваццаць год кожны новы набор навучэнцаў рэфлексуе і спрачаецца вакол ейных вартасцяў і сэнсаў.

***

Прыходзілі мы на працу а другой гадзіне, сыходзілі а шостай (калі сыходзілі). Хаця ніхто нас не кантраляваў. Проста ў рэдакцыі было больш цікава, чым дзе яшчэ. Калі ты сядзіш у адным пакоі з Алесем Асташонкам (пасля ўцёкаў на Украіну яго змяніў Леанід Галубовіч), а праз сценку ў сваім невялічкім катуху крэмзае аўтарскія рукапісы Алесь Разанаў, а праз калідор размаўляе з бясконцымі *тытульнымі* наведнікамі Уладзімір Някляеў, а праз гадзіну-другую сюды зазіраюць "паўставачнікі" Уладзімір Арлоў ці Леанід Дранько-Майсюк, а да падвячорка тут збярэцца ладная гурма славутасцяў рознага чыну (сярод палітычных лідэраў найбольш запомніліся прыходы Генадзя Карпенкі), і ўсё гэта з спрэчкамі, ідэямі, праектамі, тэкстамі, то навошта табе яшчэ некуды хадзіць?

Да таго ж на працы мы, можна сказаць, і не працавалі. Хіба адно Алесь Разанаў трохі псаваў сабе вочы над чужымі рукапісамі. Астатнія пераважна размаўлялі – паміж сабой, з аўтарамі, сябрамі/прыяцелямі ды рознымі іншымі *прыхаднямі*.

Толькі ўсё гэта не азначае, што мы не *працавалі*. Яшчэ як – і апантана. Дзякуючы Алесю Разанаву, з таго часу я маю хроніку аднаго майго пражытага дня...

***

Прачнуўся без дваццаці восем, на сорак хвілінаў пазней ад запланаванага. Упікнуў сябе – зрэшты, без асаблівага імпэту.

Дзень пачынаецца з кавы, а калі кавы няма, дык з моцнай гарбаты. Кавы не было.

Гарбату (між іншым – дрэнную) піў, як заўжды, ужо за пісьмовым сталом, каб дарма не губляць часу. Пакуль гарбата будзіць уяўленне, звычайна гартаю дзеля раскатурхвання глуздоў якую-небудзь *разумную* кнігу. На гэты раз пад руку трапіў Людвік Вітгенштайн. Чытаў на выпадковай старонцы філасофскія доследы хвілінаў пятнаццаць, а затым падсунуў пад руку скрэмзаныя аркушы паперы ўжо са сваімі "філасофскімі даследзінамі". Трэба падрыхтаваць публічную лекцыю, якую мушу прачытаць у Беларускім калегіуме. Лекцыя будзе называцца "Метафізіка. Сітуацыя росквіту і сітуацыя заняпаду". Праца ідзе марудна і не ў смак. Даўно кінуў бы, але паабяцаў.

Дачытаў усю абкрэмзаную паперу да чыстага аркуша і пачаў паліць цыгарэту за цыгарэтай без хоць якога плёну... Відавочна, метафізіка сёння мяне не хацела. Можа з таго, што я піў дрэнную гарбату, а можа таму, што цыгарэтаў у пачку мала заставалася, і я наперад нерваваўся: давядзецца перапыняць працу ды бегчы ў краму. А для мяне лепей і не раскручваць махавік думання, калі я не ўпэўнены, што ў яго не будзе часу выкруціць сваю энергію дарэшты.

Карацей, выбраўся з хаты па цыгарэты, аднак таго, што нашкроб па кішэнях, хапала ўсяго на "Беламор".

Набыў пачак "Беламору", зноў пераапрануўся – і за стол. "Метафізіку" ўжо не мела сэнсу чапаць, і я нейкі час вагаўся: ці то скончыць рэдагаванне для "Крыніцы" аповесці Жоржы Амаду "Мёртвае мора" (пераклаў з партугальскай Валеры Буйвал), ці яшчэ папрацаваць над артыкулам для "ЛіМа". Аддаў перавагу апошняму і не памыліўся, бо, здаецца, атрымалася сфармуляваць сутнасную праблему гэтага тэксту: "Уласна (у звязку з гісторыяй нацыяналізму) ёсць толькі адно пытанне: наколькі нацыяналізм тэхналагічны? Гэта значыць, наколькі ён можа быць вартасным не як *ідэалогія* адбывання быцця, а як *тэхналогія* гэтага адбывання".

"Беламор" курыўся ўсмак, думкі пакрысе грувасціліся на паперы, але тут патэлефанаваў Сяржук Мінскевіч і запытаўся пра Адама Міцкевіча. Рэч у тым, што Сяржук пераклаў "Дзяды" Міцкевіча і выціснуў з мяне згоду, каб я ўзяўся за рэдагаванне. (Нейк падумалася: амаль усё, што я раблю, я раблю пад прымусам – ці то абставінаў, ці то больш энергічных за мяне людзей, ідэй, падзей.)

Сяржук скончыў выпраўляць мае заўвагі ў чацвёртай частцы “Дзядоў” і чакаў наступную “порцыю”. Я кінуў “лімаўскі нацыяналізм” і ўзяўся даводзіць (там няшмат заставалася) да ладу другую частку “Дзядоў”, каб аддаць яе Сержуку, як апынуся ў рэдакцыі.

Здаецца, паспеў, управіўся. І нават знайшлася хвілінка, каб патэлефанаваць Міхасю Баярыну, які ў “Эўрафоруме” рыхтуе да друку мой суплёт эсэ – кнігу “Мяне няма”.

Нешта перакусіў спехам ды пабег на тралейбус. На працы, у рэдакцыі часопіса “Крыніца”, ужо быў мой калега Леанід Галубовіч. Пакуль мы з ім абмяркоўвалі апошнія гульні чэмпіяната свету па хакеі, прыйшоў Алесь Разанаў (нешта рана), і нагадаў, што сённяшні дзень (14 траўня 1998 г.) мы вызначылі дзеля анкетавання. Гэта значыць, абраны для анкетавання пісьменніцкі люд мусіць запамінаць і занатоўваць, што з ім адбывалася цягам дня (што думалася і пра што мроілася таксама), каб пасля ўсё гэта мы надрукавалі на старонках “Крыніцы”.

Натуральна, я ведаў пра гэтую ініцыятыву, толькі забыўся на яе, бо асабіста мяне яна аніяк не цікавіла. Пра што яшчэ раз сказаў Разанаву, калі ён зноў папытаўся, ці буду я таксама натаваць свой дзень?

Сказаць сказаў, ды раптам падумаў: а, можа, паспрабаваць? А то я ўсё рэфлексую над нечым адцягненым ад рэальнасці і за гэтым абстрактным рэфлексаваннем ужо забыўся, як выглядае маё штодзённае жыццё. А тут ёсць магчымасць агледзецца вакол і зафіксаваць хоць адзін дзень з уласнага бытавання.

Гэтая справа падалася дарэчнай яшчэ і таму, што былое не трымаецца ў маёй памяці – пра што ўжо казалася на самым пачатку хронікаў. Дык вось, прыдумка Алеся Разанава давала мне магчымасць хоць адзін дзень з усяго свайго мінулага пакінуць пры сабе, не даць яму адсланіцца ў чужыннасць, зафіксавацца рэальнасцю майго “няма”...

Усё гэта было добра, але я не ведаў, скуль вызваліць хоць трохі часу, каб маё 14 траўня 1998 г. перанесці на паперу, і таму вырашыў: не знікне заўтра хэнць і выблісне вольная хвіліна – занатую, не – дык не...

А сёння трэба было вырашаць сённяшнія праблемы. Абмеркавалі Іосіфа Бродскага. Рэч у тым, што Алесь Чобат пераклаў нізку яго вершаў, і паўстала пытанне: будзем даваць разгорнуты матэрыял пра Бродскага ці не? Пагадзіліся, што будзем. Потым я пажаліўся на ўласны “рэдактарскі крызіс”: перакладчыкаў не хапае, ёсць праблемы і з іх кваліфікацыяй. А часопіс, як той малох, жарэ і жарэ. Здаецца, ужо колькі замежных пісьменнікаў, культуролагаў, філосафаў кінуў у пашчу, а яму ўсё мала: давай і давай. Вось зраблю яшчэ Бадлера, Кундэру, Калакоўскага, Эка, Бродскага, а што потым? Дзе шукаць хаця б збольшага прафесійна зробленыя пераклады, дзе самому знаходзіць сілы, каб не спыняцца, не спыняцца...

Зрэшты, жаліцца доўга не выпадала, бо ў рэдакцыю пацягнуўся “люд”. Першым, забраць маю рэдактуру Адама Міцкевіча, прыйшоў Сяржук Мінскевіч. Паглядзелі мае праўкі, пагаварылі пра пераклад “Дзядоў”, які паралельна робіць Кастусь Цвірка.

Неўзабаве Леанід Галубовіч пачаў збірацца ў рэдакцыю “ЛіМа”. Не развіталіся, бо меркавалі сустрэцца на шэсці, якое арганізоўваў БНФ а пятай гадзіне з плошчы Якуба Коласа. Шэсце і мітынг былі ў абарону палітвязняў, а абраная дата 14 траўня адсылала да майскага рэферэндуму 1995 года.

Потым прыйшоў перакладчык Валерка Булгакаў, прынёс кнігу “Panorama Polskiej Myśli Filozoficznej”, каб я прачытаў артыкул пра Лешака Калакоўскага (бадай, адзінага любага мне польскага філосафа) і вырашыў, у якім аб'ёме яго перакладаць: цалкам ці са скарачэннямі?

Не паспелі з Валеркам разгаварыцца, як у пакой літаральна ўскочыў кіраўнік Беларускага калегіума Алесь Анціпенка – яму нешта трэба было ад (ці да) Алеся

Разанава. Выказаў абурэнне з нагоды ўсёй беларускай вясковa-адраджэнскай паэзіі. Лакальнай падставай для татальнага абурэння была апошняя з выдадзеных кніг Ларысы Геніюш, якую ён толькі што чытаў па дарозе ў рэдакцыю. Там жа, па дарозе, ён з гэтай нагоды пачаў складаць антыадраджэнскі вершык і некалькі строфаў з яго нам тут жа і прадэкламаваў (але я іх адразу запамятаваў).

Толькі доўга гаманіць ні ў кога не было часу. Алесю да публічнай лекцыі ў Беларускім калегіуме (яна распачыналася а шостай гадзіне, і кіраўнік мусіў там быць) трэба было яшчэ заскочыць у Скарынаўскі цэнтр, а я спяшаўся на плошчу Якуба Коласа, каб прайсці з калонай дэманстрантаў да плошчы Перамогі, а потым сесці на метро і паехаць да філіі музея Максіма Багдановіча, дзе і мелася адбыцца тая публічная лекцыя.

На плошчу мы выправіліся з Сержуком Мінскевічам. Народу было зусім мала і амаль нікога са знаёмых, хаця знаёмых твараў хапала, бо за дзесяцігоддзе мітынгаў вочы прыглядзеліся да ветэранаў вулічных акцыяў.

Пэўна, на шэсці і мітынгі людзі ўвогуле хутка перастануць хадзіць. Надакучыла з году ў год рабіць адно і тое самае. Ніякага выніковага эфекту ў большасці з гэтых акцыяў ужо даўно няма, а таму няма з іх і радасці. Ідзеш туды як пад прымусам, хаця ніхто не прымушае... Нешта прымушае, але і ў гэтага нешта відавочна слабне энергетыка. Бадай, арганізатарам мітынгаў і шэсцяў трэба было б перастаць імі злоўжываць. Пакінуць на год адно-два шэсці, каб людзям у ахвоту было, – і даволі. Інакш гэтая форма супраціву хутка будзе дыскрэдытаваная ўшчэнт, калі ўжо не дыскрэдытаваная...

Пакуль шэсце не пачалося, стаялі з Сержуком ля афішнай тумбы, гарталі дыхтоўную кніжку "Дзядоў" на польскай мове, разважалі пра Міцкевіча, які першым распрацаваў многія з тых тэмаў, што потым без меры будуць эксплуатавацца ў беларускай паэзіі, ды падпісвалі розныя паперы: за вызваленне палітвязняў, за грамадзянства ў БНР, яшчэ за нешта... У падзяку за нашу актыўнасць дзяўчаты, што збіралі подпісы, падарылі нам папяровых бел-чырвона-белых буслікаў.

Неўзабаве невялічкая калона рушыла па ходніку паўз праспект. Мы з Сержуком прыладзіліся ў самым яе канцы і туды пакрысе падцягнуліся Зміцер Вішнёў, Віктар Жыбуль, Ілля Сін. Атрымалася цэлая бумбамлітаўская філія зборнай калоны *змагароў за волю*.

На плошчы Перамогі я апошні раз зірнуў на бел-чырвона-белыя сцягі (можа, дзеля асалоды, якую адчуваю заўсёды, калі бачу іх лунанне, я яшчэ і хаджу на мітынгі ды шэсці) і развітаўся з хлопцамі, каб праз хвілінаў дваццаць быць ужо на публічнай лекцыі пра сучаснае мастацтва, якую чытаў Міхал Баразна.

Я не аматар публічнага інтэлектуалізму, мне куды больш утульна з кнігай, чым з лектарам. Але Беларускі калегіум толькі распачынае сваю дзейнасць, і трэба было падтрымаць гэты распачын хаця б сваёй прысутнасцю (зноў трэба: на мітынг трэба, на лекцыю трэба). Гэта па-першае. А па-другое – хацелася азнаёміцца, дзе і як усё гата адбываецца, бо праз пару тыдняў самому давядзецца тут выступаць.

Зрэшты, час не быў патрачаны марна, бо хаця я трохі і "адукаваны" ў праблемах сучаснага мастацтва (як-ніяк сем гадоў працаваў у газеце "Культура"), але некалькі момантаў з прамовы Міхала зацікавілі. Праўда, мне падалося, што калі Міхал дзеліць усё мастацтва на таталітарнае і, так бы мовіць, дэмакратычнае, дык ён a priori адмаўляе таталітарнаму мастацтву і ў эстэтычнай каштоўнасці. А між іншым мастацтва папярэдніх тысячагоддзяў было пераважна *таталітарным*. Дарэчы, калі казаць пра ўласна хрысціянскае мастацтва (абразы і да т.п.), дык тут мера *таталітарызму* была і застаецца абсалютнай, бо дагмат (асабліва яго "праваслаўная версія") вызначае наперад нават колеры, якія мусяць выкарыстоўвацца пры маляванні твару, апраткі, фону і ўсяго астатняга. Што ніяк не замінае нам высока ацэньваць эстэтычную каштоўнасць многіх твораў дагматычных мастацтваў.

Алесь Анціпенка ў сваім каментары да лекцыі назваў Мінск другаснай сталіцай Расійскай імперыі з адпаведнай архітэктурай. На гэта культуролаг Юрась Барысевіч заўважыў, што ў такім разе Мінску не хапае маўзалея. Публіка пачала з імпэтам абмяркоўваць: каго туды можна было б пакласці?

Дарэчы, публікі было не вельмі шмат, але, у адрозненне ад шэсця, тут гэты факт не засмучаў.

Разыходзіліся хто куды. Мы з Юрасём Барысевічам і Міхасём Баярыным вырашылі пасмакаваць кавы. Пакуль абмяркоўвалі, куды скіравацца, на вочы патрапіла кавярня з назвай "Воля". Натуральна, такую кавярню мы не маглі прамінуць і спусціліся ў скляпенне. Месцы там былі, аднак каву гатавалі толькі распушчальную (як зазвычай, там, дзе ёсць воля, – там нічога вартага болей няма). Мы з Міхасём ужо былі памкнуліся шукаць іншы прытулак, толькі Юрась, пагартаўшы меню, запрапанаваў замовіць па чарцы гарэлкі.

Прапанова была неблагая, аднак мы з Міхасём не змаглі на яе пагадзіцца, бо не мелі грошай. Толькі тут высветлілася, што Юрась у сваёй прапанове і не разлічваў на нашыя грошы, паколькі атрымаў сёння ў газеце "Навіны" (былая "Свабода") ганарар. Зразумела, мы засталіся ў (на) "Волі". Селі за чорны столік у чорныя крэслы. Попельніца, дарэчы, таксама была чорная (падумалася, што "воля", пэўна, сапраўды чорнага колеру, невыпадкова ж гэта любімы колер анархістаў).

Вярнуўшыся дахаты, ужо ў ложку ўспомніў, што як заўтра з'явіцца хэнць, дык трэба будзе перапісаць чарнавік гэтага дня на белы аркуш паперы. Пачаў вылузваць з кантэксту, што можна будзе занатаваць, хаця, яшчэ не паспеўшы перасунуцца з ранку ў дзень, заснуў...

Спаць я люблю. Спаць я люблю больш, чым жыць. Можа таму, што ў сне я ёсць, як няма, і наадварот, мяне ў сне няма, як ёсць?..

Толькі што мяне будзіць ранкам прачынацца?

*(Заканчэнне будзе.)*



Лявон Юрэвіч



...хіба гэта не лепшае, што магло стацца са старадаўняй перакладной легендаю?..

# Перахітрыць Смерць

## *Да генэзы "Ладдзі Роспачы" Ул. Караткевіча: пошукі першакрыніцаў*

XVI стагоддзе, залаты век Беларусі, адрадзіўся залатымі ж, бы ў ілюмінаваных манускрыптах, старонкамі Уладзіміра Караткевіча ў рамане "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" ды ў "Ладдзі Роспачы".

Пра магчымыя крыніцы рамана пісаць ужо даводзілася[1]; цяпер жа хацелася б агучыць колькі думак адносна "Ладдзі".

Жанр яе з часам мяняўся: пазначалася і аповесцю, і легендай. Твор жа, які прапануецца ў ролі натхняльніка Караткевіча, належаў, як сфармулявала даследчыца старажытнай беларускай перакладной літаратуры Зора Кіпель, "да гэтак званых *Візіяў* ці *Відзенняў*, якія сталіся папулярнымі ў сярэднявеччы – апавяданні людзей, якія бачылі (адсюль і *Відзенні*, і *Візіі*) вандраванні сваёй душы па тым свеце ды, вярнуўшыся назад, засведчылі пра пакуты й радасці, што там напаткалі"[2].

Гаворка ідзе пра "Кнігу аб Таўдалі рыцары"[3] (Тундала ў заходнееўрапейскіх спісках[4]), у аснове якой ляжыць шырока-

вядомая ў Сярэднявеччы ў Заходняй Еўропе ірландская легенда. Пра яе пісалі згаданая Зора Кіпель, айцец Аляксандр Надсан[5]. Сакрэт такой цікавасці просты: існаванне беларускага перакладу кнігі аб Таўдалі XVI ст. Праўда, “існаванне” – не зусім карэктнае азначэнне: рукапіс згарэў у пажары 1944-га года ў Варшаве, і нам засталіся толькі выпіскі з яго, зробленыя польскім гісторыкам літаратуры і мовазнаўцам Аляксандрам Брукнэрам, які ў 1891-м годзе надрукаваў свой артыкул “Die Vidio Tundali in bohemischer und russischer Uebersetzung” у часопісе *Archiv fur Slavische Philologie*. Уладзімір жа Караткевіч хутчэй за ўсё мог даведацца і пра Таўдаля, і прачытаць перакладзеныя выпіскі ў кнізе Міколы Янчука “Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры”[6]. Скарыстаем яе й мы.

Беларускі рукапіс быў перакладзены з – імаверна – чэшскага, які, у сваю чаргу, быў перакладзены з лацінскамоўнага арыгіналу, створанага ў сярэдзіне XII ст. манахам Маркам нібыта са словаў самога Таўдаля.

З фармулёўкі жанру, зробленай Зорай Кіпель і прыведзенай вышэй, можна, у прынцыпе, уявіць сюжэт “Кнігі аб Таўдалі рыцары” і суаднесці з “Ладдзёй”: супадзенні ёсць, але тым часам не надта ўражваюць. Таму – да тэксту першакрыніцы, памятаючы, аднак, што сам жанр візіяў не быў строга кананічным, а ў творах пазнейшых часоў мог праявіцца і ў “Боскай камедыі” Дантэ ці нават у такой гратэскавай форме:

Скакнуў – не трапіў, паслізнуўся
І ў яму старчаком лячу!
Ляцеў, ляцеў – як разануўся, –
Аж стала зелена ўваччу!
Ляцеў ці доўга я, ці мала,
Таго ніяк не уцямлю,
Але ўжо ладно расцвітала,
Як я зваліўся на зямлю.
Устаў з зямлі, абкалаціўся, –
Бо быў ў гразі я, як свіння,
І доўга сам сабе дзівіўся –
Дзе апынуўся гэта я?

Толькі што Тарас апынуўся не ў пекле, а на Парнасе.

Дык вось, *“Починаецца кніга о Таўдале рыцары. Лето от нарожэнія Сына Божіяго тысячаю тридцатою дзевятою было другое лето царя Таврата. [...]*

*С того места был есть един муж родом, ему-ж имя было Таудаль, роду словутного, але дел велми недобрых; по телу вотяжный[7] а велми смелый, а о спасеніи своея душа мало або ничого не смотряше. То ему прелишь[8] бяше противно, а штоб хто ему хотел мало у спасеніи души поведати. До церкви такеж не ходяше, а нищих ненавидяше пред собою; але иградцем, а гудцом[9] выдал есть, что мел. Але мел много товаришов а пріятелев добытых, и любимого имел есть товарища единого в ритерстве”*[10].

Калі перакласці гэты пачатак “Кнігі аб Таўдалі рыцары”, дык мы атрымаем фактычна пачатак “Ладдзі Роспачы”: *“Жыў сабе год чатырыста назад у беларускім горадзе Рагачове небагаты, але добрага роду дваранін па прозвішчы Гервасій Выліваха.*

*Быў ён з калена Давойнаў, з клана – Мячоў, а якога герба – за даўнасцю год забылася. Усёй маёмасці яго было – замак-развалюха, некалькі коней веку мафусаілава, латы, ды меч, ды яшчэ шахматная дошка, але затое быў ён багаты сябрамі і неабдзелены жаночай увагай.*

*Сабою быў дзівосна гожы і пяшчотны, а паводзін – самых заганных. Хобаль, залётнік, піяка, задзіра, біток, бабздыр несамавіты. Не было на ўсёй зямлі беларускай падобнага яму. Ляхі такіх завуць – “завалідрога”, а мы, людзі роду крывіцкага, “адарві748ог”, бо некалі, кажуць, такі ў самога Люцыпара рог сілком аддзерлі і зрабілі з яго келіх для пітва. Вады нальеш, і, сілаю самога рога, робіцца гарэлка. Я думаю – байкі гэта.*

*І сябры ў яго былі адпаведныя. Андрэй Гарбаты з Брачыславічаў, Кірык Балабан з Гультаёў, Галляш Вясна са Свінчуковічаў ды яшчэ Іра Францічак, за пераплёт на служэнне надзелены вёскай Мазурыкі, родам багемец, але п'янюга і бабскі ліслівец – на трох беларусаў.*

*Толькі ўсёй і працы ў іх было, што цягацца па корчмах і шынкарках ды па навакольных замках, калі гаспадара няма дома, піць віно, як Дняпро п'е Друць, ды дзярбаніць на лютнях і кімвалах багамерзкія песні"*[11].

Цікава адзначыць, што адзін з сяброў – багемец, чэх, а мы памятаем, з якога арыгіналу перакладалася беларуская кніга пра Таўдаля.

От жа рыцар Таўдаль, правобраз Гервасія, паехаў да свайго сябра, яны пілі й размаўлялі пра розныя справы тры дні й тры ночы. І здарылася ж, што падчас гэтае бяседы Таўдаль страціў прытомнасць і быў у такім стане аж чатыры дні й чатыры ночы – ад серады да суботы. А калі ўрэшце ачуняў, расказваў, як душа выйшла з цела, як яе мучылі дэманы, а пасля з'явіўся анёл і павёў яго ў пекла, дзе паказваў грэшнікаў і мукі, якія тыя церпяць за свае зямныя грахі. Як Вяргілій Дантэ, вадзіў ён Таўдаля, тлумачачы, што зрабілі тыя ці іншыя, за што пакараныя. І гэта найбольшы раздзел, які захаваўся ў выпісках Брукнэра й перакладзе Янчука. Далей да нас дайшлі толькі асобныя выразы, але і яны маюць немалую цікавасць у звязку з "Ладдзёй Роспачы".

Гэтак, у чацвёртым раздзеле малюецца жудасны цмок ("потвора): "Уста розинула вельми велика, иже ся так адаша[12] бы могла пожрети девять тысящь одинцов[13]. Та потвора имяше у своих устах два обри[14]: един главу нагору, а другый долов, и стояху, яко два столпы"[15].

Як тут не згадаць "потвора" з "Ладдзі Роспачы": *"Над іржавым, як запечаная кроў, морам з'явілася першая за ўвесь доўгі шлях жывая істота.*

*Яна ляцела, цяжка махаючы перапончатымі крыламі, як вялізны кажан, і то ўзлятала ўгору, то апускалася ў ваду пад неймаверным цяжарам, падвешаным да яе ног. Здалёк гэты цяжар здаваўся нізкай серабрыстых рыб.*

*Калі істота падляцела бліжэй – крылы аказаліся рукавамі чорнай манашай расы, а рыбы – дзевяццю голымі жанчынамі, што чапляліся за старэчыя ногі пачвары"*[16].

Звяртае на сябе не толькі жудасць гэтага цмока ў абодвух творах, але й паўтарэнне лічбы 9.

Нямала яшчэ пабачыў Таўдаль і пераказаў, ачуняўшы, свайму сябруку; што праўда, Смерці ён не сустрэў. Затое істотна, што рыцар, вярнуўшыся з пекла, пакаяўся ў сваіх грахох і пачаў жыць зусім іншым жыццём, пайшоўшы ў манастыр.

Манастыр відавочна не быў варыянтам ні для вобраза Гервасія, ні для Караткевіча. Але паказальна, што Гервасій быў толькі аднойчы названы рыцарам: калі, таксама зменены духоўна, знайшоўшы сваё адзінае сапраўднае каханне, выйшаў з апраметнай разам з Бярозкаю:

*– Бывай, брат Палачанін.*

*– Бывай, лыцар, бывай, дзяўчына*[17].

Гэта што датычыцца повязі "Ладдзі Роспачы" з "Кнігаю аб Таўдалі рыцары": уплыў відавочны, гэта хіба найбольш значная першакрыніца твору. Але не адзіная; паспрабуем выявіць яшчэ некалькі драбнейшых.

Ул. Караткевіч у лісце да Янкі Брыля (26.07.1964) расказвае, што піша "аб адным сярэдневяковым беларускім «зламірозе», які любіў жыццё, што атрымліваецца "дзікая, але своесаблівая мешаніна з «Дэкамерона», Рабле, французскіх фабліо і беларускіх не вельмі прыстойных казак"[18].

Паспрабуем адшукаць канкрэтныя сведчанні прысутнасці таго ці іншага твору або жанру.

Калі ладдзя падыходзіць да берага, Выліваха кажа: "Пір вам і з духам свіным"[19].

Гэта – наўпроставая цытата з ананімнай парадыйнай "Усепьянейшай літургіі", твору XIV ст., якая дакладна аднаўляе месу, не толькі паслядоўнасць, але нават

гучанне, аднак падстаўляючы зусім іншыя словы. У СССР гэты твор не раз выдрукоўваўся ў зборніках паэзіі вагантаў у класічным перакладзе С. Аверынцава, і няма сумлеву, што Караткевіч, у сваёй любові да падобных твораў, чытаў:

*(Хор:) – Блаженны сущие во кружале твоем, о Бахус: во шкалики шкаликов будут они восхвалять тебя. Славы ни малой не воздали мне, когда опустела мошна моя.*

*– Пир вам.*

*(Хор:) – И со духом свиным.*

І яшчэ на адзін момант хацелася б звярнуць увагу: на твор, які не гэтак моцна адбіўся ў тэксце, колькі, несумненна, паўплываў на яго.

*“А над ладдзёй Роспачы ўзлятаў голас Вылівахі і грымелі, нібы падпіраючы яго, грубыя вясёлыя галасы.*

*Досыць ляжаць нам каменнай крушняй!*
*Што мы, урэшце, як Марка, бядуем?*[20].

Якога Марка мае на ўвазе аўтар? Хіба ж не перакладчыка манаха Марка з XII ст., фактычнага аўтара кнігі пра Таўдаля?

Думаецца, ідзецца тут пра Марка Пякельнага. Прыказка “як Марка па пекле” – гэта пра яго.

Што праўда, ён таксама і герой украінскіх легендаў, і мо больш папулярны, бо з’яўляўся не ў адным мастацкім творы новага часу. Але ўкраінскі Марка – зусім іншы, як беларускі. Ва ўкраінскім фальклоры ён – вечны бадзяга, пакараны або за тое, што жалезнаю пальчаткаю ўдарыў Хрыста й быў прысуджаны вечна хадзіць пад зямлёй вакол стаўпа, біцца аб яго галавой, але не ў стане памерці, або за тое, што закахаўся ва ўласную сястру, а потым забіў яе разам з уласнай маці.

Беларускі Марка Пякельны – персанаж таксама трагічны, але па-іншаму: ён ходзіць па пекле, бачыць пакуты чалавечыя, але нікому дапамагчы не ў стане. Уладзімір Конан у артыкуле “Архетыпы іншай культуры”, гаворачы пра пекла, сказаў: “Беларускі аналаг Дантавага «Пекла» – казка «Марка Пякельны»”[21].

Праўда, дзеля справядлівасці трэба зазначыць, што тут ён толькі паўтарыў думку, выказаную айцом Львом Гарошкам амаль за сорак гадоў перад тым у часопісе “Божым Шляхам”: “А колькі ёсць глыбокарэлігійных беларускіх казак і легендаў! Некаторыя з іх глыбінёю сваіх ідэяў і мастацтвам формы дараўноўваюць класічным творам сусветнае літаратуры. Напрыклад, казка «Марка пякельны» гэта быццам кароценькая «Боская камедыя» Аліг’еры Дантэ”[22].

Казка, запісаныя, між іншым, Адам Багдановічам, бацькам Максіма, была выдрукаваная ў адным з тамоў “Матар’ялаў” Паўла Шэйна[23]. І гэта сапраўды надзвычайны твор, дзе колы апраметнай тлумачыць Марку сам бог:

*Колі ж ты ўсё знаеш, дык скажы ж ты мне, татулька, хто и за што ў смоляных рэках и озерах кипиць? Дужа яны енчуць, зубами скрыгаюць.*

*– Гэта кара самая найбольшая, кажа Бог. Смажутца ў смоле, горачь у огне разбойники, душагубы, што житцьця у людзей отбирали, злым зельлем, отрутай отрайляли, дзяцей сироцили, бязь споведзи, бяз причасьця на той свет отпраўляли; кипяць там коноводы, што последнюю скоцинку крали, господарой поубусту пущали; пякутца там докащики, донощики, здрайцы, што клёнтву ломали, за народ, за праўду не стояли, свайго брата паном выдавали-продавали*[24].

І яшчэ адзін сюжэт у “Ладдзі Роспачы” ніяк нельга абысці, але з ім хіба прасцей за ўсё: гульня Вылівахі са Смерцю ў шахматы. Гэта сюжэт ведамай фрэскі XV ст. *Döden spelar schack* царквы Цёбу (Täby kyrka) у Швецыі: Смерць і чалавек сядзяць разам за шахматнаю дошкай. Свет як тая дошка, што ўбірае ў сябе чалавечыя жыцці. Некаторыя даследчыкі лічаць, што гульня чалавека са Смерцю ўвасабляе сабой складаныя маральныя праблемы, якія чалавек мусіць вырашыць.

Трэба дадаць, што гэтая фрэска натхніла не толькі Караткевіча на “Ладдзю

Роспачы", але й Інгмара Бергмана на стварэнне фільма "Сёмая пячатка" (1957), якую, думаецца, ведаў і беларускі аўтар.

Аповесць, а мо легенда, а мо візія, заканчваецца так:

*І заяц з глогавых нетраў не кінуўся ўцякаць ад іх, а павараціўся задам да пакінутых і пачаў так рагатаць, што ў яго трэснула верхняя губа.*

*А глог цвіў над зямлёю, і гэта было сапраўды, як эдэм, у якім гучаў ціхі і пяшчотны смех, ці то зайцаў, ці, можа, самога жыцця*[25].

Чаму заяц ды з чаго гэткі вясёлы? А мо гэта той самы, з Бядулевай "Сярэбранай табакеркі", які ў чарговы раз перахітрыў Смерць?!

А вось Зора Кіпель свой артыкул пра беларускую кнігу пра Таўдаля рыцара заканчвае на мінорнай ноце:

"Вось і ўсё, што захавалася. І застаецца нам толькі марыць: калі б...

Калі б тэкст быў цалкам перакладзены і цалкам перахаваўся...

Калі б хтось з даследнікаў яго цалкам перапісаў і надрукаваў...

Калі б хоць захаваўся чэскі папярэднік...

Калі б не было вайны, пажару...

Калі б..."[26]

Так, усё слушна. Але калі сапраўды Уладзімір Караткевіч прачытаў тое, што засталося ад тэксту, і напісаў адзін з найвыдатнейшых айчынных твораў – хіба гэта не лепшае, што магло стацца са старадаўняй перакладной легендаю?

---

[1] Юрэвіч, Лявон. Літштудыі. – Мінск, 2017. – С. 154-162.

[2] Кіпель, Зора. Лёс беларускай аповесьці аб Тундалі ў сьвятле беларуска-заходнеславянскіх узаемадачыненьняў. У зб.: Скарыназнаўства. Кнігазнаўства. Літаратуразнаўства. Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў "Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый". – Мінск, 2001. – С. 140.

[3] Беларускія Александрыя, Троя, Трышчан. Перакладная белетрыстыка Беларусі XV-XVII ст. ст. Укладанне, расчытанне, пераклад з старабеларускай, прадмова, каментар Алеся Бразгунова. – Мінск, 2009. – С. 673-675.

[4] Бразгуноў, А.У. Перакладная белетрыстыка Беларусі XV-XVII стагоддзяў. – Мінск, 2007. – С. 45. Кніга, дарэчы, прысвечана светлай памяці Зоры Кіпель.

[5] Надсон, А., а. Заходняя літаратура на Беларусі ў XV-XVI ст. ст. Божым Шляхам, №1 (106), 1968. – С. 2-6; №3 (108), 1968. – С. 3-7.

[6] Янчук, Н.А., праф. Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры. Старадаўны пэрыяд. Курс прачытаны ў Маскоўскім Унівэрсытэце. – Менск, 1922.

[7] Харобры.

[8] Вельмі, надта.

[9] Музыкантам.

[10] Янчук, Н.А., праф. Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры... – С. 106.

[11] Караткевіч, Уладзімір. Збор твораў у васьмі тамах. Том 2. Мінск, 1988. – С. 130-131.

[12] Здавалася.

[13] Мужоў, узброеных ваякаў.

[14] Волат.

[15] Янчук, Н.А., праф. Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры... – С. 109.

[16] Караткевіч, Уладзімір. Збор твораў у васьмі тамах... – С. 150.

[17] Караткевіч, Уладзімір. Збор твораў у васьмі тамах... – С. 168.

[18] Верабей, Анатоль. Уладзімір Караткевіч. Жыццё і творчасць. – Мінск, 2005.

[19] Караткевіч, Уладзімір. Збор твораў у васьмі тамах... – С. 153.

[20] Караткевіч, Уладзімір. Збор твораў у васьмі тамах... – С. 151-152.

[21] Адукацыя і выхаванне. – 1996. – №10.

[22] Гарошка, Л., а. Рэлігійны элемэнт у беларускай народнай творчасьці. Божым Шляхам, Парыж, 1957, студзень-сьнежань, №76-81. – С. 4.

[23] Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Северо-Западного края, собранные и приведенные в порядок П.В. Шейном. – Санкт-Петербург, 1893. Том II. – С. 376-386.

[24] Тамсама. – С. 384-385.

[25] Караткевіч, Уладзімір. Збор твораў у васьмі тамах... – С. 169.

[26] Кіпель, Зора. Лёс беларускай аповесьці аб Тундалі ў сьвятле беларуска-заходнеславянскіх узаемадачыненьняў.... – С. 143.

Марыя Міцкевіч



…Ды арол драпежны з двума галавамі
Не ўсядзеў, скалоўся на тэй Вострай Браме…

# “Ты ж, араты дбалы, малады, руплівы…”

***Якуб Колас і браты Луцкевічы***

Адзін з вялікіх юбілеяў 2018 года – “Свята Незалежнасці” – 100-годдзе Беларускай Народнай Рэспублікі. “Нашая незалежнасць тады не была выпадкам, збегам шчаслівых абставінаў. Яна была заканамерным фактам. Вынікам цяжкай адраджэнскай працы і доўгага змагання”, – пісалі С. Рудовіч і В. Герасімаў[1]. Адзначаючы гэты юбілей, мы ў першую чаргу павінны былі ўспомніць Івана (1881–1919) і Антона (1884–1942) Луцкевічаў.

“Браты Луцкевічы – гэта сапраўдныя волаты беларускага адраджэньня. Яны былі творцамі і інсьпіратарамі адраджэнскай ідэялёгіі, арганізатарамі беларускага грамадзкага, палітычнага й культурнага жыцьця, вучыцелямі нарастаючых пакаленьняў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, грамадзкіх і палітычных дзеячоў” – пісаў Вінцэнт Жук-Грышкевіч у артыкуле “Заснавальнікі й рэдактары “Нашай Нівы”[2].

Вітаўт Кіпель называў Івана Луцкевіча пачынальнікам беларускага нацыянальнага руху, так як ён:

– знаходзіў і прыцягваў да сябе, збліжаў, арганізоўваў беларускі нацыянальны актыў у Пецярбургу, Вільні, Мінску, сярод якіх былі В. Ластоўскі, В. Іваноўскі, А. Уласаў, Я. Купала, Я. Колас, Б. Тарашкевіч, Б. Эпімах-Шыпіла і шмат іншых;

– быў галоўным піянерам і арганізатарам выданняў "Наша Доля", "Наша Ніва" і газеты "Гоман" і здабываў сродкі для іх фінансавання;

– арганізоўваў беларускае пачатковае школьніцтва, заснаваў беларускую гімназію ў Вільні;

– быў адным з першых, хто яшчэ ў "Нашай Ніве" паставіў пытанне арганізацыі Беларускага ўніверсітэта;

– заснаваў Беларускае навуковае таварыства і заклаў першы беларускі музей;

– першы вывеў беларускую справу і беларускія палітычныя дамаганні на міжнародную арэну[3].

Ён і работнік грамадзянскі,
Мужыцкі пан і служка панскі,
І антыквар, і археолаг,
І бібліёлаг, і філёлаг.
А быў-бы слаўным ён зусім,
Каб быў чым-колечы адным.

Гэтую эпіграму прысвяціў Івану Луцкевічу Янка Купала, адзначаючы шырокі спектр яго дзейнасці. Вацлаў Ластоўскі прысвяціў Івану Луцкевічу верш "Рэйнскі вадаспад", апошнія радкі якога "як дух змаганьня Беларусі" сталіся назвай нарыса Антона Адамовіча, напісанага да 100-х угодкаў нараджэння Івана Луцкевіча. У сваёй працы Антон Адамовіч сцвярджае, што Іван Луцкевіч належыць да асобаў, якія "адыгралі вызначальную ролю ў гісторыі" і дае глыбокі аналіз яго рознабаковай дзейнасці[4].

Да 100-годдзя з дня нараджэння Івана Луцкевіча з'явіўся артыкул і ў беларускім друку ў газеце Голас Радзімы". Аўтары артыкула "Асветнік, папулярызатар, збіральнік" Мікола Іваноў і Леў Мірачыцкі, станоўча ацэньваючы рэвалюцыйна-дэмакратычную і культурную дзейнасць Івана Луцкевіча, адзначылі, што ён "не да канца разабраўся ў складаных тагачасных падзеях, не зразумеў сутнасць нацыянальнай праграмы бальшавікоў" і што трэба "ставіцца крытычна да яго палітычных блуканняў і памылак"[5].

Найвыдатнейшай падзеяй ініцыяванай Іванам Луцкевічам было выданне ў Вільні першай легальнай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты "Наша Доля". У першым нумары газеты ад 1 верасня 1906 г. быў змешчаны верш Якуба Коласа "Наш родны край", якім паэт дэбютаваў у друку. Прапанову супрацоўнічаць у беларускай газеце Якуб Колас атрымаў ад Аляксандра Уласава. "Мая літаратурная работа, – пісаў Я. Колас, – не давала мне ніякага прыбытку, і я не ганяўся за ім, не трэбаваў ганарару, бо ведаў, што ў рэдакцыі сродкаў няма, што я працую на патрэбу і ў інтарэсах беднага беларускага народа, і гатовы быў сам падтрымаць першае друкаванае беларускае слова сваім мізэрным заработкам"[6].

"Наша Доля" хутка спыніла сваё існаванне, але ёй на змену прыйшла новая газета, заснаваная братамі Луцкевічамі – "Наша Ніва", якая дала імя цэламу перыяду ў гісторыі беларускай літаратуры. З публікацый у "Нашай Ніве" пачалі свой творчы шлях Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Алесь Гарун, Змітрок Бядуля, Канстанцыя Буйло, Янка Журба і іншыя беларускія пісьменнікі.

Янка Запруднік адзначаў ролю братоў Антона і Івана Луцкевічаў у станаўленні Максіма Багдановіча як паэта. Дзякуючы ім, у 1911 годзе Багдановіч наведаў Вільню, пазнаёміўся з рэдакцыяй "Нашай Нівы", з беларускай працай, якую газета

праводзіла, агледзеў музейныя зборы Івана Луцкевіча, вынікам чаго стаўся цыкл вершаў "Старая Беларусь"[7]. З чэрвеня па жнівень 1911 г. Максім Багдановіч жыў у Луцкевічавых сваякоў у фальварку Ракуцёўшчына, дзе былі напісаны дзве паэмы і нізка вершаў. А ў 1913 годзе рэдакцыі "Наша Ніва" ўдалося выдаць славуты Багдановічаў зборнік вершаў "Вянок".

Вялікі ўнёсак "Нашай Нівы" ў развіццё і станаўленне новай беларускай літаратуры адзначылі і аўтары вышэй узгаданага артыкула "Асветнік, папулярызатар, збіральнік". Яны пісалі, што газета не толькі актыўна выяўляла і згуртоўвала літаратурныя таленты, яна іх узгадоўвала, давала крылы да творчага ўзлёту, была свайго роду ўніверсітэтам і апекуном.

У лісце да Л.М. Клейнбарта ад 18 чэрвеня 1927 г. Якуб Колас пісаў: "Выход в свет белорусской газеты был величайшим событием в моей жизни. Я отдался всецело белорусской поэзии, стал горячим пропагандистом белорусского возрождения... Я в конце 1906 года, уже будучи без места, приезжал в Вильно, чтобы познакомиться с редакцией и остаться там. Меня встретили там очень приветливо. Там я познакомился с братьями Луцкевичами, которые были душою белорусского возрождения"[8]. Малодшы брат Я. Коласа Міхась Міцкевіч адзначаў, што толькі тады, калі Я. Колас увайшоў у сваё нацыянальнае беларускае асяроддзе, якое гуртавалася каля газеты "Наша Ніва", ён знайшоў свой шлях і ўмовы для развіцця свайго таленту[9].

У канцы мая 1907 г. Я. Колас прыязджае ў Вільню, працуе ў рэдакцыі "Нашай Нівы" і жыве ў памяшканні рэдакцыі. Праца не была лёгкай. "Вобыскі, канфіскацыі былі звычайнаю з'яваю, – пісаў Я. Колас. – Адзін № «Нашай долі» і № «Нашай нівы» былі канфіскаваны за мае вершы... Многа трывог і сумненняў перажыў я за гэты невялікі час існавання першых беларускіх газет. Мяне браў страх, што гэтыя часопісі, якія я расцэньваў як агонь ў цёмнай ночы бяспраўя беларускага народа, загасне, а разам з тым і мне, як песняру нядолі свайго народа, не будзе ніякіх дарог, і мой дар паэта загіне марна"[10]. Але адказнасць і пачуццё гумару дапамагалі ў працы. Аляксандр Уласаў, тагачасны рэдактар "Нашай Нівы", успамінаў: "Прысылалі ў "Нашу Ніву" шмат вершаў, расказаў, карэспандэнцыяў. Колас меў шмат працы. З благіх вершаў рабіў добрыя, і местачковы вершаплёт, прачытаўшы сваі вершы сваім знаёмым, дзівіўся разам з імі: якія прыгожыя вершы. Колас унёс шмат гумару ў рэдакцыю; чалавек ён быў жыццярадасны, у жыццё нашае «багемы» ўносіў вольнымі часінамі шмат весялосці"[11]. Аляксандр Уласаў таксама адзначаў, што менавіта Іван Луцкевіч, які ведаў увесь край, прапанаваў пані Т. Гардзялкоўскай зрабіць прыватную беларускую школу, куды направіў Якуба Коласа ў якасці настаўніка. Да гэтага часу нідзе на Беларусі беларускай школы не было.

У 1909 г. Антон Луцкевіч у 9 нумары часопіса "Московский еженедельник" (Москва) друкуе артыкул "Национальное возрождение белорусов". У артыкуле адзначаецца, што "Наша Ніва" паклікала да жыцця шэраг паэтаў народных, сярод якіх ёсць моцныя сілы, напрыклад, Янка Купала, Якуб Колас. А. Луцкевіч сцвярджае, што выданне газеты і стварэнне Беларускага настаўніцкага саюза "содействуют пробуждению самосознания национального, сеют мысли о потребности науки на родном языке... И теперь, хотя правительство не допускает белорусского языка даже в начальные школы, уже существуют частные белорусские школы – тайные (такова «свобода» в России)". Тут аўтар якраз мае на ўвазе працу Я. Коласа ў першай прыватнай беларускай школе.

Юліяна Вітан-Дубейкаўская ў сваіх успамінах адзначала, што Іван Луцкевіч "не любіў пяра, ягоныя думкі плылі гэтак хутка, што пяро не паспявала за імі, але ён меў дар слова і ўмеў запаляць слухачоў". Сваім дапаўненнем, найперш "сваім пяром", выкаваў Іван свайго малодшага брата Антона, які найчасцей падпісваўся ў друку псеўданімам Антон Навіна (Anton Navina, A. Nowina). "Антон рабіў усю

пісьмовую працу, – пісала Юліяна, – меў хуткае і добрае пяро і добры стыль, і быў працавіты, як мурашка"[12].

У сваіх працах Антон Луцкевіч не раз узгадваў Якуба Коласа.

У выданні "Запросы жизни" (Санкт-Петербург, 6, 10 лютага 1912 г.) змешчаны яго артыкул "Национальные отношения в Белоруссии", дзе падкрэсліваецца значэнне беларускай літаратуры і газеты "Наша Ніва" ў Беларускім адраджэнні, узгадваюцца пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч.

У 1912 годзе ў Вільні ў друкарні "Прамень" выдавецтва "Нашай Нівы" выйшла першая кніга прозы Тараса Гушчы (Я. Коласа) "Апавяданні" коштам вышэй узгаданай Тэрэзы Гардзялкоўскай. У "Нашай Ніве" (9 жн. 1912 г.) з'явілася рэцэнзія "Мае ўвагі" А. Луцкевіча (пад крыпт. І.М.), дзе адзначаецца, што "новая кніжка павінна знайсьціся пад кожнай сельскай стрэхай, бо толькі пазнаньне і крытыка самых сябе можа навучыць, што ў нас благое, што добрае, і падбіць народ парупіцца, каб зьвясці ўсё злое..."

У 1917 годзе ў газеце "Homan" Антон Луцкевіч друкуе серыю артыкулаў, якія прысвечаны беларускім пісьменнікам, у тым ліку разглядаецца творчасць Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча, К. Буйло, Ц. Гартнага.

У 1918 годзе ў Вільні ў друкарні "Znicz" гэтая серыя была выдадзена асобнай кніжкай "Nasy piesniary". Гэта выданне, як адзначаў Анатоль Сідарэвіч, было першай кнігай літаратурна-мастацкай крытыкі і адначасова першым падручнікам беларускай літаратуры для юнацтва[13]. У артыкуле "Якуб Колас" А. Луцкевіч змяшчае алегарычную казку Я. Коласа "Дудар" і дае высокую ацэнку літаратурнай творчасці пісьменніка і яго змагання за нацыянальную школу. "Побач са сваёй чыста літаратурнай працай, – піша А. Луцкевіч, – паставіўшай Якуба Коласа на адным з першых месц у беларускай літаратуры часу адраджэньня, малады пясьняр-вучыцель не пакідаў сваей прафесіянальнай работы. Маючы глыбокую веру, што раней ці пазьней беларусы здабудуць нацыянальную школу, Якуб Колас апрацовываў і школьныя кніжкі, адна з каторых пад загалоўкам "Другое чытанне" і была выдана ў 1910 гаду. Кніжка гэта, як і ўсе творы Коласа, поўна гарачай любові да роднага краю..." Цікава адзначыць, што казка "Дудар", якая ўразіла А. Луцкевіча, не друкавалася пасля 1928 года па ідэйных меркаваннях і ўключана толькі ў апошні збор твораў Якуба Коласа.

Агляд творчасці і ідэяў беларускіх пісьменнікаў падаецца ў кнізе Антона Навіны "Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры", якая пабачыла свет у Вільні ў 1921 годзе. Аўтар выказвае думку, што ў творах Я. Коласа і Я. Купалы адлюстравана жыццё беларуса незалежна ад яго стану і сацыяльнага палажэння, у іх выяўляецца цэльнасць гістарычнага існавання беларускага народа.

У 1924 годзе ў Вільні выйшла брашура Антона Навіны пра Беларусь на мове ідыш (*Di Waisrusen*), дзе гаворыцца пра Купалу і Коласа і падкрэсліваецца іх значэнне ў беларускім адраджэнні.

Разважаючы пра дасягненні ў галіне навукі, мастацтва, літаратуры, друку ў артыкуле "Наш культурны рост", Антон Луцкевіч адзначае, што Якуб Колас чаруе чытача сваёй глыбокай паэзіяй, такімі творамі, як паэмы "Новая зямля" і "Сымон-музыка", як аповесць "У палескай глушы"[14].

У 1926 годзе ў Мінску пабачыла свет кніга "Якуб Колас у літаратурнай крытыцы. (Да дваццацігадавога юбілею яго літаратурнай дзейнасці)". У кнігу ўключаны артыкул "Сымон Музыка" Антона Навіны, які падае наступную ацэнку паэмы: "Нейкай дзіўнай сьвежасьцяй, вялікай моцай духовай і верай у сілу свайго Народу веець з гэтага твору Коласа. А аб велічы творчага пад'ёму красамоўна гаворыць мастацкая форма твору, незвычайнае багацце абразоў, рознароднасьць рытмікі і будовы вершу ў залежнасьці ад зьменнасьці настрояў паэта. Цудоўныя "лірычныя адступленьні", якімі перасыпана паэма, непараўнальныя па сваёй красе і глыбокім настроям апісаньні прыроды – гэта запраўдныя перлы нашае паэзіі".

У 1926 годзе ў газеце “Народная Справа” Антон Луцкевіч вітае Якуба Коласа з дваццацігоддзем літаратурнай працы і пачэсным тытулам народнага паэта. Ён піша: “Багаты той скарб, які ўлажыў Колас у нашу літаратуру. Багаты і думкамі, і мастацкімі цэннасьцямі. Дык – побач з Купалай – ён слушна займае першае месца на беларускім Парнасе... Мы шчыра вітаем нашага паважанага Юбіляра – і тым больш шчыра, што ён некалі тут у Вільні, разам з намі жыў і супольна з намі вёў нашае паўгалоднае бытаванне, што пакінуў па сабе ў усіх найлепшыя ўспаміны як вельмі скромны, просты, шчыры і прыступны чалавек і добры таварыш”[15].

У 1927 годзе ў Беларускім выдавецкім таварыстве ў Вільні (адным з заснавальнікаў якога быў Іван Луцкевіч) выйшлі выбраныя творы Якуба Коласа. Аўтарам уступнага артыкула “Жыццё і творчасць Якуба Коласа” быў А. Навіна (А. Луцкевіч). У кнігу ўваходзілі выбраныя вершы, урыўкі з паэмаў “Новая зямля” і “Сымон-музыка” і іх кароткі змест, урыўкі з аповесці “У палескай глушы” і некалькі апавяданняў.

У 1928 годзе ў Вільні была выдадзена брашура Антона Луцкевіча “За дваццаць пяць гадоў (1903–1928): Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацый: Беларуская Рэвалюцыйная грамада. Беларуская Сацыялістычная Грамада”, дзе адзначаецца дзейнасць Якуба Коласа сярод беларускіх настаўнікаў і змаганне за беларусізацыю школ.

У 1929 годзе ў Вільні выходзіць кніга Антона Навіны “Адбітае жыццё. Лекцыі і стацьці з беларускае адраджэнскае літаратуры”, дзе змешчаны артыкул “Якуб Колас. Жыццё і творчасць”. Аўтар дае наступную ацэнку творчасці Якуба Коласа:

“Якуб Колас – вялікі мастак слова, які сам выйшаў з народнае гушчы, які ніколі ад яе не аддзяляўся і даў запраўднае і поўнае – да канца – выяўленне беларускае сялянскае душы. Праз ягоныя вусны прамовіў сам народ. Вось гэты змест творчасці Коласа разам з мастацкай формай яе і складаюць тую вялізарную цэннасьць поэзіі Коласа, якая паставіла яго на першае – побач з Купалай – месца ў беларускай адраджэнскай літаратуры... Душа Коласа – гэта душа беларускага вяскоўца, толькі непамерна ўзросшая панад вясковы ровень, абняўшая ўсе праявы жыцця і ўсе перажыванні сярмяжнае масы. Яго сэрца бьецца ў такт з біцьцём міліёнаў сэрц сялянскіх. Ён глядзіць на сьвет вачыма сваіх братоў-сярмяжнікаў, толькі адразу абдымае вялізарныя прасторы, недаступныя кожнаму паасобку. І з душы яго вырываецца стогн – крык жалю і крыўды, крык міліёнаў забітых, загнаных і змардаваных жыцьцём людзей, які выліваецца на паперу ў пастаці мастацкіх вершаў, апавяданняў, казак... Колас – гэта як-быццам той мэгафон, праз які голас беларускага сярмяжнага люду разышоўся на ўвесь сьвет і – дзякуючы мастацтву песняра – быў пачуты ўсімі, каму мова беларуская даступна і зразумела”.

Акрамя працы, якая непасрэдна прысвечана Якубу Коласу, у кнізе ёсць і іншыя артыкулы, дзе ўзгадваецца Якуб Колас, сярод якіх: “На новых шляхох”, “Водгукі вялікае вайны”, “Вільня ў беларускай літаратуры”. У апошнім прыводзяцца ўрыўкі Я. Коласа з паэмы “Новая зямля” і адзначаецца, што “дадзены Коласам абраз Вільні – высокамастацкі”.

У 1930 годзе ў віленскай газеце “Наперад” ад 26 лютага 1930 г. з’явіўся артыкул “Якуб Колас за кратамі!” Артыкул не падпісаны, але лічыцца, што ён належыць Антону Луцкевічу. Вось некаторыя радкі з гэтага артыкула: “Творы Коласа можна сьмела можна раўнаваць да найвыдатнейшых твораў сусьветнае літаратуры. І замах Сталіна і ягоных “апрычнікаў” на асобу Якуба Коласа – *гэта замах перад усім на наша нацыянальнае адраджэньне, на беларускую культуру*: бо творчыя сілы Коласа йшчэ далёка не вычарпаны, бо ён яшчэ можа і мусіць даць многа новых літаратурных цэннасьцяў, якіх народ беларускі чакае ад яго. І тое, што гэты вялікі творчы дух аказаўся ўпхнёны за каменныя сьцены вастрогу, каб нашы сялянскія масы не пачулі больш голасу свайго геніяльнага песьняра, – гэта ж найбольшая ганьба для тых, што мо й у добрай веры служаць чырвонаму маскоўскаму дыктатару, грузінскаму рэнегату Сталіну”.

1 сакавіка 1930 года ў “Савецкай Беларусі” надрукаваны артыкул “Якуб Колас – паэт і грамадзянін”, у якім выкрываюцца домыслы замежнай прэсы пра арышт паэта і высылку яго з БССР[16].

Антон Луцкевіч – аўтар артыкула “50-леццe Якуба Коласа”, які быў надрукаваны ў віленскай газеце “Беларускі Звон” ад 19 лістапада 1932 года. Характэрныя рысы Я. Коласа як чалавека і беларуса, адзначае аўтар, гэта – “духовая веліч, глыбокі гуманітарызм, укаханьне Бацькаўшчыны”. А. Луцкевіч піша, што “шмат цяжкага прыйшлося перажыць за апошнія гады Коласу, гледзячы, як сталінаўскія агенты пачалі паход проці беларускае культуры й беларускага народу, зьніштажаючы і разганяючы па ўсёй Расеі беларускую інтэлігенцыю... Сталін прыглушыў і ліру Коласа, але – не заглушыў. Коласаўскі талент не толькі не заняпаў, але ўсьцяж разьвіваецца і дае новыя цэннасці, хоць мусіць адбіваць новыя зьявы ў навакольным жыцьці – зьявы, мо не заўсёды прыемныя для гэтага прадстаўніка векавечнае цягі да зямлі беларускага селяніна”.

У гэтым жа нумары газеты надрукавана апавяданне Якуба Коласа “Хаім Рыбс”. Цікава, што якраз гэтае апавяданне прыводзіць малодшы брат Якуба Коласа Міхась для абвяржэння выказвання, што Колас з радасцю ўспрыняў Кастрычніцкую рэвалюцыю. “У запраўднасьці Колас спаткаў гэтую “кастрычніцкую”, як-бы кантужаны ўдарам грому. Як аглушаная ўдарам па лёдзе рыба, ён застыў і ня рухаўся з тэй Куршчыны”, – адзначаў Міхась Міцкевіч[17].

У 1933 годзе ў гадавіку віленскага Беларускага навуковага таварыства быў надрукаваны артыкул Антона Навіны “Галоўныя кірункі ў беларускай поэзіі”, дзе разглядаецца творчасць беларускіх пісьменнікаў. Аўтар выказвае думку, што “калі Колас пасля доўгага бадзяння на чужыне, у Куршчыне, дзе жыў і працаваў, варочаецца на Бацькаўшчыну і пападае тутака ў зусім новую атмосфэру, – у яго выяўляецца на мамэнт нейкі духовы надлом, нарушэнне духовае гармоніі, выхад з раўнавагі, – і гэта адбіваецца ў нахіле да імпрессіянізму. Але гэта хутка мінае, не пакідаючы глыбейшых слядоў”. Ён адзначае, што эпічныя творы Коласа ўзносяць яго на еўрапейскі ўзровень, на адну вышыню з Пушкіным і Адамам Міцкевічам.

“Крытычныя мамэнты ў жыцьці Купалы і Коласа – паводле іх твораў” – такі артыкул Антона Навіны быў надрукаваны ў Вільні ў выданні “Novaja Varta” (№2, 1932 г., і №3, 1934). Крытычным момантам у жыцці Якуба Коласа аўтар лічыць 1921 год, калі паэт вярнуўся на Радзіму. Прыводзяцца радкі вершаў “Родныя малюнкі”, “Цені-страхі”, “Звон шыбаў”, “Беларускаму люду”. Так, у вершы Я. Коласа “Родныя малюнкі” ёсць наступныя радкі:

...Радасць ты пачуеш,
Як ланцуг парвецца,
Дык ты зноў гаруеш –
Зноў звяно ўпляцецца
У шнур агідны гора,
Што канца не мае,
І цяпер, як учора,
Сэрца смутак знае.
Кавалі другія
А ланцуг той самы –
Песьні ўсё старыя
Неаджытай гамы[18].

“Ланцуг – той самы, толькі скаваны другімі кавалямі, – піша А. Луцкевіч, – дагледзіла чуткая душа Коласа ў беларускай вёсцы, на зямлі беларускай... І сьцішна, і смутна робіцца ў душы Коласа. Нейкая новая сіла – мо якраз тыя “кавалі другія”, што куюць “стары ланцуг”, – запанавала над палямі беларускімі. Трывогу сеець яна між людзьмі, бо зьмяняе воблік вёскі, зьнімае на ростанях крыжы старыя “як

аджыўшыя свой час", будзіць – замест супакою і паўнасьці сябе – нейкі трывожны настрой. І ў *песьні шыбаў* чуецца Коласу ні то жалобы, ні то гнеў..."

Вершам "Беларускаму люду" Я. Колас адгукнуўся на Рыжскі мірны дагавор, згодна з якім да Польшчы адыходзіла Заходняя Беларусь. Пасля першай публікацыі ў 1922 годзе і збору твораў 1928 года верш не друкаваўся і не ўваходзіў у іншыя прыжыццёвыя і пасмяротныя выданні, уключаны толькі ў апошні збор твораў пісьменніка. Вось некаторыя радкі:

...Хіба забудзем мы тыя межы,
Што правадзілі без нас?
Раны глыбокі, ох, яшчэ свежы!
Помсты агонь не пагас.
Нас падзялілі – хто? Чужаніцы,
Цёмных дарог махляры.
К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!
Нашы тут гоні, бары!..[19]

У 1938 годзе ў Запісах віленскага Беларускага навуковага таварыства быў надрукаваны артыкул пад назвай "Палітычны працэс Якуба Коласа і тт. з архіву беларускага музею імя Ів. Луцкевіча". Артыкул быў падрыхтаваны Антонам Луцкевічам на падставе матэрыялаў, атрыманых ад аднаго з адвакатаў, што выступалі на судзе.

Беларускі музей імя Івана Луцкевіча паўстаў з прыватнай калекцыі Івана Луцкевіча, якую ён збіраў на працягу ўсяго свайго жыцця. "Зацікаўленьне археалёгіяй пачалося ў яго яшчэ ў першых-жа гадох вучэньня ў Лібаўскай Мікалаеўскай гімназіі, – пісаў Антон Адамовіч, – дзе ён пад уплывам выкладчыка гісторыі Шэна пачаў глыбока цікавіцца гісторыяй наагул, і шырэй – старасьветчынай наагул, а адтуль – і тэй археалёгіяй, і яшчэ больш практычна – калекцыянаваньнем старасветчыны, розных антыкаў"[20].

Ідэяй Івана Луцкевіча было стварэнне беларускага нацыянальнага музея. Да яго стварэння калекцыі захоўваліся пры рэдакцыі газеты "Наша Ніва" і на кватэры Луцкевічаў. Якуб Колас пісаў: "У рэдакцыі «Нашай Нівы» быў выстаўлен цэлы музей розных экспанатаў, сярод якіх віднае месца займалі слуцкія паясы. Гэтыя экспанаты дэманстравалі беларускую культуру ў мінулым і рабілі досыць унушлівае ўражанне"[21]. Пасля смерці Івана Луцкевіча ў 1919 годзе стварэннем музей заняўся брат Антон. У 1921 годзе было атрымана памяшканне ў Базыльянскіх мурах, і з гэтага часу пачаў працаваць Беларускі музей ім. Івана Луцкевіча, якім кіраваў яго брат Антон да свайго арышту ў 1939 годзе.

У маі 1941 года, перад пачаткам Другой сусветнай вайны, Якуб Колас і Янка Купала ў складзе дэлегацыі наведалі Вільню. Як сведчыць дакумент ад 14 мая 1941 г.: "Товарищ Мицкевич К.М. (Якуб Колас) командируется отделом пропаганды и агитации ЦК КП(б) Белоруссии в гор. Вильнюс по вопросу перевоза Белорусского музея из гор. Вильнюса в гор. Минск"[22]. Якуб Колас у пісьме да А. Уса ад 3 чэрвеня 1941 г. пісаў: "Ездила нас группа по командировке ЦК партии. Знакомились с Белорусским музеем. Музей очень богат, разнообразен. Он создан братьями Луцкевичами, ближайшими работниками «Нашай нивы». Сейчас вопрос стоит о перевозке этого музея в Минск. Нынешнее здание ЦК партии в настоящем году освобождается. Напротив, по Красноармейской улице выстроено новое, а теперешнее помещение отводится для культурных учреждений. Здесь будет музей. Сюда предполагается перевести и виленский Белорусский музей"[23]. Рэалізаваць гэты план не дала Другая сусветная вайна...

Шмат вершаў, апавяданняў Якуба Коласа былі надрукаваны ў "Нашай Ніве", што зрабіла яго вядомым і любімым пісьменнікам. Сувязь з "Нашай Нівай" працягвалася

і ў гады турэмнага зняволення, і пасля выхада на волю. Захаваліся некаторыя лісты Якуба Коласа ў рэдакцыю “Нашай Нівы”, а таксама рэдактарам А. Уласаву, В. Ластоўскаму. Ліст да Івана Луцкевіча ад 23 жніўня 1914 года пачынаецца такімі словамі: “Даражэнькі Яне! Забягаў каб пабачыцца з Вамі, але Вас не было тутака. Я ўчора прыехаў з Пінска, дзе думаў жыць, але мяне зноў забіраюць на вайну, і справа наша дрэнна...”[24]

На многія гады Якуб Колас быў адарваны ад Беларусі. Вяртанне на радзіму стала магчымым толькі вясною 1921 года па хадайніцтву Наркамасветы БССР. Многія рукапісы Якуба Коласа загінулі ў 1915-1916 гг. на хутары Смольня каля Мікалаеўшчыны, дзе жылі родныя Коласа, бо ў час вайны гаспадаром у хаце быў вайсковы аддзел. Тыя, што засталіся, малодшы брат Я. Коласа Міхась Міцкевіч пераслаў у музей імя Івана Луцкевіча ў Вільню.

У студзені 1927 года “Савецкая Беларусь” друкуе падпісаны Я. Коласам, Я. Купалам, М. Піятуховічам, І. Замоціным і іншымі зварот да вучоных Захаду ў сувязі з разгромам Беларускай сялянска-работніцкай грамады і масавым тэрорам у Заходняй Беларусі. У гэтым жа нумары змешчаны верш Я. Коласа “Братам Заходняй Беларусі (на разгром Грамады)”:

Няхай паны ў сваёй дурноце
Мацней сціскаюць абцугі,
Каб вас душыць у злосным гнёце.
Каб на калючым панскім дроце
Павесіць скарб наш дарагі..
Няхай шалее гэта зграя,
Няхай чадзіць “святы” дурман.
Каб выбіць з беднага ратая
Прагненне к волі таго краю,
Дзе не прышчэпіцца больш пан...[25]

Некалькі разоў Антон Луцкевіч арыштоўваўся польскімі ўладамі, але быў апраўданы. У газеце “Звязда” ад 15 кастрычніка 1927 г. было змешчана паведамленне “Арышт Антона Луцкевіча”, дзе падавалася наступная інфармацыя: “Арыштаваны вядомы беларускі пісьменнік Антон Луцкевіч. Афіцыйнае паведамленне ў якасці матываў арышту зазначае на тое, што Луцкевіч спачуваў Беларускай грамадзе”.

Янка Запруднік адзначаў, што ў той час стаўленне да Антона Луцкевіча з боку палітычных і навуковых колаў БССР было прыхільнае. І гэта нягледзячы на тое, што ён з 1918 па 1920 г. узначальваў урад БНР і быў адным з творцаў Акту 25 сакавіка. У часе працэсу над дзеячамі Грамады ў Вільні ў 1928 г. фотаздымак Антона Луцкевіча быў нават змешчаны ў маскоўскай газеце “Правда” (25 лютага 1928 г., артыкул “Процесс Громады”).

“Калі ў першай палавіне 1928 г. адбываўся над А. Луцкевічам суд, – пісаў Янка Запруднік, – дык паводле А. Бергман (якая сама была актыўнай сяброўкай камуністычнае партыі Заходняе Беларусі ад 1925 году) ня было ніводнага сьведкі, які ня ведаў-бы братоў Івана й Антона Луцкевічаў; усе падкрэсьлівалі іхную ахвярнасьць, адданасьць, больш як сьціплы спосаб жыцьця. Заля суду, кажа Бергман, сталася месцам ўслаўленьня дзейнасьці абодвух братоў у першым пэрыядзе нацыянальнага адраджэньня Беларусі”[26]. “Яўна выклікаючым з’яўляецца арышт беспартыйнага беларускага пісьменніка Антона Луцкевіча”, – гаворыцца ў дакладзе В. Кнорына на XI з’ездзе КП(б)Б[27].

У 1929 годзе палітычная сітуацыя рэзка змянілася. “Сталінскую тэорыю абвастрэньня клясавай барацьбы, – пісаў А. Сідарэвіч, – па меры набліжэньня да сацыялізму бальшавікі экспартавалі ў Заходнюю Беларусь. Луцкевічаўскаму ідэалу сялянска-работніцкага саюзу быў нанесены сьмяротны ўдар, а сам Луцкевіч стаў для бальшавікоў сымбалем «нацыянал-фашызму» і «беларускага шавінізму»”[28].

У БССР пачаўся інтэнсіўны наступ на нацдэмакратаў і беларускую інтэлігенцыю. Да канца 1930 года лік арыштаваных па сфабрыкаванай справе нацыянал-дэмакратычнай арганізацыі "Саюз вызвалення Беларусі" перавысіў сотню вядомых вучоных, дзеячоў культуры. Бюро ЦК КП(б)Б было даручана ініцыяваць выступленні беспартыйных інтэлігентаў-нацыяналістаў з пакаяннымі лістамі, заявамі, артыкуламі. У іх лік былі залічаны і народныя паэты Янка Купала і Якуб Колас.

Так, Янка Купала, які называў раней у лістах А. Луцкевіча "шчырапаважаным Паночку" і "шчырым працаўніком на ніве беларускага адраджэння", у артыкуле "Што было сном, тое стала явай" пісаў: "Луцкевічы, Станевічы і г. д. служаць адзінай мэце – адарваць Савецкую Беларусь ад Савецкага Саюза і кінуць яе ў падняволле – сацыяльнае, нацыянальнае і культурнае – пад ногі нямецкага, польскага, беларускага жандара, палітыка-фашыста"[29].

16 лістапада 1930 года Якуб Колас дае паказанні ў ДПУ БССР, дзе рашуча абвяргае абвінавачванні ў прыналежнасці да кіраўніцтва нацыянал-дэмакратычнай контррэвалюцыйнай арганізацыі, дзе ён нібыта з'яўляецца ідэолагам.

У заяве ў ДПУ БССР ад 20 лістапада 1930 г. ён піша: "Пад ганебнаю маркаю нацдэмаўшчыны расцэньваліся мае творы, і там, у лагеры здраднікаў, справе рабоча-сялянскіх мас, што давала повад замежнаму беларускаму фашыстоўскаму друку, прадажнікам з лагера Станкевіча-Луцкевіча рабіць правакацыі з маім арыштам і выступаць на маю абарону, супраць чаго я пратэстую, як пратэставаў у сваім часе"[30]. У заяве ў ДПУ БССР ад 6 снежня 1930 г. Я. Колас распавядае пра асноўныя этапы жыцця і дзейнасці. Узгадваючы пра сваю працу ў газеце "Наша Ніва", адзначае: "Сродкі на газету раздабываў Іван Луцкевіч, брат цяперашняга беларускага фашыста Антона"[31]. У гэтай жа заяве Я. Колас піша, што вершы "Звон шыбаў" і "Цені-страхі" напісаны ў 1921 годзе ў чужых пралетарскаму духу тонах, у тонах спалоханага інтэлігента, не зразумеўшага вялікага сэнсу пралетарскай рэвалюцыі, а найбольш выразным у сэнсе нацдэмаўска-незалежніцкіх матываў з'яўляецца верш "Беларускаму люду". Безумоўна, гэтыя заявы і пакаянныя лісты пісаліся пад прымусам, пад пагрозай арышту.

У 1939 годзе, пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, Антон Луцкевіч быў арыштаваны і прыгавораны да 8 гадоў зняволення. Рэабілітаваны ў 1989 годзе.

У спадчыне Якуба Коласа ёсць верш "Антону Луцкевічу", які ўпершыню быў надрукаваны ў газеце "Палеская праўда" ў 1927 годзе. Верш уваходзіў у збор твораў 1928 года, а потым быў забаронены да друку і ўключаны толькі ў апошні збор твораў пісьменніка ў дваццаці тамах. Вось некалькі радкоў з гэтага верша:

...Замірала-ж скарга, млелі ў вуснах словы –
Вартаваў нас пільна арол двухгаловы.
Ты ж, араты дбалы, малады, руплівы,
Выйшаў смела ўзорваць гоні "Нашай нівы".
А ты, сейбіт слаўны, шчыры і сумленны,
Сеяў шчодра поле, родны грунт каменны.
Зарунелі гоні засевам зычлівым,
Толькі ж ты, араты, ты ці быў шчаслівы?
Дзяўкалі сабакі, гракалі вароны,
Слугі цемры чорнай расцягалі плёны.
Шпегі і жандары, вобыскі, бадзянне,
Па глухіх закутках вечнае тулянне...
Ды арол драпежны з двума галавамі
Не ўсядзеў, скалоўся на тэй Вострай Браме...[32]

Чарнавы рукапіс верша захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Францыска Скарыны ў Лондане. Верагодна, што ён, а таксама іншыя рукапісы Якуба Коласа, якія знаходзяцца ў Беларускай бібліятэцы ў Лондане, трапілі туды ў часе вайны з Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні.

Адзначым, што рукапіс верша адрозніваецца ад надрукаванага. Перастаўлены некаторыя радкі, а таксама першыя шэсць радкоў рукапісу не трапілі ў надрукаваны тэкст, таму варта іх прывесці:

Ня радасна была дарога твая, браце!
Ня соладка жылося пад царом,
Калі жандар тут быў гаспадаром,
А бедны люд, адданы на расьпяцьце,
Чужынцам жыў у ўласнай сваёй хаце,
Згібаючы хрыбет над дзікім дзірваном...

"*Не радасна была дарога*" братоў Луцкевічаў, але меў рацыю гісторык беларускай літаратуры Антон Адамовіч, які сказаў, што "каб ня было Луцкевічаў, дык ня было-б і нашага нацыянальнага адраджэньня, і "Нашай нівы", і ня было-б і ўсіх нас як Беларусаў... ня было-б і Купалы і Коласа"[33].

---

[1] Рудовіч С., Герасімаў В. Іх звала Беларусь святая. – Мн., 2017.

[2] Жук-Грышкевіч В. Заснавальнікі й рэдактары "Нашай Нівы // Беларус, № 115, Нью-Ёрк, 1966.

[3] Кіпель В. Піянер адраджэньня беларускае дзяржаўнасьці // Беларускі сьвет, № 12, 1982.

[4] Адамовіч А. Як дух змаганьня Беларусі (Да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча). Выд. газ. "Беларус". – Нью-Ёрк, 1983.

[5] Іваноў М., Мірачыцкі Л. Асветнік, папулярызатар, збіральнік // Голас Радзімы, № 24, 18 чэрв. 1981.

[6] Колас Я. Зб.тв.у 20 т. Т.17. – С. 152.

[7] Запруднік Я. Антон Луцкевіч // Беларус, № 315. – Нью-Ёрк, 1984.

[8] Колас. Я. Зб.тв.у 20 т. Т.18. – С. 96.

[9] Міцкевіч М. Крыніцы пэсымізму ў творчасьці Якуба Коласа / М. Міцкевіч // Беларускі летапіс. – 1937.– № 6-7. – С.124-127.

[10] Колас. Я. Зб.тв.у 20 т. Т.17. С.152.

[11] Уласаў А. Якуб Колас і "Наша Ніва" // Беларуская моладзь, № 17. – Нью-Ёрк, 1963.

[12] Вітан-Дубейкаўская Ю. Мае ўспаміны. – Вільня, 1994.

[13] Сідарэвіч А. Ідэалёгія крытыка Антона Луцкевіча. У кн. А. Луцкевіч. Выбраныя творы. – Мн., 2006.

[14] Навіна А. Наш культурны рост // Змаганне, 4 студз.1924 г. (цытуецца паводле кн. Антон Луцкевіч. Выбраныя творы. – Мн., 2006).

[15] Навіна А. Якуб Колас – "народна паэт" // Народная Справа, 19 ліст. 1926 г. (цытуецца паводле кн. Антон Луцкевіч. Выбраныя творы. – Мн., 2006).

[16] Мушынскі М. Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа. – Мн, 2012. – С. 231.

[17] Міцкевіч, М. Якуб Колас. Жыццёвы шлях і творчасць. (Копія рукапісу захоўваецца ў прыватным архіве Марыі Міцкевіч).

[18] Колас Я. Зб.тв.у 20 т. Т.2. – С. 95-96.

[19] Колас Я. Зб.тв.у 20 т. Т.2. – С. 104-105.

[20] Адамовіч А. Як дух змагання Беларусі (Да 100-х угодкаў нараджэння Івана Луцкевіча). Выд. газ. "Беларус". – Нью-Ёрк, 1983.

[21] Колас Я. Зб.тв.у 20 т. Т.17. – С. 155.

[22] Купала і Колас, вы нас гадавалі. – Мн., 2011.

[23] Колас Я. Зб.тв.у 20 т. Т.18. – С. 308.

[24] Колас Я. Зб.тв.у 20 т. Т.18. – С. 19.

[25] Колас Я. Зб.тв.у 20 т. Т.12, ст. 129.

[26] Запруднік Я. Антон Луцкевіч. // (Беларус, № 315, 1984).

[27] Звязда. 1927, 27 лістапада.

[28] Сідарэвіч А. Хроніка пераломнага часу // Дзеяслоў, № 8, 2004.

[29] Купала Я. Зб.тв.у 9 т. – Мінск, 2002. Т.8. – С.137.

[30] Колас Я. Зб.тв.у 20 т. Т.17. – С.147.

[31] Колас Я. Зб.тв.у 20 т. Т.17. – С.152.

[32] Колас Я. Зб.тв.у 20 т. Т.2. – С.132-133.

[33] Адамовіч А. Як дух змаганьня Беларусі (Да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча). Выд. газ. "Беларус". – Нью-Ёрк, 1983.

Васіль Жуковіч



...ён умеў пранікліва выказаць не толькі радасць, а і смутак...

# Цудадзейны талент Алеся Пісьмянкова

Вазьмі ў мяне поле,
вазьмі ў мяне лес,
І я згіну, як той Ахілес.

Вось як класічна можна прызнацца ў любові да роднае зямлі, не ўжываючы дзеяслова *люблю*. Такая творчая ўдача і радасць давалася цудадзейнаму паэту, якім быў Алесь Пісьмянкоў.

Паэт ад Бога, ён для сваіх твораў заўсёды знаходзіў дыяменты. Да прыкладу, у вершы “Ліпень” ёсць радкі, якія найлепшым чынам характарызуюць пік беларускага лета, і таму адразу і надоўга запамінаюцца:

Мёдам на ўсю Еўропу
Пахнуць стагі і копы.

Мне Пісьмянкоў спадабаўся з першага зборніка “Белы Камень” (1983). Кніжка гэтая названая найменнем вёскі, дзе “самы белы ў свеце снег”. Уразіў зімовы сум па чысціні. “Проста сум па белым полі, // Па рабінавым агні...”. “Проста хочацца да болю // Першароднай чысціні...” – такое прызнанне робіцца ўсё больш актуальным.

Пранікнёны лірычны голас паэта не выключае моцных публіцыстычных нотак:

...Былым павеялі вякі,
І прыгадалася нанова,
Каб у народа вырваць мову,
Ў званоў ірвалі языкі. *(“Званар”)*.

Глыбокія роздумы філасофскага характару навявала творцу гераічная і драматычная гісторыя многіх народаў Зямлі. Як правіла, ён нешматслоўны і нязменна сканцэнтраваны:

Адно ім свяціла сонца!
Адна гадавала хата:
Адзін узяў меч абаронцы,
Другі ўзяў сякеру ката. *(“Адна іх маці радзіла”)*.

У вершы “Мае рэліквіі” хвалюе сам пералік рэліквій ад продкаў нашае Бацькаўшчыны:

Сявенька для жыта,
Меч старажытны.

Шолам з Нямігі,
Скарынава кніга.

Ад каня Кастусёва
На шчасце падкова.

Хлеб, кніга, свабода (яны ў падтэксце “Маіх рэліквій”) – найпершыя атрыбуты нацыянальнай незалежнасці, вечнасці.

Калі дагэтуль я абыходзіўся асобнымі радкамі з высокамастацкае паэтычнае спадчыны Алеся Пісьмянкова, то верш “Кастусь і Марыся” не магу не прывесці цалкам: ён – пра балючую нашую святыню – Кастуся Каліноўскага і яго каханую.

Не сумуй, не сумуй, Беларусь,
Па-над крыўдай сваёй узніміся.
Імя слаўнае ўспомні Кастусь
І адданыя вочы Марысі.
Белавежжа паслухай лясы.
У іх пошуме ратныя былі.
Гэта вояў тваіх галасы.
Іх забілі,
Але не забылі.
Брукаванкаю Вільні іду,
Там,
Дзе нашыя сны не збыліся.
І аб вечным гамонку вяду
З Кастусём і Марысяй,
З Кастусём і Марысяй...

Аднаго разу на трамвайным прыпынку ў Менску, падаючы руку Алесю Пісьмянкову, я, напэўна ад радасці сустрэчы з гэтым прасветлым, таленавітым і дзейным паэтам, сказаў: “Каго любіш?”, нагадваючы (пад уражаннем Алесевага верша) пароль Кастуся Каліноўскага. Адказ прагучаў, як і чакалася, адзіна магчымы: “Люблю Беларусь!” Сказана было нязмушана, як выдыхнута. Я, калі пачуў жаданыя і такія натуральныя словы, падумаў, як да іх пасуе пісьмянкоўскі басавіты голас, і пшанічны прыгожы чуб, і яго, самавітага беларуса, вусы, і каржакаватая постаць, а галоўнае – уся ягоная паэтычная ды грамадская дзейнасць.

Пра запаветную любоў Алеся Пісьмянкова да Бацькаўшчыны сведчаць ягоныя кнігі, вершы, поўныя святла, чысціні, дабрыні і заселеныя людзьмі, трывалымі і трывушчымі землякамі, іх клопатамі, болем, спадзяваннямі, адданасцю роднаму краю, а яшчэ – светлай памяццю тых, каго паэт страціў, скрухай найперш, натуральна, па сваіх родных – па матулі, бацьку. Пасля цяжкае страты ён стварыў простымі мастацкімі сродкамі дакладны партрэт:

Мама заўсёды чакала,
Мама свой час не лічыла,
Мама жывым спачувала –
Мама лячыла.
Мама душою трымцела,
Мама дабра ўсім хацела,
Мама ні ў чым не лаўчыла –
Мама вучыла.
Мама заўсёды трывала,
Мама да скону рабіла,
Мама сябе забывала –
Мама любіла.

Няхай нехта кажа, што дзеяслоўныя рыфмы слабыя і іх трэба пазбягаць. А я скажу: гледзячы якія дзеясловы і рыфмы. У Міхаіла Лермантава ў вершы "Парус" рыфмуюцца дзеясловы, але якую карціну яны "малююць"!.. Што да Алеся Пісьмянкова, то ён у сваім вершы ўдалым падборам менавіта дзеясловаў стварыў трапны партрэт душы роднай матулі, узняўшы яго да агульначалавечай вышыні.

Ён умеў пранікліва выказаць не толькі радасць, а і смутак, што пацвярджае хоць бы вось гэтае чатырохрадкоўе:

Не заві, вярста,
У радзінны кут:
Сірата я там,
Сірата і... тут.

Правёўшы ў апошнюю дарогу бацькоў, Алесь сам пайшоў за імі так нечакана і так заўчасна! Ці не таму ягоны ўніверсітэцкі настаўнік Алег Лойка не мог перамагчы гарачых слёз на Кальварыйскіх могілках, прамаўляючы развітальныя словы...

Алесь Пісьмянкоў меў вялікае сэрца, якое, як аказалася, было ў шнарах ад перанесеных інфарктаў: да лекараў хадзіць не любіў, дый часу на тое не ставала. Вялікае сэрца шмат брала на сябе клопатаў. Ён плённа працаваў як творца і як рэдактар. Да Алеся хінулася процьма аўтараў, дзе б ён ні працаваў – у "Полымі", "ЛіМе" ці ў "Вожыку". Я – адзін з многіх, хоць, бачыць Бог, стараўся не назаляць. Напрыканцы 2003 года ён паказваў мне сігнальны асобнік "Вожыка" з маім вершам, а ў сакавіку 2004-га дзяліўся некаторымі планамі на будучыню. 29 красавіка ён, галоўны рэдактар "Вожыка", збіраўся ўручыць прэмію па выніках за мінулы год свайму аўтару Валерыю Стралко. Але перагружанае добрымі клопатамі ягонае сэрца супынілася на некалькі дзён раней. І мала хто заўважыў, што толькі пры Пісьмянкову існавала прэмія, якая заахвочвала аўтараў сатырычна-гумарыстычнага часопіса.

Людзі любілі яго чытаць і слухаць. Ён прыгожа, выразна дэкламаваў вершы, быў выдатным вядоўцам на паэтычных вечарынах і ў Доме літаратара, і ў Доме дружбы ў Менску, і ў многіх іншых установах. Помніцца трапнае і пранікнёнае Алесева слова ў Доме дружбы на прэзентацыі кнігі "Мелодыі журбы і надзеі" Лесі Украінкі, з чым днём народзінаў супадаў ягоны дзень.

Яго прыязнасць не ведала межаў. Не раз ён пытаўся ў мяне пра сына, які яму спадабаўся, калі вучыўся ў 80-й СШ Менска, дзе Пісьмянкоў-студэнт праходзіў практыку. Сам ён пакінуў двух сыноў. Яны працягнуць род. Магчыма, і справу служэння нацыянальнай культуры.

Уладзімір Сіўчыкаў



...помнік жыве сваім, крыху містычным ці сюррэалістычным жыццём...

# Доўгая дарога з Даўгінава

***Штрыхі да творчага партрэта Уладзіміра Слабодчыкава***

Як правіла, адчуваем мы сімпатыю да чалавека, з якім маем штосьці агульнае або падобнае.

Са сваім цёзкам, які да таго ж носіць і падобнае, сугучнае прозвішча, знаёмы я гадоў дваццаць, ад тых часоў, як прыйшоў у яго майстэрню, дзе разважалі мы, як ушанаваць скульптурным помнікам князя Багуслава Радзівіла – выдатнага дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага, мецэната і фактычнага заснавальніка майго роднага Жодзіна.

Як раней, так і цяпер ходзім мы сталічнай вуліцай Сурганава (былой Друкарскай) – скульптар мае на ёй творчую майстэрню ў “Доме мастакоў” і выкладае ў Акадэміі мастацтваў, а я на ёй жыву. Трынаццаць гадоў вучыў ён скульптурным прыёмам выхаванцаў Парната – Рэспубліканскага каледжа-гімназіі, а я некалькі гадоў вадзіў туды малодшую дачку Хрысціну. Вадзіў і праз парк Чалюскінцаў паўз пастаўленую скульптарам каплічку ў памяць пра суайчыннікаў, бязвінна расстраляных нкусаўцамі ў 30-х гадах. Не раз сустракаліся на мастакоўскіх выставах і на

літаратурных імпрэзах, на сталічных вуліцах і пляцах.

Бачыў яго станковыя працы на выставах, а таксама манументальныя творы, усталяваныя ў Мінску (паркавая скульптура "Хлеб", мемарыяльная дошка "Станіслаў Манюшка", кампазіцыя "Мастакова раніца (Валенцій Ваньковіч)", помнік Стэфаніі Станюце, кампазіцыя "Балерыны адпачываюць", фантан "Хлопчыкі", рэльеф "Восеньскія святы"), у Барысаве (помнік кнізе), у Вілейцы (кампазіцыя "Вілляна"), у Лагойску (помнік "Маці Божая Лагойская"), у Нясвіжы (паркавая скульптура "Ён і яна").

Творы Уладзіміра Слабодчыкава можна ўбачыць на розных кантынентах у найпрэстыжных галерэях свету, а скульптуры на паветры – у беларускіх гарадах Шклове (помнік графу Сямёну Зорычу), Полацку ("Рыба ў сонечных промнях"), Віцебску (помнік Алексію ІІ), Магілёве (мемарыял "Дзецям вайны"), у нямецкіх гарадах Аберкірхен (кампазіцыя "Чарнобыль") і Равенсбрук (мемарыяльны знак "Жалобны вянок"), у муніцыпалітэтах кітайскіх гарадоў Фучжоў (кампазіцыя "У лодцы") і Чань-Чунь ("Сям'я (на колах"), у турэцкай Анталіі ("Гістарычны матыў") і іншых.



*У Акадэміі мастацтваў.*
*Фота з архіва У. Сіўчыкава. Сакавік 2019.*

Адна з нашых сустрэч адбылася пры прадзюсарскім цэнтры Аляксандра Шакуціна – цэнтры маладых творчых талентаў і найноўшай аўдыёстудыі. Уладзімір Слабодчыкаў запрасіў на адкрыццё ўсталяванай перад цэнтрам "Скульптурнай кампазіцыі, прысвечанай Паэту". Так завецца яна афіцыйна, а за прататып узяты рамантычны Уладзімір Караткевіч тых дзён, калі прыехаў жыць і працаваць у Мінск. Падабенства і пазнавальнасць аблічча паспелі пацвердзіць і літаратуразнаўца Вячаслаў Рагойша, і фотамастак Георгі Ліхтаровіч, і многія іншыя творцы.

Падобна на тое, што сталічны раён Асмалоўка, што стаіць сёння пад пагрозаю, не згіне. Наадварот, ён пабагацеў: у радыусе двух-трох кварталаў, блізу Тэатра оперы і балета і будынка дзяржаўнага радыё можна пабачыць мемарыяльную шыльду Лесі Украінцы, помнікі Максіму Багдановічу і Тарасу Шаўчэнку, а таксама бюст Тадэвуша Касцюшкі (на тэрыторыі амбасады Злучаных Штатаў Амерыкі).

Хтосьці стане касавурыцца, маўляў, гэта не сапраўдны помнік, а толькі садова-паркавая скульптура. Але хочацца рашуча запярэчыць: хіба не падзея сёння – з'яўленне ў сталіцы хай сабе і досыць камернага помніка Паэту?! Да таго ж адно не адмяняе, не адмаўляе другое. Прыйдзе час і на важкі, велічны манумент адному з нацыятворцаў.

Таму хочацца спадзявацца, што калегі-літаратары, а таксама аматары творчасці Уладзіміра Караткевіча і ўсяго краснага пісьменства, закаханыя, маладзёны, школьнікі і студэнты панясуць кветкі да помніка Паэту. І, мабыць, асабліва шмат ляжа тых кветак на пастамент у Сусветны дзень пісьменніка 3 сакавіка, у Сусветны дзень паэзіі 21 сакавіка і на дзень нараджэння самога Уладзіміра Караткевіча 26 лістапада. Гэтаксама хочацца спадзявацца, што народзіцца ў Мінску і новая традыцыя – ушанаваць Паэта будуць прыходзіць і маладыя хаця б з найбліжэйшага Дома шлюбаў, што прычакаў іх па-над Свіслаччу.

Трэба сказаць, што праца над вобразамі літаратурных герояў, сусветных і айчынных творцаў ды асветнікаў вялася скульптарам ад самага пачатку яго мастакоўскага шляху. Варта згадаць знакамітага "Дон Кіхота" (1973), набытага ў тады яшчэ зусім

маладога скульптара Траццякоўскай галерэяй, "Дырыжора (Герберта фон Караяна)" (1975), медалі "Паэт і Пегас", "А.С. Пушкін" і "Феафан Грэк" (1978), станковыя творы "Дойлід і горад", "Івянецкія майстры" і "Роздум мастака (Прысвячэнне Віктару Папкову)" (1979). У 80-я гады ў гэты шэраг сталі: "З думкай аб Радзіме (М. Багдановіч), "Мой родны кут, як ты мне мілы...", "Янка Купала і Якуб Колас", "Партрэт пісьменніка", "Мікола Гусоўскі", "Францішак Скарына", "Гаген у Палінэзіі", бюст Валенція Ваньковіча, медаль "Мастак Пятрухна". Не пакідае цікавасці да гэтай тэмы скульптар і да сённяшніх дзён. Ён стварыў партрэты Альберта Джакамеці і Гаўрылы Вашчанкі, скульптуры "Санча Панса", "Прысвячэнне Шагалу", мемарыяльныя знакі Валенцію Ваньковічу і Максіму Багдановічу, мемарыяльную дошку і надмагільны помнік пісьменніку Івану Навуменку.



*Помнік Паэту (Уладзімір Караткевіч). Бронза. Мінск, 2017.*

Асаблівай аўтарскай цеплынёю сагрэтыя скульптуры на тэму сям'і ("Партрэт з ракавінай", "Мой дзед", "Партрэт Тоні", "Маё нараджэнне", "Аўтапартрэт", "Партрэт Анастасіі", "Новая цацка", "Партрэт жонкі", "Сям'я"), незалежна ад матэрыялаў, у якіх яны выкананыя (гіпс, сілумін, дрэва, бронза).

Вельмі трапяткім і датклівым творцам выяўляе сябе скульптар і ў творах на тэмы архаікі і паганства, у такіх як "Архаічны партрэт", "Ахілес", "Афрадыта", "Леда", "Пераможаны кентаўр", "Бахус", "Архаічны танец", "Гістарычны матыў", "Ачуванне часу (Паганскі матыў)", кампазіцыі з цыкла "Куды ідзеш?"

Відавочнымі арыенцірамі паслужылі творцу шэдэўры Мікеляндэжала Буанароці, Агюста Радэна і Эміля Антуана Бурдэля ў скульптурах на хрысціянскія і біблійныя сюжэты: "Мадона", "Аплакванне", "П'ета", "Анёл з апаленымі крыламі", "Тры каралі", "Залаты анёл", "Юдзіф", "Адам і Ева", "Закіданая камянямі", у помніку "Маці Божая Лагойская" і іншых.

Па пластыцы і вобразным вырашэнні прымыкаюць да іх творы паводле беларускіх свят і абрадаў ці на мяжы з хрысціянскімі – "Вербніца", "Дзяды" і "Каляды".

Пазнавальныя, этнаграфічна адметныя, спрадвечна беларускія матывы гучаць у станковых творах "Ясь і Яніна", "Сум, які заўсёды з намі", "Лодка са стогам сена", "Зімовыя прысмеркі", "Вясковыя размовы", "Лялечнікі" і "Нарачанка".

На тэму дзвюх сусветных войнаў адгукнуўся майстар мемарыяламі "Звоннабат", "Сынам Рэчыцы" і "Дзецям вайны", помнікам "Беларусам, што загінулі далёка ад Радзімы", мемарыяльным знакам "Жалобны вянок".

Не меншым болем і трагізмам прасякнутыя і такія творы, як "Чорная быль", "Чарнобыльская мадона", "Чарнобыль" (вапняк, 2000) і аднайменны помнік (сілумін, 2003).

Сёння Уладзімір Слабодчыкаў – адзін з самых знакамітых беларускіх скульптараў. Ён – заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, сябар Брытанскага каралеўскага таварыства скульптараў, ганаровы сябар Расійскай акадэміі мастацтваў, прафесар, загадчык кафедры скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Не абыходзяць яго сваёй увагай мастацтвазнаўцы, мастацкія крытыкі і журналісты, але некаторыя рэчы хацелася б пачуць ад самога творцы.

***– Уладзімір, адна з Вашых працаў завецца “Ab ovo”, што ў перакладзе з лаціны значыць “Ад яйка”, і выяўляе чалавечы эмбрыён у нібыта разрэзаным яйку…***

– Яна была неадназначна ўпрынятая і крытыкай, і публікай!

***– І тым не менш, давайце пачнем, выбачайце за таўталогію, “ад яйка” – ад самага пачатку. Вы нарадзіліся ў мястэчку Даўгінава, што звалася і Даўгінавічамі, а ў пэўны момант жыцця прыйшлі менавіта да скульптуры.***

– Мой тата Іван выкладаў чарчэнне і маляванне ў школе. Марыў стаць прафесійным мастаком, а таму, напэўна, хацеў, каб я рэалізаваў тое, што яму ў свой час не далося, бо пачалася вайна. Яшчэ калі я быў другакласнікам, ён ставіў гіпсавую галаву Апалона (!) і змушаў мяне маляваць яе. Першы настаўнік малявання Мікалай Рыгоравіч Анціпенка таксама казаў, што ў мяне ёсць здольнасці. Добра памятаю эпізод, як недзе ў сваім класе восьмым, на вакацыях я знайшоў кавалкі гіпса, мабыць, рэшткі формаў нашага суседа Паўла Герасіменкі, выпускніка Адэскай мастацкай вучэльні, пачаў выразаць, і атрымалася выява рыцара. Тата выпісаў мне зборнікі “Школа выяўленчага мастацтва”, і яны падмацавалі маё захапленне.



*Мастакова раніца (Валенцій Ванькові́ч). Бронза, граніт. Мінск, 2010.*

***– На сваё лецішча я езджу Даўгінаўскім трактам, бываў і ў самім Даўгінаве, а Вы казалі, што памятаеце сваю радзіму праваслаўна-каталіцка-іудзейскай…***

– Гэта так. У дзяцінстве на Вялікдзень мы дзяліліся прысмакамі з сябрамі з каталіцкіх сем’яў дый мацу смакавалі. Я хрышчаны ў царкве, але, выдаю таямніцу, не з ініцыятывы бацькоў, вясковых інтэлігентаў, а толькі ў сорак гадоў, а таму цалкам усвядомлена. Сталічны храм Марыі Магдаліны – гэта мая царква. Я нямала зрабіў для праваслаўнай царквы дый сярод іерархаў шмат каго ведаю асабіста – Фёдара Поўнага, уладык Філарэта і Паўла, віцебскага ўладыку Дзмітрыя, барысаўскага ўладыку Веніяміна...

***– А цяпер, пасля дзесяцігоддзяў вучобы і працы ў сталіцы, пачуваецеся даўгінаўцам ці менчуком?***

– Даўгінаўцам! Калісьці мяне, пяцігадовага, злавілі ажно ў Крывічах: хацелася дазнацца, што гэта за паселішча. Вельмі інтрыгаваў у дзяцінстве Будслаў, асабліва калі за тры-чатыры дні на тамтэйшы фэст праходзілі вернікі. Яшчэ адно магутнае ўражанне – базары, на якія ўжо ўначы грукацелі вазы... Дый цяпер наязджаць на радзіму вельмі люблю.

***– Я хачу зрабіць Вам падарунак – прыдумаў паэтычную версію, імавернае тлумачэнне, чаму Вы сталіся скульптарам.***

– Цікава.

***– У Вашым мястэчку доўгі час знаходзіўся так званы Даўгінаўскі ідал. Напэўна ж, дакраналіся Вы ў дзяцінстве да таго каменнага, своеасаблівага скульптурнага стода, прычашчаліся ім і атрымалі блаславенне на Вашу прафесію. Мабыць, і таму ў Вас нямала работ на паганскую тэматыку. Цяпер Даўгінаўскі ідал захоўваецца ў Інстытуце геалогіі Нацыянальнай акадэміі навук, які доўгі час ачольваў акадэмік Радзім Гарэцкі.***

– Я, натуральна, памятаю ідала з дзяцінства. Але з камянямі ў мяне асаблівыя

і даўнія адносіны. Я любіў збіраць і насіць іх і ў шараварах. Аднаго разу дзядзька захацеў ускінуць мяне на плечы і ледзьве здолеў, бо каменьчыкаў у мяне былі поўныя кішэні. Камянёў у маім краі так многа, што дарогі (нават заезды ў лясы!) скрозь былі брукаваныя. Калі мы былі падлеткамі, дык дапамагалі калгасу ачышчаць палі: паперадзе ішоў конь з калёсамі, а мы кідалі ў іх камяні. Шмат маіх скульптурных прац таксама выкананыя з каменю, найперш з граніту. Мусіць, любоў тая перадалася і маёй унучцы Марысі, якая таксама ўпадабала збіраць прыгожыя каменьчыкі.

***– Цяпер Вы, мабыць, адзін з самых знакамітых даўгінаўцаў – поруч з тэатральным дзеячам ЛеанідамВаўчэцкім, палітычным і грамадскім дзеячам, публіцыстам і мемуарыстам Лявонам Зайцам ды вучоным-хімікам Алегам Шадырам.***

– Я яшчэ назваў бы класіка беларускай літаратуры Змітрака Бядулю, які тры гады жыў і вучыўся ў Даўгінаве.




*Мемарыяльная дошка "Станіслаў Манюшка". Бронза. Мінск, 2000.*

***– Калі прагучала слова "класік", дык давайце вызначацца без залішняй сціпласці: пачуваецеся непасрэдным удзельнікам творчага працэсу, але і "канструктарам" нацыянальнай скульптурнай школы?***

– Традыцыі нацыянальнай скульптурнай школы я прасочваў бы з XIX стагоддзя, з Вільні, ад Караля Ельскага (1749-1824) і яго сына Казіміра (1782-1867).

Мой асабісты творчы шлях складаўся, фарміраваўся ў межах таго, што адбывалася ў нашай Акадэміі. Кафедра скульптуры была закладзеная ў 1953 годзе, і ачоліў яе Андрэй Ануфрыевіч Бембель, выхаванец Ленінградскай акадэміі. Адтуль я і вёў бы пачатак сучаснай акадэмічнай скульптурнай школы. А выразны нацыянальны накірунак атрымала яна ў часы перабудовы, якія супалі з маім прыходам у 1989 годзе. Тады былі напісаныя і новыя навучальныя праграмы, адкінутыя многія ідэалагічныя догмы, пачала шырока прапагандавацца беларуская гісторыя і культура. І студэнтам прапаноўвалася новая тэматыка – партрэт нацыянальнага героя, біблейская тэма, беларуская гісторыя і спадчына... Час быў надзвычай спрыяльны! Дый, здаецца, зусім нядаўна загадчыкі чатырох кафедраў, і я ў іх ліку, ездзілі вывучаць вопыт Кіеўскай акадэміі. Маем плённыя кантакты з навучальнымі ўстановамі краін Балтыі, а таксама Польшчы. Нашы скульптары – актыўныя ўдзельнікі пленэраў у Літве, Латвіі і ў Польшчы. Калі Еўпаторыя была ўкраінскай, удалося правесці чатыры пленэры і там. Студэнты апошнім часам з поспехам ездзяць на фестывалі лядовай скульптуры ў Архангельск, Магадан і на Сахалін. Дабраліся нават да Кітая і Паўднёвай Карэі! Але першы і самы памятны наш пленэр прайшоў у Мінску.

***– Ці не з яго Ваша скульптура "Хлеб", што стаіць пры галоўным уваходзе ў Купалаўскі парк?***

– Так. Пленэр 1988 года я арганізоўваў, прабіваў і ўзначальваў. А крыху раней, у 1984 годзе прайшла калектыўная выстава Анатоля Кузняцова, Аляксандра Мятліцкага, Уладзіміра Слабодчыкава і Аляксандра Фінскага, якая засведчыла пэўны перадом у скульптурным мысленні.

***– Калі я паставіў бы падзагалоўкам да нашай гутаркі словы творца, педагог, менеджар – гэта былі б слушна расстаўленыя прыярытэты?***

– Словы “менеджар” для мяне ўсё ж чужынскае, з крыху негатыўным адценнем...

***– Нам нікуды не падзецца ад іншамоўных слоў, а гэтае азначае, па сутнасці, “арганізатар”. Вам даводзіцца арганізоўваць або курыраваць шмат вытворчых працэсаў як скульптару-манументалісту. Як загадчык кафедры Вы гэтаксама арганізоўваеце навучальны працэс.***

– Мабыць, гэтыя якасці ў мяне ў крыві: бацька быў старшынёю Даўгінаўскага сельскага савета і людзі да яго ішлі са сваімі праблемамі, давяралі яму.



*Скульптурная кампазіцыя “Вілляна”. Бронза, граніт. Вілейка, 2007.*

Гадоў у трыццаць мяне абралі кіраўніком секцыі скульптуры ў Саюзе мастакоў, потым у Акадэмію на пасаду загадчыка кафедры скульптуры запрасіў тагачасны рэктар Васіль Шаранговіч...

***– Кафедрай скульптуры Вы кіруеце трыццаць гадоў! Яшчэ крыху – і пераўзыдзеце рэкорд Ігара Лучанка, які ачольваў Саюз кампазітараў трыццаць восем гадоў! Мабыць, акадэмічны статут дазваляе пераабірацца?***

– Кожныя пяць гадоў прафесар або загадчык кафедры ідзе на конкурс. Я чарговы раз падаў заяўку, быў заслуханы на кафедры, потым на Радзе Акадэміі і зноў адзінагалосна прайшоў на пяцігадовы тэрмін. Покуль ёсць яшчэ сілы, ёсць ідэі і, здаецца, яшчэ прыношу карысць.

***– Наколькі я ведаю, чалавек Вы досыць сціплы.***

– Ну, збоку лепш відаць (*смяецца*). Але на скульптурным “Аўтапартрэце” ў альбоме-манаграфіі нават некаторыя калегі не бачаць, не пазнаюць мяне, бо я там нібыта растаю ў сваёй сям’і, якую вельмі цаню і шаную!

***– А я не пабачыў у альбоме “Маці Божай Лагойскай”...***

– Гэта лёгка тлумачыцца – яна створана крыху пазней, чым выданне было падрыхтавана да друку. А да твораў, знітаваных з верай, з рэлігіяй, трэба ставіцца вельмі ашчадна, вельмі асцярожна, каб не прыйсці да новых леніных-сталіных.

***– Тут не магу не спытаць пра жалобную каплічку ў памяць пра нявінна расстраляных у 30-я гады ў цяперашнім парку Чалюскінцаў, у колішнім лесе Ваньковічаў.***

– Каплічку тую зрабілі мы ў перабудовачныя часы на кафедры скульптуры. Тады яна была ўспрынята як неабходны мемарыяльны знак. Вобразнае рашэнне яе, здаецца, густоўнае.

***– Яна выкананая з дрэва і вельмі натуральна ўпісваецца ў ландшафт. І кантрастуе з пафасным, пампезным бетонным, пафарбаваным пад бронзу, помнікам савецкім воінам, які размешчаны непадалёк.***

– Я якраз пачынаў працаваць у дрэве, адным з самых дэмакратычных і танных матэрыялаў, які дазваляў не адрываць кавалак хлеба ў маладой сям’і. Не сакрэт, што

скульптары-станкавісты выдаткоўваюць на матэрыялы ўласныя сродкі. На практыках з навучэнцамі Парната, на скульптурных пленэрах стараліся задзейнічаць дармовы камень, найчасцей валуны. Пазней досыць актыўна працаваў я ў сілуміне, які ў прастамоўі фігуруе як алюміній. Ён, можа, і не такі актыўны па колеры, па пластычных якасцях як бронза, але я навучыўся яго апрацоўваць, каб ён выдаваў ледзь не на срэбра ці іншы каштоўны матэрыял. Да таго ж і вывозіць творы з сілуміну на замежныя выставы было лягчэй.

***– Агульнавядомы гістарычны анекдот пра тое, як фільм “Іван Макаравіч” Ігара Дабралюбава атрымаў прыз Венецыянскага кінафестываля, але кінарэжысёр так і не патрапіў у Італію. Калі ён паставіў пытанне рубам у Маскве, яму адказалі: “Не хвалюйцеся, Ігар Міхайлавіч, і будзьце ўпэўнены – ваша палатно прадстаўлялі ў Венецыі вельмі годныя людзі!” Вам знаёмыя падобныя сітуацыі?***


*Помнік Стэфаніі Станюце на Усходніх могілках у Мінску. Бронза, граніт.*

– На жаль, многія помнікі адкрываюць у нас без скульптараў. Нярэдка забываюцца згадаць аўтараў манументаў і журналісты, якія пішуць пра адпаведныя ўрачыстасці. У Магілёве адкрываўся вялізны, больш за дзесяць метраў увышкі помнік “Дзецям вайны”. Усталёўвалі, манціравалі яго ў апошні момант, у страшэнную халадэчу ды ўначы – асвятленне забяспечвалі пажарнікі. Скончылі мы працу пад раніцу, і падрамаць удалося толькі пару гадзін. Апранаемся, ідзем з архітэктарам на адкрыццё, а ахова нас, аўтараў, не прапускае! З цяжкасцю звязаліся па тэлефоне з намеснікам губернатара па ідэалогіі і толькі тады патрапілі на адкрыццё, дзе павінны былі выступаць. Дый за мяжой бываюць выпадкі, калі манумент адкрывае амбасадар ці іншы чыноўнік, а скульптара з архітэктарам не запрашаюць! Ці бывае так, як Ваньковічам: дзесяць гадоў адліты ў бронзе стаяў ён на задворках скульптурнага камбіната, потым міністр культуры Павел Латушка знайшоў сродкі, каб помнік усталявалі, але некалькі месяцаў не адкрывалі, бо трэба яшчэ было “ўзаконіць” яго, правесці па паперах!

***– Хацелася б, Уладзімір, пачуць з першых вуснаў, як ствараўся “Помнік Паэту”, адзін з апошніх па часе ў Вашым творча-вытворчым працэсе.***

– Ад самага пачатку было зразумела, што стаяць ён будзе на паўпрыватнай пляцоўцы, і дамоўленасць з заказчыкам была пра помнік менавіта Уладзіміру Караткевічу. Але ўсталяваць помнік пэўнай асобе ў сталіцы надзвычай складана – трэба было б абвяшчаць конкурс, праходзіць шматлікія ўзгадненні. Таму сваю скульптурную кампазіцыю, падкрэслю, скульптурную кампазіцыю я назваў “Прысвячэнне Паэту (У. Караткевічу)”. А ўвогуле, я лічу, помнікаў Караткевічу магло б быць і два, і тры.

***– А чаму й не? Помнікаў Леніну ў Мінску, мяркую, не менш за дзясятак…***

– Маё бачанне паэта – малады чалавек, нядаўні выпускнік філалагічнага факультэта Кіеўскага ўніверсітэта. Чаму Асмалоўка? Ён, напэўна ж, шпацыраваў і тут з сябрамі і сяброўкамі, бо месца досыць рамантычнае – поруч Свіслач, тэатр оперы і балета, паркі ды скверы. Яшчэ адным імаверным месцам магла б стацца пляцоўка перад кінатэатрам “Піянер” і Тэатрам лялек, дзе папраўдзе калісь збіраліся і дэкламавалі свае творы паэты-шасцідзясятнікі. Аказалася, што замоўца помніка, генеральны дырэктар “Амкадора” Аляксандр Шакуцін родам з-пад Оршы і вельмі шануе Караткевічаву творчасць. Яго прадзюсарскі цэнтр “СПАМАШ” абсталяваны паводле найноўшых

сусветных тэхналогій гуказапісу, там плённа працуюць з таленавітай моладдзю.

***– Адным з першых, хто пацвердзіў несумненнае падабенства вобраза паэта з маладым Караткевічам, быў яго сябар Вячаслаў Рагойша, нягледзячы на тое, што подпісу на пастаменце на той час не было.***

– Мне хацелася зламаць стэрэатып успрыняцця Караткевіча як пяцідзесяцігадовага дзядзькі ў швэдры і ў берэце, якім падалі яго мае калегі Канстанцін Селіханаў і Алег Варвашэня. Тым болей, што паэт Караткевіч – пераважна малады творца, які з гадамі аддаў перавагу прозе і драматургіі. Таму і вобраз яго стараўся стварыць я экспрэсіўным і рамантычным, хоць сам ён і не любіў, калі называлі паэтам-рамантыкам, і быў хутчэй гістарычным лірыкам. На пастамент я выбраў не задзейнічаны раней у скульптуры паэтаў радок “Усе мае песні аб Радзіме!”, тым болей, што пасаваў ён і да музычнага цэнтра, перад якім стаіць скульптура. З некалькіх прычын прастаяў мой твор “неасвечаным” цэлы год, але быў урачыста адкрыты з удзелам міністра культуры. Такім чынам, помнік жыве сваім, крыху містычным ці сюррэалістычным жыццём у стылі самога Уладзіміра Караткевіча.




*Маці Божая Лагойская. Бронза. 2014.*

***– Ваш старэйшы калега, Народны мастак Беларусі Іван Міско казаў, што нашмат болей сіл і часу скульптару даводзіцца аддаваць не на творчасць, а на здабыванне фінансаў і на рознага роду ўзгадненні…***

– Як там ні было, але каб да цябе звярталіся, найперш трэба зарэкамендаваць сябе добрым мастаком. Калі займаешся станковай ці выставачнай скульптурай, праблем, зразумела, куды меней. Садова-паркавая, і тым болей, манументальная скульптура вымагае найперш адміністрацыйнага рашэння: пэўную асобу ці падзею трэба ўшанаваць помнікам. Другое – гэта фінансаванне. Яно ў многім перадумоўлівае і памеры манумента, і матэрыял, з якога будзе выкананы. Заказчык часам мяркуе: чым танней, тым лепей, але ёсць традыцыйныя скульптурныя матэрыялы, якія вымагаюць значных фінансавых укладанняў. Жыццё прадыктавала, каб нават у нас у Акадэміі мастацтваў быў уведзены невялікі курс па асновах менеджменту, а заданні па кампазіцыі мусяць разглядацца ва ўнісон з жыццёвымі патрабаваннямі. Пяцікурснікі выконваюць заданне “Фігуратыўны помнік” і напачатку прадастаўляюць дакументальную, а то і архіўную выкладку пра абраную асобу.

***– Дык скульптару трэба быць яшчэ і музейшчыкам, архівістам?***

– Анягож! А яшчэ і архітэктарам: ён мусіць уяўляць, як яго твор упішацца ў наваколле. Таму выкладаюцца ў нас і асновы дойлідства. На жаль, у Акадэміі праца над помнікам найчасцей так і заканчваецца праектам. А ў жыцці трэба выязджаць на месца, шукаць грошы, дамаўляцца з мясцовымі ўладамі. Працэс расцягваецца мінімум на год.

Праблема манументальнай скульптуры заключаецца і ў тым, што яна заўсёды ідэалагічная. Таму і мастаку цяжка заставацца сумленным, ён нярэдка аказваецца закладнікам пэўных догмаў. Я няраз чуў закіды на свой адрас, маўляў, навошта лепіш Алексія II?! І гэта ў час, калі і скульптурнымі сродкамі кананізуецца папа Ян Павел II.

Паўтаруся, скульптура заўсёды мусіла выказваць пэўныя ідэйныя пазіцыі, і мастак тут нярэдка – зброя гэтага выражэння. Сёння ў некаторых суседніх

краінах ідзе працэс дэкамунізацыі, ахвяраю якога сталіся і многія помнікі, сярод якіх, трэба прызнаць, было шмат нізкаякасных і маламастацкіх.

***– На адным з планшэтаў у Вашай майстэрні я бачыў прышпіленыя фота Якуба Коласа розных гадоў. Разумею, што гэта нездарма, і думаю, што, скажам, у цяперашнім парку Горкага магло б лёгка знайсціся выйгрышнае месца і на помнік аўтару "Новай зямлі", тым болей што, веру, некалі будзе і сам парк перайменаваны ў парк імя Якуба Коласа. Гэта было б вельмі лагічна. Па-першае, да Другой сусветнай вайны там стаяў дом Народнага паэта Беларусі, а па-другое, праз праспект месціцца парк імя Янкі Купалы з манументальным помнікам класіка.***

– Гэта харошая ідэя! Дый сам рэльеф таго парка проста фенаменальна выйгрышны – ёсць і рака, і высокі пагорак... Калі сядзіць там Максім Горкі, дык чаму не паставіць і помнік Якубу Коласу?

***– Каля планетарыя ўсталяваны бюст ураджэнца Разаншчыны Канстанціна Цыялкоўскага. А што, хіба не лагічны быў бы там і бюст аўтара "Нябесных бегаў" Язэпа Драздовіча, што родам з нашай Глыбоччыны?***

– Сапраўды, парк – гэта тое месца, куды людзі прыходзяць адпачыць і паразважаць, прайсціся няспешна і задацца пытаннем: "Чаму гэты чалавек ушанаваны помнікам? Што зрабіў ён і што паспеў я?"

***– Дарэчы, днямі сустрэў я ў тым парку графіка Уладзіміра Вішнеўскага, які ішоў у сваю майстэрню з Акадэміі. Паскардзіўся ён з лёгкай роспаччу, што паменелі прэстыж і статус выкладчыка…***

– У Акадэміі мы працуем з тымі, хто здаў іспыты і паступіў да нас. Зразумела, студэнты па-рознаму ставяцца да выкладчыкаў, а старшакурснікі часам лічаць, што ледзь не да ўсяго дапялі самі. Маральна выкладчыкі гатовыя да гэтага, але ж яны выкладаюць не толькі дысцыпліны, часам прагаворваюць і свае творчыя задумы. І таму ніякавата бывае, калі студэнт адгадвае, ажыццяўляе настаўнікаву ідэю.

***– І, можа, пытанне напрыканцы. Вы – аўтар статуэткі, своеасаблівага "Оскара" беларускім кніжнікам, які вырас і ў помнік кнізе ў Барысаве да дзясятых угодкаў свята беларускага пісьменства. Вашы барэльефы ўпрыгожваюць Нацыянальную бібліятэку. Шмат Вашых твораў прысвечаны беларускім пісьменнікам і асветнікам, а да вобраза паэткі Сапфо звярталіся Вы некалькі разоў. Урэшце, Вы ўзнагароджаны медалём Францішка Скарыны. Якое месца займае ў Вашым жыцці і творчасці кніга?***

– Я казаў, што бацькі мае – настаўнікі. Найперш яны і прывілі стаўленне да кнігі як да святыні, але і як да працоўнага інструмента. Цяпер ма́ю немалыя кніжныя зборы і дома, і ў майстэрні, а калекцыя альбомаў па скульптуры, мяркую, адна з самых важкіх у краіне. Час ад часу дзялюся сваімі скарбамі з Даўгінаўскай школьнай, з Нацыянальнай ды з іншымі бібліятэкамі.

У творча-вытворчым даробку Уладзіміра Слабодчыкава больш за 300 станковых скульптур, а таксама помнікаў і манументаў.

Сярод яго вучняў такія знаныя творчыя асобы, як Сяргей Аганаў, Андрэй Вераб'ёў, Андрэй Герасіменка, Сяргей Гумілеўскі, Аляксандр Дранец, Віктар Копыч, Вольга Нячай, Вольга Орсік, Уладзіслаў Руткоўскі, Валяр'ян Янушкевіч і многія іншыя.

Сам скульптар поўны фізічных ды творчых сілаў і, будзем спадзявацца, яшчэ доўга будзе ўражваць і дзівіць.

Не выключана, што здзівіць вобразам юнага Самуіла Плаўніка, які жыў і вучыўся ў ешыбоце ў Даўгінаве, а потым стаў класікам беларускага прыгожага пісьменства Змітраком Бядулем.

*У публікацыі скарыстаныя фотаздымкі:*
*І. МІСКО, У. СІЎЧЫКАВА, з архіва У. СЛАБОДЧЫКАВА.*

Алена Лепішава



...мастацкія асаблівасці драматургіі «нетутэйшых» прадвызначылі іх няўдалы сцэнічны лёс...

# Пакаленне “нетутэйшых”

## *Беларуская эксперыментальная драматургія канца XX – пачатку XXI стагоддзя*

Бурлівае развіццё *эксперыментальнага* вектара беларускай драматургіі стаецца відавочным у канцы XX – пачатку XXI ст., калі кардынальная змена ўстойлівых каардынатаў (сацыяльных, этычных, светапоглядных) абумовіла зварот да «неміметычнага» – нязвыклай мастацкай мовы, якая «абапіраецца на іншыя, яшчэ не асветленыя традыцыяй формы ўспрымання рэчаіснасці» [16, с. 15]. Вядома, падобныя асаблівасці драматургічнага працэсу маюць месца і ў іншых літаратурах[1], але ў кантэксце беларускай сацыякультурнай прасторы трэба ўлічваць такія фактары, як сітуацыя двухмоўя, няўстойлівая «інстытуалізацыя літаратурнага поля» [18, с. 99]. Акрамя таго, руска- і беларускамоўныя аўтары абапіраюцца ў

[1] Так, С. Ганчарова-Грабоўская вызначае ў рускай драматургіі канца XX – пачатку XXI ст. традыцыйную і эксперыментальную драму (гл.: Гончарова-Грабовская, С.Я. Комедия в русской драматургии конца XX – начала XXI века.: учеб. пособие / С.Я. Гончарова-Грабовская. – М.: Флинта: Наука, 2006. – с. 18).

большасці сваёй на розныя эстэтычныя арыенціры і літаратурныя традыцыі. Вось чаму ў мэтах больш дэталёвага аналізу мы разглядаем іх творчасць асобна.

Так, у эксперыментальны вектар арганічна ўпісваюцца прадстаўнікі малодшага пакалення *рускамоўнай* драматургіі, створанай шэрагам аўтараў з Беларусі. Гэта П. Пражко, М. Рудкоўскі, А. Курэйчык, К. Сцешык, Д. Багаслаўскі. Шэраг навукоўцаў (С. Ганчарова-Грабоўская, С. Кавалёў, В. Мазура, Т. Арлова) адводзяць ім ключавое месца ў сучасным айчынным драматургічным працэсе (увага да экзістэнцыяльных праблем, стасункаў чалавека і соцыума, з'яўленне монадрамы, п'есы-вербацім, актуалізацыя сацыяльнай драмы). Мастацкімі арыенцірамі для рускамоўных драматургаў становяцца руская і заходнееўрапейская літаратуры, а тыпалагічныя падабенствы прасочваюцца з практыкай расійскіх «навадрамаўцаў» («сацыялагізм, дакументалізм, біяграфізм, дэгераізацыя, "катастрафічная мадэль", дыскрэтная структура» [4, с. 15]). Менавіта таму творчасць дадзеных аўтараў выклікае цікавасць у Расіі (пастаноўкі п'ес, удзел у конкурсах і фестывалях: «Любімаўка», «Еўразія», «Новая драма»).

Што тычыцца *беларускамоўнай* эксперыментальнай драматургіі, то яе развіццё прадвызначана «новай літаратурнай сітуацыяй» у Беларусі ў канцы 1980-х – пачатку 1990-х гг.: ростам нацыянальнай самасвядомасці, узнікненнем літаратурна-мастацкіх аб'яднанняў моладзі («Тутэйшыя», «Таварыства Вольных Літаратараў», «Бум-Бам-Літ») [10, с. 11]. Рэаліі функцыянавання культуры ў апошнія гады існавання БССР, а затым – ужо ў Рэспубліцы Беларусь – абумовілі эстэтычная арыенціры драматургаў на нацыянальную літаратурную традыцыю, а таксама на еўрапейскі авангард.

У межах гэтай групы вылучаюцца два пакаленні. Першае прадстаўляюць аўтары, якія ўвайшлі ў літаратуру ў канцы 1980-х – пачатку 1990-х гг. як *«тутэйшыя»* (ад назвы літаратурнага аб'яднання): С. Кавалёў, П. Васючэнка, А. Асташонак, А. Федарэнка, М. Шайбак (Адамчык) і М. Клімковіч. [9, с. 174] Нягледзячы на супярэчлівыя водгукі, з цягам часу іх творчасць пачала ўспрымацца як новая старонка развіцця айчыннай драматургіі, «інтэлектуалізацыя літаратуры» [13, с. 18], што спрыяла яе выхаду да чытача / гледача: уключэнню п'ес ў анталогіі, складзеныя П. Васючэнкам, В. Валадзько, Б. Сівак[1], а таксама ў тэатральны рэпертуар[2], грунтоўнаму вывучэнню[3].

Да другога пакалення варта аднесці аўтараў, што пачалі актыўна сцвярджаць сябе ў сярэдзіне 1990-х – пачатку 2000-х гг., абвешчаных «пакаленнем "Бум-Бам-Літа"» [1; 8] (З. Вішнёў, В. Жыбуль, Джэці, В. Морт, В. Дранько-Майсюк, І. Сін і інш.). Іх драматургічная практыка фактычна аказалася на перыферыі літаратурнага працэсу: п'есы амаль не вядомы чытачу / гледачу (друкаваліся ў малатыражных выданнях, пастаўлены ў асноўным на аматарскай сцэне), пазбаўлены дэталёвага даследавання[4].

---

[1] Сучасная беларуская драматургія. Традыцыі і наватарства / уклад.і прадм. П. Васючэнкі. – Мінск: Сэр-Віт, 2003; Беларуская драматургія. Вып. 7 / уклад. В. Валадзько . – Мінск: Бел. навука, 2003; Labirynt. Antologia współczesnego dramatu białoruskiego / wybór B. Siwek. – Radzyń Podlaski, 2013.

[2] Напрыклад, п'еса С. Кавалёва «Чатыры гісторыі Саламеі» пастаўлена ў Мінскім абласным тэатры (рэж. Р. Таліпаў), Брэсцкім тэатры драмы і музыкі (рэж. А. Бакіраў), «Трыстан і Ізольда» – у Магілёўскім драматычным тэатры (рэж. А. Жугжда), п'еса І. Сідарука «Галава» ставілася ў РТБД (рэж. В. Мазынскі).

[3] Драматургія «тутэйшых» разглядаецца ў акадэмічным выданні «Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя» (т. 4, кн. 3), кнігах А. Бельскага «Сучасная беларуская літаратура: Станаўленне і развіццё творчых індывідуальнасцяў (80-90-я гг.)» (1997), П. Васючэнкі «Сучасная беларуская драматургія» (2000), С. Лаўшука «Гарызонты беларускай драматургіі» (2010), дысертацыях Ф. Драбені, К. Смольскай, А. Таразевіч, А. Трафімчыка, шэрагу артыкулаў А. Сабалеўскага, Т. Арловай, С. Кавалёва, Е. Лявонавай і інш. П'есам С. Кавалёва прысвечаны зборнік атрыкулаў «Паміж Беларуссю і Польшчай: драматургія Сяргея Кавалёва» (2009).

[4] Толькі некаторыя п'есы разгледжаны ў прадмове П. Васючэнкі (пад псеўданімам «Нехта з тутэйшых») да нявыдадзенага зборніка «Нетутэйшыя» [7], у артыкуле С. Кавалёва [8].

Так, С. Кавалёў у артыкуле, прысвечаным драматургіі згаданых аўтараў, канстатуе: «На жаль, у адрозненне ад шматлікіх паэтычных, мастацкіх і музычных праектаў, драматургічны праект бумбамлітаўцаў не быў здзейснены» [8, с. 306].

Паспрабуем разгледзець іх творчыя пошукі ў галіне драмы як арганічную частку беларускай эксперыментальнай драматургіі канца XX – пачатку XXI ст.: вызначыць склад названай генерацыі; вылучыць ідэйна-эстэтычныя асаблівасці п'ес яе прадстаўнікоў; прасачыць іх драматургічную / тэатральную практыку ў апошняе дзесяцігоддзе.

Малодшае пакаленне беларускай эксперыментальнай драматургіі ў нашым артыкуле мае ўмоўнае абазначэнне – *«нетутэйшыя»*, што, па-першае, падкрэслівае лінію пераемнасці ў яе развіцці (адштурхоўваючыся ад абазначэння папярэдняй генерацыі, – «тутэйшыя»), па-другое, адсылае да назвы драматургічнага зборніка «Нетутэйшыя», які быў складзены ў сярэдзіне 1990-х гг., але так і не ўбачыў свет[1].

Матэрыялам даследавання сталі п'есы, падрыхтаваныя для гэтага зборніка, пазней надрукаваныя ў альманаху «Тэксты»: «Клятва Гіпакратам» Л. Вольскага, «Цыркулярны душ» І. Сідарука[2] (№ 1, 2004), «Ёў» А. Шостака (№ 2, 2012), «Едзем!» А. Часа, «Нараджэньне» В. Пятроўскага (№ 3, 2007), «Здарэнне з Нестарам, або Нехта» Джэці (№ 4, 2013), «Яно ы Яно» І. Сіна, «Фаракаінавыя мумілюсікі» З. Вішнёва, «Аум» В. Морт, «Дыялог са шкляных перлінаў, або Апошняя сустрэча з гуру» І. Панінай (№ 6, 2008), «Штангай па назе, або Накрый казла матам» В. Жыбуля, «Катарсіс» Джэці, «Карлікі» В. Морт (№12, 2009). Паводле прадмовы «Забіваньне казла», падпісанай «Нехта з тутэйшых» (псеўданім П. Васючэнкі), у склад зборніка павінны былі таксама ўваходзіць тэксты А. Туровіча «Тое, што мы напісалі (канспект-праект п'есы)», А. Бычкоўскага «Свет, які я не выдумаў», І. Вугліка «Анёл зацяты», Ю. Барысевіча «Гадо прыйшоў», некаторыя з якіх з'явіліся ў малатыражным друку[3]. Акрамя таго, асобныя п'есы прадстаўнікоў гэтай генерацыі надрукаваны ў часопісах («Arche», «Дзеяслоў»), анталогіях («Labirynt. Antologia współczesnego dramatu białoruskiego»)[4], кнігах В. Гапеевай, Г. Ціханавай, В. Ыванова (Лупасіна), Джэці (В. Бурлак)[5], існуюць у самвыдаце («Воссора россов» Джэці).

Мы лічым, што асаблівасці драматургіі «нетутэйшых» прадвызначаюцца *сінкрэтызмам* (а часам і эклектыкай) іх *мастацкага мыслення*, што ўжо было часткова зазначана ў папярэдніх даследаваннях [7; 8]. Так, прадстаўнікі названай генерацыі сцвердзілі сябе перш за ўсё як паэты (В. Жыбуль, Джэці, В. Гапеева, В. Морт, З. Вішнёў, Г. Ціханава) і празаікі (З. Вішнёў, А. Шостак), таму іх драматургічныя творы часам успрымаюцца як «выпадковая прыгода ў паэтычнай ці празаічнай творчасці» [8, с. 310].

Але трэба ўлічваць і тое, што творчасць амаль усіх згаданых аўтараў развівалася ў рэчышчы эстэтычных пошукаў руху «Бум-Бам-Літ», заснаванага ў 1995 г., зведаўшага і крызіс (1999), і некалькі мадыфікацый («Schmerzwerk», «Другі фронт мастацтва»);

---

[1] Не была выдадзена і падрыхтаваная С. Кавалёвым анталогія драматургіі «Бум-Бам-Літ» «Кардыяграма» [8, с. 311].

[2] П'есы І. Сідарука (аўтара паэтычных («Чарнабел» (1991), «Саната Арганата» (1994), «Моўкнасьць» (1998)) і празаічных («Квадратная варона» (2000)) зборнікаў, шэрагу пастаўленых дзяцячых п'ес, члена літаратурна-мастацка аб'яднання «Таварыства Вольных Літаратараў») мы, як і іншыя даследчыкі (С. Лаўшук, І. Шаблоўская, П. Васючэнка), адносім да драматургіі «тутэйшых». Але менавіта назва яго п'есы «Цыркулярны душ» планавалася ў якасці першапачатковай назвы ненадрукаванага драматургічнага зборніка «Нетутэйшыя».

[3] Напрыклад: Туровіч, А. Тое, што мы напісалі (канспект-праект п'есы) // Корпус (вершы. Проза).

[4] Гапеева, В. Калекцыянер // Labirynt. Antologia współczesnego dramatu białoruskiego. – Radzyń Podlaski, 2013; Воранаў, В. Плошча // Arche. – 2007. – № 11.

[5] Гапеева, В. Рэканструкцыя неба. – Мінск, 2003; Ціханава, Г. Фільтры сноў. – Мінск, 2003; Ываноў, В. Асарці. – Мінск, 2009; Бурлак, В. Дзеці і здані. – Мінск, 2012.

сёння рух аб'ядноўвае прадстаўнікоў розных творчых практык. Як вядома, ідэйна-мастацкія прынцыпы суполкі выкладзены ў сямі маніфестах (дадатак да газеты «Культура», 6-12 верасня 1995 г.), працах В. Акудовіча, Ю. Барысевіча. І хаця названыя тэарэтычныя абгрунтаванні творчых пошукаў моладзі характарызуюцца некаторымі даследчыкамі як «сімуляцыя стварэння навуковага дыскурсу» [10, с. 100], відавочная сувязь паміж нонканфармісцкай пазіцыяй удзельнікаў руху і іх зваротам да прынцыпаў поставангардызму – «актуальнага мастацтва», якое прадугледжвае «выхад аўтара за межы літаратурнага твора ў сферу акцыйнасці і перфарматыўнасці, выкарыстанне тэатралізаваных, да таго ж эпатажных і шокавых метадаў уздзеяння на гледачоў» [19, 91].

Мастацкая тэорыя руху «Бум-Бам-Літ» атрымала найбольш дэталёвую распрацоўку ў кнігах Ю. Барысевіча «Цела і Тэкст» (1998), «Alter nemo» (2003), у якіх уводзіцца тэрмін «*шызарэалізм*»[1]. Гэты мастацкі метад «адштурхоўваецца ад зацверджаных усімі інстанцыямі сэнсаў, знакаў і формаў, паглыбляецца на злом галавы ў абсурд і бясформасьць» [2, с. 28]. Прадвызначальнымі для яго становяцца прыёмы асацыятыўнага пісьма, дээстэтызацыя, зніταванне розных відаў мастацтва (слова і дзеяння, слова і візуальных вобразаў, слова і гуку), а эстэтычнымі арыенцірамі – «тэатр жорскасці» А. Арто (эсэ «Капернік тэатра»), еўрапейская драма абсурду (артыкул «Шызатура і літафрэнія»), тэатр Б. Брэхта, перфарматыўныя практыкі (артыкул «Тэкст і цела»).

Развааніі Ю. Барысевіча зручна разглядаць у рэчышчы агульнай тэндэнцыі сусветнага мастацтва канца XX – пачатку XXI ст., звязанай з *пашырэннем перфарматыўна-рэцэптыўнага патэнцыялу драматургічнага тэксту*. Зварот да сучаснай драмы з пункту гледжання нараталогіі, тэорыі камунікацыі даў магчымасць вылучыць перфарматыўную аснову дзеяння, заснаванага на «*паказе-апавяданні*» [15, с. 223], «імкненне да гранічнага “саўдзельнага” “ўбудавання” ў паказ чытача / гледача» [14, с. 57] (Э Фішар-Ліхтэ, М. Ліпавецкі, В. Цюпа, С. Лаўлінскі, Н. Малюціна). Трэба згадаць і добра вядомую канцэпцыю «постдраматычнага тэатра» Г.-Т. Лемана, якая зрабіла значны ўплыў на развіццё тэатральнага працэсу.

Так, яе ўвасабленне ў Расіі звязана з чарговай актывізацыяй перформанса (існуючага як прыклад мастацкага андэргграўнду з 1920-х гг.) на хвалі сацыяльна-палітычных пратэстаў канца 1980-х – пачатку 1990-х гг. (рух «Э. Т. И.», суполка «Тотарт», Г. Вінаградаў, А. Кулік), а таксама з бурлівым развіццём у пачатку 2000-х гг. такіх жанраў «новай драмы», як п'еса-вербацім («Кислород» І. Вырыпаева, «Норд-Ост: сороковой день» Г. Заслаўскага), монадрама (п'есы Я. Грышкаўца, «Июль» І. Вырыпаева)[2].

Аднак у Беларусі не складаліся перадумовы для разгортвання перфарматыўнай тэндэнцыі, што абумоўлена гісторыяй айчыннай літаратуры: па-першае, прадстаўнікі мастацкага авангарду былі фізічна знішчаны ў 1920-1930-я гг., а іх набыткі засталіся на ўзбочыне літаратурнага працэсу, па-другое, актуальнымі ў беларускай культуры былі іншыя ідэйна-мастацкія мэты, скіраваныя ў большай ступені на агульнае нацыянальна-культурнае адраджэнне (творчасць «тутэйшых»), чым на канвенцыйныя, эпатажныя сацыяльныя акцыі.

Зварот да перфарматыўных практык быў здзейснены менавіта бумбамлітаўцамі ў сярэдзіне 1990-х гг. Яркімі прыкладамі з'яўляюцца імпрэзы і перформансы

---

[1] Тэрмін творча запазычаны з прац Ж. Дэлёза і Ф. Гватары, якія ўвялі ў навуковы дыскурс паняцце «шызааналіз».

[2] У беларускай драматургіі гэтыя жанры пачынаюць развівацца крыху пазней у творчасці рускамоўных аўтараў (монадрамы «Поколение Jeans» (2006) М. Халезіна, «Хозяин кофейни» (2010) П. Пражко, п'есы-вербацім С. Анцылевіча, В. Красоўскага, Д. Багаслаўскага «Patris» (2013), «Красная птица» (2013) П. Рассолькі).

суполак «Спецбрыгада афрыканскіх братоў» (1999-2015): З. Вішнёў, В. Жыбуль, С. Мінскевіч і інш., «Тэатр псіхічнай неўраўнаважаннасці» (кіраўнік І. Сін), пазней – «Яна-тры-ён» (2005-2009): В. Рагавая, А. Шостак, Ю. Ленскі, В. Паўлініч[1]. У іх выступленнях назіраюцца як прыёмы, ужо апрабаваныя папярэднікамі ў гэтай галіне (брутальны эпатаж, клаўнада, аголеная цялеснасць), так і адрозненні (адсутнасць гранічнай жорсткасці). Такім чынам, нягледзячы на пэўную другараднасць, месцамі аматарскі ўзровень выканання, дзейнасць гэтых суполак варта разглядаць як спробу ўзнавіць перарванае развіццё беларускага мастацкага авангарду[2], далучыцца да значных тэндэнцый сусветнага мастацтва, знайсці новыя (перш за ўсё «шокавыя») метады ўздзеяння на чытача / гледача.

У цэнтры нашай увагі – драматургічная творчасць прадстаўнікоў пакалення «нетутэйшых», якая таксама звязана з *пошукамі сродкаў моцнага ўздзеяння на свядомасць / падсвядомасць гледача*. Гэта прадвызначыла асаблівасці драматургічнай паэтыкі, сярод якіх мы вылучаем новы тып героя – *істоту з гранічна дэфармаванай чалавечай* прыродай; прыярытэт *экзістэнцыяльнай* калізіі; мадэляванне *ўмоўнага, знарочыста дээстэтызаванага хранатопа*; *узмацненне лірычнага пачатку*.

Так, маладыя аўтары вывелі на сцэну новы тып героя – *істоту з гранічна дэфармаванай чалавечай прыродай*. У іх п'есах дзейнічаюць карлікі (персанажы аднайменнай п'есы В. Морт), гібрыды (чалавека-, чарапаха-, муха-, рыбападобныя стракозы ў п'есе З. Вішнёва «Фаракаінавыя мумілюсікі», персанажы, якія дэманструюць дэвіянтныя паводзіны, у тым ліку агрэсію (Фізрук у п'есе В. Жыбуля «Штангай паназе, альбо Накрый казла матам»), псіхасаматычныя хваробы (Антыпінта ў п'есе Джэці «Катарсіс»), схільнасць да сэксуальнага гвалту (Ён у п'есе В. Гапеевай «Калекцыянер», Ён у п'есе А. Часа «Едзем!», Заафіл, Н, Кухар у п'есе І. Сіна «Яно ы Яно»).

Ракурс падачы гэтых персанажаў адлюстроўвае агульную тэндэнцыю бачання чалавека як істоты *экзістэнцыяльнай* (дамінуе родавы пачатак, рэдукуюцца сацыяльная прыналежнасць, уласныя імёны), што знайшло шырокае адлюстраванне ў папярэдняй еўрапейскай (драма абсурду С. Бэкета, А. Камю, Э. Іанэска і інш.), рускай (тэатр «абэрыутаў», «новая хваля» 1970-1980-х гг., В. Ерафееў, Н. Садур), айчыннай (І. Сідарук, М. Арахоўскі) драматургіі. Але відавочна і тое, што прадстаўнікі новай генерацыі спрабуюць рэалізаваць увесь патэнцыял гэтай тэндэнцыі – свядома гранічна дээстэтызуюць персанажаў, што, на нашу думку, сведчыць пра пошукі новых сродкаў адлюстравання «паталагічнай» падсвядомасці, асобага тыпу светаўспрымання, якое ўжо не знаходзіць апірышча ні ў сацыяльных праектах, ні ў ідэі нацыянальнага адраджэння, ні ў айчыннай культуры.

Адсюль – філасофска-эстэтычны арыенцір на «атэістычны экзістэнцыялізм» (М. Хайдэгер, А. Камю, Ж.-П. Сартр), па-мастацку ўвасоблены ў заходнееўрапейскай драме абсурду. Дадзеная скіраванасць, з аднага боку, усведамляецца самімі аўтарамі (эпіграф да п'есы В. Гапеевай «Калекцыянер» – «Пекла – гэта іншыя людзі» (Ж.-П. Сартр)), назва п'есы Ю. Барысевіча «Гадо прыйшоў»), з другога, у шэрагу твораў успрымаецца як эпігонства, не падмацаванае ўласнай мастацкай канцэпцыяй свету («Дыялог са шкляных перлінаў, або Апошняя сустрэча з гуру» І. Панінай, «Памылка Васіля Конева» В. Ыванова (Лупасіна)).

---

[1] Апісанні выступленняў суполак змешчаны ў артыкуле Ю. Барысевіча «Тэкст і цела» (1998), кнізе З. Вішнёва «Тамбурны маскіт» (2001), выданні суполкі «Яна-тры-ён» (2010).

[2] Дарэчы, гэта ўсведамляюць і прадстаўнікі руху. Так, В. Жыбуль добра вядомы не толькі як паэт, аўтар паэтычных зборнікаў («Рогі гор», «Прыкры крык», «Дыяфрагма», «Стапеліі», «Дзяцел і дупло»), перформар, але і як навуковец, аўтар дысертацыі і шэрагу артыкулаў аб прадстаўніках беларускага літаратурнага авангарду. Плённым бачыцца і новы праект літаратара – экскурсіі па Мінску, звязаныя з жыццём і творчасцю беларускіх авангардыстаў.

Канфлікт у п'есах «нетутэйшых» пазбаўлены развіцця, што таксама ўласціва сучаснай драматургіі, дзе замест невырашальнасці ўзнікае «нерашучасць» (В. Журчава) супрацьстаяння персанажа навакольнаму асяроддзю / неперсаніфікаванай сіле (Кону, абсурду) з прычыны ягонай слабасці, згубленай псіхалагічнай цэласнасці. Гэта прыводзіць, па-першае, да немагчымасці псіхалагічнай калізіі, па-другое, да прыярытэту калізіі *экзістэнцыяльнай*, існуючай у межах *«замаруджанай»* сітуацыі з прадвызначаным трагічным вынікам.

Напрыклад, у п'есе В. Морт «Аум» на працягу ўсяго сцэнічнага дзеяння скіны б'юць безабаронную Істоту з доўгімі валасамі (мастака), становішча якой (нерухомасць на падлозе) паўтараюць у фінальнай мізансцэне іншыя персанажы.

У п'есах нівелюецца сацыяльна-гістарычная канкрэтнасць мастацкага часу-прасторы, мадэллю якога становіцца *ўмоўны*, *гранічна дээстэтызаваны свет*, выбудаваны з дапамогай нетрадыцыйнай мовы мімесіса. Дакладней, драматургічныя спробы «нетутэйшых» часам эклектычна сумяшчаюць розныя магчымасці «гратэскнага тыпу міметычнай рэпрэзентацыі», шырока распаўсюджанага як у папярэдняй («абэрыуты», еўрапейская драма абсурду, Я. Шварц, Г. Горын), так і ў сучаснай драме (у прыватнасці, у расійскай «новай драме»: «Три действия по четырем картинам» В. Дурнянкова, «Кухня» М. Курачкіна) [11, с. 90].

Мы вылучылі некалькі ракурсаў сцэнічнага ўвасаблення гэтага тыпу ў п'есах беларускіх аўтараў. Па-першае, дэфармацыя свету аднаўляецца як *набытая якасць*, што патэнцыйна прадугледжвае існаванне *«іншабыцця»* па-за межамі сцэнічнага часу-прасторы («Фаракаінавыя мумілюсікі» З. Вішнёва, «Штангай па назе, або Накрый казла матам» В. Жыбуля, «Сны аднаго дыялогу» Г. Ціханавай, «Катарсіс» Джэці). Гэта прыўносіць у эмацыйную палітру п'ес рамантычны акорд – лейтматыў *недасягальнасці мары і свабоды.*

Яркім прыкладам з'яўляецца п'еса З. Вішнёва «Фаракаінавыя мумілюсікі» (1994), якая вылучаецца на агульным фоне паслядоўным разгортваннем мастацкай канцэпцыі на ўсіх структурных узроўнях. Так, мадэллю свету становіцца краіна Стракaзін, населеная персанажамі-гібрыдамі, якія карыстаюцца адмысловай мовай (аўтарскія неалагізмы), дэманструюць алагічныя паводзіны (наркатычны дурман, агрэсія). Такі ўмоўна-фантастычны хранатоп, як і жанравая стратэгія (элементы п'есы-прытчы), дазваляюць вызначыць эстэтычны арыенцір на драматургію братоў Чапекаў («З жыцця насякомых», 1921).

Эталагічная задача п'есы – паказаць немагчымасць для слабой істоты дасягнуць мары і свабоды, што прадугледжвае бінарную апазіцыю *гранічна дэфармаваны свет* (страна Стракaзін) / *«іншабыццё»* свабоды і мары (тундра).

Адсутнасць *«іншабыцця»* ўспрымаецца як пачварнасць:

*Рома. Калі адвальваюцца капытцы, у страстотка губляецца сэнс жыцця – нібы напхалі ў страўнік ядзерных камянёў. Пры гэтым галава ператвараецца ў маркі пражэктар ... < ... > Тундра – гэта горкі мармелад, з якога хочацца ванітаваць. Але ў той самы час тундра – гэта смачная цукерка, якую ўвесь час хочацца смакаваць* [3, с. 237].

Але, паводле аўтарскай канцэпцыі, звязаныя з *«іншабыццём»* мара і свабода недасягальныя: стракоз Румік, які прагнуў разнявлення, гіне ў тундры. Пэўная дваістасць і бездапаможнасць прасочваецца і на ўзроўні імя персанажа («Рома Каменны, ён жа Румік Кволы» [3, с. 231]).

Гэтую ж ідэю ўвасабляе вынесены ў назву сімвал-лейтматыў *фаракаін* – аўтарскі неалагізм для абазначэння рэчыва, якое адурманьвае стракоз. Фанетычна лексема блізкая як да медыцынскага тэрміна *фармакаін* (атрута, наркотык), так і да *фармакон* (грэч. *pharmakos*) (чалавек-ахвяра падчас свята Апалона).

Падпарадкаванне персанажаў, часу-прасторы, мовы агульнай мастацкай канцэпцыі дазваляе разглядаць сувязь твора З. Вішнёва з літаратурнай традыцыяй

як «крату літаратурнай тыпалогіі», а не як свядомае запазычанне [7, с. 184]. Між тым, знарочыстая зашыфраванасць мастацкага свету пазбавіла твор камунікатыўнасці, абумовіла адсутнасць пастановак.

Варта падкрэсліць таксама, што скажэнне свету можа выступаць і як *дэканструкцыя тэкставай прасторы*, у тым ліку і *нацыянальна-культурнага кампаненту*, што скіроўвае творчыя пошукі аўтараў у рэчышча постмадэрнізму («Пясняр» В. Дранько-Майсюка, «Ёў» А. Шостака, «Анёл зацяты» І. Вугліка). Найбольш паслядоўна і эстэтычна паспяхова гэта было рэалізавана ў п'есе В. Дранько-Майсюка «Пясняр» (2013-2014), у сувязі з якой трэба зрабіць істотнае ўдакладненне. Гэты твор не планавалася ўключыць у склад зборніка «Нетутэйшыя» (ён напісаны пазней), але п'еса была змешчана ў адным з нумароў альманаха «Тэксты» (№ 5, 2014). Улічваючы агульны літаратурны кантэкст, прыналежнасць да генерацыі моладзі, а таксама шэраг тыпалагічных сыходжанняў (персанажы ўвасабляюць дэфармацыю асобы, дзеянне адбываецца ў бальнічным пакоі, скажэнне мовы), мы далучаем п'есу В. Дранько-Майсюка да драматургіі «нетутэйшых». Між тым, варта адзначыць і стотныя адрозненні, якія, на нашу думку, забяспечылі сцэнічны поспех твора.

У значнай ступені ён прадвызначаны шматузроўневасцю хранатопу, у структуры якога яскрава вылучаецца *«рэальны»* план, знітаваны з актуальнымі праблемамі: жыццёвым шляхам В. Мулявіна (кіраўнік ВІА «Песняры» патрапіў у аўтакатастрофу ў 2002 г.), адлюстраваннем сапраўднай сацыякультурнай сітуацыі «двухмоўя». Другі план, *сімвалічны*, пазбаўляе час-прастору гістарычнай канкрэтнасці, што надае твору філасофскую глыбіню: бальнічны пакой успрымаецца як метафара «хворага» грамадства, Пясняр – як абагульнены вобраз творчай асобы, Яна – як увасабленне нацыянальнай культуры і інш. Трэці ўзровень, *тэкставы*, дазваляе перадаць пазіцыю аўтара не праз «знешняе» дзеянне (маналогі, учынкі герояў), а праз «падтэкст»: неабходнасць творчага самавызначэння на роднай мове адлюстроўваюць у п'есе лепшыя ўзоры беларускай паэзіі розных эпох (вершы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Цёткі, П. Панчанкі, Н. Кудасавай і інш.), адыход ад нацыянальнай традыцыі – звязваецца з моўнай дэфармацыяй: выкарыстаннем «трасянкі» (Чорны), вобразамі класікаў беларускай літаратуры, рэдукаваных да сімулякраў (травесціраваныя паводзіны, мова):

*Цётка. Няма Нянечкі! Няма нікога! Чаго ж ты?.. Чаго ляжыш? Свабодны дзядзечка! Бяжы! А да цемры прывыкай! Сонца ў наша ваконца ўжо не загляне!* [5, с. 226].

Гэтая рэпліка выбудавана на дэканструкцыі беларускай класічнай літаратуры: Песняра называюць «дзядзечкам» па аналогіі з Цёткай – псеўданімам А. Пашкевіч (беларускай паэткі, знакамітай дзяячкі нацыянальнага адраджэння пачатку ХХ ст.); «Сонца ў наша ваконца ўжо не загляне!» – іранічны парафраз «Загляне сонца і ў наша ваконца» – назвы першага легальнага беларускага выдавецтва ў Санкт-Пецярбургу (1906-1914 гг.).

Шматузроўневасць хранатопу спрыяла паспяховай сцэнічнай рэалізацыі твора, стаўшага прыкметнай культурнай з'явай (пастаноўка ў НАДТ імя М. Горкага (2014, рэж. В. Еранькова), Нацыянальная тэатральная прэмія (2016)), у адрозненне ад іншых п'ес, у якіх дэфармацыя тэкставай прасторы скіраваная на іншыя рэцэптыўныя стратэгіі (пераважае гукавое, візуальнае ўспрыманне).

Па-трэцяе, скажэнне асэнсоўваецца як *іманентная, універсальная ўласцівасць свету*, што часам прыводзіць да мадэлявання «абсалютнай, нічым не абгароджанай й не заполненай пустэчы, абсалютнага вакууму» [7, с. 188] («Яно ы Яно» І. Сіна, «Аум», «Карлікі» В. Морт, «Дыялог са шкляных перлінаў, або Апошняя сустрэча з гуру» І. Панінай). Яркім прыкладам з'яўляецца п'еса І. Сіна «Яно ы Яно» (1994), эстэтычная стратэгія якой грунтуецца на ідэі анархізму, што ставіць пад сумненне яе

мастацкую вартасць. Скажэнне свету знаходзіць адлюстраванне на розных узроўнях структуры: не толькі хранатопу (дзеянне адбываецца ў нейкай пращоры, пакрытай снегам), але і персанажаў, схільных да агіднай трансфармацыі, анарматыўных паводзінаў (Заафіл, Прыбіральшчыца, цела якой «пакрываецца трупячынай млявасцю і неўзабаве выбухае дый разлятаецца на безліч кавалкаў», «аголеная» Н. [17, с. 28], групавы палавы акт у фінале), мовы (ненарматыўная лексіка, распад на фанемы), «надтэксту» (назва як іранічны парафраз паэмы Я. Купалы «Яна і я» і інш.).

Такім чынам, у п'есе І. Сіна дэфармацыя чалавека і свету даведзена да лагічнага завяршэння – пачварнасці, што дазваляе адзначыць эстэтычную слабасць дадзенай стратэгіі ў драме, у адрозненне ад іншых родаў літаратуры. Так, на думку М. Ліпавецкага, у прозе гэты прыём дае магчымасць паказаць крызіс ідэнтычнасці, раздробненую свядомасць сучаснага чалавека: «Пачварнасць пратаганіста / наратара – вынік своеасаблівай "гібрыдызацыі" "я" і "іншага": тут знешні канфлікт пераведзены ва ўнутранае вымярэнне, што, як правіла, фарміруе выбуховую ідэнтычнасць» [12, с. 614]. Аднак у драматургіі ўзнікае «супраціўленне» матэрыялу: яе родавая спецыфіка прадугледжвае наяўнасць у цэнтры мастацкага ўніверсуму персанажа з выразнымі, даступнымі для ўспрымання гранямі свядомасці, выяўленымі праз учынак, слова.

Невыпадкова прадстаўнікі генерацыі «нетутэйшых» спынілі свае драматургічныя эксперыменты, скіравалі пошукі новых сродкаў увасаблення гранічна дэфармаванай асобы ў галіну паэзіі, прозы. Цікавым у гэтым плане бачыцца апавяданне З. Вішнёва «Хмары на гародах» (1996-1997), у якім «паталагічная» свядомасць персанажа перадаецца ў тым ліку і з дапамогай асобных прыёмаў драмы: дзеянне разгортваецца як дыялог наратара і «праекціроўшчыка» («гратэскнага суб'екта» (Н. Тамарчанка)), што пазбаўляе тэкст наратыўных вытлумачэнняў, надае шматзначнасць, а апошняя фраза «Падае заслона» садзейнічае «ачужэнню» («остранению») выяўленага мастацкага свету[1].

Што тычыцца *ўзмацнення лірычнага пачатку* ў п'есах «нетутэйшых», то яно, здаецца, абумоўлена не столькі далучэннем да агульнай тэндэнцыі драматургічнага працэсу, звязанай з «актывізацыяй аўтарскай прысутнасці» («развіццём умоўнасці, свабодных сцэнічных формаў» [6, с. 5]), колькі з выкарыстаннем у драматургіі прыёмаў, засвоеных у паэтычнай практыцы. Яны дазваляюць стварыць трывожную, напружаную атмасферу з дапамогай гукавой какафоніі (музычныя матывы ў п'есе Джэці «Катарсіс»), каляровай трансфармацыі («Аум» В. Морт, «Сны аднаго дыялогу» Г. Ціханавай), распаду мовы на фанемы. Напрыклад, на паўторах фанем выбудаваны дыялогі персанажаў-сімулякраў у п'есе А. Шостака «Ёў», у самвыдатаўскай кніжцы Джэці «Ода – не бетон», якая выйшла ў бібліятэчцы часопіса «Вясковыя могілкі», змешчана п'еса «Воссора россов» (пад псеўданімам Vasilisa V.), мова якой заснавана на паліндромных вершах.

Як адзначаюць папярэднія даследчыкі, лірычны пачатак узмацняе мастацкую вартасць п'ес, у той жа час пазбаўляючы іх сцэнічнасці. Але, на нашу думку, лірычны акорд не стасуецца з антрапалагічнай канцэпцыяй, пакладзенай у аснову падобных твораў, ён паглынаецца моцнай трагіфарсавай плынню, якой бракуе эмацыянальна-пачуццёвай паліфанічнасці.

Мастацкія асаблівасці драматургіі «нетутэйшых» прадвызначылі іх няўдалы сцэнічны лёс. За выключэннем згаданага твора В. Дранько-Майсюка «Пясняр», толькі некаторыя п'есы ставіліся на аматарскай сцэне. Напрыклад, прэм'ера п'есы

---

[1] Суполкай «Яны-тры-ён» быў пастаўлены спектакль паводле апавядання З. Вішнёва «Хмары на гародах» на сцэне Нацыянальнага цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі (Мінск, 2007).

В. Гапеевай «Калекцыянер» адбылася на фестывалі «Тры дні» (Мінск, 2003). П'еса У. Бойкі «Кола» ставілася ў народным тэатры БДУ «На балконе» (Мінск, 2011), паказвалася на міжнародным студэнцкім фестывалі «Куфар» (Мінск, 2012).

Драматургічныя праекты ўдзельнікаў суполкі «Бум-Бам-Літ» звязаны з дзейнасцю тэатра «Ц.У.Д.» (Цэнтра Удасканальвання Драматургіі) (2008-2009), мастацкімі кіраўніком якога з'яўляўся В. Дранько-Майсюк, а сярод акцёраў вылучаліся Джэці, В. Жыбуль. Але ў рэпертуар тэатра не ўвайшлі арыгінальныя п'есы гэтых аўтараў[1]. Неабходна згадаць і тэатр «І» (назва ўвасабляе ідэю паяднання) пад кіраўніцтвам І. Пушкаровай, у пастаноўках якога Джэці і В. Жыбуль прымаюць актыўны ўдзел як акцёры і сцэнарысты. Асаблівасць калектыву ў тым, што ў ім, поруч з прафесійнымі выканаўцамі, выступаюць падлеткі з парушэннямі аўтыстычнага спектра, што сведчыць аб развіцці арт-тэрапеўтычнай (у аснове сваёй перфарматыўнай) тэндэнцыі ў сучасным тэатры[2].

Такім чынам, у дачыненні да драматургічнай творчасці прадстаўнікоў пакалення «нетутэйшых» мы прапануем змяніць фокус даследчыцкай оптыкі. А менавіта: звярнуцца да іх п'ес не як да прыкладу мастацкай недасканаласці, эпізадычнай з'явы ў развіцці айчыннай драматургіі, а як да пэўнага вектару эстэтычных пошукаў у кантэксце мастацкіх здабыткаў канца XX – пачатку XXI стагоддзя (пашырэння перфарматыўнага патэнцыялу тэкста, выкарыстання нетрадыцыйнай мовы мімесіса). На нашу думку, гэта, з аднаго боку, стасуе беларускую драматургію з сусветным літаратурным працэсам, з другога, высвятляе прычыны выцяснення эксперыментаў «нетутэйшых» на перыферыю айчыннай драматургіі (перарваную ў XX стагоддзі традыцыю авангарду, запатрабаванасць ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння ў камунікатыўных практыках).

**Літаратура:**


1. Bortnowska, A. Nowa dramaturgia białoruska. – Warszwa, 2011.
2. Барысевіч, Ю. Цела і тэкст. – Мінск, 1998. – 161 с.
3. Вішнёў, З. Фаракаінавыя мумілюсікі // Тэксты. – 2008. – № 6. – С. 231-239.
4. Гончарова-Грабовская, С.Я. Русскоязычная драматургия Беларуси на рубеже XX – XXI вв. (проблематика, жанровая стратегия) / С.Я. Гончарова-Грабовская. – Минск : БГУ, 2015. – 220 с.
5. Дранько-Майсюк, В. Пясняр // Тэксты. – 2014. – № 5. – С. 187-248.
6. Журчева, О.В. Формы выражения авторского сознания в русской драме XX века : автореф.дис. ... д-ра филол. наук : 10.01.01 / О.В. Журчева; Самарский гос. ун-т. – Самара, 2009.
7. Забіваньне казла // Тэксты. – 2007. – № 3. – С. 183-189.
8. Кавалёў, С. Нязьдзейснены праект пакалення. Драматургія "Бум-Бам-Літа" // Дзеяслоў. – 2013. – №3(64). – С. 304-311.
9. Кавалёў, С. Сучасная беларуская драматургія: праблема аўтаномнасці / С. Кавалёў // Погляды на спецыфічнасць "малых" літаратур: беларуская і ўкраінская літаратуры. – Мінск : Паркус плюс, 2012. – С. 167-189.
10. Кісліцына, Г.М. Новая літаратурная сітуацыя: змена літаратурнай парадыгмы : дыс. д-ра філал. навук : 10.01.01 / Г.М. Кісліцына; НАН Беларусі; Цэнтр даслед. бел. культуры, мовы, літаратуры. – Мінск, 2015. – 241 л.
11. Лавлинский С.П., Павлов А.М. Гротескно-фантастические аспекты новейшей драматургии // Новейшая драма рубежа XX – XXI веков: предварительные итоги. – Самара, 2016. – С. 103-126.
12. Липовецкий, М. Паралогии: трансформации (пост)модернистского дискурса в русской культуре 1920 – 2000-х годов, Москва, 2008. – 848 с.
13. Лявонава, Е.А. Філасофска-эстэтычны пошук у сучаснай беларускай літаратуры і


[1] Спектакль «Падарожжа ў пекла» пастаўлены паводле твора Я. Маўра, калядная казка-містэрыя «Ёлка Дзеда Мароза» паводле аднайменнай п'есы С. Новіка-Пеюна (1927).

[2] Выкарыстанне магчымасцяў перфарматыўнага «слова-дзеяння» ў псіхатэрапеўтычных мэтах набывае распаўсюджванне ў Польшчы (музыкатэрапія М. Бэрдэль, Жэшаў), Беларусі (кінашкола «Детский кинопродакшн BIGFILM», Мінск).

еўрапейскі тэатр абсурду / "Няўжо я памру?..." А. Асташонка / Е.А. Лявонава // Весн. БДУ. Сер. 4. – 1994. – № 3. – С. 18-21.

14. Павлов, А.М. Рецептивный потенциал монодраматического произведения // Поэтика русской драматургии рубежа XX-XXI веков: Сб.науч.ст. – Кемерово 2012. – С. 52-67.

15. Подковырин, Ю. Пространство художественное // Поэтика русской драматургии рубежа XX-XXI веков: Сб.науч.ст. – Кемерово 2012. – С. 221-226.

16. Рымарь, Н. Творческий потенциал мимесиса и немиметических форм в искусстве / Н. Рымарь // Миметическое / антимиметическое : материалы V науч.-практ. семинара, Самара, 20–21 апреля 2012 г. – Самара : Инсиома-пресс, 2013. – С. 5-22.

17. Сін, І. Яно ы Яно // Тэксты. – 2008. – № 6. – С. 227-231.

18. Сінькова, Л. Спецыфічнае асэнсаванне нацыянальнага ў беларускай літаратуры XX стагоддзя // Погляды на спецыфічнасць "малых" літаратур: беларуская і ўкраінская літаратуры. – Мінск : Паркус плюс, 2012. – С. 99-115.

19. Скарапанава, І. Друкапісы Зміцера Вішнёва // Беларускае літаратуразнаўства. – 2012. – Вып. 10. – С. 91-102.

Вольга Гапеева



...закусвай,
тады не згубішся
ў прасторы часу...

# Пінгвінячы трэш, або Шчырасць і трагізм авангарду

***Антырэцэнзія на антыраман***

***Зміцер Вішнёў. Калі прыгледзецца – Марс сіні: антыраман. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 276 с.***

Калі масавая культура робіцца нечым модным, а элітарнасць запісваецца ў сумнае і нікому, апроч вузкіх спецыялістаў, нецікавае чытво, праз якое трэба працiскацца і прыкладаць намаганні, выпускаць антыраман (ды яшчэ на такой прасторы, як краіна РБ) – справа не для слабанервовых аўтараў.

Менавіта такі "дыягназ" (антыраман) паставіў Зміцер Вішнёў сваёй новай кнізе "Калі прыгледзецца – Марс сіні". Нагадаем, што антыраман або новы раман (другая назва, якой намінуюць дадзены феномен) – літаратурны твор, што не адпавядае законам жанру рамана ў яго класічных формах. Найбольшую папулярнасць антыраман атрымаў у Францыі ў 1940-1970 гг., разам са з'яўленнем такіх аўтарак/аў, як Наталі Сарот (гэта ў прадмове да яе рамана Жан-Поль Сартр адрадзіў сам тэрмін "антыраман", упершыню




ўжыты яшчэ ў 1633 г. пісьменнікам Шарлем Сарэлем) і Ален Роб-Грые. Да тыповых рысаў азначанага жанру адносяцца: разбурэнне рэалістычнай эстэтыкі, парушэнне прычынна-выніковых сувязей, прадстаўленне часу як нечага цыклічнага, а прасторы – як нечага замкнёнага, дзе герой не можа змяніць рэальнасць, аднак і мірыцца з ёю не жадае. Таксама вылучаецца графічнае афармленне тэксту: ужыванне розных шрыфтоў, нестандартнае размяшчэнне тэксту на старонцы, разбіўка раздзелаў і г.д. Да антыраманаў прынята адносіць "Бляклы агонь" Набокава, "Гульню ў класікі" Картасара, "Вішэру" Варлама Шаламава і інш.

Прымяніўшы згаданыя характарыстыкі антырамана да кнігі Змітра Вішнёва, убачым, што большасць з іх працуе. У анатацыі да кнігі адзначана: "антыраман Змітра Вішнёва – гэта гімн свабодзе. Паралельныя сусветы рушаць хвалямі – у гэтым варыве ўзнікаюць сілуэты: капітана Барады, Майкла Крывога, Сталіна, Дон Кіхота, Пінокіа, Карлсана, гномаў і таемных курдупеляў. Аўтар лавіруе паміж гандляром, фокуснікам і арбітрам, вядзе бясконцы дыялог з галавой, цешыцца і плюхаецца ў космасе сваіх пачуццяў".

Падзеі рамана разгортваюцца вакол "шараговай" кнігарні, дзе кнігі разам з людзьмі (істотамі і прадметамі) розных прафесій і роду дзейнасці робяцца ягонымі персанажамі. А што ж з наратарам ці галоўным героем? Хто ён – лірычны герой, прататып рэальнага выдаўца, ці гэта ўвогуле аўтабіяграфічная споведзь самога Змітра? Я стаўлю на салату! У міску гэтай кнігі насечана ўсяго патрошку і прыпраўлена маянэзам іроніі, самоты і фантасмагорыі. Нягледзячы на ўсю *пастышнасць* рамана, сюжэтная лінія прамацваецца і пульсуе – дзеля справядлівасці варта адзначыць, што недзе больш выразна, недзе менш, і магчыма асабліва халерычным чытачам будзе няпроста сачыць за ёй, аднак, як кажуць, "дарогу адолее той, хто ідзе".

Кніжны і выдавецкі сусвет – тэма, безумоўна, блізкая для аўтара, магчыма, занадта блізкая і балючая, каб пісаць пра яе ў традыцыйнай форме. Абсурд значна лепш падыходзіць на ролю псіхатэрапеўта, які здолее апрацаваць траўматычны досвед. Тым больш, што Зміцер Вішнёў спрактыкаваны ў гэтым літаратурным напрамку і добра там пачуваецца.

Жыццёвасць тэксту і яго прыбліжанасць да рэальнасці (якой бы парадаксальнай не здавалася гэта заява) зашкальваюць. Яны адбываюцца не на слоўным узроўні апісання неверагодных, абсурдных падзеяў, а на ўзроўні метатэксту: дні, што пражываюцца падобныя адзін да аднаго, здаецца, гэта ўжо недзе было, хаця не, чакайце, быццам цяпер інакш. А тое было насамрэч, ці я гэта сніла, ці бачыла ў кіно? Быццам усе дні падобныя, але чамусьці не надакучваюць. Так і з тэкстам рамана: быццам героі ўжо і пілі, і біліся, і мірыліся, і лаяліся, але кожны раз тое адбываецца неяк іначай.

Нягледзячы на заяўлены жанр "антыраман", тэкст "Марса" сваёй вобразнасцю і фантасмагорыяй падаўся мне больш блізкім да кнігі Барыса Віяна "Пена Дзён" (*L'Écume des Jours*,1947), чым да тэкстаў Алена Роб-Грые ці Наталі Сарот. Параўнаем:

*Тут яны маглі сабе гэта дазволіць, гэта – і свабоду рабіць, што захочуць, хадзіць, дзе захочуць, у любых, самых нязграбных строях, з любым выразам на твары, гуляць па гэтых ціхіх маленькіх вулачках. Тут ад іх не патрабавалі ніякага ўмення трымацца, ні супольнасці з іншымі, ніякіх пачуццяў, ані ўспамінаў. Ім гарантавалася забяспечанае і адначасова пустое жыццё, падобнае да пачакальні на бязлюднай прыгараднай станцыі, голай, шэрай і цёплай залы з драўлянымі лавамі ўздоўж сцен і чорнаю печчу ў цэнтры. І яны былі задаволеныя, ім падабалася тут, яны адчувалі сябе амаль як дома, былі ў добрых адносінах з пані кансьержкаю, з малочніцай, аддавалі адзенне ў чыстку ў самую добрасумленную і самую танную пральню ў квартале.* [Наталі Сарот, "Трапізмы", пер. З. Коласа].

***

*У вітрыне на гумавых колах было выстаўлена гладкае і мажнае чэрава. На подпісе побач можна было прачытаць: “А на вашым ня будзе складак, калі вы выпрасуеце яго электрычным прасам”.*

*– Але я ведаю яго!.. – ускрыкнуў Кален. – Гэта ж Сэржава чэрава, майго былога кухара! Што яно робіць тут? (...)*

*Было яшчэ золка, але па блакітнаватых аблоках прадугадвалася цёплае надвор’е. Наўсьцяж тратуараў прабіваліся зялёныя і блакітныя кветкі, і іх сок струменіўся па тонкіх сьцяблінах зь ледзьве чутным гукам, які нагадваў пацалункі сьлімакоў.* [Барыс Віян “Пена дзён”, пер. У. Гарбацкага].

Істотным момантам кнігі выступае іронія, самаіронія і сатыра. Аўтар кпіць амаль з усяго, што трапляецца на ягонае вока: з нацыяналістаў, з фемінізму, з калег-літаратараў, з чытачоў... Спынюся падрабязней на жанчынах у тэксце. Нягледзячы на адкрыты сцёб з фемінізму, тут прачытваецца хутчэй літаратурная правакацыя (дзе выкрываюцца тыповыя патрыярхатныя страхі, алюзія на сумнавядомы боршч і палітычную актыўнасць беларускіх жанчын), чым сур’ёзная крытыка або нязгода аўтара з ідэямі руху:

*На тваім караблі здарыўся бунт – уладу забралі жанчыны. Іх было сем. Яны прыйшлі з кухоннымі нажамі і апалонікамі. Жанчыны бліскэлі жалезнымі савецкімі зубамі і шоргалі скуранымі тапачкамі. яны паставілі на палубу вялікі рондаль з баршчом, расклалі паўсюль алюмініевыя талеркі і лыжкі. Цяпер яны храбусцяць долькамі часныку і, сёрбаючы ружовае варыва, абмяркоўваюць апошнія навіны спорту, палітычныя выбары, даводзяць самі сабе, што жанчына эмансіпавалася.*

Усё ж жаночыя персанажы засталіся даволі стэрэатыпнымі. Жонка, крытыкеса ці шараговая прадавачка – усе яны незадаволеныя, злосныя самкі. Ад такой нестандартнай па форме і змесце кнігі чакаеш і нейкага злому ў патрыярхатнай свядомасці, але, пэўна, не гэтым разам.

Больш удала і разнастайна апісаны стасункі багемнага чалавека з алкаголем:

*Мой дзень. Я хачу запомніць яго менавіта такім, піўным. Пенным. Чорным з бурбалкамі, калі глядзець праз шкло куфля. З пахам аржанога хлеба, калі носам прасвідраваць белую пену.*

***

*Але істотна каб да гарэлкі былі селядзец ці катлета, а да кан’яку – шклянка халоднага яблычнага соку [...]. Трэці кілішак звычайна выпіваецца за каханне! Каб душа разлеглася на ложку. За гэта можна і шампанскага сербануць... Закусвай, тады не згубішся ў прасторы часу... Кожны глыток – нібыта цябе абдымае гарачы акіян. У грудзях б’ецца вецер.*

***

*Запой патрошку, нібы спрут, адпаўзаў прэч – ягоныя шчупальцы адпускалі прагныя глоткі кніжнікаў. Перагару ў памяшканні паменела. Хаця бутэлек пакуль было шмат – самых розных колераў і памераў, – яны цудоўна аздаблялі памяшканне.*

***

*Пераходны посткрызісны перыяд вызначаецца агульнай млявасцю і памкненнем асобных грамадзянаў да п’янства. Што гэта? Крыніца натхнення? Ці крыніца самазнішчэння? Безумоўна, гэта крыніца. Добра, калі побач з крыніцай ёсць кубак і можна хлябтаць не з далоняў. У кожным разе мы назіраем вельмі нязвыклыя з’явы ў нашым грамадстве! Складаныя, часам небяспечныя, я б сказаў, з’явы... Вып’ем!*

У кнізе шмат іроніі і камізму, і можа падацца, што асноўная атмасфера – вэрхал і бедлам, аднак для мяне гэта кніга ў першую чаргу пра адзіноту чалавека, пра экзістэнцыяльныя пакуты і непаразуменне з жорсткім знешнім сусветам:

*Ну якія могуць быць у мяне каштоўнасці? Нават смешна. Мая каштоўнасць – гэта бясконцая дарога, якая адзіночыцца са змрочным небам.*

Не магу абмінуць і эстэтычна-матэрыяльны бок: кніга “загорнутая” ў цвёрдую вокладку, яе прыемна трымаць у руках, зручны для вачэй шрыфт. Можна парадавацца за аўтара, выдавецтва і чытачоў, бо для тых з нас, хто яшчэ адданая/ы папяровай кнізе, якасць друку і таго, як кніга “зроблена” – істотна. Мастацкае аздабленне таксама заслугоўвае ўвагі (дызайнерам кнігі выступіла Маргарыта Сянькова).

Можа стацца, што як і ў антыраманах Алена Роб-Грые, дзе няма ніякай схаванай сімволікі (як ён сам сцвярджаў), у “Марсе” няма чаго вышукваць падпольныя ідэі і прыхаваныя сэнсы. Лепш сканцэнтравацца на мове і на структуры – паспрабаваць злавіць і адгадаць фігуру, у форме якой ён быў напісаны: фрактал, лабірынт, спіраль ці яшчэ што.

Сюррэалістычная вобразнасць – тое, што асабліва прыцягвае мяне як паэтку ў гэтай кнізе. Думаю, яе можна рэкамендаваць паэтам, якія раптам адчулі ступар або заняпад вобразнасці – разгортвай яе на любой старонцы і чытай:

*Містычным чынам мой настрой нагадваў рыбіну, якая пазяхае. Ейны язык высунуўся з рота. Вока пазірала так, быццам рыбіна ўжо засмажаная. Я пазяхнуў і падумаў, што, мабыць, някепска было б прыбраць з вокнаў гэтыя барвовыя фіранкі. Потым мне падумалася, што сяброў губляюць нечакана...*

***

*Мае вусны распаўзаюцца быццам ртутныя цягнікі зубы выглядаюць гарошынамі Сонца падае на дно глоткі Кадык плюхае вёсламі Празрыстыя валошкавыя вочы перакочваюцца хвалямі На захад бягуць не спыняючыся радзімкі Падаюць у ваду стрэлы Свішча вецер.*

Можа другі тыраж “Марсу” варта выдаць як верш? Я ні ў якім разе не “абвінавачваю” Зміцера ў тым, што гэта проза паэта. Проста для мяне гэта блізкі тып прозы, які не прымушае стаяць “на зважай” або глядзець з апошняга шэрагу паэзіі на авансцэну багоў прозы. Вядома ж, паэзія і проза бываюць розныя, але ў метафізічным плане паэзія і проза – розныя тыпы мыслення і розныя модусы быцця, што асабліва добра адчуваецца ледзь не на фізічным узроўні, калі пераходзіш з аднаго рэгістра на іншы. Наратар прызнаецца:

*Мне блізкая каляровая проза з элементамі паэзіі. Мне даспадобы, калі з прозы пачынаюць вытыркацца незвычайныя рэчы: усялякія шыпы і калючы дрот.*

Калі я прыглядзелася да “Марса”, убачыла кнігу, дзе спрабуюць ужыцца і суіснаваць паэзія і проза, рэальнасць і абсурд, самота творчага чалавека і жаданне быць сярод людзей. Больш чым упэўненая, што вы пабачыце нешта іншае, галоўнае тут – прыглядзецца.

Кніга істотная ў першую чаргу для самога аўтара, у чым ёсць свае плюсы: пісаў як хацелася, а не каб дагадзіць чытачам і чытачкам, таму актуальнасць ці своечасовасць з’яўлення кнігі ўсё ж пад пытаннем. З іншага боку, такая пазачасавасць можа забяспечыць кнізе доўгае жыццё. Прынамсі, цяпер і ў беларускай літаратуры ёсць свой “афіцыйны” антыраман. Не для ўсіх, як сапраўдны далікатэс.



Леанід Галубовіч



...Хіба цяперашні час і наш сучасны свет такія бедныя на новыя вобразы?..

# “На ганку свайго дома”

***Уладзімір Сцяпан. Папяровая шапка. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэчка часопіса “Дзеяслоў”; вып. 25). – 144 с.***

Яшчэ гадоў дваццаць таму пра пісьменніка і паэта Уладзіміра Сцяпана было мала розгаласу не толькі ў перыёдыцы, але і ў літаратарскіх колах. Больш ведалі пра яго як пра тэлежурналіста, а вузейшае кола як пра аўтара літаратуры для масавага чытача (у тым ліку ў супольніцтве з М. Клімковічам). Быў цяжкі час, і кожны творчы чалавек выжываў так, як мог. Але ўсё ж лёс чалавека непрадказальны! Вядома, што У. Сцяпан пачынаў як мастак. Ён скончыў вучылішча імя Глебава і тэатральна-мастацкі інстытут (аддзяленне жывапісу, курс С.П. Каткова, пра якога напісаў цікавую з прафесійнага погляду кніжку “Настаўнік”). Меў вопыт працы і мастаком-афармляльнікам. Аднак *гарбачоўская перабудова* і хаатычна-бурнае станаўленне беларускай нацыі і дзяржаўнасці выявілі ў ім і іншыя творчыя здольнасці. Ён пачаў пісаць вершы (быў адным з аўтараў калектыўнага зборніка “Крыло”), заняўся тэлежурналістыкай (старэйшыя, пэўна, памятаюць такую даволі дэмакратычную па тым часе праграму




“Крок” на Беларускім тэлебачанні, якім тады кіраваў наш вядомы паэт Генадзь Бураўкін, дарэчы, над гэтай перадачай ён працаваў з яшчэ адным выбітным літаратарам, Адамам Глобусам, таксама, між іншым, сакурснікам па той жа мастацкай ВНУ). Аднак паступова літаратура ў гэтым творчым ваганні перамагла. Дакладней – проза. У. Сцяпан выдаў запар дзве кніжкі апавяданняў (“Вежа” і “Сам-насам”, а да таго ж быў аўтарам двух калектыўных зборнікаў прыкладна той жа пары: “Тутэйшыя” і “Жнівеньскі праспект”. Як бачым, творчае жыццё напрыканцы 1980-х і пачатку 1990-х квітнела і сям-там выяўляла таленавітыя ўсходы. Вядома, У. Сцяпан з'яўляўся сябрам суполкі таварыства маладых літаратараў “Тутэйшыя” і адным з аўтараў аднайменнага зборніка. Але ўсё гэта да пэўнага часу не выводзіла яго як творцу да шырокай чытацкай увагі. Аж пакуль У. Сцяпан не выдаў кнігу сваёй мінімалісцкай прозы (кароткіх апаведаў) “Адна капейка” (2012) ды не ўзяўся актыўнічаць у электронных сацыяльных сетках (Фэйсбуку, у прыватнасці, дзе ён змяшчаў і дагэтуль выстаўляе на сваёй старонцы літаратурныя запісы, кароткія навелы і мініяцюры, і гэта, дарэчы, немалаважны чыннік для прапаганды ўласнай творчасці для кожнага літаратара). Сцяпана заўважылі (а я пры гэтым *заўважу* дзіўную дэталь, што кніжка яго прозы 1990 года “Вежа” выйшла накладам ажно 6100 экземпляраў, а “Капейка”, у параўнанні з ёй, усяго толькі 1100 асобнікаў). Аднак менавіта цяпер пра яго загаварылі як пра таленавітага і неардынарнага пісьменніка. У незалежнай і дзяржаўнай перыёдыцы пра творчасць гэтага аўтара і канкрэтна пра гэтую кнігу з'явілася шмат эмацыйных водгукаў, ухвальных рэцэнзій і глыбокіх крытычных артыкулаў (Л. Алейнік, І. Шаўляковай).

Таму я проста змушаны сцісла прыпыніцца на прозе У. Сцяпана, не зважаючы на тое (а зрэшты, і таму), што сабраўся рэцэнзаваць яго вершаваны зборнік (хайку) “Папяровая шапка”, які пабачыў свет у бібліятэчцы часопіса “Дзеяслоў”.

Як я ўжо ўскосна заўважыў вышэй, У. Сцяпан мінімаліст па прыродзе свайго літаратурнага таленту як у паэзіі, так і ў прозе. На маю думку, гэта пайшло ад яго ўнутранай мастацкай адоранасці (бачання свету і яго выяўлення, адсюль і вучоба і спробы ў жывапісе). Таму можна ўпэўнена казаць, што ў яго *мастакоўскі* погляд на рэчы і людзей, погляд выяўленчы, часам нават зрокава-фатаграфічны. Сюжэты і метафорыка яго літаратурных тэкстаў сцiслыя, але выразныя-кантрастныя – запамінальныя. Вобразы яго апаведаў амаль ясна і адметна вымаляваныя, таму цэльныя і характарныя. Рэчаісная дэталь (часцей за ўсё дробная) з'ўляецца для яго асновай партрэта альбо ўчынка ці пэўнай дзеі героя. Унутраны і вобразны свет даходзіць да чытача праз дыялогі і аўтарскія адносіны да адушаўлёнага і прадметнага. А само пачуццё, часцей за ўсё стрыманае, заўжды знаходзіцца ў прыхавана-таемным, падтэкставым стане, і ад таго яшчэ больш уразлівае і ўражлівае. Стыль апаведаў Сцяпана ясны і чысты, можна нават сказаць, *лапідарны* (хоць А. Федарэнка чамусьці не любіць гэтага выразу). Словы (фарбы) не расцякаюцца па тэксце (палатне) адвольна, а сабраныя ў згустак, кропку, з якой і лучыцца сноп творчай (мастацкай) энергіі (нешта падобнае да іконапісання). Я не буду тут рабіць цытавання з прозы У. Сцяпана, бо гэтыя мае развагі ўсяго толькі падводка да гаворкі пра яго вершаваную творчасць, а канкрэтней, пра яго зборнік хайку “Папяровая шапка”. Сама назва зборніка – гэта, як мне падаецца, светлая настальгія па мінулым (не па савецкім часе, не па СССР), а – па сваім маленстве, маладосці, бацьках і правінцыйнай бацькаўшчыне, па ўсім тым, што ўжо, на вялікі жаль, не вернецца. Хіба толькі вось такім – творчым – намаганнем, мастацкім яго ўзнаўленнем. Але, вядома, у зборніку хайку У. Сцяпана не толькі

настальгія па былым, але і (метафарычная) *“ностальгия по настоящему”*, як у свой час пісаў расейскі паэт А. Вазнясенскі.

Яшчэ ў 1989 годзе У. Сцяпан напісаў у вершы “Каляндар” (кал. зб. “Тутэйшыя”):

І свята толькі на паперы,
А дзень будзённы на двары.

Шматзначная метафара аднак, калі над ёй разважаць з мастацка-творчым ухілам. Як на мой розум, то аўтар тут кажа нам, што чалавеку трэба ўсёй істотай добра-такі выкласціся ў будаванні свайго жыцця і свету, каб у рэшце рэшт прыйсці да ўзнясення вянца, у тым ліку і духоўнага.

Добра, са зместам і творчымі ідэямі аўтара кніжкі ўсё больш-менш зразумела. Застаецца толькі адно пытанне: адкуль гэтыя хайку ў вершаванай творчасці нашага аўтара? Ды відавочна, што ад мінімалістыкі. Ад той мастакоўскай логікі, якая палягае ў лаканічнай вобразнасці: калі запаленая намі невялікая свечка асвятляе цемру ночы больш выразна, чым само сонца – акаляючы нас свет.

Прачынаюся...
Сад вачыма яблыкаў
на мяне глядзіць.

Гэта – хайку. Хоць і не японскае па сутнасці, але – класічнае па форме і змесце. З пэўным дапушчэннем скажам, што гэта *беларускае хайку*.

Для неабазнанага чытача давяду, што танка – гэта пяцірадковы нерыфмаваны верш: у першым і трэцім радках па пяць складоў, у астатніх – сем. У хайку: у першым і трэцім – пяць, у другім – сем.

Вось жа, хайку – гэта (своеасаблівы экстракт) генная і духоўная культура японскай нацыі (быт, традыцыі, асвета, філасофія), а не толькі метрычна-слоўная форма верша. Таму для японца і беларуса хайку ствараюцца (пішуцца) з розных вектараў падсвядомасці, погляду, мыслення і ўспрымання. Адна з найбольш выдатных перакладчыц японскай паэзіі на рускую мову В. Маркава называла танка і хайку *“**национальными** стихотворными формами”*, у якіх *“выявляется жизнь природы и жизнь человека в их слитном и неразделимом единстве на фоне смены временных пор года”*.

Выкажу некалькі чыста суб’ектыўных развагаў. Ці хайку насамрэч, сыходзячы з працытаванага вышэй, пішуць беларускія паэты? І так, і не. Па форме – хайку. Па мастацкім змесце і падтэксце – не зусім, мякка кажучы. Уласна мне бліжэй пазіцыя нашага выдатнага паэта Алеся Разанава. Ён пазначае свае новыя паэтычныя практыкі сваімі ўласнымі назвамі: *пункціры*, *версэты*, *квантэмы*, *вершаказы*... (І, дарэчы, у кантэксце гэтай размовы, шмат якія пункціры Алеся Сцяпанавіча пры жаданні можна было б *абазваць* танка ці хайку.) Пакінем японскае – японцам (захапляючыся іх паэтычным мастацтвам) і адшукаем для беларускага чытача ў духоўнай скарбніцы нашай нацыянальнай культуры свой адпаведнік (безумоўна, галоўнае, каб ён быў напоўнены высокавартасным мастацтвам). Зрэшты, сама творчасць – аналаг свабоды і вольнадумства. Пакуль жа – ёсць як ёсць. Адметны па сваіх мастацкіх вартасцях зборнік таленавітага паэта і празаіка-*мінімаліста* (і гэта не прыніжэнне, а ўскладненне творчасці, яе *каштоўнасная каратнасць*) Уладзіміра Сцяпана “Папяровая шапка” нездарма выклікае чытацкую ўвагу і прыхільнасць. Таму – зборнік хайку. Пра іх і пагаворым. Найперш, пра паэзію.

Я ўжо казаў пра некаторыя адметы літаратурнай адоранасці аўтара. Аднак і ён сам пастаянна на тое намякае. Скажам, на самым пачатку кніжкі ёсць хайку пра тое, як паэт глядзіць праз завільготненае туманам вакно на прыгожы краявід – і тое, што ён бачыць, здаецца яму нерукатворнай карцінай, на якой у куточку шыбы ён адважваецца паставіць свой подпіс, *нібыта* яна напісана ім. Не, ён не заяўляе

сваё аўтарства на карціну, а толькі – на сваё бачанне Мастацтва Прыроды. Гэта яшчэ раз вельмі натуральна паказвае на *мастакоўскія* вытокі таленту У. Сцяпана.

На мокрым акне
стаўлю подпіс. Быццам сам
намаляваў парк.

Ён не зацыкліваецца на банальным, павярхоўным, сто разоў апісаным і зарыфмаваным, а стараецца *прапарыраваць* некаторыя рэчы без скальпеля – творчым домыслам, не парушаючы стан тых самых рэчаў. Гэта няпроста і не заўсёды ўдаецца. Але ў большасці выпадкаў паэт перадае чытачу сваё *новаадкрыццё ўжо* бачанага і перажытага. Часцей за ўсё ён спасылаецца на самога сябе, таму нярэдка яго хайку маюць лірычнае адценне.

Ліпеньскі ранак.
Бесклапотна думаю
пра бессмяротнасць.

І напраўду, у прывабны светлы час нават пра будучы свой сыход думаецца лягчэй, чым у непагодлівыя і бязрадасныя дні жыцця. Не парушаюць японскага канону і тыя хайку аўтара, у якіх ён адштурхоўваецца ад сузірання, пачуцця і першасных эмоцый (яны звязаныя з прыродай і порамі года).

Па лесвіцы збег
ліст у абдымках ветру,
насустрач зіме.

Гэтая імгненная дзея неадушаўлёных рэчаў прыроды, нібыта заваражваючы, стаіць у нас перад ваччу, пакуль мы не пачынаем адчуваць падступны халадок часу... Вельмі проста і таленавіта. А вось яшчэ больш кантрастная карціна нашага зямнога свету:

Ціха ляціць снег.
І робіць калючы дрот –
упрыгожваннем.

Хайку створаны як бы з нічога – са снегу, перавітага дротам, і аўтарскага ўяўлення. Калі чытаць і разважаць наўпрост, то тэкст падаецца вульгарным. А калі ўключаюцца асацыяцыі, то перад вачыма паўстае трагедыйная памятлівая засечка з нашай няпростай гісторыі, якая перадаецца праз пакаленні. Аўтар наўмысна зачапіў тое месца ў нашай падсвядомасці, дзе спрадвечная прыгажосць свету змагаецца з барбарствам і цынізмам таталітарнай дзяржаўнасці. Таму так шчымліва ўспрымаецца і больш лакальнае непазбежнае няшчасце кожнага асобнага чалавека, звязанае з памяццю яго нашчадкаў:

Бацька сустрэў
мокрай травой, чарачкай
дажджу на донцы.

Альбо вось – пачуццё спагадлівасці і разуменне аўтарам чалавека, які патрапіў у няласку гэтага свету, няхай і па сваёй духовай слабасці (жабрак ставіцца ў адзін шэраг з голубам – ядуць адзін і той жа чэрствы хлеб), але пры гэтым мы памятаем, што голуб лічыцца адной з самых *міралюбных* птушак:

Крышыць галубам
і сам есць чэрствы хлеб
жабрак пануры.

Аднак прызнаем, што ў зборніку У. Сцяпана шмат і такіх хайку, якія выпадаюць з японскага класічнага канону. Яны носяць на сабе адбітак надзённага і актуальнага характару. У іх – дух сучаснага ладу жыцця. Хоць, канечне, аўтар намагаецца (і месцамі такія яго *творчыя намаганні* вельмі заўважныя і адчувальныя) не паказваць тэматычнай навязлівасці і яе метафарычнай прыхаванасці. І не сказаць, каб гэтыя хайку былі другараднымі ў параўнанні з вышэй згаданым (*натхнёнымі*), але чытач заўважае ў іх і сучаснае творчае дойлідства, і фізічную будову вершаскладанння.

Разам з унукам
дзед у новы дом носіць
старыя рэчы.

Тут, сыходзячы са зместу, можна казаць як пра спадчынную цывілізацыйную эвалюцыю, што *ўзбагачаецца* ад пакалення да пакалення, а можна "прышыць" аўтару і чыста беларускія ўлазіны ў суверэнны нацыянальны дом з аст*а*ткавымі, але ўстойлівымі праявамі савецкасці. Блізкае да папярэдняга па ідэйным змесце і гэтае хайку:

З дачкой пад мостам
імклівых матылькоў ловім
дзедаўскай кепкай.

Як на маю галаву і ўспрыманне, дык тут аўтар мастацкім метадам паказвае чытачу на эклезіястаўскую *марнасць жыцця*, маўляў, час ідзе (*дзедаўская шапка*), але нічога ў ім новага няма, мы ўсё гэтак жа ловім свае мроі (*матылькоў*), і гэтак жа будуць ганяцца за сваімі ілюзіямі нашы наступнікі (*дачка*). Прыкладна "з той жа оперы" і наступнае трохрадкоўе:

Зноў правярае
мама стары будзільнік,
каб не спяшаўся.

І тут аўтар вядзе нястомны пошук гармоніі ў трохкутніку *жывое-смяротнае-вечнае*.

Як, дарэчы, і наступнае яго хайку паказвае нам *неверагоднае*, быццам наступае такі час, калі нават неадушаўлёныя рэчы адчуваюць сваю *незакончанасць-незавершанасць-недасканаласць* у будове нашага зямнога свету:

У шафе старой
плечыкам голым лёгка,
вольна і сумна.

Відаць, пара ўжо мне і перадыхнуць, каб занадта не пераліць ялею і не перахваліць аўтара. Таму – трохі салёнага расолу для ацверажэння. На жаль, сустракаюцца ў зборніку У. Сцяпана і негатыўныя моманты. Зноў жа, гэта на мой погляд. Мне падалося, што кніжка магла быць больш вартаснай, каб рэдактар не *пасаромеўся* паказаць паэту на некаторыя хайку, што выпадаюць з кантэксту *чыстага мастацтва*. Не асабліва націскаючы на заўвагі, проста бегла працытую тыя творы (іх, прынамсі, няшмат), якія выбіваюцца з адметнага высокамастацкага шэрагу. Кожны, хто мае добры паэтычны густ, гэта адчуе. Вось тое, што мяне – дзе этычна, дзе эстэтычна – насцярожыла:

На падваконні
муха танчыць на спіне
красавіцкі брэйк.

(Муха пакутуе, а сам аўтар іранізуе з яе становішча.)

Вялікдзень. Муха
уваскрэсла. Паўзе
па чыстай шыбе.

(Супрацьлеглы бок да папярэдне працытаванага: прачытваецца вульгарная іронія да біблейскага.)

Апошні чарвяк,
а я ўсё спадзяюся –
вось пашанцуе.

(Неадназначнае хайку, аўтар да апошняга не губляе надзеі злавіць рыбу, і як бы забываецца пра жыццё чарвяка; бо ўвогуле – чарвяка праглыне рыба, рыбу – зловіць рыбак і засмажыць, скажам мякка, не гуманны вершаваны ход; прынамсі, у японскай паэзіі такое выключана.) Але ж хутка мы ўпэніваемся, што гэта была выпадковая аўтарская глухата, чытаючы следам:

Сёння спыніў
мяне ў парку дзіцячым
чарвяк земляны.

І яшчэ, больш наўпроставае:

Іду праспектам,
чарвякоў абмінаю...
Красавіцкі дождж.

А вось такія наследаванні (можна нават сказаць, перайманні) ніякавата нават чытаць (колькі ж іх ужо напладзілі ў сусветнай паэзіі?!):

Жабку спалохаў.
Скочыла і паплыла
ў чыстай вадзе.

Але ж вось сам Басё:

Старый пруд.
Прыгнула в воду лягушка.
Всплеск в тишине.
*(пераклад В. Маркавай)*

Ці яшчэ:

Альховы лісток
страказу перавозіць
на той бок ракі.

У Басё:

Желтый лист плывет.
У какого берега, цикада,
Вдруг проснешься ты?
*(пераклад В. Маркавай)*

Мабыць, кожны, хто пісаў хайку, непазбежна патрапляў у аналагічную пастку.

Вядома, мы жывём у *лепшым* часе, чым Басё, і ў зусім іншай эпосе, скажаце мне вы. Ну, дык тады і жаб пакіньма ў спакоі. Хіба цяперашні час і наш сучасны свет такія бедныя на новыя вобразы? Ды не. І таленавіты беларускі паэт Уладзімір Сцяпан гэта пацвярджае сваёй выбітнай творчасцю:

Новае лісце
лічыць не пералічыць
начному дажджу.

# Тантамарэскі

***Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»***




**Васіль Быкаў. Поўны збор твораў: у 14 т. / Васіль Быкаў. — Мінск: Кнігазбор, 2019. — Т. 10, кн. 2: Артыкулы, эсэ, прадмовы, выступленні, інтэрв'ю, гутаркі, калектыўныя творы (1981–1990). — 640 с.**

Дзякуючы Саюзу беларускіх пісьменнікаў і даследчыку Сяргею Шапрану, працягваецца выхад тамоў першага ў гісторыі Поўнага збору твораў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Другую кнігу дзясятага тома склала публіцыстычная і літаратурна-крытычная спадчына Васіля Уладзіміравіча 1981–1990 гадоў. Укладальнік і выдаўцы выказваюць асаблівую ўдзячнасць за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага тома Беларускаму дзяржаўнаму архіву-музею літаратуры і мастацтва, а таксама Дзяржаўнаму музею гісторыі беларускай літаратуры.




**Сяргей Дубавец. ТАНТАМАРЭСКІ. Гісторыя аднаго працэсу. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа, 2019. – 356 с.**

«Тантамарэска — гэта карціна з адтулінай для твару... Вось ты ў казачным лесе, а вось — у судовай клетцы, вось ты рыцар на ўздыбленым кані, а вось — сярод вязьняў калёніі...» Гэтая кніга – пра судовы працэс над мытнікам і краязнаўцам Алесем Юркойцем і ягонымі калегамі. Яна анансавалася як *самая загадкавая кніга Бібліятэкі Свабоды.* «Тантамарэскі» – «гісторыя суду над 58 беларускімі мытнікамі, дзе фарысэі сустрэліся з праведнікамі». Першасная назва кнігі была «Юркойцеў палон», але ў выніку гэтак азагалоўлены верш Аляксандра Лукашука, што носіць функцыю прадмовы да кнігі і які нават пакладзены ўжо на музыку Лявонам Вольскім. Жанравая мазаічнасць гэтага выдання падкрэсліваецца ў анатацыі: «Хтосьці прачытае гэтую кнігу як гісторыю сучаснай Беларусі, хтосьці – як даведнік у судаводстве, хтосьці – як дэтэктыўны раман з многімі літаратурнымі алюзіямі...» *Кафкіянскі працэс вачыма Сяргея Дубаўца* – дужа балючае даследаванне, што высвечвае бездань прававога бязмежжа, магчымага ў XXI стагоддзі ў краіне, што знаходзіцца ў самым цэнтры Еўропы...

**Леанід Левановіч. Міленіум: раман, апавяданні. – Мінск: Кнігазбор, 201. – 344 с.**




Раман «Міленіум», фрагменты якога друкаваліся ў «Дзеяслове», завяршае ўнікальнае сямікніжжа Леаніда Левановіча, аб'ядназнае назвай «Прыдняпроўскія хронікі». У рамане ўзнаўляюцца падзеі 2000 года. Аўтар паспрабаваў звязаць два тысячагоддзі. Аднаму з герояў рамана падарылі на Новы год нататнік-штодзённік, ён даў сабе слова – штодня рабіць занатоўкі, бо год двухтысячны незвычайны. Слова Пятро стрымаў, у выніку нарадзіўся незвычайны дзённікавы раман з 12 раздзелаў, які і стаўся стрыжнем кнігі. Таксама ў кнізе друкуюцца апавяданні пра нашых сучаснікаў, іх клопаты, трывогі, пра іх любоў да жыцця.

**Сара Лундберг. Птушка ўва мне ляціць, куды захоча. Пераклад з шведскай Надзі Кандрусевіч; ілюстрацыі Сары Лундберг. – Мінск: Надзея Кандрусевіч, 2019.**




Што рабіць, калі здаецца немагчымым жыць так, як чакаюць ад цябе іншыя? Што рабіць, калі адзіны, хто разумее цябе, памірае? Калі ты знаходзішся між дзяцінствам і дарослым жыццём, калі не можаш апісаць свае жаданні словамі? Напачатку 1900-х у вёсцы Хамердаль у Швецыі нарадзілася дзяўчынка, якую назвалі Бэртай. Больш за ўсё на свеце яна любіла маляваць і марыла стаць мастачкай. Але ў той час атрымаць мастацкую адукацыю было надзвычай складана. Асабліва дзяўчынцы з простай сялянскай сям'і. Бэрта мусіла дапамагаць па гаспадарцы, калі яе маці захварэла на сухоты. Але што рабіць з марамі і жаданнямі? Ці спраўдзяцца яны?..

Гэта гісторыя, натхнёная жыццём, працай, лістамі і дзённікамі шведскай мастачкі Бэрты Хансан. У 2018 годзе кніга Сары Лундберг «Птушка ўва мне ляціць куды захоча» атрымала прэстыжную шведскую прэмію Аўгуста і была прызнанай найлепшай дзіцячай кнігай года ў Швецыі. Цяпер і беларускі чытач мае мажлівасць яе прачытаць.

**Ганна Янкута. Кот Шпрот і таямніца атракцыёнаў. Мастачка Лілія Давідоўская. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 64 с.**




Аднойчы кот Шпрот, які любіць уначы цішком збегчы з балкона і паблукаць па ваколіцах, знаёміцца з прывідамі, што жывуць пад вокнамі яго дома. Так пачынаюцца прыгоды ката Шпрота і хлопчыка Алеся ў парку Чалюскінцаў і завязваецца іх сяброўства з суседзямі — прывідамі, вераб'ямі, мышамі. Героі кнігі ратуюць сяброў, якія трапілі ў загадкавую пастку, і вучацца разам спраўляцца з нягодамі. Кніга будзе цікавай перадусім школьнікам малодшых і сярэдніх класаў. Хочацца спадзявацца, што кніга займее працяг і дзеткі ды іх бацькі дазнаюцца пра новыя прыгоды Алеся і Шпрота, якія ім паспелі палюбіцца.

# Нашыя аўтары

**Аксак Валянціна** – паэтка, журналістка. Аўтар кніг «Цвінтар», «Капліца», «Віно з Каліфорніі», «Ружоўніца», «Дзікая сліва». Лаўрэатка прэміі «Залаты Апостраф» (2008). Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Смалічы на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Акудовіч Валянцін** – філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Барысюк Таццяна** – паэтка, празаік, літаратуразнаўца, перакладчык. Аўтарка кнігі вершаў «Аўтапартрэт». Нарадзілася ў 1971 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Булавацкі Міхась** – празаік, паэт, перакладчык. Адзін з заснавальнікаў магілёўскай філіі аб'яднання «Мартыралог Беларусі». Эсэ «Ноч свабоды» заняло прызавое месца ў літаратурным конкурсе «Мая свабода», праведзеным радыё «Свабода». Аўтар кнігі «Беларус у Беларусі. Эпісталярыі пра мову і маральнасць». Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Восы на Глушчыне. Жыве ў Магілёве.

**Галубовіч Леанід** – паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапеева Вольга** – паэтка, перакладчыца, лінгвістка. Аўтарка кніг «Няголены ранак», «Прысак і пожня», «Сумны суп», «(в)ядомыя гісторыі» і інш. Стыпендыятка міжнародных праграм для пісьменнікаў і перакладчыкаў (Аўстрыя, Нямеччына, Латвія, Швейцарыя), удзельніца шматлікіх міжнародных канферэнцый і літаратурных фестываляў (Славенія, Германія, Чэхія, Швейцарыя, Польшча і інш.). Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Гігевіч Васіль** – празаік. Аўтар кніг «Спелыя яблыкі», «Калі ласка, скажы», «Жыціва», «Астравы на далёкіх азёрах», «Доказ ад процілеглага», «Карабель», «Марсіянскае падарожжа», «Пабакі», «Прыгоды Базыля-беларуса» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Жыцькава на Барысаўсаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** — паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне», «У храме хараства і смутку», «Арабінавая ноч» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе на хутары Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Кавалёў Сяргей** — драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Мэва», «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Шлях да Бэтлеему», «Навука кахання», «Сёстры Псіхеі» і інш. П'есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне (Польшча).

**Каржанеўская Галіна** – паэтка, празаік, драматург, крытык. Аўтарка кніг «На мове шчасця», «Мой сад», «Жыла-была», «На што падобна аблачынка?», «Вечны водгук», «Невымоўнае» і інш. Нарадзілася ў 1950 годзе ў вёсцы Лясішча на Случчыне. Жыве ў Мінску.

**Касцюкевіч Павал** – празаік, перакладчык. Аўтар кніг прозы «Душпастырскія спатканні для дачнікаў», «Зборная РБ па негалоўных відах спорту», «План Бабарозы». Пераклаў на беларускую творы У. Вайля, К. Вонегута, Э. Керэта, Э. Кішона, Э. Манро, М. Шалева. Нарадзіўся ў 1979 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Комар Ганна** – паэтка і перакладчыца. Аўтарка паэтычных кніг «Страх вышыні» і «Recycled», укладальніца збору перакладаў вершаў Чарлза Букоўскі «Святло, і паветра,

і месца, і час». Лаўрэатка прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча ў катэгорыі пераклад. Выпускніца Беларускага Калегіюма. Нарадзілася ў 1989 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Мінску.

**Кулажэнка Аляксандр** – мастак. Мае 42 дыпломы на рэспубліканскіх, рэгіянальных і ўсесаюзных конкурсах мастацтва і кнігі. Пераможца конкурсу «Мастацтва кнігі-2009» у намінацыі «Лепшы дызайнер кнігі-2008». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў Барысаве.

**Лепішава Алена** – літаратуразнаўца. Абараніла дысертацыю па тэме: «П'есы Алены Паповай у кантэксце рускай драматургіі апошняй трацiны XX – пач. XXI ст. (герой, канфлікт, хранатоп)». Аўтарка шэрагу навуковых прац, прысвечаных рускай і беларускай драматургіі гэтага перыяду. Нарадзілася у 1983 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лец Станіслаў Ежы** – польскі паэт. Майстар кароткага філасофскага парадоксу. У цыклах афарызмаў «Непрычасаныя думкі» (*Myśli nieuczesane*) пры дапамозе жарту, іроніі, сарказму, гульні словаў выказваў пратэст супраць дагматызму і любых формаў гвалту з асобы. Нарадзіўся ў 1909 годзе ў Львове (Аўстра-Венгрыя). Памёр у 1966 годзе.

**Міцкевіч Марыя** – публіцыстка. Старшыня грамадскай арганізацыі «Дзіцячы фонд духоўнага і культурнага адраджэння «Сакавік». Укладальніца кніг «Беларусь – Ірландыя», «Янка Маўр. Выбраныя творы», «Янка Маўр. Наш вечны рабінзон». Аўтарка артыкулаў, прысвечаных дзеячам беларускай эміграцыі (А. Надсану, Я. Запрудніку, В. Жук-Грышкевічу, М. Прускаму, М. Міцкевічу), жыццю і творчасці Янкі Маўра і Якуба Коласа. Нарадзілася ў 1951 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі» прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі «Залаты Апостраф» (2008), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Душ Рэйш Ванда Марцінш** – паэтка, перакладчыца. Скончыла Віцебскі педагагічны інстытут. Вяла дзіцячы гурток англійскай мовы (на базе беларускай) пры беларускім клубе «Сябрына» ў Вільні. З 1998 года дзяліла свой час паміж Эдынбургам (Шатландыя) і Мадэйрай (Партугалія). Цяпер жыве ў Вільні. Бярэ рупны ўдзел у культурным і грамадскім жыцці беларусаў Літвы. Нарадзілася ў 1959 годзе ў вёсцы Муляры на Пастаўшчыне.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», «Уладзевы гісторыі», «Багоўка», а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Слабодчыкаў Уладзімір** – скульптар, педагог. Творы знаходзяцца ў музеях, галерэях і прыватных зборах Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, Беларусі, Германіі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Італіі, Кітая, Расіі, Турцыі, Швейцарыі. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў мястэчку Даўгінава на Вілейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Чаропка Вітаўт** – празаік. Аўтар гістарычнага рамана «Храм без бога», кніг «Імя ў летапісе», «Уладары Вялікага княства», «Гісторыя нашага імя», «Перамога ценю» і інш., артыкулаў па гісторыі Беларусі. Нарадзіўся ў 1961 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Юрэвіч Лявон** – літаратуразнаўца, крытык, бібліёграф, архівіст. Працуе архівістам у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. Аўтар кніг «Камэнтары», «Вырваныя бачыны: Да гісторыі Саюзу Беларускай моладзі», «Літаратурны рух на эміірацыі», «Шматгалосы эпісталярыюм», «Літштудыі» ды інш. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску. Жыве ў Нью-Ёрку.

**Янчэўская Кацярына** – паэтка, мастацтвазнаўца, філосаф. Скончыла магістратуру і дактарантуру Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Вільня). Нарадзілася ў 1981 годзе ў Лідзе, дзе і жыве.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Аляксандра Абуховіча, Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Алега Ігнатовіча, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Віктара Стралкоўскага, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.